# ЗМЕСТ Крыніца

# НАЗВАЦЬ І НАЗВАЦЦА




Адчуванне, што літаратура сталася марнай, непатрэбнай нават самой сабе,— наўрад ці ў мяне аднаго.

Не ў аднаго мяне асцярога, што ўжо зараз літаратурныя выданні ахопліваюць спусцелую прастору. А тут яшчэ адзін часопіс, фактычна новы, бо «Крыніца» — толькі знаёмая назва, намінальны знак, які, Бог дасць, зменіцца на сутнасны.

Дзеля чаго?

Асабіста — дзеля таго, каб тое, чым жывеш, хоць вектарна супадала з тым, што робіш; каб займелася воля адольваць марнасць і пустату. Жыць, звыкаючыся з імі, немагчыма, калі літаратура — спосаб існавання.

Ён аказаўся не з найлепшых — у цьмяным часе на скамечанай прасторы. У папярэднікаў прастора існавання звузілася да страты, у наступнікаў — да безвыходнасці. Зноўку, як фантом, як міраж у пустэчы, паўстаюць гістарычныя мэты і задачы, але ўжо ведаеш, што гісторыя не мае мэты. Ёсць толькі гістарычны кантэкст, цьмянасці, шыфры і згадкі якога ўдакладняюцца найперш літаратурай. Так наканавана, гэткае ў нас светапачуванне, стан. Можна вагацца, добра яно ці не, але мы — вярбальная нацыя, нацыя Слова.

Не названых нас няма. Цяпер, як раней у летапісах, пазней у «Нашай Ніве» і «Узвышшы», мусім назваць і назвацца.

Менавіта ў відавочнай незапоўненасці нішы «ўзвышэнства» — задума ўзнаўлення часопіса. Гэтую задуму кожны ўзважваў паасобку — так акрэслілася кола людзей, што сталі на яе працаваць. Кола гэтае не замкнёнае.

Торгала спакуса адрадзіць і саму назву, але там, за ёй — абарваныя галасы, недапісаныя рукапісы, незавершаныя лёсы... «Узвышша» належыць ім, няма чаго блытацца пад нагамі. Не рэхам лучыцца час.

У падмурку задумы новай «Крыніцы» — актуалізацыя спадчыны ў повязі з сённяшнім літаратурным жыццём, без чаго тэксты беларускай літаратуры ёсць і застануцца глуханямымі, неасэнсаванымі і незасвоенымі. Раскіданае павінна сабрацца, разрозненае — прыйсці ў сістэму. Тады і ўваскрэснуць *постаці*.

Кожнаму зразумела, што драматургія, проза, паэзія — гэта перш за ўсё тэксты. Аднак літаратура толькі тады не штосьці іншае, толькі ў тым выпадку мае сваё «аблічча і падабенства», калі ў ёй — і дзякуючы ёй — узнікаюць постаці. Тады ўзнікае нешта большае, чым сам тэкст, тады нават няўдачы і палосы маўчання постацяў для літаратуры істотныя. Сам жа тэкст — хай сабе нам невядома, хто яго творца,— істотны настолькі, наколькі ён «постасны».

Праз тэкст і постаць — шлях у кантэкст еўрапейскай літаратуры, адначасовы з увядзеннем яе здабыткаў у свой, нацыянальны кантэкст. Гэта двуадзіны шлях, аднародны працэс, ён адбываецца як арганічная жыццядзейнасць літаратуры. Сваю частку гэтага шляху мы і паспрабуем прайсці. З тымі, каму па дарозе.

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ





## ІСНАСЦЬ

—Ён ідзе.
—Хто — ён?
—Не ведаю, хто, але ідзе.
—Куды?
—Да нас, пэўна.
—А чаму да нас?
—Запытайся ў яго.
—Як я магу ў яго запытацца?
—А калі ён прыйдзе.
—А калі ён прыйдзе?
—Ён прыйдзе, калі прыйдзе.
—А чаго ён да нас прыйдзе?
—Гэта ён адзін ведае.
—А калі нам не трэба, каб ён да нас прыйшоў?
—Як не трэба, калі ён да нас ідзе.
—Дык нам яго чакаць?
—А як не чакаць, калі мы і так чакаем.
—А чаго мы яго чакаем?
—А з чаго ты ўзяў, што мы яго чакаем?
—Дык ты ж сам сказаў, што чакаем.
—Чакаем, толькі не абавязкова яго.
—Дык яшчэ хто-небудзь можа прыйсці?
—Хто-небудзь прыйдзе. Заўсёды хто-небудзь прыходзіць. Калі чакаем і калі не чакаем. Калі ён ідзе, і калі толькі сабраўся выйсці, і калі яшчэ не збіраўся выходзіць, калі ён увесь час збіраецца выйсці і ўсё роўна не выходзіць, і калі ён нават не збярэцца ніколі — мы ўсё роўна чакаем. І таго, і гэтага, і нават таго, каго няма,— нехта ж павінен да нас ісці. І нехта ж прыйдзе. А калі і не прыйдзе, дык усё роўна прыйдзе.
—?
—А таму што прыйдзе. Бо мы чакаем.
—Ідзе.
—Хто — ідзе?
—Дык мы чакаем?

Алесь АСТАШОНАК

## БЕЛАРУСЬ ПАД КІПАРЫСАМІ

Аднойчы ў Ялце, у серабрыстай засені старога кіпарысу, што вартуе магілу Максіма Багдановіча, я зрабіў пранізліва-раптоўнае адкрыццё: пачуўшы за плячыма дыханне смерці, паэт свядома абраў месцам сустрэчы з ёю не-Бацькаўшчыну. З гэтага адкрыцця выплыла і другое, асабістае — чаму з таго часу, як усвядоміў, што я — беларус, гэтаксама, як я — мужчына, мяне раз-пораз неадольна цягне хоць на нядоўга ад'ехаць, адляцець ці адплысці ад Беларусі ў яе этнаграфічных межах. Мець за прычыну цыганскі радавод часткі маіх лейкацытаў і эрытрацытаў у такой самай ступені несур'ёзна, як і лічыць, што ў Багдановіча з яго прарочым дарам у астатнюю вясну былі ілюзіі наконт цудадзейнасці крымскага паветра.

Там, пад кіпарысам, я зразумеў, што ў параўнанні з іншымі краінамі краіна Беларусь мае адну адметную ўласцівасць: існаваць толькі тады, калі ты развітаешся з ёю, каб жыць сярод чужаніцаў,

пакуль табе нарэшце не здасца, што і ў цябе таксама ёсць дом. Калісьці я напісаў пра гэта наіўны версэт:

Буду шукаць цябе там,
дзе свецяць іншыя зоркі,
дзе рэкі стромістыя і каламутныя,
дзе — сцвярджаюць мапы — цябе
ніколі не было.

Буду шукаць, і аднойчы
твае далёкія храмы адновяць стра-
чаныя аблiччы,
твае выпрастаныя рэкі зробяцца па-
кручастыя, як лініі лёсаў,
твае прахожыя загавораць на мове,
якой цэлае стагоддзе не чуў я...

Лежачы на Божай пасцелі, Багдановіч роспачна прагнуў мецъ Беларусь, каб узяць яе з сабою *туды*. Мне гэтая ўбачаная здалёк Беларусь трэба, каб пакуль што *тут* заставацца яе часцінкаю, надзеленай пачуццём нейкага перад ёю абавязку. А каб у хвіліну паняверкі мая Беларусь-кроза не знікла (разам са мною), як fata morgana, у свае бадзянні па блізкім і далёкім замежжы я зазвычай бяру беларускую кніжку (найчасцей — напэўна, праз нязводную дзіцячую схільнасць да сымболяў — гэта «Мая Іліяда» Уладзіміра Караткевіча). Маўляў, і ў нас усё як у людзей, вось нават і кніжкі беларускія ёсць.

Падазраю, што я — не самотны.

Хоць Вільню і не назавеш не-Беларуссю, але, мабыць, каб Сяргей Дубавец and company не «эміграваль», «Наша Ніва» не здолела б (няхай і ў іншых эстэтычных апранахах) уваскрэснуць і аздобіць беларускае неба чародкаю еўрапейскіх аблокаў, а ў неба над Еўропаю (часткаю якой ёсць мая Беларусь-кроза) не запусціла б чародку беларускіх.

Суб'екта нашай гісторыі дзевятнаццатага стагоддзя Францішак Эн мэтафарычна ахрысціў бяздомнымі інтэлектуаламі. Якую дэфініцыю ён выбраў бы іхнім спадкаемцам са стагоддзя дваццатага? Удакладнім — з часоў «незалежнасці».

Карацей, я мару, што з вопрадня ранейшай «Крыніцы» народзіцца часопіс, які дапаможа сваім аўтарам і чытачам пачуцца менш бяздомнымі тут, у этнаграфічных межах, ці, прынамсі, які мне захочацца захапіць з сабою падчас чарговых уцёкаў у пошуках Беларусі.

Уладзімір АРЛОЎ

# ПЯРЭЙСЦЕ

Тое, з *чаго* «Крыніца» адчула патрэбу новай якасці,— можа быць зразуметым як унутраная праблема канкрэтнага часопіса, якая не выходзіць за кола праблемаў, што раз-пораз паўстаюць перад кожным літаратурным выданнем. А вось тое, у *якой* якасці яна мае намер адбыцца наноў,— сведчыць пра наспелую неабходнасць такой арганізацыі тэкставай прасторы, якая б дазволіла творчаму акту выдзеліцца з аморфна абыякавага змесціва літаратурнага працэса ў нешта, што мела б адрас, імя ўласнае, біяграфію і, урэшце, гісторыю.

Спробы стварыць іншую, *другую* тэкставую прастору мы назіраем даўно і, дарэчы, запачаткаваная яна менавіта «Крыніцай» на першых гадах яе існавання. Потым былі яшчэ праекты (спраўджаныя ці не), але адчуванне патрэбы ў якасна новым выданні заставалася. Пра гэта шмат было гаворана ў прыватных размовах, і найчасцей згаданая тэма гучала якраз сярод тых літаратараў, для якіх праблемы «дзе друкавацца» практычна не існавала.

Як гэта ні дзіўна, але адсутнасць праблемы «дзе друкавацца» і спарадзіла пытанне *дзе друкавацца*? Кожны тэкст шукае адпаведнага сабе кантэкста, а існуючая палітыка літаратурных (і блізкіх да іх) выданняў пабудаваная на фармальных прынцыпах адбору матэрыялаў. З чаго пад адну вокладку трапляе што заўгодна і, да таго ж,— хто заўгодна. Творчая няздара побач з талентам тут не выпадковасць, а норма, на якой трымаецца ці не ўся наша перыёдыка. Няма чаго і казаць, што вынікам такой практыкі сталася анігіляцыя творнага. Аморфнае, невыразнае змесціва, як твань, аднолькава праглынае і зрэбнае і адметнае, і ніклае і ўзнёслае...

Вось адсюль і паўстала пытанне *дзе друкавацца*, каб пазбегнуць анігіляцыі, застацца, быць прачытаным, заўважаным, абазнаным.

Разам з тым у факце перастварэння «Крыніцы» нельга не заўважыць яшчэ і адну з прыкмет татальнай рэфармацыі ўсёй культуралагічнай прасторы. Зладжаная іншымі варункамі, яе структура відочна ўжо не вытрымлівае націску эпохі «постструктуралізму». І хаця новыя выданні, праекты, праграмы, суполкі і да т.п. пакуль не склалі пэўнай сістэмы, якая жыццядайна магла б змяніць аджылую, але тэарэтычна ўжо вымалёўваецца магчымасць іншай канструкцыйнай парадыгмы з апірышчам на спарадычныя практыкі, сучаснае еўрапейскае мысленне, індывідуалізм і — у эстэтыцы — мадэрнізм (постмадэрнізм).

Якое месца ў гэтай сістэме зойме новы часопіс — будзе бачным пазней. Як і ўвогуле — у што сфармуецца. Але напярэдадні хацелася б яшчэ раз засцерагчы яго ад небяспекі трансфармацыі ў нейкі





чарговы «літарацкі кангрэс», дзе на падставе парытэту стануць з'яднoўвацца ўсе слаі літарацкай грамадскасці.

Не з'ядноўвацца, а вылучацца.

Вылучацца з агульнага — адметным, з савецкага — нацыянальным, з нацыянальнага — еўрапейскім, з еўрапейскага (праз самаідэнтыфікацыю) — беларускім...

Апошняе — найскладаней, бо як ні цяжка нам сёння ўвайсці ў культуралагічны дыскурс Еўропы, вярнуцца з яго да саміх сябе будзе значна цяжэй.

Зрэшты, гэта ўжо іншая гаворка...

Валянцін АКУДОВІЧ

# ВЫРАТОЎНАЯ ЭЛІТАРНАСЦЬ

У нашым літаратурным асяроддзі пануе раз'яднанасць. Кожны заняты сабою — сваім раманам, зборнікам вершаў, прыватнавыдавецкай мітуснёю. Праца суседа нікога не цікавіць. Нават ягоны поспех ужо не выклікае зайздрасці ці пачуцця эстэтычнага спаборніцтва. Амаль ніхто нікога не чытае, акрамя хіба што сябры сяброў ды тыя пісьменнікі, якія працуюць рэдактарамі. Кніга ці рукапіс перасталі быць аб'ектам абмеркавання. Пераважная большасць выдадзеных кніг крытычна не асэнсоўваецца і ў друку не рэцэнзуецца. Моладзь не заўважае старэйшых літаратараў і наадварот — старэйшыя не заўважаюць моладзь. Вядома, у такой сітуацыі цяжэй моладзі, таму, каб выжыць, творча рэалізавацца, маладыя пісьменнікі ствараюць свае суполкі і часопісы. Заявіла пра сябе наваполацкае аб'яднанне, з'явіўся часопіс «Першацвет». Што гэта дасць усім нам, пакажа час. Пакуль жа літаратурнае асяроддзе, праглынуўшы новаўтвораныя суполкі і выданні, не жыве і не памірае — яно ў бясконцым сне раз'яднанасці. І сон гэты небяспечны.

Наша раз'яднанасць — здабытак зусім нядаўняга часу. Вядома, у той ці іншай праяве яна існавала заўсёды, але цяпер выявілася найпаўней і зрабілася дамінантнай з'явай пісьменніцкага жыцця. Святыя ідэалы адраджэння павінны былі нас аб'яднаць, але не аб'ядналі. Абвяшчэнне Беларусі незалежнай дзяржавай, як гэта ні дзіўна, паспрыяла ізаляванасці творцы ад творцы. Праўда, можна суцешыцца тым, што будаўніцтва кожнай маладой незалежнай дзяржавы прыносіць такія выдаткі, але суцяшэнне гэтае не супакойвае.

Літаратура загіне, калі энергія пісьменніка застанецца энергіяй толькі гэтага пісьменніка, калі яна не будзе ўплываць на літаратара, які працуе побач.

Мы страцім артыстызм,ператворым паэзію ў прыкладны жанр, калі паміж сабою (я не кажу пра чытача, гэта ўжо іншая балючая праблема) не адновім разуменне творчай еднасці.

З цяперашняй раз'яднанасцю вельмі шчыра хаўрусуе спадчынная асаблівасць беларускага менталітэту — абыякавасць. Так, мы належым да абыякавай нацыі, якую не цікавіць ні яе мова, ні гісторыя, ні абвешчаны суверэнітэт. Але нас, абыякавых літаратараў, усё гэта цікавіць. Значыць, абыякавасць наша не абсалютная. У гэтым — хоць які ды паратунак.

У часы камуністычнае ўлады наш творчы саюз быў фармальна з'яднаны, але, асветлены талентам Стральцова і Караткевіча, выглядаў больш прывабна, чым сёння. Вядома, соладка было б вярнуцца ў тую, такую яшчэ блізкую, з'яднанасць. Няхай сабе і фармальную. Але шляхі туды замкнуты назаўсёды. Цяпер выйсце ў іншым. Трэба выбіраць — ці падпарадкоўвацца інерцыі, ці пераадолець яе? Ці прыняць безаблічнасць усіх нашых літаратурна-мастацкіх часопісаў як непарушную дадзенасць, ці стварыць сваё выданне, па-за межамі якога застануцца шаблоны бульварных пісанняў і карослівай графаманіі? Ці канчаткова згадзіцца з роляю глуха правінцыйных літаратараў, ці ўсё ж заявіць пра сваю адметную прысутнасць?

Сам час падказвае нам, што выбіраць і што рабіць, каб адметную прысутнасць роднага пісьменства ўвесці ў кантэкст блізкай нам еўрапейскай літаратурнай супольнасці.

Трэба працаваць невялікім калектывам аднадумцаў, аб'яднаных адной ці некалькімі мастацкімі ідэямі.

Супраць раз'яднанасці прапануецца не нейкі там новы від групаўшчыны, а форма неабходнай элітарнасці. Дбаючы пра еўрапейскасць нашай літаратурнай будучыні, неабходна ўмела выкарыстаць гэтую выратоўную элітарнасць.

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

# ШКАРЛУПІНА

З цягам часу задумы, якія вабілі і стымулявалі пошук, набываюць ахоўную абалонку — шкарлупіну. Яны здзейсніліся, яны ўвідавочніліся, але разам з гэтым замкнуліся на сваім варыянце адносін з рэчаіснасцю: час пайшоў наперад, а здзейсненае паўтарае свой варыянт.

І, мабыць, самае простае і разумнае ў гэтых умовах не перабудоўваць здзейсненае, а пачаць як бы спачатку — так, як бы спачатку, штогод пачынаюцца і вясна, і лета.

Ставячы сябе ў новыя, «пачатковыя», умовы, вызначаючы новыя мэты і вызначаючы новыя прыярытэты, «Крыніца» нараджаецца другі раз. Шкарлупіны яшчэ няма, але яна, пэўна, будзе напрацоўвацца. Спадзяюся, яна акажацца не настолькі зацвярдзелай, каб не пачуць, калі прыйдзе на тое час, ціхага стуку знутры.

Алесь РАЗАНАЎ

# ПАМІЖ МЕТАФІЗІКАЙ І ПАЛІТЫКАЙ: СУТНАСЦЬ СТАРТУ

*(З пасляслоўя да напісанай кнігі)*

... Для мяне наш час здаецца ўвогуле чымсьці падобным да эпохі г. зв. маньерызму (у мастацтве), якім скончалася Вялікае Адраджэнне (Рэнесанс) і распачыналася Барока. То быў час разлучэння еўрапейцаў са спакойным, устойлівым існаваннем, падмацаваным неабвержнымі догматамі сярэднявечнай схаластыкі,—час, «калі ўсё скранулася і паплыло»; у стыхіі вайсковых забурэнняў свет зноў паўстаў перад людствам як непрадказальны і жахлівы Хаос, доля чалавека ў якім уяўлялася асуджанай на няпэўнасць і пакутлівасць. А ў мастацтве — гэта час manierismo (*італ.*) — манернічання, то бо адвольнага, суб'ектыўнага самавыяўлення творцы, перад якім не стала ранейшых канонаў, але і не паўстала новых... Тады і ўзнікла ўяўленне пра мастацтва як плён індывідуальнага духоўнага высілку, напружання пачуццяў і розуму мастака (што прапаведаваў Джардана Бруна, а засведчыў, стварыўшы першыя ўзоры эсэ ў сучасным разуменні жанру — «Доследы»,— Мішэль Мантэнь). Затым, вядома, чалавецтва пераадолела і няпэўнасць, і абумоўлены часам самацэнтрызм, зноў вярнуўшыся да ўяўлення пра цэласнасць Сусвету...

Але ў нас сёння, на пачатку 1990-х,— не што іншае, як эпоха маньерызму, ці, калі заўгодна, неаманьерызму; вызваленыя з-пад улады «абсалютаў» нядаўняга мінулага, мы пакуль не маем, не здабылі абсалютаў іншых, апроч як... саміх сябе. У нас няма крытыкаў і суддзяў, хто мог бы хораша паказаць нам няслушнасць таго ці іншага новаўтворанага ўяўлення, высветліць няслушнасць той ці іншай выказанай думкі,— за ўсё даводзіцца адказваць і хвалявацца самім. Ды іншага і не дадзена: усё *сваё* і даводзіцца здабываць самім, на свой клопат і рызыку.

Гэта першая тэза: наша асуджанасць на БЕЛАРУСАЦЭНТРЫЗМ. Ёсць свет — і ёсць мы; каштоўнасці свету занадта доўга адчужаліся ад нашай тутняй прыроды, каб ураз стацца нашымі, зрабіцца засвоенымі. Прымаючы нахлынё дзівосаў свету, мы, хутчэй, зоймем пазіцыю быкаўскага Петрака: як быццам нас гэта і не тычыцца, і не з намі адбываецца; нам даражэй усведамленне сваёй *унутранай* праўды, якая значна вышэй усяго прыноснага, знешняга. А гэта, дарэчы, і ёсць першы крок унутр. Каб затрымаць наступ свету, яго залішне энергічныя абдымкі, у якіх сканае і без таго кволая ўнутраная самаснасць,— Пятрок павінен зладзіць *свой Дом*.

Гэта другая тэза: ДОМАБУДАЎНІЦТВА. Сутнасць яе ў тым, што найлепшы прытулак на Зямлі чалавек (нацыя, народ) можа займець толькі ў *сваім Доме*. Але што такое «сваё»? «Сваё» на сёння — вынік напружанага змагання, здабыцця сваіх правоў на годнае і, падкрэслім, арыстакратычнае існаванне народа на сваёй зямлі, паміж іншых народаў свету. «Сваё» зазвычай базуецца на ахвярах, часам жудасных, увогуле — на ахвярапрынашэнні... Незалежнасць ЗША напрыканцы XVIII стагоддзя аплочана немалой крывёю і гераізмам вольных фермераў; нават найдасканалая, «пяшчотная» дэмакратыя паўстае на ахвярах і ахвярным высілку.

А што — беларусы? Антыномія ахвяры/бяскроўнасці, падаецца, стала той загваздкаю, якая стрымлівае фармаванне незалежнай беларускай палітыкі. Бо тая рытуальная, і знешне і сутнасна падобная да савецкай, палітыка, якую маем, нагадвае, хутчэй, палітычны гратэск, урэшце — комікс, чым палітыку як выяўленне і замацаванне пэўнай ВОЛІ, з якою мусіць лічыцца кожны, хто з ёю сутыкаецца.

Думаецца, беларуская палітыка набудзе сваё сусветнае рэнамэ праз фармаванне ў Беларусі моцнай, не аперэтачна-паслясавецкай, а нармальнай, дзейснай, дэмакратычна з'арыентаванай улады... Мабыць, фармаванне такой новай улады і станецца для Беларусі яе выпрабавальным «асялком», яе сучаснымі Рацлавіцамі і Барадзіно. І, дарэчы, гэтая задача здымае антыномію ахвяры/бяскроўнасці, бо спатрэбіцца не ружжо, не імклівая ваяўнічасць, а ахвярнасць адмысловага гатунку, асобай пробы — АХВЯРНАСЦЬ ДУХУ, якая запатрабуе ад нацыі, яе сумленных прадстаўнікоў надзвычайнага напяцця духу і волі, штоімгненнага духоўнага высілку па замацаванні беларускага палітычнага фактару — прынамсі, у рэгіёне. І што можа быць больш драматычным за такую, метафізічную па сутнасці, задачу нацыі: выпеставаць сваю волю не як адказ на знешнюю пагрозу альбо ваяўнічы выклік, а — нарадзіць і ўзмацніць яе *з сябе*, са сваіх уяўленняў пра годнае і жаданае жыццё?.. Не ведаю толькі, як *метафізіка нацыі* можа ператварыцца ў *палітыку*, у дзейсныя захады, праграму пераўтварэнняў... Адно ўсведамляецца пэўна: усё жаданае і практычнае пачынае ўсталёўвацца з АБДУМВАННЯ шляхоў далейшага развіцця, збірання ідэй, якія маглі б ускосным ці прамым чынам паўплываць на зрухі ў відочнай рэчаіснасці... Мне здаецца, у бліжэйшым часе магчымасці быць «па-за палітыкай» у беларускай інтэлігенцыі не будзе. У адваротным выпадку, пры г. зв. «апалітызме», гэта будзе тая ўяўная, падманная апалітычнасць, якая, па словах Томаса Мана, будзе на карысць палітыцы няправага чыну...

Па сутнасці, сапраўдная палітызацыя беларусаў яшчэ наперадзе... Ды зашмат пра палітыку. Мне здаецца, *пры любой палітыцы* — і самай рэакцыйнай, і дужа дэмакратычнай,— місія творчага чалавека застаецца нязменнай: адстойваць незалежнае ад няправай улады меркаванне, свабодную думку. Бо інакш думка страціць сваіх адвакатаў і заступнікаў, ператворыцца ў ганебную інтэлігенцкую фікцыю на фоне грамадскага бяспраўя і татальнага сервілізму... НАКОЛЬКІ Ў ГЭТЫМ СЭНСЕ СЦВЕРДЗІЦЬ СЯБЕ НОВЫ ЧАСОПІС — ПАКАЖА ЧАС. І ПАКАЖА ВОПЫТ. ДЗІЎНАЯ СТАРТАВАЯ ЭСТЭТЫКА АТРЫМЛІВАЕЦЦА: ЯК НАЙМАГЧЫМАЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ АД «УЛАДЫ ДАЮЧАЙ» І — СУЦЭЛЬНАЯ АНГАЖАВАНАСЦЬ ЗАДАЧАЙ МЕТАФІЗІЧНАГА АДРАДЖЭННЯ... НАПЭЎНА, ДЗЕСЬ ТАМ, У «НЯБЕСНАЙ ВЫСІ», ГЭТЫЯ ЗАДАЧЫ ПАВІННЫ ПЕРАМЫКНУЦЦА...

Юрась ЗАЛОСКА



# Кірыл ТУРАЎСКІ

Я



Первое, брате, коея мудрости ищеши? Господь рече: Луче есть искати кротости, нежели мудрости. Кротость бо есть мати мудрости, и разуму, и помыслу благу, и всем добрым делом. Да аще обрящеши первое матерь, тогда мати дети к себе привабить, и тебе будуть братья; с тою же братьею обрящеши собе Отца, то же ся Отець родил от Своего Отца прежде всех век и пакы пришед в последняя лета, нас породи святым крещениемь и верою сыны Себе створи, и облече ны в чистыя и красныя одежа. Да аще будем разгневали Отца, искалявше одежа крестьныя; ты же ли рци, кая искаляхом, и аз ти отвещаю: отбнахом от себе матери, а мачеху прияхом, ейже имя величанье. Дети же ея суть: гордость, непокорение, прекословье, презорьство, хула, клевета, зломыслье, гневь, вражда, пьянство, игры непризнины и всякая злоба. Да аще хощеши матере ся лишити, а мачеху любити и ея дети, то с теми обрящеши собе гордаго дьявола, вязящаго в тме кромешней и в огни негасимемь, идеже и ты будеши привязан с нимь.

## Слова ў нядзелю святога Фамы

*Вялікі вучыцель*
*і красамоўца мудры*
*патрэбен царкве*
*на ўпрыгожанне свята.*
*А мы*
*убогія словам,*
*марудныя розумам*
*і агню*
*Духа Святога ў сабе не маем,*
*каб гэтак скласці*
*душакарысныя словы,*
*што іх пачуюць і прымуць*
*людскія душы.*

*Аднак дзеля вас,*
*браты,*
*што сёння сабраліся тут,*
*са мною,*
*і дзеля любові,*
*якая нас лучыць,*
*мы нешта,*
*хоць і не шмат што,*
*скажам*
*аб узнаўленні Хрыстова*
*ўваскрэсення,*
*ну а вы*
*паслухайце дбайна.*

*Было на святы Вялікдзень,*
*у тую нядзелю,*
*здзіўленне нябёсам*
*і перастрашанне апраметнай,*
*было абнаўленне стварэння*
*і выбаўленне свету,*
*было зруйнаванне пекла,*
*было спраможанне смерці;*
*у тую нядзелю было*
*уваскрэсенне з мёртвых*
*і выгубленне*
*спакуснай улады д'ябла,*
*было чалавечага роду*
*выратаванне,*
*збядненне і паніжэнне*
*суботы,*
*узбагачэнне царквы*
*і ўзвышэнне самой нядзелі;*
*было*
*у тую нядзелю*
*ўсяму змяненне.*

*Нанова*
*стварылася небам,*
*а Богам*
*ачысцілася зямля*
*ад погані д'ябальскай —*
*і анёлы*
*з жанчынамі шчырадайна*
*слугуюць Хрыстову*
*ўваскрэсенню.*
*Абнавіўся*
*знябожаны род чалавечы:*
*ужо багамі*
*не наймяноўваюцца стыхіі —*
*ні сонца і ні агонь,*
*ні дрэвы і ні крыніцы.*

*З гэтага часу пекла*
*ужо не прыймае ахвяраў —*
*бацькамі*
*загубленых немаўлят,*

# КІРЫЛ І ЯГО ВЕК

Сьвяты Кірыл, япіскап Тураўскі, быў бяз сумніву адной з найцікавейшых асобаў свайго часу. З аднаго боку з скупых вестак аб ягоным жыцьці перад намі паўстае постаць пакорнага манаха, які ў пошуках адзіноты з Богам вядзе асцэтычнае жыцьцё ў самых яго суровых хвормах. З другога боку мы бачым чалавека, які сваімі абшырнымі ведамі перавышаў далёка ўсіх сваіх сучасьнікаў ня толькі на Беларусі, але наагул у цэлым усходня-славянскім сьвеце. Сваімі надзвычайнымі прапаведніцкімі здольнасьцямі Кірыл заслужыў сабе на назоў другога Залатавуснага. Ён быў выдатным, хоць і ня вельмі арыгінальным, багасловам у часе, калі багаслоўская думка ў нашай краіне рабіла толькі першыя нясьмелыя крокі. Слава Кірыла, як духоўнага настаўніка, распаўсюдзілася сярод ягоных суродзічаў яшчэ ў часе ягонага жыцьця. Наканец, колькасьць і мастацкі ўзровень твораў Кірыла, якія дайшлі да нас, робяць яго найбольшым з усіх раньніх беларускіх пісьменьнікаў і першым ведамым беларускім паэтам.

Вялікая колькасьць рукапісаў з творамі сьв. Кірыла, якія дайшлі да нас, вымоўна сьведчыць аб ягонай папулярнасьці ня толькі сярод беларусаў, але і сярод усіх усходніх і паўднёвых славянаў, пачынаючы ад Ноўгарада аж да Сэрбіі і Баўгарыі. Нажаль гэтага самага ня можна сказаць адносна вестак з жыцьця сьвятога. Адзіны жыцьцяпіс Кірыла, які дайшоў да нас, знайходзіцца ў г. зв. «Пралёгу» і быў напісаны праўдападобна ў 14-тым стагодзьдзі. Ён ёсьць вельмі кароткі, аднак нам пазваляе, пры помачы некаторых вестак з агульнай гісторыі і фактаў узятых з твораў самога Кірыла, адтварыць жыцьцё Кірыла ў ягоных агульных рысах.

Сьвяты Кірыл, паводле Пралёгу, нарадзіўся ў Тураве і быў сынам багатых бацькоў. <...>

Праўда, у ім не гаворыцца, калі нарадзіўся Кірыл. Паколькі аднак, як будзе відаць ніжэй, ён быў япіскапам ужо ў 1169 г. і павінен быў тады мець каля 40 гадоў (бо малодшых звычайна не пастаўлялі ў япіскапы), дык выглядае, што ён нарадзіўся не пазьней, чым у 1130 г., а магчыма раней.

Кірыл быў чалавекам вялікай асьветы. Ягонае веданьне Сьвятога Пісьма было настолькі выдатным, што некаторыя аўтары не вагаюцца лічыць яго найлепшым біблістам сярод усіх раньніх усходнеславянскіх пісьменьнікаў. Ягоныя творы ёсьць ня толькі перасыпаныя выняткамі з сьв. Пісьма, але часам цэлыя сказы зьяўляюцца ня чым іншым, як выражэньнямі ўзятымі з розных частак Біблії і памастацку зьвязанымі ў адно цэлае, каб выразіць думку аўтара. Ня менш добра Кірыл быў знаёмы з творамі ўсходніх айцоў Царквы. Хоць ён ніколі не ўспамінае прозьвішчаў, аднак у ягоных творах ёсьць відавочны ўплыў такіх вялікіх царкоўных пісьменьнікаў, як сьв. Ян Залатавусны, Рыгор Багаслоў, Кірыл Александрыйскі, Эпіфані Кіпрскі, Прокл Александрыйскі і інш. Безумоўна, усю гэтую веду Кірыл мог здабыць, будучы ўжо ў манастыры. Яму нават ня трэба было ведаць грэцкай мовы, бо ў тым часе вялікая колькасьць твораў вышэй упомненых айцоў існавала ўжо ў славянскім перакладзе, прыйшоўшы да нас з Баўгарыі. З другой стараны знаёмства Кірыла з такімі пазьнейшымі бізантыйскімі царкоўнымі пісьменьнікамі, як Тэафіклякт Баўгарскі і Мэтафраст, творы якіх былі даступныя толькі ў грэцкім арыгінале, сьведчыць аб тым, што наш сьвяты ведаў добра грэцкую мову. Акрамя грэцкай мовы, Кірыл ведаў рыторыку і ў дасканаласьці вывучыў і апанаваў мастацкія прыёмы бізантыйскіх пісьменьнікаў таго часу. Усё гэта прымушае думаць, што будучы яшчэ юнаком, ён атрымаў добрую асьвету пад кіраўніцтвам дасьведчанага настаўніка, праўдападобна грэка. Магчыма на раньні пачатак навукі хацеў паказаць

# ВЯЛІКІ ТУРАЎЛЯНІН

*...все житие мое печалию восхищено...*
Кірыл Тураўскі

**Амаль нічога новага мы не можам дадаць да старажытнага жыцця Кірыла Тураўскага. Невядомыя нам ні дата яго нараджэння, ні дата смерці.**

**«Блаженный Кирилл,— гаворыцца ў гэтым казанні,— рожден и воспитан града Турава в Руской стране». Ён быў сын «богату родителю», але не ўпадабаліся яму «богатества» і «славы тленныя мира сего». Кірыл «прилежаще божественных писаний», «добре извыче святых книг поучению».**

**З вялікай доляй магчымасці можна ўявіць, што з'явіўся на свет будучы вялікі пісьменнік у 1130-я гады.**

**Вучыўся ён спачатку ў доме сваіх заможных бацькоў у Тураве, а потым падоўжыў адукацыю ў сценах тамтэйшага епіскапскага манастыра. Магчыма, удалося пабываць Кірылу і ў Кіеве — цэнтры тагачаснай навукі.**

**І ў Тураве, і тым болей у Кіеве на той час існавалі ўсе ўмовы, каб здабыць веды не толькі грэка-візантыйскага свету, але і часткова заходняга, рымскага.**

**Фармальна падзеленыя ўсяго толькі за паўстагоддзя да нараджэння Кірыла, гэтыя культурныя светы яшчэ параўнаўча доўга былі ў адзіным рэчышчы развіцця.**

**Асабліва прыкметна было гэта ў сферы кніжнай і адукацыйнай. І там і тут існавалі даволі падобныя ніжэйшыя і вышэйшыя школы. Ды і сама навука развівалася даволі падобна ў манастырах пры кафедральных саборах.**

**Так было на Захадзе, на Усходзе і на Поўдні Еўропы.**

**Так было ў Кіеве і Тураве.**

**Няма нічога дзіўнага ў тым, што праз некаторы час Кірыл «отшед в манастырь, и бысть мних». Пастрыг яго ў манаскі чын адбыўся, відаць, даволі рана. Юнак меў прызванне ступіць на гэтую дарогу.**

**Добрая адукацыя, грунтоўнае знаёмства з кніжнай мудрасцю, грэчаскімі літаратурнымі ўзорамі і праведнае жыццё хутка паспрыялі яго знакамітасці.**

**Кірыл «мнозем на ползу бысть, учя я». І, магчыма, не толькі «поучая мних», але і людзей свецкіх.**

**«Посем блаженный, на болшая подвиг желая, во столп вшед затворися, и ту пребысть неколико время, с постом и молитвою паче себе тружаяся, и много божественная писания изложи».**

**Кірыл стаў стоўпнікам, адлюднікам. Першым у нас падзвіжнікам стоўпніцтва. Ён выбраў сабе цяжкі і няведамы яшчэ на Русі манаскі подзвіг, пра які, хутчэй за ўсё, даведаўся з кніг альбо расказаў грэчаскіх манахаў.**

**Аскетычнае, сузіральніцкае «делание» ў замкненні рэдкасны від падзвіжніцтва наогул.**

*а смерць — пашаноты.*
*З гэтага часу*
*скончылася слугаванне*
*стодам*
*і д'ябальскае змушчаванне*
*расцялася хросным*
*таемствам.*
*З гэтага часу*
*род чалавечы не толькі*
*займеў збавенне,*
*але асвяціўся*
*Хрыстоваю верай.*
*Ранейшы закон*
*з гэтага часу страціў*
*ранейшую сілу:*
*не жывяць яго ўжо*
*ні кроў цялят,*
*ні козаў ахвяраванне,*
*бо сам Хрыстос*
*з гэтага часу*
*самога сябе ў ахвяру*
*за ўсіх Айцу-Богу*
*узнёс.*

*Скончылася праз гэта*
*свята суботняе,*
*а нядзелі*
*была лабгодань*
*дзеля Хрыстова ўваскрэсення*
*дадзена,*
*і, Хрыстовай,*
*стаўшы, яна красуе*
*цяпер спаміж іншых дзён.*

*Вянчайма ж, браты, нядзелю*
*царыцаю дзён —*
*і з верай*
*у новае звеставанне*
*прыносьма свае дарункі!*
*Дамо хто што можа*
*па здольнасці і па моцы:*
*хто — міласэрнасць*
*і незласлівасць,*
*хто — чыстую цноту,*
*а хто — любоў;*
*хто — веру праўдзівую*
*і змірэнне,*
*хто — псалмаспеў,*
*хто — прыклад*
*апостальскага вучэння,*
*а хто — малітву,*
*прачулую сэрцам.*
*Бо кажа Госпад*
*словамі, што Майсею*
*уклаў у вусны:*
*«Не аб'яўляйся перада мною*
*парожні*
*у дзень святочны».*

*Дык прынясем*
*Госпаду нашы дарункі,*
*што называліся тут,*
*і ўспрымем*
*Божую міласць,*
*бо не пазбавіць Госпад*
*добрае долі таго,*
*хто прыходзіць*
*са шчыраю вераю да яго.*
*«Хто славіць мяне —*
*праслаўлю»,—*
*ён абвяшчае гэтак.*
*Усхвалім жа сёння*
*нядзелю гэту —*
*мы ў ёй святкуем*
*нанова*
*Хрыстова ўваскрэсенне.*

аўтар Пралёгу, гаворачы, што яшчэ да паступленьня ў манастыр Кірыл «ня ўзлюбіў багацьця і пераходнай славы гэтага сьвету, але больш за ўсё ён прылажыўся да вывучэньня Боскіх кнігаў і добра пазнаў Боскія пісаньні».

Дванаццатае стагодзьдзе было векам культурнага росквіту нашай краіны і Кірыл ня быў адзінай адукаванай асобай на Беларусі, хоць ён і перавышаў сваіх сучасьнікаў ведамі і здольнасьцямі. Хопіць успомніць, што сучасьнікамі Кірыла былі сьв. Еўфрасіньня Полацкая і Клімэнт Смаляціч, а сьв. Аўрам Смаленскі жыў толькі крыху пазьней. Ёсьць таксама весткі, што ў другой палове 12-га стаг. у Смаленску існавалі школы, заложаныя князем Раманам Расьціслававічам. Падобныя школы напэўна існавалі і ў іншых мясцовасьцях, асабліва пры манастырах і япіскапскіх пасадах, хоць вестак аб іх не захавалася. Акрамя школаў, ведамыя ёсьць таксама прыклады і прыватнай асьветы.

Беларусь у 11-тым і 12-тым стаг. была цесна зьвязаная з Бізантыяй, бо ўваходзіла ў склад Кіеўскай Мітраполіі, якая залежала ад Канстантынопальскага Патрыярха. Амаль усе мітрапаліты і большасьць япіскапаў былі грэкамі. Бізантыя ў тым часе перажывала культурнае адраджэньне пасьля іканаборскіх прасьледаў у палове 11—12 стаг. Ажывіўся зноў стары канстантынопальскі унівэрсытэт пад кіраўніцтвам аднаго з найбольш цікавых вучоных сярэднявякоўя, Міхася Псэльляса. На чале школы права стаяў ня менш ведамы вучоны Ксыфілінос. Навучаньне на унівэрсытэце было дармовым і студэнты, якія пасьпяхова закончылі навуку, мелі запэўненыя высокія становішчы ў дзяржаўнай адміністрацыі ці ў судаўніцтве. Сярод бізантыйскіх багасловаў таго часу трэба ўспомніць Эўтыма Зігабена, аўтара «Зброі Праваслаўнага» і Тэафілякта Баўгарскага, ведамага перадусім з сваіх паясьненьняў да сьв. Пісаньня. У пачатку 12-га стаг. жылі таксама такія выдатныя пісьменьнікі і гісторыкі, як Анна Комнэна, Нікіта Акомінатос, Ян Зонарас і шмат іншых. Грэцкіх настаўнікаў можна было спаткаць у ўсім цывілізаваным сьвеце. На захадзе іх прыймалі і слухалі з пашанаю. Было іх нямала напэўна і на Беларусі, куды яны прыяжджалі разам з мітрапалітамі і япіскапамі.

Такім чынам няма нічога дзіўнага, што Кірыл меў нагоду здабыць добрую асьвету. Вельмі магчыма, што яму нават ня трэба было шукаць яе нідзе паза родным горадам. Тураў у тым часе быў паважным культурным цэнтрам: там быў япіскапскі пасад і шмат манастыроў. Ды і ня так даўно там жыла грэцкая княгіня Барбара, і ў яе акружэньні былі вучоныя асобы, якія маглі пакіраваць асьветаю здольнага юнака.

Будучы сынам багатых бацькоў, Кірыл аднак «ня ўзлюбіў багацьця і пераходнай славы гэтага сьвету». Яшчэ ў маладым веку ён пастанавіў пасьвяціць сваё жыцьцё Богу і ўступіў у Манастыр. Хоць жыцьцяпісец ня ўспамінае назову гэтага манастыра, але ў адным з пазьнейшых рукапісаў гаворыцца аб Кірыле, як аб манаху манастыра сьв. Міколы ў Тураве.

У манастыры Кірыл «стараўся больш за ўсіх дагадзіць Богу і, падпарадкаваўшы сабе цела пастом і малітвамі, зрабіў з сябе дастойнае жыльлё Сьвятога Духа». Сваім спосабам жыцьця, пабожнасьцю і, без сумніву, вучонасьцю, ён хутка зьвярнуў на сябе ўвагу іншых, і да яго пачалі прыходзіць, каб паслухаць рады ці павучэньня. Хоць сам ён меў нахіл да жыцьця ў адзіноце, Кірыл аднак ніколі не адмаўляўся памагчы іншым, маючы моцную сьведамасьць грамадзкага характару хрысьціянства. Цікава, што хоць Кірыл сам вёў вельмі строгі спосаб жыцьця, аднак у сваіх павучэньнях ён рабіў націск не на вонкавых хвормы асцэтызму, але на нутраныя цноты пакоры і паслушэнства. Вось што кажа аб гэтым жыцьцяпісец: «(Кірыл) прынёс карысьць для многіх сваей навукаю, заахвочваючы манахаў да пакоры і каб былі паслушнымі ігумену, быццам Богу, бо манах, які ня слухае ігумена, якому ён прырок (паслушэнства), ня можа быць збаўленым».

Асабістыя схільнасьці цягнулі аднак Кірыла да большай адзіноты і таму, пасьля некаторага часу супольнага жыцьця ў манастыры, ён, «жадаючы яшчэ большых подзьвігаў, увайшоў у стоўп і там зачыніўся». Стоўпніцтва зьяўляецца адной з найбольш суровых хвормаў асцэтычнага жыцьця. Яго практыкавалі ў пятым стагодзьдзі некаторыя манахі на Бліскім Усходзе і ў Бізантыі. У пошуках большай адзіноты, яны будавалі свае кельлі на плятформе, якая на адным або больш стаўпах узвышалася над зямлёю. Таму яны і называліся стоўпнікамі, або па грэцку стылітамі (ад грэцкага слова стылёс — стоўп). Самымі ведамымі з гэтых асцэтаў былі сьв. Сымон Стоўпнік (390—459) і ягоны вучань сьв. Даніла Стоўпнік (409—493). Кліматычныя ўмовы Беларусі не пазволілі-б ніводнаму чала-

**Гісторыя сусветнага хрысціянства ведае няшмат прыкладаў гэтага.**

**Адмаўленне ад свету, умярцвенне плоці і ўдасканальванне духу праз малітву вусную і разумную, маўклівую было Кірылу ў замкненні справай асабліва жаданай.**

**Гэта была ягоная адмысловая дарога, ягоны адмысловы подзвіг, да якога ён быў паклiканы.**

**Стоўп уяўляў сабою драўляную вежу, дзе на самоце і ў моўчы духоўна працаваў падзвіжнік. Маліўся і пісаў, «много божестенная писания изложи».**

**Хто ведае, магчыма, перад яго вачыма часта ўзнікалі вобразы славутых стоўпнікаў мінулых часоў, напрыклад сірыйца Сімяона Стоўпніка, які спачыў у V стагоддзі. Альбо, можа, ён узіраўся ў іх аблiччы на шматлікіх іконах — такія вядомы былі ў Старажытнай Русі.**

**Цяжка сказаць, дзе менавіта ў Тураве стаяла вежа-стоўп Кірыла. Хутчэй за ўсё паблізу манастыра, непадалёк ад Прыпяці, у воды якое так часта ён глядзеў.**

**Слава пра яго разнеслася паўсюль.**

**«Славен бысть по всей земли той: умолением князя и людии града того, от митрополита поставлен бысть епископом граду Турову».**

**Так манах Кірыл стаўся іерархам, епіскапам Тураўскім.**

**Літаратурная слава прыйшла да Кірыла яшчэ ў гады стоўпніцтва. Напісанае ім хутка рабілася здабыткам не толькі манахаў, але і свецкіх асоб. Творы яго ахвотна перапісваліся і чыталіся.**

**Трэба думаць, што Кірыл не адразу згадзіўся на епіскапства.**

**Ён быў менавіта «умолен» заняць епіскапскую кафедру. Роля царкоўнага іерарха была чужая яму.**

**Паводле душэўнага складу мольбіт, які прагнуў душэўнага спакою і адзіноты, ён быў адразу ўцягнуты ў вір чыста зямных клопатаў і турбот. Толькі большая магчымасць прапаведніцкай дзейнасці, царкоўнага настаўніцтва сярод людзей свецкіх была ўзнагародай.**

**Драўляная вежа-стоўп, з якой далёка было відаць навокал, усё яшчэ здаваліся амаль райскім закуткам у гэтым свеце.**

**У думках ён быў там увесь час, жадаў новага адасаблення, поўнай адлюдненасці ў свеце. Не пазней 1182 года гэтае жаданне нарэшце здзейснілася.**

**Апошнія гады Кірыла прайшлі ў манастыры «у святаго Николы в Турове», дзе і закончыўся яго зямны шлях.**

**Там, «у святаго Николы», і былі напісаны Кірылам ягоныя малітвы — перад дзвярыма смяротнай гадзіны.**

**У зборніку для іканапісцаў, які называецца «Иконописным подлинником», чытаем пад 28 красавіка: «Преподобный отец наш Кирилл, епископ Туровский, иже отстоящь близь Киева; подобием надсед, власы с ушей, брада с Николину, но не курчевата, проста, ризы святительския, в омофоре, в руках книга».**

**Так на думку нашчадкаў павінен выглядаць святы Кірыл Тураўскі. Гэта яго іканапіснае аблічча, іканапісны партрэт.**

**Юрый ЛАБЫНЦАЎ**

*«Напой росою благодати...».*
Мн., 1992.

веку весьці падобны спосаб жыцьця. Дзеля гэтага «стоўп» нашага Кірыла быў напэўна не стаўпом, але стаўпападобнай кельляй, або маленькай вежай (па грэцку пыргос), дзе ён зачыніўся.

Пярыяд стоўпніцтва быў для Кірыла часам яшчэ больш інтэнсыўнага духовага жыцьця і ня менш інтэнсыўнай умысловай дзейнасьці. Аўтар Пралёгу кажа, што ў стаўпе Кірыл «яшчэ больш трудзіўся пастом і малітвамі, і паясьняў шматлікія сьвятыя пісаньні». Вельмі магчыма, што ў гэтым часе Кірыл напісаў свае малітвы і каноны, а таксама некаторыя творы аб духовым жыцьці.

Як вельмі часта здараецца ў падобных выпадках, пошукі адзіноты мелі зусім адваротны вынік. Кірыл стаўся настолькі ведамым, што калі памёр Тураўскі япіскап Георгі, дык князь і ўвесь народ прасілі аднагалосна Мітрапаліта назначыць яго на Тураўскі пасад.

Як япіскап, Кірыл, паводле словаў жыцьцяпіса, «працаваў шмат для Царквы Божае». Інтэнсыўная пастырская дзейнасьць не перашкаджала яму браць удзел таксама і ў справах, якія датычылі ўсей Кіеўскай Мітраполіі, да якой належала і Тураўская епархія. У 60-тых гадох дванаццатага стагодзьдзя ў гэтай мітраполіі паўстаў закалот з прычыны некага Тодара, або Тодарца, які подступам атрымаў беспасрэдна ад Канстантынопальскага Патрыярха назначэньне на Растоўскі пасад, абмінаючы пры гэтым Кіеўскага Мітрапаліта, які быў ягоным беспасрэдным зьверхнікам. У сваіх паступках Тодар меў магутнага апякуна ў асобе ўладзімірскага князя Андрэя Баголюбскага. Гэты князь, які аставіў па сабе нядобры ўспамін, хацеў дзеля палітычных мэтаў мець у сваім княстве асобную царкоўную правінцыю, магчыма нават мітраполію, незалежную ад Кіева. Мітрапаліт Кіеўскі ня прызнаў назначэньня Тодарца на Растоўскі пасад, адлучыў яго і забараніў усім сьвятаром і верным мець нешта супольнае з ім. У адказ на гэта Тодарац, пэўны ў князёўскай апецы, пачаў прасьледаваць сваіх праціўнікаў і адначасова прапаведваць пэўную неазначаную бліжэй гэрэзію. Яму аднак прышлося горка дасьведчыць, як няпэўным ёсьць лёс тых, якія надзеюцца на ласку сьвецкіх валадароў. Андрэй зьмяніў сваю палітыку і пачаў шукаць пагадненьня з Мітрапалітам. Ён арыштаваў Тодарца і адправіў яго ў Кіеў на мітрапалічы суд. Там ён быў асуджаны і памёр лютай сьмерцю. Гэта здарылася ў траўні 1169 году.

Кірыл, які меў вельмі высокае паняцьце япіскапскай годнасьці, не астаўся збоку ад гэтай сумнай справы. Вось што піша аб гэтым жыцьцяпісец: «Адносна-ж Тодарца, так пагардліва празванага, дык благаслаўлёны Кірыл раскрыў ягоную ерась пры помачы Боскіх пісаньняў і пракляў яго». Да нас дайшоў адзін твор сьвятога Кірыла супраць Тодарца. Ённазываецца «Прыповесьць аб кульгавым і аб сьляпым». Кірыл бароніць у ім годнасьць япіскапскага стану супроць тых, якія недастойна яго жадаюць. Акрамя гэтага ў Пралёгу ўспамінаецца, што Кірыл напісаў шмат лістоў да Андрэя Баголюбскага. Гэтыя лісты да гэтага часу ня знойдзеныя. Вельмі магчыма, што ў іх сьвяты дакарае князя за ягоныя недастойныя паступкі ў справе Тодарца і за разьбіваньне царкоўнай еднасьці.

Справа Тодарца пазваляе нам між іншым устанавіць прыблізны час, калі Кірыл стаў япіскапам. З аўтарытэтнага тону «прыповесьці аб кульгавым і сьляпым» і з вышэй прыведзенай зацемкі з Пралёгу (Кірыл пракляў Тодарца), выглядае, што ў часе сваіх выступленьняў супроць Тодарца ён быў ужо япіскапам. Гэтыя выступленьні былі перад арыштам гэтага апошняга, які меў месца 8-га траўня 1169 г. Такім чынам сьвяты Кірыл быў ужо япіскапам не пазьней, чым у пачатку 1169 г.

Час япіскапства Кірыла быў часам ажыўленай пісьменьніцкай дзейнасьці, якая напэўна была цесна зьвязаная з ягонымі пастырскімі абавязкамі. Жыцьцяпісец успамінае, што ён напісаў «павучэньні на тэмы Евангельля і прарокаў, казаньні на Гасподнія сьвяты і шмат іншых твораў карысных для душы, а таксама малітвы і пахвалы шматлікім сьвятым». Маючы на ўвеце дабро іншых, Кірыл «напісаўшы ўсе гэтыя творы, перадаў іх Царкве, якая захавала іх да сяньняшняга дня дзеля пацяшэньня і павучэньня верных усяе Русі».

Нажаль з усіх вышэй успомненых твораў, якія Кірыл напісаў будучы ўжо япіскапам (павучэньні, казаньні, пахвалы сьвятым), да нас дайшло толькі восем казаньняў на нядзелі і сьвяты Вялікоднага пэрыяду. Магчыма далейшыя пошукі адкрыюць іншыя загубленыя скарбы духовай і літаратурнай спадчыны нашага сьвятога.

Пралёг не дае нам больш ніякіх вестак з япіскапскай дзейнасьці Кірыла. Канчаецца ён коратка, не забыўшыся аднак успомніць у пару словах, што Кірыл аставіў пасьля сябе памяць добрага і дбайлівага пастыра: «Такім чынам, пажыўшы чэсна і пабожна, і дбайліва пасучы даручанае яму стада, ён перайшоў да жыцьця вечнага і безканечнага».

У жыцьці Кірыла няма нічога аб даце сьмерці. З летапісу аднак ведама, што на пастрыжэньні ў манахі новага ігумена Кіева-Пячэрскай Лаўры Васіля ў 1182 г. быў прысутны, сярод іншых царкоўных дастойнікаў, Тураўскі япіскап Лаўрын. Такім чынам трэба прыпушчаць, што ў гэтым годзе Кірыла ня было ўжо ў жывых. Думка некаторых вучоных, быццам Кірыл адрокся Тураўскага пасаду і пайшоў зноў у манастыр, ня мае дастатковых даных. <...>

Памяць сьвятога Кірыла сьвяткуецца 28-га красавіка.

Сьвятасьць ня ведае нацыянальных межаў. З другога боку, сьвятыя, будучы людзьмі, належаць да таго ці іншага народу. Кожны народ зусім слушна ганарыцца сваімі сьвятымі, уважаючы іх за сваіх найлепшых сыноў, якіх сам Бог захацеў уславіць. Такім без сумніву для беларускага народу зьяўляецца сьвяты Кірыл Тураўскі.

Свае выдатныя здольнасьці і немалыя веды Кірыл аддаў на службу Богу. Будучы склонным да адзіноты, яму прышлося правесьці амаль усё жыцьцё ў актыўнай душпастырскай дзейнасьці для дабра іншых. У душы аднак Кірыл астаўся самотнікам. Аставіўшы па сабе багатую літаратурную і духовую спадчыну, ён умеў так добра схаваць сваю асобу, што сяньня толькі з цяжкасьцю можна ўстанавіць галоўныя рысы ягонага жыцьця. Ён быццам усім сваім жыцьцём, ня меньш чым сваімі творамі, хацеў сказаць: «Ня нам, Госпадзе, ня нам, але імені Твайму дай славу» (Пс. 113, 9).

**Аляксандар НАДСОН**
*Сьвяты Кірыл Тураўскі.*
*Лёндан, 1968.*

*Не паўтараецца ў ёй,*
*зазначым,*
*Вялікдзень Гасподні,*
*а дзейсніцца Процівялікдзень.*
*Вялікдзень ратуе свет*
*ад д'ябальскага змушчання*
*і вызваляе мёртвых*
*з вязніцы пекла.*
*А Процівялікдзень — ён*
*узнаўляе ўваскрэсенне:*
*сустракаем*
*вобраз яго*
*мы ў Старым Законе,*
*калі Госпад Бог*
*кажа Майсею ў Егіпце:*
*«Вось выбаўляю маіх людзей*
*ад фараонавай працы*
*і вызваляю*
*іх з-пад уціску яго*
*паслугатых;*
*дык узнаўляй жа дзень*
*свайго выбаўлення, Ізраіль,*
*бо перамог*
*ён тваіх ворагаў».*

*Вось і ўзнаўляем, святкуючы,*
*мы цяпер*
*дзень перамогі Хрыстовай:*
*спрамогшы*
*цёмныя ўлады*
*і д'ябальскія началы,*
*ён свету ўсяму дараваў*
*ратунак;*
*дзеля таго ў царкве*
*артусны хлеб асвячаюць*
*з Вялікадня і дагэтуль.*
*І сёння дзеля таго*
*на іерэйскім прастоле*
*ён ломіцца на азнаку*
*тых праснакоў,*
*што з Егіпту*
*неслі з сабою ў пустыні*
*левіты — габрайскія*
*святары,*
*пакуль не прайшлі*
*Чырвонага мора*
*і пакуль Богам*
*не быў асвечаны гэты хлеб.*
*І хто гэты хлеб*
*каштуе —*
*здаровым бывае*
*і ворагам страшны.*

*Пазбыўшыся ад прыгнёту*
*цялеснага,*
*узнаўляюць*
*габраі, святкуючы,*
*дзень праснаковы;*
*а мы,*
*уратаваныя Збаўцам*
*ад путаў змысловага*
*фараона —*
*д'ябла,*
*сёння ўзнаўляем дзень,*
*які стаўся*
*спрамогай над ворагамі,*
*і, святы*
*прымаючы гэты хлеб,*
*каштуем*
*нябесную ежу;*
*і зберагаем*
*яго для жыццёвых патрэбаў*
*на цэлы год:*
*для здароўя цела,*
*для ўратавання душы*
*і прагнання*
*немачы ўсякай.*

*Цяпер*
*скончылася старое і новым*
*сталася ўсё,*
*што відочна і што невідочна.*
*Нябёсы,*
*скінуўшы лахманы*
*поцемных воблакаў,*
*прасвятліліся*
*і ў вышыні*
*славу гасподнюю*
*спавядаюць.*
*Я не кажу аб нябёсах,*
*даступных воку,*
*але — аб змысловых:*
*там*
*апосталы на Сіоне*
*убачылі Госпада сёння*
*і, скруху забыўшы,*
*адкінуўшы смутак — цень*
*страхаты іудзейскай —*
*Духам Святым*
*асвяціліся і абвяшчаюць*
*Хрыстова ўваскрэсенне.*

*Сёння, красуючы, сонца*
*увышыню ўсходзіць*
*і, радаючыся, зямлю*
*саграває, —*
*усходзіць нам гэтак з труны*
*сонца святое — Хрыстос*
*і ўсіх,*
*што ў яго вераць,*

*ратуе.*
*Сышоўшы*
*з вышэйшага месца,*
*сёння*
*свяцілу вялікшаму аддае*
*месяц ушану,—*
*гэтак з суботаю разам*
*сыходзіць з вышэйшага месца*
*Стары Закон*
*і Закону Хрыстову*
*ужо аддаюць ушану*
*прарокі.*

*У пакаянні*
*грахоўніцкая зіма*
*скончылася і растаў*
*у богаразумнасці лёд*
*няверы,—*
*гэтак*
*апостальскае навучанне*
*і вера Хрыстова зіму*
*язычнага куміраўладарства*
*скрышылі,*
*і з выяўленнем*
*ранаў Хрыстовых растаў*
*лёд Фамовай няверы.*

*Сёння, красуючы, ажыўляе*
*вясна зямную прыроду,*
*і, веючы ціха,*
*вятры-няўрымсты*
*змнажаюць плады,*
*а зямля,*
*успойваючы насенне,*
*аздобліваецца зялёнай*
*травою.*

*Вясна-красна —*
*гэта Хрыстова вера,*
*якой перайначваецца праз*
*хрост*
*чалавечая існасць;*
*вятры-няўрымсты —*
*гэта грахоўныя паімкненні:*
*яны,*
*ператварыўшыся праз*
*пакаянне*
*у цноты, змнажаюць*
*плады, што карысныя будуць*
*нашай душы;*
*а зямля*
*існасці нашай,*
*нібы насенне,*
*божае слова прыняўшы*

# «ПАЧЕ ВСЕХ ВОССИЯВШИЙ...»

Творы Кірыла Тураўскага набылі вялікую папулярнасць ва ўсім усходнеславянскім свеце і пашырыліся ў спісах XIII—XVII стст. Яго малітвы друкаваліся на Беларусі ў «Евангелии учительном» (Заблудаў, 1569) І.Фёдарава і П.Мсціслаўца, у «Молитвах повседневных» (Еўе, 1615, Вільня, 1635) і ў іншых выданнях. У 1821 г. К.Калайдовіч выдаў пятнаццаць твораў Кірыла ў «Памятниках российской словесности». Пазней епіскап мінскі і тураўскі Яўгеній выдаў зборнік яго твораў у перакладзе на расійскую мову (Кіеў, 1880). Акадэмічнае выданне літаратурнай спадчыны беларускага асветніка ажыццявіў І.Яромін у «Трудах отдела древнерусской литературы» (М.-Л., 1956—1958). Урэшце, Ю.Лабынцаў перавыдаў факсімільным спосабам (1992) малітоўныя творы Кірыла з віленскага выдання «Молитвы повседневные» (1596).

Казанні, альбо «словы», святога Кірыла ахопліваюць вялікодны цыкл нядзельных и святочных дзён ад Вербніцы ("нядзелі Вайі") да Узнясення. Кожнае з іх, з'яўляючыся класічным творам красамоўніцкага мастацтва, адлюстроўвае пэўную грань багаслоўска-філасофскіх і грамадска-этычных поглядаў пісьменніка. Пры гэтым калі тэалагічныя ідэі Кірыла выяўляюцца адкрыта і не заўсёды ўзгадняюцца з артадаксальным праваслаўным багаслоўем, то сацыяльна-філасофскае вучэнне прысутнічае ў яго творах у скрытых формах прытчаў, мастацкіх вобразах і сімвалах. Кірыл Тураўскі нідзе не сцвярджае, быццам Бог стварыў сусвет з «нічога», з нейкай пустаты. Услед за ўсходнімі айцамі царквы ён упадабляе Бога-Дэміурга мастаку і дойліду, які стварыў дасканалы твор: космас, зямлю і неба, расліны і жывёлы, урэшце, чалавека — вянец гэтага тварэння. Распавядаючы пра цэнтральную падзею вербнага тыдня — трыумфальны ўезд Хрыста ў Ерусалім за тыдзень да смяротных пакутаў і ўваскрэсення,— пісьменнік усклікае: «Ныне шествует в Иерусалим — Измеривый небо пядию и Землю дланию». Пагэтаму і паслядоўнікаў Хрыста, духоўных кіраўнікоў хрысціянства — патрыярхаў, архірэяў, ігуменаў, іерэяў «і ўсіх царкоўных вучыцеляў» — ён называе ўмелымі будаўнікамі «слаўнага і вельмі чэснага дому» («Слова ў нядзелю Вайі»).





У «Слове на антыпасху» пісьменнік смелымі маляўнічымі метафарамі малюе вясновае абнаўленне прыроды як урачысты хваласпеў прыгожага тварэння свайму Творцу: «Ныне солнце, красуяся, к высоте восходить и, радуяся, землю огреваеть: взиде бо нам от гроба праведное солнце Христос и вся верующая Ему спасаеть...»

У «Слове пра спаралізаванага» аўтар словамі гэтага пакутніка сцвярджае думку пра асноўную прыкмету боскай прыроды Хрыста: ён не чарадзей, нават не анёл, але сам Бог, таму што «слова яго сталася справай». Бог жа адносна «твари» (гэта значыць створанай ім прыроды) выступае яе вярхоўным заканадаўцам, які ўтрымлівае быццё ў стане дынамічнай, рухомай гармоніі («Слова пра сляпога»).

Законы прыроды, паводле Кірыла Тураўскага, ёсць тое, што на метафарычнай мове багасловўя называецца «страхам Боскім». Ім «движется земля, расседается камение, животная трепещють, горы куряться, светила раболепно служать, облаци и воздушная тварь повелениа творять» («Прытча пра чалавечую душу і цела»). Вось чаму ўваскрэсенню Хрыстоваму радуецца ўся зямля, неба ўпрыгожваецца светачам-зоркамі, і ўся прырода красуецца, прасветленая Збаўцам-Хрыстом, які, учалавечыўшы, перайшоў з таго, трансцэндэнтнага, свету ў свет зямнога жыцця, каб абнавіць яго, прасвятліць боскім святлом. У пакаяльных малітвах паэт бачыць прамудрасць, дабрыню і красу Бога-Стваральніка паводле дасканаласці яго твору — Сусвету, падпарадкаванага законам боскай гармоніі. Боскаю воляй зямля трымаецца ні на чым, мора абмежаванае пяском, пракладзеныя рэчышчы вялікіх і малых рэк, вада хмараў трымаецца ў паветры, сонца грэе няспынна, месяц свеціць са страхам і зорка здзяйсняе свой мудры рух.

Такім чынам, філасофскія погляды Кірыла Тураўскага ёсць тэацэнтрызм, які толькі па аналогіі можна было б назваць аб'ектыўным ідэалізмам. Бо завершаная сістэма аб'ектыўнага ідэалізму Гегеля грунтуецца на канцэпцыі абсалютнай ідэі як субстанцыі (асновы) быцця. Гэтая ідэя іманентная нашаму сусвету і рэалізуецца паводле сваіх унутраных дыялектычных законаў: развіваючыся, цалкам, без астачы пераходзіць у сваю процілегласць — прыроду (першае самаадnаўленне), якая ў сваю чаргу ў ходзе дыялектычнага руху самаадмаўляецца («адмаўленне адмаўлення»), праходзіць стадыі суб'ектыўнага духу (фенаменалогія самасвядомасці), аб'ектыўнага духу (грамадства і дзяржава, права і мараль), урэшце, на ўзроўні абсалютнага духу (мастацтва, рэлігія і філасофія) раскрываецца ва ўсёй сваёй паўнаце. Гэта, па сутнасці, пантэізм, адзінства быцця і Бога.

У адрозненне ад гегелеўскай навукова-філасофскай канцэпцыі быцця Кірыл Тураўскі развівае багаслоўскую традыцыю ўсходніх айцоў хрысціянскай царквы, паводле якой Бог ёсць непазнавальны ў паняццях трансцэндэнтны (па-за межамі людскога вопыту) Дух як абсалютны Суб'ект, які сімвалічна пазнаецца праз пазнанне і ўмілаванне створанага ім дасканалага сусвету, праз веру і любоў да Яго адзінароднага і аднаіснага з ім Сына — Ісуса Хрыста, праз якога адбылася таямніца спалучэння Духа і цела, Бога і чалавека, трансцэндэнтнага і іманентнага светаў — а праз гэтую таямніцу сталася магчымым выратаванне чалавека і ўсёй «плоці» прыроды, іх далучэнне да трэцяй іпастасі Святой

*і рупячыся аб ім*
*удзень і ўначы,*
*нараджае, нібы траву,*
*дух нашага выратавання.*

*Сёння*
*нованароджаныя ягняты,*
*а гэтаксама цяляты,*
*скачуць,*
*адольваючы дарогу,*
*і, шпарка вяртаючыся*
*да мацярок,*
*весяляцца.*
*Дый пастухі,*
*граючы на свісцёлках,*
*у весялосці*
*хваляць Хрыста.*
*Ягняты,— тлумачу вам,—*
*гэта людзі*
*з лагоднай душой,*
*а цяляты —*
*кумірапаслугачы*
*краёў, не прынятых верай;*
*але праз Хрыстова*
*учалавечанне,*
*апостальскае рупнаванне*
*і цуды*
*жвава закон прынялі,*
*звярнуліся да царквы*
*і смокчуць*
*цяпер малако вучэння.*
*Вучыцялі*
*гурту Хрыстова сёння,*
*молячыся аб усіх,*
*Хрыста Бога ўслаўляюць;*
*сабраў ён і памірыў*
*істот,*
*што ніколі раней*
*не збіраліся разам*
*і між сабою*
*не зналі міру.*

*Парасці выпускаюць*
*сёння ў наўколлі дрэвы,*
*кветкі духмянлівыя цвітуць —*
*і сады*
*вось ужо дораць шчодра*
*свету салодкі водар,*
*а земляробы,*
*сеючы сёння*
*ў раллю насенне,*
*надзею ўскладаюць*
*пакорліва*
*на Хрыста —*
*ураджаядаўцу.*

*Былі мы раней,*
*бы дрэвы ў дуброве,*
*якія спажыўнага плоду не*
*маюць,*
*але цяпер*
*у наша няверʻе*
*ўжывілася вера Хрыстова.*
*І вунь*
*вернікі тыя, што шчыра*
*трымаюцца, як прышчэпы,*
*Іосіфава карэння,*
*бы ў кветкі, у цноты*
*ўбіраюцца*
*і чакаюць*
*жыцця, што Хрыстом*
*пераўтворыцца неўзабаве*
*у рай.*
*Гэтаксама свяціцелі,*
*што, аб сабе забыўшы,*
*рупяцца аб царкве,*
*той час прадчуваюць,*
*калі іх узнагародзіць*
*узнагародай сваёй Хрыстос.*

*Цяпер аратаі слова*
*ў шчамлёты духоўныя*
*ўводзяць*
*цялят словамоўных*
*і заглыбляюць*
*крыжовае рала*
*ў змысловыя нівы,*
*і баразну пакаяння*
*накрэсліваюць,*
*і сеюць*
*насенне духоўнае,*
*і спадзяваннем*
*на будучы плён весяляцца.*

*Сёння старое,*
*што светам валодала,*
*стала мінулым,*
*а свет*
*дзеля Хрыстова ўваскрэсення*
*стаўся новым.*

*Паўнюткі*
*рэкі апостальскія цяпер*
*вадою разводдзя,*
*і нерастуюць*
*язычныя рыбы.*
*І рыбары,*
*выпрабаваўшы глыбіню*
*Божага ўчалавечання,*
*здабываюць*

Тройцы — да Святога Духу, сталася рэальнасцю перамога жыцця над смерцю, святасці над грахом.

Багаслоўская канцэпцыя Кірыла Тураўскага грунтуецца на гэтых асноўных пастулатах хрысціянскага светапогляду. У сваім арыгінальным творы «Прытча аб чалавечай душы і целе» ён абвяргае наіўны антрапацэнтрызм «бытавога» хрысціянства, перасцерагаючы ад спакусы літаральнага тлумачэння сімволікі біблейных кніг, асабліва вядомыя Божыя словы: «Створым чалавека па вобразу Нашаму, падабенству Нашаму» (Быццё 1, 26). Падабенства гэтае, на думку Кірыла, ёсць «не вобразам, а прытчаю». Гэта значыць, яно іншасказальнае і сімвалічнае. Ён назваў ерассю погляды тых, хто насуперак здароваму сэнсу ўяўляе бясплотнага Бога цялесным, таму што Бога нельга апісаць альбо суаднесці з нейкай мераю.

Тут наш асветнік не мог не заўважыць супярэчнасці сваёй рэлігійнай антрапалогіі, бо сам прыкладаў да чалавека толькі цялесную і душэўную меркі, забыўшыся на трэцюю яго іпастась —дух. Толькі сваёй духоўнасцю чалавек апраўдвае біблейныя словы пра сваю богападобнасць і свой вобраз Божы. Гэтае духоўнае адзінства Бога з чалавекам увасобілася ў богачалавечай постаці Хрыста — другой іпастасі святой Тройцы.

Ён жыў у эпоху, калі хрысціянства на Русі яшчэ сутыкалася з жывой язычніцкай плынню ў народнай культуры, а ўсяленская царква яшчэ не закончыла барацьбу з уплывамі праціўнікаў Хрыста —так званымі «старазапаветнікамі», з разнастайнымі рэлігійна-філасофскімі школамі гнастыцызму, прыхільнікі якога спалучалі хрысціянскія дагматы з эліністычнымі філасофскімі сістэмамі.

У царкоўным асяроддзі сярэднявечнага ўсходне-славянскага свету склалася негатывісцкая канцэпцыя язычніцкай культуры, паводле якой паганскія багі ёсць «бесы» альбо іхнія слугі. Іх неабходна выкрываць, па магчымасці не ўспамінаць іх імёны. На гэтым ідэалагічным фоне асветніцтва Кірыла Тураўскага вызначаецца сваёй памяркоўнасцю, цярпімасцю да народнай культуры. Паганская міфалогія ўяўлялася яму верай у створаную прыроду, а не ў самога Творцу.

Верагодна, што наш асветнік не бачыў у паганстве паважнага праціўніка пасля таго, як свет язычнікаў прыняў Хрыста, абнавіўся ў купелі хрышчэння і стварыў усяленскую царкву паводле апостальскіх запаветаў. Затое абвяржэнню арыянства, адэпты якога адмаўлялі самую найглыбейшую існасць хрысціянства — боскую прыроду Хрыста і яго богачалавечую місію на зямлі,— Кірыл Тураўскі прысвяціў асобны твор — «Слова на пахвалу 318-ці айцоў Нікейскага сабору» (Візантыя, 325 г.). Як вядома, гэты першы ўсяленскі сабор асудзіў антытрынітарызм арыянства і зацвердзіў асновы хрысціянскага Сімвалу веры — траічнасць Бога і адзінасутнасць Сына з Айцом. <...>

Істотная прыкмета багаслоўскіх поглядаў Кірыла Тураўскага, пафас яго творчасці — не барацьба супраць ерасяў, а хутчэй апафеоз евангельскай багадаці, вастрыня адчування духоўнага нараджэння ў Хрысце. З абвяшчэннем Новага Запавету закон Майсееў страціў сваю выратавальную сілу, стаў фактам гісторыі рэлігіі, а ўсе старазапаветныя кнігі Біблііі, яе шматлікія сюжэты, вобразы і прароцтвы захавалі сваю каш-





*поўны царкоўны невад*
*лавітвы.*
*«Рассядзецца рэкамі,—*
*кажа прарок,—*
*зямля,*
*убачаць, уразяцца і праз гэта*
*нудой абнядужацца*
*несумліўцы».*

*Цяпер працаўніца-пчала,*
*манаскага чыну,*
*усіх здзіўляе,*
*паказваючы сваю*
*мудрасць,—*
*так, жывучы ў пустэльні*
*і жывячыся самапасам,*
*манахі*
*здзіўляюць людзей і анёлаў.*
*Яны — гэтаксама пчолы,*
*што, кветкі аблётваючы,*
*ствараюць*
*мядовыя соты*
*і слодычччу адмысловай*
*частуюць людзей*
*і царкву.*

*Цяпер*
*спеўнагалосыя птушкі*
*сямʻі царкоўнай,*
*гняздо абнаўляючы,*
*весяляцца.*
*«І птушкі,— кажа прарок,—*
*займеюць сваё гняздо*
*тваім алтаром*
*і будуць,*
*спяваючы свае песні,*
*славіць*
*Бога нязмоўчнымі галасамі».*

*Сёння*
*новяцца постаці ўсіх святых*
*і прымаюць*
*новае бытаванне:*
*прарокі і патрыярхі,*
*што працавалі няўтомна,*
*сёння*
*раюць у боскім садзе;*
*апосталы і свяціцелі,*
*што святлом*
*Хрыстовым свяціліся,*
*сёння*
*ўслаўляюцца на зямлі*
*і на небе;*
*пакутнікі і спавядаўцы,*

тоўнасць як сімвалічная прэлюдыя да выратавальнай містэрыі Уваскрэсення. У светлую вялікодную нядзелю, узнёсла пісаў асветнік, збяднеў Стары Закон і парабацілася субота,— узбагацілася ж царква Хрыстова і надышло царства дня Яго ўваскрэсення. Ранейшы Закон ужо не ўратуе тых, хто спадзяецца на яго: «Птенець» (Хрыстос) ужо адляцеў, а «безумнии» сядзяць у пустым гняздзе. Асабліва ўразілі пісьменніка парадоксы ўзнікнення і пашырэння хрысціянства: сярод яўрэяў Хрыстос стварыў цуды, а язычнікам даў багадаць выратавання; юдзеі явілі Хрыста, а язычнікі прынялі Яго; Ізраіль выракся таго, Хто заклікаў яго ў жыццё вечнае, і Хрыстос прывёў у царства нябеснае язычнікаў і быў Ён юдзеям на падзенне і спакусу, а язычнікам на славу і веру.

У свой час яўрэйскія кніжнікі і фарысеі пакляліся забіць апостала Паўла толькі за тое, што гэты прапаведнік хрысціянства развіваў тэалагічную дыялектыку, паводле якой Хрыстова багадаць узнялася над старазапаветнымі законамі. Кірыл Тураўскі паслядоўна і ўмела развіваў гэты маральна-філасофскі матыў апостала: «Миноваше бо уже ветъхый закон с требами козьих жертв и с предании старьчьских заповедий, немогый исцелити человечьских недуг; ничтоже бо закон Моисеев совершил, но всех предасть под грех. Сам же Творець твари и Законудавець приде обновить твари и спасти человека...» Сваё «Слова пра сляпога» тураўскі асветнік завяршае апалогіяй гэтага першага хрысціяніна: «Но мы ныня, оставльше иудейское злобесование, похвалим помилованнаго Богомь человека. Сий бо не токмо телесьныма прозре очима, но и душевьныма просветися зракома: на земли проповьдник бысть Сыну Божию и на небесах апостольскаго сподобися венца». У адпаведнасці з гэтай канцэпцыяй узыходжання Хрыстовай багадаці і заняпаду Старога закону пісьменнік стварае складаную іерархію паэтычных вобразаў і рэлігійных сімвалаў, у якой, напрыклад, Елеонская гара (дзе прапаведаваў Хрыстос) узвысілася над Сінайскай гарой, дзе паводле Бібліі невідочны Бог даў Майсею асновы старазапаветных маралі і права.

Эпіграфам да антрапалагічнай канцэпцыі Кірыла Тураўскага маглі б стаць ягоныя ж словы з паэтычнай малітвы ў нядзелю пасля ранішняй літургіі: «Ведаю, што Ты прывёў мяне з нябыту ў быццё і ўпрыгожыў падобнасцю да вобраза Свайго, надзяліў мяне словам і розумам. Ты ўзнёс мяне вышэй за ўсё жывое і паставіў мяне валадаром усяго тварэння». З найвялікшаю паэтычнай экспрэсіяй хрысціянскую думку пра супярэчлівасць чалавека, яго высокую духоўную місію на зямлі і ягонае ж падзенне праз грахі і спакусы зямныя пісьменнік выявіў у «Слове пра спаралізаванага», драматызаваўшы вядомы евангельскі эпізод. Матыў палярнасці, амбівалентнасці чалавечага быцця гучыць ужо ў першым радку твора: «Неизмерьна небесная высота, ни испытана преисподняя глубина, ниже сведомо Божия смотрения таиньство». <...>

Спавядальныя малітвы Кірыла Тураўскага — шчырае лірычнае самараскрыццё душы чалавека перад сваімі нябеснымі бацькамі —Богам Айцом, Сынам Божым, Маці Боскай і заступнікамі людзей перад Богам, яго святымі.

Бог, кажа паэт у сваіх малітвах, стварыў чалавека са-

*што за Хрыста зазналі*
*злыбяду і пакуту,*
*вянкамі*
*увенчваюцца спаміж анёлаў;*
*сёння*
*цары і князі*
*ратуюцца паслушэнствам;*
*нявіннікі,*
*што захавалі цноту*
*душы і цела*
*і неслі самааддана*
*свой крыж цярпення,*
*услед за Ісусам Хрыстом*
*узыходзяць*
*з зямлі на нябёсы;*
*сёння*
*поснікі і пустэльнікі,*
*узнагароду*
*з рукі гасподняй прыняўшы,*
*цешацца са святымі*
*у горадзе ўзгорным.*

*Сёння*
*навіцца новым людзям*
*свята Хрыстова ўваскрэсення*
*і ўсё тое,*
*што сталася новым,*
*добраахвотна*
*прыносіцца Госпаду:*
*вера — ад жыхароў,*
*ад хрысціян — набажэнства,*
*апека царкоўная —*
*ад вяльможаў,*
*ад праведнікаў —*
*мудрасціпласць,*
*ад грэшнікаў — пакаянне,*
*ад несумліўцаў —*
*звяртанне да Бога,*
*адно аднаму дараванне —*
*ад варагоўцаў.*

*Узыдзем цяпер, браты,*
*і мы на Сіон*
*і ўвойдзем*
*змысловымі ўвойдзінамі*
*ў святліцу,*
*дзе ўжо*
*сабраліся вучні Хрыстовы*
*і сам Хрыстос,*
*калі былі дзверы зачынены,*
*спасярод*
*іхняга збору з'явіўся*
*і, прывітаўшы іх: «Мір*
*вам!», —*
*споўніў*

маўладным, а ён падпарадкаваўся граху і нячысціку, зацямніўшы сваю першастворaную красу. І вось чалавек просіць Хрыста ўкрыжаваць цела яго страхам Боскім, вызваліць думкі ад усяго зямнога і далучыць да нябеснага, а Багародзіцу моліць заступіцца за яго перад нябесным Царом. Цыкл малітваў завяршае «Канон малітоўны» — своеасаблівы паэтычны «магістрал», які падсумоўвае страсны самааналіз чалавека, самавыкрыццё яго неспакойнай душы, якая імкнецца да неба, але крылы яе абцяжараныя зямнымі страсцямі — самалюбствам, зайздрасцю, злосцю, варожасцю, непрымірымасцю ды іншымі грахамі душы і цела.

Праблему чалавека ў яго грамадскім быцці Кірыл Тураўскі сімвалічна выявіў у дзвюх прытчах (кароткай і падрабязнай) пра сляпога і кульгавага, альбо пра чалавечую душу і цела. Як і ў іншых сваіх творах, пісьменнік выкарыстаў тут у якасці сюжэтнай асновы вядомае евангельскае апавяданне пра дамавітага гаспадара, які насадзіў вінаград і паставіў ля варотаў варту. Але асветнік разгарнуў гэты сюжэт у складаны красамоўніцкі твор дыдактычна-філасофскага і сацыяльна-этычнага зместу. Дамавіты гаспадар тут сімвалізуе Бога, стваральніка сусвету. Сад-вінаград (вертаград) — гэта зямля і «свет гэты»; кульгавы — цела чалавека, а сляпы — ягоная душа; агароджа вакол сада —законы і запаведзі Божыя. А незачыненыя вароты, якія вядуць у сад,— шлях да пазнання Творцы і створанага ім сусвету. Сляпы і кульгавы, аб'яднаўшы свае сілы (сляпы нёс кульгавага, а кульгавы паказваў дарогу), самавольна трапілі ў сад, каб паспрабаваць забароненых пладоў. Гэты сімбіёз «сляпой» душы і «кульгавага» цела сімвалізуе недасканаласць чалавечага грамадства, якое «кантрабандай» авалодала тайнамі Боскага тварэння, не будучы гатовым (па сваёй грахоўнасці і маральнай недасканаласці) выкарыстаць іх на дабро.

У апошніх сваіх творах красамоўніцкага жанру — пасланнях да ігумена Кіева-Пячорскага манастыра Васіля — Кірыл Тураўскі ў шэрагу арыгінальных прытчаў раскрываў глыбокі сацыяльна-этычны сэнс манаскага жыцця і ўскосна выкрываў недасканаласць дзяржаўнага ладу, зямной улады наогул, якая служыць хутчэй грахоўнай прыродзе чалавека, чым яго духоўнаму ўдасканаленню. Вось тут і выяўляецца духоўная місія «манаскага чына». Ягоная мэта — даць чалавеку і грамадству ўзоры быцця з Богам і дзеля Боскага промыслу, жыцця паводле вядомай малітвы: ціхага і мірнага, у чыстаце і ў адпаведнасці з Божай праўдай.

Для нашай маладой хрысціянскай культуры таго часу багаслоўска-паэтычная, красамоўніцкая і асветніцкая творчасць Кірыла Тураўскага, па словах летапісца, «паче всех воссиявшего нам на Руси», была сапраўдным адкрыццём красы і мастацкай сілы роднае мовы. Пісьменнік добра ведаў класічную візантыйскую рыторыку і паэтыку, творча выкарыстаў гэтую багатую эстэтычную традыцыю, узбагаціўшы культуру і мову свайго народа. З пазнейшых беларускіх асветнікаў бадай толькі Сімяон Полацкі дасканала валодаў красамоўніцкім майстэрствам, хоць і саступаў свайму выдатнаму папярэдніку ў сіле і прыгажосці лірычнага самавыяўлення.

**Уладзімір КОНАН**





# НАТХНЁНЫ ВАЛАДАР СЛОВА

Кірыл Тураўскі — выдатны рэлігійна-царкоўны дзеяч Беларусі XII стагоддзя, вялікі паэт, валадар красамоўнага пісьмовага і вуснага слова, асоба надзвычай яркая і магутная. Свецкае яго імя невядомае, як прыблізнай датай вызначаюць сёння і дзень яго нараджэння. Пастрыгаўся ён у манахі ў Нікольскім манастыры Турава. Манашаскае імя Кірыла абраў у гонар Кірыла з Александрыі (дата смерці — 444 год). «Кірыл» па-грэчаску азначае «валадар». Натхнёным валадаром слова, прыгожага і ў пісьменстве і ў прамоўніцтве, Кірыл Тураўскі і стаў, заслужыўшы ўжо ад сваіх сучаснікаў наймення другога Златавуста, вядомага ўсім землям часоў панавання над імі Кіева.

Кірыл Тураўскі, як і Ефрасіння Полацкая, быў праваслаўнай царквой кананізаваны. Як па Ефрасінні Полацкай, так і па ім засталося напісанае ў пачатку XIII стагоддзя жыціе. Але Ефрасінні Полацкай куды больш пашанцавала з аўтарам жыція. Жыціе ж Кірыла Тураўскага на рэальныя звесткі вельмі скупое. «Народжаны і выхаваны ў горадзе Тураве», «быў сынам багатых бацькоў» —вось усё, што напісана пра народзіны і паходжанне, як і пра матывы выбару свайго манашаскага шляху сказана вельмі агульна: «Не ўзлюбіў... багацця і тленнае славы гэтага свету, а рупіўся больш над вывучэннем Боскіх кніг і добра навучыўся Святога Пісання». З жыція ў агульных рысах даведваемся і пра затворніцтва манаха Кірыла, якім «уславіўся ва ўсім краі тым». Больш разгорнута ў жыціі была адно што яго заключная частка —усхвальляльная, дзе і зафіксаваліся словы пра другога Златавуста, што «паче всех воссиявший нам на Руси».

Запомніць з жыція Кірыла Тураўскага можна яшчэ пра тое, што ён епіскапа Фядоркі ерась выкрыў і прakляў яго і што князю Андрэю Багалюбскаму напісаў шмат пасланняў. «Мноства... малітваў... і іншага шмат напісаў і перадаў»,— яшчэ і такое «мноства» і «шмат іншае» ўпамянуў агіяграфіст, будучы ўпэўненым, што шмат людзей — ягоных сучаснікаў — тое мноства канкрэтна ведаюць, і лішняе час іх займаць пералікам канкрэтнасцяў. Такім чынам, агульнасцю сваіх слоў агіяграфіст хіба што яшчэ раз пацвердзіў шырокую вядомасць Кірыла Тураўскага ў сваім часе ў сваіх сучаснікаў, але патомкаў назаўжды пазбавіў магчымасці канкрэтна ведаць усё пра спадчыну першага вялікага паэта на нашай зямлі. І гэта асаблівая крыўдна, бо цалкам творчасць Кірыла Тураўскага да нас не дайшла.

Ды дайшло ўсё ж нямала, хоць частка з таго, як думаюць асобныя вучоныя, прыпісваецца яму. Ды бясспрэчна ягонымі лічацца 8 «слоў», або павучанняў, 3 прытчы, каля 30 малітваў і некалькі канонаў. Спадчына Кірыла Тураўскага, такім чы-

*іх радасцю невымоўнай.*
*Усцешыліся, — апавядае*
*Пісанне, —*
*вучні,*
*убачыўшы Госпада,*
*і растаў*
*тут жа, умомант, іхні*
*цялесны смутак,*
*і страх сардэчны прапаў.*
*І далася*
*духоўная здарсць*
*іхнім душам,*
*калі распазналі*
*свайго Уладыку,*
*а ён агаліў*
*рабрыны,*
*якія былі ўвярэджаны дзідаю,*
*перад імі*
*і раны цвіковыя на руках*
*і нагах паказаў Фаму.*

*Не было Фамы*
*з астатнімі вучнямі,*
*калі першы раз*
*ім аб'яўляўся*
*Хрыстос уваскрэслы,*
*таму, пачуўшы,*
*што насампраўдзе*
*Хрыстос уваскрэс, не даваў*
*гэтаму веры,*
*але хацеў*
*упэўніцца сам у гэтым.*
*«Пакуль я рукі сваёй*
*не ўкладу*
*у рэбры яго,*
*а ў раны цвіковыя*
*пальца свайго,*
*не паверу», — казаў ён.*
*Таму гэтым разам,*
*дакараў не чынячы,*
*Госпад*
*яму сказаў:*
*«Працягні*
*руку сваю і ўкладзі*
*у рэбры мае, і вер,*
*што я гэта.*
*Бо і раней*
*прарокі і патрыярхі верылі,*
*розумам спазнаючы*
*знакі часін,*
*у маё ўчалавечанне.*
*Распазнай,*
*што пішацца пра мяне*
*у кнізе Ісаі:*
*«Дзідай*
*у рэбры працяты будзе*

*і сыдзе кроў і вада».*
*А потым:*
*«У рэбры пацяты быў*
*і праз гэта*
*Адама зупалага ўваскрасіў".*
*І хіба цябе,*
*хоць ты не паверыў словам,*
*што я ўваскрэс і жыву,*
*адпрэчу?!.*
*Даткніся і ўпэўніся,—*
*гэта я.*
*Верачы ў маё прыйсце,*
*калі я быў немаўля,*
*упэўніўся праведны Сімяон,*
*што споўнілася абяцанне*
*Святога Духа,*
*і з вераю ў Бога прасіў,*
*каб цяпер*
*ён адпусціў яго*
*з гэтага свету з мірам.*

*Не будзь*
*нявернікам, як быў Ірад.*
*Калі ён пачуў*
*пра маё нараджэнне,*
*выпытваў у вешчуноў:*
*«Скажыце,*
*дзе нарадзіўся Хрыстос,*
*каб і мне*
*пайсці яму пакланіцца»,—*
*а ў гэты час*
*думаў у сэрцы сваім*
*аб маім забойстве.*
*Ва ўсёй акрузе*
*ён вынішчыў немаўлят,*
*ды таго,*
*чаго ён жадаў,*
*асягнуць не здолеў,—*
*так будуць мяне шукаць*
*зламыснікі*
*і не знойдуць.*

*Вер у мяне, Фама,*
*і ўведай*
*мяне, як Аўрам:*
*з двума*
*анёламі я прыйшоў*
*пад шаты яго, і ён*
*уведаў, што гэта я,*
*назваў мяне Госпадам*
*і маліў*
*мяне аб Садому:*
*каб не губіў*
*горада, дзе набярэцца*
*праведнікаў хоць бы дзесяць.*

нам, сапраўды багатая, як, відаць, і вельмі багатым на ўнутраныя падзеі, актыўным і драматычным было ўсё жыццё Кірыла Тураўскага, гэтак скупа адлюстраванае ў яго жыціі. І калі залатавусную сілу Кірыла Тураўскага — прапаведніка і паэта-творцы — раскрыць па ягоных пропаведзях і малітвах даволі лёгка, то зусім іншая справа з раскрыццём ягонай рэальнай чыннасці як магутнай асобы і дзеяча, са спасціжэннем перыпетыяў таго грамадскага жыцця, у эпіцэнтры якога лёс наканаваў Кірылу Тураўскаму быць.

У гарніле міжусобіцаў жыць нялёгка кожнаму, а тым больш чалавеку эмацыянальнаму, дзейснаму, якім быў у сваім часе і Кірыл Тураўскі. Нарадзіўшыся паэтам, ён пайшоў у манахі, як і Ефрасіння Полацкая, зракаючыся свецкіх радасцяў жыцця — дзеля ідэі духоўнага ўзвышэння. Простае мніштва яго не задаволіла, і ён становіцца затворнікам: умуроўваецца ў каменную вежу-званіцу, асуджаючы сябе толькі на чорны хлеб і сцюдзёную ваду, толькі на чытанне святога пісання і малітвы. Пачалося валадаранне самога сябе над сабой, над сваёй воляй, целам. Пачуцця асуджанасці —ніякага,— душу запаўняла толькі значэнне свайго прысвячэння, свайго зароку, свайго служэння Богу, ідэі. Ідэя валадарыла ім, ён — сабою. Такога ў Тураве, у Тураўскім княстве яшчэ не бачылі, не ведалі. Поголас пра затворніцтва Кірыла, як на птушыных крылах, неўзабаве аблётвае ўсё акаліцу, зацвярджаючы першую зямную славу мніха-кніжніка Кірыла Тураўскага.

Аж дасюль у Тураве на поўдзень ад Прыпяці, ад таго гарадзішча, якое абмывалі хвалі дзвюх рэк — шырокаплыннай Прыпяці — з поўначы, вузкай вірлівай рачулкі Язды — з захаду, разлегліся адно за адным паясы ўрочышчаў з найменнем не без сімволікі — Першая Перадоля, Другая Перадоля. Першым пераадоленнем, першай доляй Кірыла-мніха і было яго падзвіжніцкае затворніцтва. Але то была першая, ды не апошняя Перадоля жыцця вялікага тураўца. Ва ўсякім разе, да гэтае першае неўзабаве дадаюцца яшчэ дзве — Перадоля яго творчага паэтычнага духу, Перадоля нялёгкіх абставінаў, наканаваных гістарычным часам. Перадоля гісторыі была ў гэтай пары першай.

Не забудзьма, што 1185 год з яго зацьменнем сонца і паходам ноўгарадсеверскага князя Ігара на палаўцаў мог быць і годам жыцця немаладога ўжо, бо ці не 70—75-гадовага епіскапа Кірыла. Нездарма ж некаторыя вучоныя схільныя бачыць у асобе Кірыла Тураўскага і аўтара «Слова пра паход Ігаравы». Мяркуючы па спадчыне, якая ад Кірыла Тураўскага дайшла да нас, відно, што гэта быў самы найталенавіцейшы з творцаў на землях усходніх славянаў у другой палове і пры канцы XII стагоддзя. Самаму найталенавіцейшаму пагэтаму і прыпісваецца сёння самы найталенавіцейшы твор усяго ранняга ўсходнеславянскага Сярэднявечча.

Ды не дзеля падтрымкі ці аспрэчвання аўтарства Кірыла Тураўскага — мажлівага творцы «Слова пра паход Ігаравы» — важнае нам тут «Слова», а найперш як яркі адбітак міжусобіцаў, што апанавалі ўсходняе славянства ў XII стагоддзі. Бо гэта як бы і на фоне прататыпных для «Слова пра паход Ігаравы» падзей і людзей разгортвалася і жыццёвая гісторыя Кірыла Тураўскага.

Міжусобіцы! Іх у Полацку, як ужо гаварылася, асуджала Ефрасіння Полацкая: асуджала вусна і кніжна, асуджала мірным будаўніцтвам манастыроў і развіццём кніжнай справы, а таксама вучэльняй, школай, вучням якой мог быць і Кірыл Тураўскі, і аўтар «Слова пра паход Ігаравы».

Ды ўсё ж адная справа — жанчына і міжусобіцы, іншая справа — міжусобіца і мужчына. Жанчына заканамерна ішла





ў мірны род заняткаў, а святому крыжу манаха і епіскапа мірна-жаноцкага адхілення ніяк не магло ставаць, ніяк не магло пасаваць. Крыж манаха і епіскапа не мог не быць пры мячы князя і воіна — пры мужской справе таго часу, згодна аднойчы ўжо цытаванай вышэй летапіснай формулы: «Утворымо, што мужско».

Да якіх жа канкрэтна міжусобіцаў мог мець, меў дачыненне Кірыл Тураўскі? Відаць, перш за ўсё да тых, што мелі месца на яго радзіме.

Міжусобіца, што не магла не ўцягнуць у свой вір Кірыла Тураўскага, узгарэлася яшчэ на пачатку XII стагоддзя, калі Ізяславічы згубілі Тураўскае княства, а ім сталі валодаць Яраславічы, у прыватнасці, з 1115 года Уладзімір Манамах, сын Усевалада Яраславіча. 45 гадоў не маглі вярнуць сабе правоў на Тураўшчыну Ізяславічы, бо толькі ў 1160 годзе Юрый Яраславіч — з роду Ізяславічаў — узнаўляе ў Тураве іх дынастыю. Юрыем Яраславічам Кірыл Тураўскі і быў пастаўлены ў епіскапы места Тураўскага. Так як Юрый Яраславіч адстойваў незалежнасць Турава, то несумненна незалежніцкую пазіцыю займаў і Кірыл Тураўскі, якога князь падтрымаў. Пагэтаму не вытрымліваюць крытыкі тыя каментарыі да творчасці Кірыла Тураўскага, паводле якіх Кірыл Тураўскі ў ідэалагічнай і палітычнай барацьбе свайго часу быў «на баку Кіева і тураўскага князя Юрыя Яраславіча» (Памятники литературы древней Руси. XII век. М., «Художественная литература», 1980, с.660). На баку тураўскага князя Юрыя Яраславіча Кірыл Тураўскі сапраўды быў, але ён пры гэтым не мог быць на баку Кіева, які проста зацята ваяваў супраць Турава. Так, у 1158 годзе Юрый Яраславіч вытрымаў дзесяцітыднёвую асаду Турава войскамі вялікага князя Кіеўскага Ізяслава Давыдавіча, як і паўторную — 1160 года — з боку Мсціслава Ізяславіча («... стояўшы 18 дзён, нічога не дабіліся...»).

Аб тым жа пішуць сучасныя гісторыкі: «Захоп Юрыем Яраславічам Турава і вяртанне яго ў дынастычную лінію Ізяславічаў азначалі сур'ёзнае ўшчамленне інтарэсаў кіеўскага князя... Несумненна, тураўцам імпанавала паходжанне Юрыя Яраславіча ад Ізяслаўскай дынастычнай лініі, правіўшай у Тураве каля 60 год» (Лысенко И.Ф. Киев и Туровская земля. У кн.: Киев и западные земли Руси. Мн., «Наука и техника», 1982, с. 98). А наколькі быў зацяты Кіеў у наступе на Тураў, сведчыць не толькі доўгатрывалаcць асады, неймаверная на той час, але і тое, што ваенныя сілы аж сямі княстваў сабраў пад свае сцягі вялікі кіеўскі князь Ізяслаў Давыдавіч ды яшчэ дапаможны атрад качаўнікоў-бярэндзічаў далучыў да іх. Думаецца, што не толькі мужнасць тураўчан, ваенныя і дыпламатычныя здольнасці Юрыя Яраславіча спрыялі яго перамозе, але і слова прапаведніцкае і малітоўнае яго тураўскага епіскапа, які яшчэ і тым праславіўся, што ніколі з Турава нікуды за ўсё жыццё не адлучаўся.

Ды не адзін князь Юрый Яраславіч быў на вяку Кірыла Тураўскага — былі да яго і былі пасля яго. І калі браць адно з 1139 па 1167 год, то іх набіраецца сямёра, а сутычак паміж імі — яшчэ больш, і зноў жа ўсе на вачах Кірыла Тураўскага, як у абсягу яго звычайна былі і ўсе справы рэлігійна-царкоўныя: змены мітрапалітаў, епіскапаў, паяўленне ератыкоў. У лёсе Кірыла Тураўскага з епіскапаў быў найперш Іаакім, падчас сьвяшчэнства якога Кірыл Тураўскі стаў іераманахам і ігуменам (епіскапам Іаакім быў з 1146 года). З ерасяў на вачах Кірыла Тураўскага зараджаліся і каналі: Лявонція — пры князі Андрэю Багалюбскім (1162), ігумена Кіева-Пячэрскага манастыра Палікарпа, падтрыманая Федарцом (1168). І, як вядома

*Не будзь*
*нявернікам, як Валам,*
*што Духам Святым прарочыў*
*аб умярцвенні маім за свет*
*і ўваскрэсенні,*
*але потым,*
*спакушаны нізкаю*
*ўзнагародай,*
*загінуў.*

*Вер у мяне, Фама,*
*што я гэта;*
*бачыў мяне Іакаў*
*на версе прыснёнай драбіны,*
*якая злучала зямлю і нябёсы,*
*і ён жа мяне распазнаў*
*духам, калі я з ім*
*змагаўся ў Месапатаміі:*
*абяцаў*
*яму я тады, што прыму*
*у родзе яго*
*чалавечае ўцелясненне.*

*Не будзь*
*нявернікам, як Навухаданосар,*
*што ўбачыў мяне,*
*калі я*
*у печы напаленай ад загубы*
*трох юнакоў ратаваў і сам*
*быў спаміж імі чацвёртым;*
*тады назваў*
*ён мяне Божым Сынам*
*і вызнаў*
*мяне перад тварам*
*прысутных,*
*ды потым*
*зноў да спакусаў сваіх*
*вярнуўся*
*і ў іх загінуў.*

*Вер у мяне, Фама,*
*што я гэта;*
*бачыў мяне Ісая,*
*калі яму ўбачыўся*
*ўзгорны трон,*
*які абступала*
*мноства анёлаў.*
*Я — той,*
*хто быў Езэкілю*
*з'яўлены вобразам чалавечым*
*спаміж жывёлін;*
*і вы былі з'яўлены*
*ў выглядзе колаў,*
*якія злучаліся*

*з постацямі жывёлін*
*і рухаліся за мною;*
*у колах*
*быў тады дух жывы,*
*і цяпер*
*у вас я ўдыхнуў*
*Святы Дух гэтаксама.*

*Я — той,*
*каго ўбачыў Даніл*
*на аблоках нябесных*
*і хто,*
*постацую — Сын Чалавечы,*
*сышоў да Спрадвечнага днямі*
*і атрымаў ад яго*
*уладу і царства*
*на небе і на зямлі*
*гэтага веку і будучага,*
*якому*
*не будзе канца.*

*Укладзі, Блізня,*
*свой палец сюды*
*і ўгледзь мае рукі:*
*імі я вочы сляпым адтуляў,*
*імі глухім я слых аднаходзіў,*
*і адмыкаў нямым*
*рукамі гэтымі мову.*
*Угледзь*
*і ногі мае: хадзіў*
*імі па моры ўзбураным*
*перад вамі,*
*імі ішоў па паветры*
*і, увайшоўшы*
*у пекла імі,*
*спрамог*
*апраметную цемру;*
*імі прайшоў*
*з Лукой і Кляопам*
*шлях да Эмауса.*
*Дык жа не будзь, Фама,*
*тым, хто не верыць,*
*а будзь*
*тым, хто верыць».*

*Фама адказаў:*
*«Госпадзе, веру,*
*што ты Хрыстос,*
*Бог мой,*
*і што аб табе пісалі*
*прарокі, відушчыя духам,*
*і што ў Законе Майсеевым*
*твой праваобраз,*
*і што адпрэчыліся ад цябе*

з жыцця Кірыла Тураўскага, гэта якраз ён «...епіскапа-ератыка Фядоркі ерась выкрыў... і пракляў яго». Дарагой цаной былі аплочаныя Федарцом выкрыццё і праклянце Кірыла Тураўскага: епіскап Федарэц быў жорстка пакараны — перад сцяццем галавы яго асляпілі, вырвалі яму язык, адсеклі правіцу. Так што не ўсё так проста было са страсцямі Кірыла Тураўскага, які не стаяў наўзбоч ад гістарычных падзей свайго часу, ад дыскусіяў не так тэалагічнага плану, як завіхрэнчых у самой тагачаснай царкве з прэтэнзіямі яе іерархаў на лідэрства, з падтрымкай імі сепаратызму ці крытыкі тых ці іншых дзеячаў царквы па яе ўладкаванні. кіраванні.

Якія ж адсюль можна зрабіць вывады?

Несумненна выдатным помнікам нашай літаратуры ранняга Сярэднявечча з'яўляецца «Кирила мниха притча о человечьстей души и о телеси, и о преступлении Божия заповеди, и о воскресении телесе человеча, и о будущемь суде, и о муце» (прытча гэтая мае і другую назву — «Аповесць аб сляпцы і храмцы»). Але калі ведаць, што у ёй прататыпам сляпца быў епіскап Федарэц, а храмца — князь Андрэй Багалюбскі, які ў жыцці сапраўды быў кульгавы, і што інвектывы ў прытчы пачынаюцца са слоў непасрэднага асуджэння абодвух, асуджалі не толькі ўвогуле неразумнае, благое, але і мелі абсалютна канкрэтны адрас, мелі сваім працягам вунь якія крывавыя расправы і з епіскапам Федарцом і з князем Андрэем Багалюбскім, то пры гэтым зусім па-іншаму пачынаюць чытацца і малітвы самога Кірыла Тураўскага — аб грахах, аб пакаянні.

Але нам тут важнае ўсведамленне аднаго: Кірыл Тураўскі быў не толькі абстрактным маралізатарам, ён быў у сваім рэлігійна-асветніцкім вучыцельстве на самым лязе міжусобіцаў, якія раздзіралі яго Радзіму, ён быў вернікам не толькі ідэі незалежнасці роднага княства, але і ідэі адзінства, якая зыходзіла са стольнага Кіева. Бо калі Кірыл Тураўскі выступаў з асуджэннем ерасі епіскапа Федарца, якую падтрымліваў у сваіх сепаратысцкіх антыкіеўскіх намерах князь Андрэй Багалюбскі, то ён аб'ектыўна падтрымліваў ужо і цэнтр, а не цэнтрабежныя сілы. Хоць, праўда, не выключаны пры гэтым і супрацьлеглы погляд, бо мог Кірыл Тураўскі сваім выступленнем супраць епіскапа Федарца і князя Андрэя Багалюбскага мецъ на мэце паслабленне адно што Уладзіміра-Суздальскай зямлі, як супернай Тураўскаму княству. Ва ўсім гэтым можна разам з тым бачыць і балансаванне на лінах розных тэндэнцыяў ці на ліне паміж рознымі тэндэнцыямі. У абставінах міжусобства такое цалкам верагодна, а балансаванне дзеяча між рознымі ідэямі і сіламі робіць яго асобу ўжо цераз само гэта дастаткова драматычнай і трагічнай. Цяжар міжусобіцаў найперш маральным грузам цісНуў на плечы прапаведніка і вучыцеля Кірыла Тураўскага, якога самі гэтыя міжусобіцы таксама ў вір свой уцягвалі і які горасна не мог не ўсведамляць сваёй невыключнасці з іх, свайго саўдзелу ў чымсьці нябоскім, крывавым, каварным, грахоўным.

У 1162 годзе ў Тураве княжыць Святаполк Юр'евіч. У 1167 годзе князем Турава Уладзімір Мсціславіч. Але — што галоўнае — і, пэўна, для Кірыла Тураўскага было вельмі балючым: у другой палове XII стагоддзя Турава-Пінскае княства распадаецца — з яго вылучаліся Пінскае, Дубровіцкае, Сцепанскае, раней адасобілася Клецкае, княствы. І зноў жа ўсё гэта адбывалася на вачах у Кірыла Тураўскага, і зноў жа не магло весяліць яго, бо прыўпадалі і Тураўскае княства, і веліч Кіева. Сыны Юрыя Яраславіча, якія станавіліся князямі дробных княжаскіх удзелаў, маглі толькі вярэдзіць душу, напэўна ж, няўрымслівага да самых апошніх дзён сваіх у сваіх дзеяннях і словах вялікага тураўца.

Ды, відаць, куды больш зацікаўленым і энергічным Кірыл Тураўскі быў усё ж у справах, што датычылі царквы, з якой ён непасрэдна звязаў свой лёс. Так, ёсць, напрыклад, версія, што ў затворніцтва Кірыл Тураўскі пайшоў не па ўнутрана-душэўных матывах, пратэстуючы супраць нейкіх там дзеянняў епіскапа тураўскага Іаакіма. Аспрэчванне ерасі епіскапа Федарца было, калі можна так мовіць, па-за знешнім колам Тураўшчыны, а што яно паглынула ўсе фібры душы Кірыла Тураўскага, тое відно і з прытчы пра сляпога і кульгавага, і з жыція Тураўскага, якое ж брала буйным планам толькі квінтэсентнае з ягонага жыцця, самае стрыжнявое. Тое ж, што не да канца жыцця затрымаўся Кірыл Тураўскі на тураўскім епіскапскім пасадзе, сведчыць назначэнне на той жа пасад Лаўрэнція — у 1182 годзе. З таго ж году па 1197 кіеўскім мітрапалітам быў Нікіфар II. Па меркаваннях некаторых вучоных, гэта якраз з-за канфлікту з Нікіфарам II з пасаду епіскапа тураўскага пайшоў Кірыл, пасяліўшыся ў Барысаглебскі манастыр, які з таго часу стаў называцца «Владычень двор». Так ці інакш, але спакойным саноўнае жыццё святара Кірыла Тураўскага ніяк не назваць. З'арыентаваны на духоўнасць, на кнігу з яе мудрасцю і маральнасцю, на ўзор ідэальнага чалавека пад прадвечнай дзясніцай Бога, Кірыл Тураўскі і ўвогуле, і ў кожным канкрэтным выпадку не прымаў подласці, зла, падману. І ўласна не за ерась абвінавачваў ён таго ж самага епіскапа Федарца, а за незаконнае ім прыўлашчванне епіскапскага сану,— прычым, Кірыл Тураўскі Федарца не так абвінавачваў, як дакараў (у жыціі Кірыла Тураўскага нездарма ж сказана, што зневажальна імем Фядоркі Кірыл Тураўскі называў Федарца «дзеля яго ўкарызны», што значыць у дакор самазванцу).

Уласна ў Тураўскім княстве ерасі як распаўсюджанай грамадскай думкі, як народнага руху, не было. У афіцыйныя ератыкі траплялі не так іншадумцы, як супрацоўнікі тых ці іншых атрыбутаў інстытута царквы. Так «ератык цяжкі... імем Дзмітро» паўстаў «на Царкву Святую..., абвяргаючы ўставы царкоўныя», а той жа епіскап Федарэц ганьбіў манашства, адвяргаў пасты, вольна гаварыў пастве і асабліва ў затачэнні на Псінай выспе пра Бога. Манах Кірыл Тураўскі не мог не ганьбіць ганьбаванне манашства, а суд вялікага князя Глеба Георгіевіча менавіта як богазневажальніка і прыгаварыў епіскапа Федарца да найакрутнейшай кары.

Больш інтэлектуальнага зместу была ерась епіскапа Лянонція,—відаць, арыянаўскай арыентацыі, якая адмаўляла боскую прыроду Хрыста. Ды зноў жа нагадаем, што для Кірыла Тураўскага ератык быў найперш у шэрагу «злаверных спакуснікаў, несумленнных грахалюбцаў і няверных зневажальнікаў», у шэрагу «не тых, што Бога шукаюць, але пра саны і цела толькі клапоцяцца; не прагнуць адказу трымаць за справы свае, але, нібыта суятлівы пар, сваю душу на вецер пускаюць». Вучыцельнай сентэнцыяй было тут, па-першае, «ничто же бо Богови тако любо, яко же не възноситися в санех, ничто же тако не мерзить ему, яко же самомнимая величавая гордость о взяти сана не о Бозе». Адсюль і вынікаў пафас вучыцеля і выкрывальніка амаральнасці Кірыла Тураўскага: «Разумеите же ныне, безумнии в людех сановнищи, буии во иерееХъ! Когда умудритеся?..» Маральнае асуджэнне, аднак, перарастала і ў сацыяльнае выкрыццё грамадскіх язваў, у пратэст супраць іх —цераз асуджэнне, цераз супастаўленне з ідэальным — з запаведзямі Святога Пісання, з ачышчэннем цераз Бога.



*фарысеі,*
*і што з цябе здзекаваліся*
*заканазнаўцы,*
*і што глуміўся з цябе натоўп,*
*і што, вымыўшы рукі, Пілат*
*аддаў цябе на ўкрыжаванне,*
*і што Бог-Айцец*
*уваскрасіў цябе з мёртвых.*

*Бачу*
*твае рабрыны: з іх*
*тачыліся кроў і вада;*
*вада —*
*каб ачысціць*
*зблюзнераную зямлю,*
*а кроў —*
*асвяціць чалавечую існасць.*
*Бачу рукі твае, якімі*
*ты існае ўрэчаісніў,*
*і рай насадзіў,*
*і стварыў чалавека;*
*лабгаславіў патрыярхаў імі,*
*памазаў імі цароў,*
*асвяціў апосталаў.*
*Бачу*
*ногі твае: да іх*
*схіліўшыся, атрымала*
*блудніца грахоў адпушчэнне;*
*да іх прыпаўшы,*
*займела ўдава жывым*
*адзінага сына свайго,*
*што быў мёртвы,*
*і, дакрануўшыся да краёў*
*рызы, што іх атуляла,*
*ад крывацёку*
*балесная ацалела.*
*І я,*
*Госпадзе, веру,*
*што ты Госпад Бог».*

*Ісус,*
*адказваючы на гэта,*
*Фаму сказаў:*
*«Ты мяне ўбачыў —*
*і, калі ўбачыў, паверыў:*
*лабожныя тыя, аднак,*
*што, і не бачыўшы,*
*вераць».*

*Дык будзем жа верыць,*
*браты,*
*у нашага Госпада Бога*
*Ісуса Хрыста:*
*распятаму — мы яму*

*паклонімся сёння,*
*са смерці ўваскрэслага —*
*ўславім,*
*апосталам з'яўленага —*
*прывітаем,*
*раны свае паказаўшага —*
*увасхвалім,*
*прыйшоўшаму на ажывіць —*
*уздзячым,*
*нас прасвяціўшага —*
*зразумеем,*
*шчадротамі*
*ўзнагародзіўшага —*
*узвялічым,*
*адзінага ў Тройцы —*
*прымем*
*нашага Збаўцу Ісуса Хрыста.*

*З Богам-Айцом,*
*з Богам-Духам Святым яму*
*цяпер і заўсёды —*
*слава.*

**На сучасную беларускую мову ператалумачыў Алесь РАЗАНАЎ.**

Але сам Кірыл Тураўскі настолькі ўзвялічваў «книгий разум», што даходзіў упрытык да ўласна ератычнай — з пункту погляду схаластаў і адэптаў «чыстай» веры — думкі пра неабходнасць творча, «з разуменнем» учытвацца ў свяшчэнныя кнігі. Творчы нашчадак візантыйскай літаратурнай традыцыі, ён у сваім ушанаванні кнігі і лічыўся грэкафілам, які нібы супрацьпастаўляў сябе мясцовай традыцыі, у той час, калі гэта было супрацьпастаўленне кніжніка бяздумнай веры, бяздумнаму пакланенню Богу, Святому Пісанню — супрацьпастаўленне дагматычнаму ў праваслаўнай усходне-славянскай царкве, якое пачалося князем Андрэем Багалюбскім з перавозам у Растова-Суздальскую зямлю абраза Найсвяцейшай Багародзіцы. Бог-бацька, Богавая мудрасць з гэтага часу мела свайго супраціўніка ў верніках Багародзіцы, для якіх вера была пaперадзе мудрасці і якіх Кірыл Тураўскі захапляць будзе не мудрасцю, а толькі мастацкай сілай свайго таленту —залатавуснасцю.

Залатавуснасць Кірыла Тураўскага, магутнасць яго мастакоўскага дару, паэтычнага майстэрства былі сапраўды непараўнальныя. Кірыл Тураўскі — паэт для свайго часу незвычайны, і надзвычайны ён тым, што рабіў Сярэдневяковую літаратуру аўтарскай, што насуперак традыцыі бястварасці, безасабістасці, алімпійскага летапіснага спакою, узаконенаму штампу ўводзіў пачатак уласнатворчы, раскавана неўтаймаваны, эмацыянальны да бязмежнага і прыўкрасны, прыгожы найсамперш. Клічнік і пытальнік, патэтыка і абрыў тону, сцішанасць, сардэчнасць суразмоўя, супераажывання з тым, пра што клопат, одум, развага, радасць і боль у іх палярнасці, у кантрастнасці, як у будучых рамантыкаў, – усё ёсць у паэтычнай плоці яго прамоваў і прытчаў. І хоць яны не напісаны вершам, яны — паэзія, яны — урачыстасць пачуццёвага, што арганічна злілося з мудрасным маляўнічым, з музычным, мілагучным, рытмічным.

Маюць поўную рацыю тыя даследчыкі, якія гаворать аб сінтэтычнасці мастацкага слова Кірыла Тураўскага як слова і традыцыйнага і наватарскага. Майстэрства Кірыла Тураўскага звязана першым чынам з умельствам арганічна весці выкладанне зместу адразу ў некалькіх планах — канкрэтна-рэалістычным, калі ідзе сюжэтнае апавяданне, пачувальнае або палемічнае; сімволіка-абагульняючым, калі аўтар імкнецца выйсці на агульначалавечую праблематыку, сцвярджаючы непераходзячага значэння маральна-філасофскія каштоўнасці. Тэкст у Кірыла Тураўскага абавязкова з падтэкстам, традыцыі візантыйскага красамоўствавіційства арганічна спалучаны з традыцыямі ўсходне-славянскага народнага слова — галашэнняў, дружыннага эпасу, народнай прытчы з яе дыялогавасцю, прыказкавасцю і іншым.

Асобна вылучым адно з вельмі трапных азначэнняў мастацкага стылю Кірыла Тураўскага, дадзенае яму вядомым рускім даследчыкам І.П.Яроміным, які дамінантнай у ім лічыў рытарычную ампліфікацыю, гэта значыць як бы нашыванне на палатно тэмы асобнымі маляўнічымі латкамі ўсё новых матываў, узоры вар'іравання іх, паступовага развіцця і давядзення да таго, што ў паэтыцы рыторыкі называецца агонам — выхадам з тэмы пры падсумоўванні ўсіх матываў, пры вычарпальным заключэнні тэмы. Тэма пры гэтым разгортваецца ва ўсіх сваіх сэнсавых і эмацыянальных нюансах — надзвычай экспрэсіўна, дынамічна, маляўніча, уражальна (Гл.: Еремин И.П. Литературное наследие Кирилла Туровского. М.—Л., 1956, ТОДРЛ, т. XII, с. 340—347).

Адзін з самых слынных сучасных рускіх даследчыкаў старажытнай літаратуры Расіі Дз.С.Ліхачоў лічыць, што словы-казанні Кірыла Тураўскага — «гэта таксама творы манументальна-гістарычнага стылю і манументальна-гістарычнага мыслення» (Лихачев Д.С. Литература эпохи «Слово о полку Игореве». У кн.: Памятники литературы древней Руси». с. 16). Відаць, безагаворачна з гэтым згаджацца нельга, бо калі кіеўскае летапісанне, «Слова пра паход Ігаравы», сапраўды яркая выява падобных стылю і мыслення, то творы Кірыла Тураўскага, так моцныя прысутнасцю ў ім аўтара, з іх выключнай эмацыянальнай экспрэсіўнасцю, ніяк не сулеглыя з высокім эпічным тонам манументальна-гістарычнага стылю. Ды і не манументальна ўстае і асоба Кірыла Тураўскага з яго твораў, бо маштабнасць яе нічога агульнага не мае з капітальным манументалізмам, а што датычыцца мыслення Кірыла Тураўскага, то яно больш канкрэтна-паэтычнае, сімволіка-прытчавае, народна-фальклорнае. Гістарызм яго жыццёвы, побытавы, а над побытавым — філасофія быцця, узнясенне паэта ў эстэтычныя катэгорыі прыгожага, велічнага, вечнага, добрага, цнатлівага. Як ужо адзначалася, менавіта арганічнае спалучэнне розных планаў — канкрэтна-рэалістычнага і абагульняльна-філасофскага — і з'яўляецца першасным у стылі Кірыла Тураўскага, і найперш аб артыстызме яго найлепш гаварыць, аб арыентаванасці аўтара на слова як прыгожае пісьменства, на прыгоства формы, вымовы, выявы.

Пафас усхвалення — Бога, ідэальна-боскіх маральных каштоўнасцяў, прэстыжу князя, вернага Богу і справядлівасці,—стрыжнявы ў Кірыла Тураўскага. Але гімнавае, патэтычнае заўсёды свядома спалучана ў яго з прыгоствам стылю: «Похвалим красно!», а поруч з крэдавым заклікам хвалу ўзносіць «красно», гожа заўсёды застаюцца яшчэ дзве інвектывы — творчыя ўстаноўкі мастака: першая — «Отвьрзете мне врата праведы— і другая — И узрим мысльно!» Першая — выражэнне арыентацыі на праўдзівасць, справядлівасць, ісціну; другая — з задачай стварэння малюнку, рэалій жыцця, якія б убачыў слухач, чытач — ярка ўбачыў, асэнсавана ўбачыў. «Нелеп образ писания» не прызнаецца пісьменнікам. Ідзе звяртанне да чалавека, да яго пачуццяў, увагі, зроку, слыху, розуму: «Но молю вашю любовь, со вниманиемь пишемых смотрите и яже слышите разумейте». «Образ писания», стылі Кірыла Тураўскага, яго «залатыя вусны», такім чынам, сыходзілі з вельмі канкрэтных творчых установак, маючы пад сабою грунтам, вядома, і эрудыцыю і традыцыю.

Калі Кірыла Тураўскага яго сучаснікі назвалі другім Златавустам, то гэта таму, што быў першы, што быў першаўзор, якога Кірыл Тураўскі дасягнуў, ды і пераўзышоў (другая ягоная жыццёвая Перадоля!). Вядома, рэальны Златавуст — візантыец, ужо далёкі продак Кірыла Тураўскага — быў для тураўскага паэта больш легендай, больш метафарай-зборным імем, за якім стаяў увесь рытарычна-паэтычны вопыт літаратурнай Візантыі. Рэальны першавобраз, з перайманя якога пачаў Кірыл Тураўскі, быў да яго бліжэй — не ў Візантыйскім VII стагоддзі, а ў мінулым для Кірыла Тураўскага — сваім, кіеўскім XI стагоддзі. І быў ён у аўтара «Слова аб законе і ласцы» мітрапаліта Іларыёна.

Тэарэтычна Кірыл Тураўскі школу красамоўства праходзіў у візантыйскіх грэкаў, практычную — у Іларыёна. І гэта цалкам відавочна, калі буйным планам параўнаць першынец усходне-славянскага казання — «Слова аб законе і ласцы» мітрапаліта Іларыёна — і шырокаразгалінаваную творчасць паэта-прапаведніка з Турава. Экспрэсія, напятасць вымовы,

Аще не отженеши от себе мачехы и ея дети и то не приимеши матере с детми ея, то будеть ти последняя горша первых. Ты же ми рци: како могу прияти матерь, а отца разгневив, а порты хрестьяныя искаляв? -

Аз же тя, брате, научю: порты искаляныя измый, и тогда тя приметь отець и начнеть тя любити паче первыя любве. Порты же суть крещение, вера, а кал - клевета, хула, осуженье, гневь, прекословье, сваръ, бой, зависть, вражда, злу поминанье, непокорение, злосердие, злии помысли, смехотворение и веся игра бесовьскыя, таже пакы запойство, резоиманье, грабленье, разбой, татба, душегубьство, потвори, поклеп, вълхвования, чародеяния, прелюбодеянья и всяка злоба; всего же того горее есть гордость, и еже есть всему тому мати.

рытарычныя фігуры градацыі, інверсіі, раз'яднання, усячэння, неаднаразовага паўтарэння аднаго і таго ж слова, прыёмы сіметрычнай пабудовы фразы, разгорнутага сказу-перыяду,— усё гэта было першапраходна агорана аж у мітрапаліта Іларыёна. Якраз «Слова аб законе і ласцы» — лепшы сёння таму доказ; «Слова» ў яго агульнай архітэктоніцы — запеўнай частцы, разгортванні тэмы і апафеозным фінале; «Слова» з яго паэтычным сінтаксісам і спецыфічным — «іграվым» — выкарыстаннем лексікі; з яго «эмацыянальным» сюжэтам. Зірнем жа на экспрэсіўна-эмацыянальны сінтаксіс зачыну «Слова», дзе ўрачысты запеў-абвяшчэнне «благословень Господь Бог Израилевъ» патэтычна-узнёслы, але без фарсіраванага тэмпу, без напружання голасу. Так звычайна пачынаў і ўсе свае «Словы» Кірыл Тураўскі. Але і Іларыён, і Тураўскі рабілі гэта дзеля кантрастнага — тут жа, неўзабаве — пераключэння, перападу тэмпу і голасу ў эмацыянальна-прыспешаныя — пры лагічна-акцэнтаваным, аднак, выкладанні тэмы, думкі. Кантрастнасць — эмоцый, слоў-паняццяў, абзацаў, падлегласць прынцыпу трагічнасці ў пабудове фразы, агульнай кампазіцыі — усё гэта таксама было ў арсенале Іларыёна, усё гэта яшчэ шырэй выкарыстоўвалася ў Кірыла Тураўскага.

Але нават па тым, што па аб'ёме спадчына Кірыла Тураўскага куды багацей, чым мітрапаліта Іларыёна, можна меркаваць аб яе куды шырэйшым дыяпазоне, шырэйшай змястоўнасці, шырэйшай прасторы прымянення спосабаў і прыёмаў паэтыкі і вобразна-выяўленчай палітры, што спадарожнічалі сярэдневяковаму прыгожаму красамоўству.

Нельга не здзіўляцца метафарычнасці мовы Кірыла Тураўскага, нельга не захапляцца магутнасцю паэтычнага ўяўлення, сілай фантазіі, якія перш за ўсё і робяць паэта паэтам, перш за ўсё і прадвызначаюць яго як паэта вялікага, арыгінальнага, народнага.

Сваёй метафарыстыкай Кірыл Тураўскі сапраўды апярэджваў час, сапраўды адкрываў той першасубстрат паэзіі, што быў не пратаплазмай будучай матэрыі нацыянальнай паэзіі, а ўласна ўжо яе жамчужынамі, яе пачаткам. Прычым, нездарма трэба гаварыць пра нацыянальны субстрат, пра народнасць паэтычнага красамоўства Кірыла Тураўскага. Бо ў рамках свайго часу, у рамках сярэдневяковага канона ў творах Кірыла Тураўскага прабівалася ўжо такое, што як бы запраграмоўвала аж у XX стагоддзі Янку Купалу ці Уладзіміра Караткевіча. На ўзровень жа народнасці ўздзвігала Кірыла Тураўскага яго звяртанне як да роднай прыроды, так і асабліва да людзей з народа, да вобразаў ратая, сейбіта, рыбака. У час рыцарскага эпасу, у час гімнічных слоў Богу і пахвалаў князям, ды аб простым ратаю, сейбіту, рыбаку, ды не аб мячы і крыжы, а пра рала, баразну, сетку-мрэжу, пчалу-працаўніцу,— такі зварот да праяў народнага жыцця быў сапраўды і наватарскі і навякі праграмны. А не здзіўляцца бляску метафараў у Кірыла Тураўскага проста няма як і сёння. Во што значыць адзін толькі з іх каскадаў — з вобразам «крыжавога рала» ў руках «ратая слова», каторы ў ярмо духоўнасці ўпрэжаны; якое ў «мыслены барозны» паэт, бы ў раллю, апускае, якое «баразну пакаяння» ў чалавеку праворвае! А што значаць рыбакі-рыбары, «глыбіню ўчалавечання Божага паспытаўшыя і поўную сетку ўлову-лавітвы займеўшыя!» І роўна ўражваюць тут у Кірыла Тураўскага эпітэты: «медвены соты», «гласы немолчьныи», «бурьнии ветри», «весна красная». Не лішне адзначыць, што вобразы «буйнага ветру», «краснай вясны» сталі ў беларусаў песенна-народнымі.

У пары найперш з метафарай у Тураўскага ішла сентэнцыя. «Разумовасць» паэзіі Тураўскага выяўлялася такім чынам і ў неспатольнай празе вялікага тураўца ў афарыстычнасці. І тут ён быў і перакладчыкам, і творцам: перакладчыкам, калі на роднай мове граніў, як алмаз, біблейскія запаведзі і сентэнцыі, уласна паэтам, калі сам высноўваў і думку і форму. Сярод першых вылучаюцца: «Не о хлебе едином жив будеть человек, но о всяком глаголе, исходящимь из уст Божии», «Полчете, отверзется вам; ищете и обрящете; просите и дасться вам»; «Сияеть бо... солнце свое на добрыя и злыя». Уласных афарызмаў у Кірыла Тураўскага прыкметна больш, чым перакладных, бо ён імкнуўся афарыстычна і пачынаць, і разгортваць, і канчаць свае творы. Так, напрыклад, прытча пра чалавечыя душу і цела прытчава і пачынаецца: «Добро убо, братье, и зело полезно, еже разумевати нам божественных писаний учение... Сладко бо медвеный сот и добро сахар, обоего же добрее книгий разум».

Сакрэты залатавуснасці слоў, прытчаў, малітваў Кірыла Тураўскага яшчэ, нарэшце, і ў самой іх вуснасці, гэта значыць, у вусным гучанні, у рэальным гучанні з вуснаў.

І яшчэ аб адным неабходна сказаць, што ўжо выцякала з асабістага пачатку ў творчасці Кірыла Тураўскага, ішло ад яго асобы, але было ні патэтычна-гімнавым, ні эмацыянальна-лірычным, а як бы ігрыстым, як бы лірычным адступленнем у прозе, бо зараз тут засталася яшчэ гаворка менавіта пра ўстаўкі ад сваёй асобы Кірыла Тураўскага ў прытчы пра чалавечыя цела і душу. Іх некалькі, і яны зноў жа здзіўляюць сваёй недачаснасцю: каб у Сярэднявеччы, ды і ў «святым» жанры аўтар дапускаў самаіронію, самаабарону, самаапраўданне сябе як мастака, сваім мастацкім прыёмам рабіў развагу, датычную формы свайго твора, каб гэтым якраз сцвердзіць форму як адзінае мастацкае цэлае, то гэта сапраўды проста неверагодна. Ды якраз і такое ў Кірыла Тураўскага ёсць, калі ён раптам абрывае павесційны выклад заяўкай: «Но да не предолжением (прадаўжэннем,— *А.Л.*) словес умножю писанье и зело предолжю у (і вельмі зацягну,— *А.Л.*) беседу, но на предъреченая (да раней моўленага,— *А.Л.*) възвуратимься». Іншымі словамі, тут маем спрацоўку пачуцця меры, як евангелля мастацтва. Абрыў, каб не разбегчыся мыслю-вавёркай па дрэве. Зацягнутасць пужае, а Кірыл Тураўскі ўжо як бы ведае чэхаўскае: «Сціслаcць — сястра таленту». А «перабіўка» тым часам зрабіла сваё: расслабіла слухача ці чытача, дала яму адпачыць, каб ён зноў меў новыя сілы слухаць, а аўтар — новы простор для вучыцельства мастацкім словам.

З «Но» пачынаецца і другая «перабіўка»: «Но никто же о глаголех сих да не зазрить ми,— но испытайте писания и обрящете мя от Божих вземлюща книг». З ёю амаль суседнічае аўтарскае адступленне іншай думкі: «Аз же о слепце початую беседу противу силе по вьмещению ума вькратце скажю, аще и поимы творящих ми дозрю...» Першая з гэтых «перабівак» — як бы заклён ад зайздроснасці іншых, і тут, як і ў канцы прытчы, падкрэсліванне, што пісана гэта «не от умышленья», не са свае выдумкі, але «от святых книг», «от Божих вземлюща книг». Іншымі словамі, што сярэднявечнае табу ім не парушана, вось аб чым тут клопат пісьменніка, вось у чым ён запэўнівае тых дагматыкаў, якія за гэтым сочаць, якія лічаць гэта ератычным. Нарушэнец, наватар як бы змыльвае сляды свае, як бы замутняе зрок сваіх назіральнікаў, супрацiўнікаў, ворагаў. А другая «перабіўка» цікавая ўжо сваім псіхалагізмам. Гэта ж пра «возмущение ума» свайго недастойнымі паводзінамі герояў прытчы і — чытай — іх прататыпаў, нам ужо вядомых, гаворыць тут Кірыл Тураўскі, як і пра тое, што пісаць яму ўсё такое — «супраць сілы», не даспадо-

Аще приму матерь, реченую кротость, то чимь могу искаляныя порты омыти? И аз тя научю: омыеши страхомь Божиемь, и верою чистою, и смерениемь, покаяниемь и молитвою, слезами и постомь, поклономь и милостынею, и любовию, к всем мир, въздержание, терпенье, послушание добраго учение, покоренье, бденье, трезвьствомь и всеми добрыми делы; паче же всего того луче есть кротость добрая, еже есть всему добру мати.

Да аще ꙋдеши послушлив и ꙋмякчиши землю сердечную и примеши малое семя и расплодиши в собе многоспасенаго жита, яко будет не мочи в душевнемь дому всего того положити, нъ инем будеши раздавая требующим того же: первое - притчам разрешение книжным, потом - неразумным словомь разрешение и всему Писанью толкование; та же, аще хощеши, недоведомомь числом съчтанья, та же обилья телесней кормли и здоровья, таже будущаго века се есть спасеное жито, егоже, рече, очи не видеста, ни уши слышаста и на серце человеку не взиде, еже уготова Бог любящим Єго о Христе Инсусе Господе нашемь, Ємуже Слава въвек!

бы, не па сэрцу. Менавіта гэтым сваім духоўным непрыняццём каварнага сюжэту ён тлумачыць пераход свой на скарочаны яго выклад —«въкратце скажю». Красамоўнае тут і выказванне надзей: «Аще и поимы творящих ми дозрю», гэта значыць, абдымкі, гэта значыць, спрыяючых паэту абдымкі людзей.

Канешне, вобразна кажучы, абдымкамі вялікага мастака было прызнанне яго ўжо ягонымі сучаснікамі Златавустам. Ды не маглі з раскрытымі абдымкамі выйсці да паэта тыя, у каго былі ўсечаны правіцы. І хоць, можа, толькі адзін епіскап Федарэц быў сярод такіх, епіскап Кірыл Тураўскі, молячыся Богу, не мог не маліцца і за яго, не мог не вымольваць — даруванне грахоў і сабе і ўсім, як то рабілі ўсе вернікі Сярэднявечча. Абдымкі ж Будучыні былі для вялікага тураўца забяспечаны ўжо з самага першага моўленага ім слова-казання, з самай першай напісанай ім прытчы, з самай першай створанай ім малітвы. І тое ўсё сталася, паўторымся, з першаснага арыенціра Кірыла Тураўскага ў сваёй творчасці — з арыенціра на духоўнасць і красу. І няхай то была духоўнасць рэлігійнага зместу, няхай не па-арыстоцелеўску пераймаў красу прыроды, рэчаў Кірыл Тураўскі, усё адно краса ёсць краса — краса формы, майстэрства, багацця пачуццяў і кніжнай мудрасці, краса вечная, неаспрэчная. А ўвогуле і аб звышкрасе паэзіі Кірыла Тураўскага можна гаварыць, як аб «славе і вельлепоте» гаварыў ён сам. «Вельлепота» — словатвор Кірыла Тураўскага няхай у беларускай мове і не прыжыўся, але менавіта эстэтычную вартасць спадчыны Кірыла Тураўскага ён абазначае вельмі дакладна.

Значэнне і роля Кірыла Тураўскага ў гісторыі старабеларускай і новай літаратуры, у гісторыі і культуры нашага беларускага народа — найвялікшыя. Не менш значнымі былі яны і ў гісторыях рускай і ўкраінскай літаратур. Так, медыявістамі Расіі велічная постаць творцы з Турава бачыцца менавіта ў прамежку паміж епіскапам Іларыёнам — аўтарам «Слова аб законе і ласцы» (40-я гады XI стагоддзя) і музай Гаўрыла Дзяржавіна (XVIII стагоддзе). Так, напрыклад, В.В.Колесаў піша: «Бадай, аж да Дзяржавіна ў рускай літаратуры не з'явіўся пісьменнік такой сілы, значнасці і вышыні маральнага пачуцця, як Кірыл —сумленне свайго нялёгкага і бурнага часу» (Памятники литературы древней Руси, XII век. М., «Художественная литература», 1980, с. 661).

У гісторыі ж літаратуры сярэдневяковай Беларусі такога вялікага, як у рускай літаратуры, перападу ў часе паміж Кірылам Тураўскім і яго пераемнікамі не было. Бо ўжо бліжэйшым сярод іх быў Рыгор Цамблак (пачатак XV стагоддзя). Затым Францішак Скарына (першая палова XVI стагоддзя) і ад Кірыла Тураўскага пераймаў павагу да кнігі, да Бібліі як збору мудрасці стагоддзяў, Боскай мудрасці, несумненна ўплыў свой аказваў Кірыл Тураўскі і на лацінамоўную і польскамоўную літаратуру Беларусі: у XVI стагоддзі — на Яна Вісліцкага і Міколу Гусоўскага: на іх лацінскія паэмы «Пруская вайна» і «Песня пра зубра»; у XVII—XIX стагоддзях — на польскамоўныя творы Мялеція Сматрыцкага («Трэнас», 1610), Адама Міцкевіча («Пан Тадэвуш», 1832).

Але толькі з паяўленнем Янкі Купалы беларуская паэзія ўзнялася да падобнай, як у Кірыла Тураўскага, шырыні і дасканаласці, мастацкай фенаменальнасці валодання словам. Усім гэтым і вызначаюцца месца і роля Кірыла Тураўскага ў гісторыі літаратуры і духоўнасці беларусаў як Сярэднявечча, так і Новага часу.

**Алег ЛОЙКА**



# Алесь РАЗАНАЎ

## МЫ



# ГЛІНА

1

Ніцма ляжыш
І ў глыбокім сненні
Хаваеш сваю душу.

Загавару з табою —
Адкажаш,
Але не пачуеш.

Рукою цябе крану —
Запомніш,
Але не ўбачыш.

Ты ў самым пачатку часу,
Дзе Бог
Разрознівае-разасабляе
Свае раўнаісныя іпастасі —
Жыццё і Смерць.

2

Няма ні набытку,
Ні страты.

Насенне чакае
Сваёй пары —
Замкнёнае ў сховішчах сэнсу.

І не спяшаецца прыгажосць
Сабрацца
У келіху кветкі.

Магчымасць шукае сябе,
Даючы
Гліне
Свае найменні.

3

Чакае,
Што з ёю нешта адбудзецца,
Але не ведае —
Што.

Хоча,
Каб тое,
Чаго чакае яна,
Адбылося,
Але не можа даўмецца,
Адкуль яно можа ўзяцца,
Калі няма яго ў ёй
Цяпер.

Што ні трапляецца ёй,
Адпускаецца неахвотна.

Растворана ў ёй
Магічная сіла,
У ёй
Прадугадваецца жанчына.

4

Усе пакідаюць у ёй
Свой след —
Нібы пазначаюць месца,
Куды вярнуцца.

Але не вяртаюцца.

Гліна:

Адзіная спадарожніца,
Для якой
Ніхто не бывае мінулы.

5

Не хоча,
Каб яе бачылі
І разумелі,
Але сама хоча бачыць
І разумець.

Яшчэ ўсё магчыма —
Яшчэ
Сіла не варагуе з сілай
І не смуткуе па смерці.

Яшчэ
Слова само сябе чуе,
А вобраз —
Бачыць.

Размова пра н е ш т а,
Што доўжыцца з веку ў век,
Але не можа ні скончыцца,
Ні пачацца.

6

З радовішча сну
Абуджаецца,
Каб нарэшце
Прачнуцца нечым

Альбо сабой.

Вада забірае,
Агонь збірае,
І думка знаходзіць у ёй
Сваё падабенства.

Цяпер сцеражыся,
Каб не памерці





Раптам.

7

Захоўваешся ў цяні
Усіх рэчаў
І ўсіх істот
І ў сабе
Захоўваеш сэнс,
Ім яшчэ не вядомы.

Каб насампраўдзе
Прысутнічаць кожны раз тут,
Даецца,
Быццам сляпому доказ,
Сама сабе
Ў рэчах і ў постацях
Рэчаіснасць.

А гліна
Усё пераконвае ўсіх,
Што можна
Бачыць не гэтак,
Што можа
Усё быць інакш.

8

Нешта сабралася
І разышлося,
Але засталося ў памяці

Разам.

Нібыта і ёсць яна
І нібыта
Яе няма.

З іншага часу
І з іншай прасторы:

Калі да яе набліжаешся —
Адступае,
Калі адступаешся ад яе —
Трымае.

Памяць,
Якая нікому ўжо не належыць,
Але якой належаць

Усе.

9

Паволі альбо раптоўна
Мы адхіляемся
Ад задум,
Якія хацелі
Спраўдзіцца намі,
Калі не чуем,
Ці адгукаецца наваколле.

А самае простае,
На што не звярталася ўвагі,
Спраўджваецца цяпер
І застаецца заўсёды.

Блукае,
Шукаючы павадыра,
У гліне навобмацак

Сонца.

10

Упісаная ў прастору,
Абжытую ўсімі,
І ўсім свая,
Усталёўваешся ў адлегласць,
Якой немагчыма парушыць,
Каб апынуцца
З далёкім побач,
А з блізкім яшчэ бліжэй.

Безліч нераспазнаных
Сузор'яў
Спластоўваецца ў табе
І раствараецца мноства
Млечных Шляхоў
Невядомых.

Ціхмяна ляжыш,
Утуліўшыся ў глыбіню,
Галактыка
Іншага вымярэння.

11

Пад чорнай карою глебы
Белы хлеб плоці.

Не памятае,
Ці, як зерне,
Апала яна з вышыні,
Ці ўзышла з глыбіні,
Ці проста
Тут затрымалася выпадкова.

Дух,
Што стаў плоццю,
Але перастаў быць
Духам.

12

Любіць,

Каб яе лашчылі,
Песцілі,
Бралі ў рукі.

Тады яна ажывае,
Тады яна робіцца
Чуйнай і паслухмянай
І вучыцца разумець
Чалавека.

Можа, чакае,
Што ён
Вылепіць з яе тое,
Чым сам дагэтуль
Яшчэ не здолеў зрабіцца,

Ці, можа,
Наадварот,
Вернецца ў яе лона —

І свет
Нанава стане райскім.

13

Галеча
Цябе ачышчае,
Спакой прасвятляе.

Аблокі
Спыняюцца над табой,
Ручаі
Хочуць завесці
З табой размову.

Празрыстая для сябе,
Зацемненая для староннніх,
Яднаеш
Выток і суток,
А сама
Застаешся на месцы
Сам-насам з усімі —

Выйсце,
Замкнёнае нацанькі.

14

Перацякаеш
З самое сябе
У сябе самую.

Няспынны кругазварот
Унутры
Адсутнай прасторы,
Дзе думка,
Калі яна пранікае
Ў прычыну
І асягае вынік,
Знаходзіць, што страчваецца,—
Рэчаіснасць.

А рэчаіснасць
Распазнае, што яна
Насампраўдзе ёсць

У несупыннай сустрэчы
З сабою

Іншай.

15

У нетрах зямлі
Выспяваеш паволі.
Чакаючы,
Што ў чалавеку
Выспее думка,
Якая цябе зразумее.

А ён
Жыве нараджэннем і сконам
І тужыць,
Што гэта —

Усё жыццё.

16

Злучае
І прымушае трымацца
Разам,
Нібы слепата — сляпых,
Постаці рухаў
І думак.

Навобмацак,
Але мякка,
Нібы знутры
Звыклых паводзінаў
Імі кіруе
Не бачны ім павадыр.

Такі неймаверна далёкі
Заблытаны шлях
Да мэты,

Якая заўсёды
Тут.

17

Выводзіш
Свой самы вялікі твор —
Чалавека —
Увесь яго век
З нятоеснага вымярэння.

Табе пярэчаць
Найменні і вобразы,
Што чалавек
І адпаведны ім,
І вядомы.

А ён,

Жадаючы жыць,
Пакідае
І ўсё не пакіне ніяк
Сваю заўчасную вечнасць.

18

Маланка
Стараецца рассвятліць
Тваю сутонлівую светлыню
І выклікаць сілу,
Якая ў табе пагасае,
На спрэчку.

Пярун
Уладарна загадвае,
Каб ты ўклала
Сваю нямую душу
У споведзь.

А дождж
Прытуляецца да цябе
І просіць,

Каб ты даравала
Маланцы
Яе слепату,
А перуну — безразважнасць,

І не
Дазволіла свету
Знікнуць.

19

У спратах зямлі:

Бярэшся
І ўсё адно
Пакідаешся без увагі.

Неба
То прасвятляецца,
То хмурнее.

Сцежкі
Сыходзяцца разам
І зноў
Разыходзяцца па паверхні.
Ты зазіраеш
Мне ў памяць —
І ў ёй
Знаходзіш утоенае
І ад мяне самога.

Адвечны скарб —
Які ўсім відаць,
А нікім
Знайсціся не можа.

20

Нібы абсяг
Рэчаіснасці нераспазнанай
Паказвае думцы,
Кудою думаць
І як разумець,—

Увесь час
Забараняюць
І дазваляюць
Нам акалічнасці нешта.

У намаганнях
Гартуецца моц
І, каб дзейнічалі,
Вымагае.

А тое,
Што мусіць адбыцца з намі,
Само настае
І само вытлумачваецца,

Як гліна
У кожным дні.

21

Рэчы ўкарэньваюцца
У карысць
І, што паўтараецца тут,
Вартуюць.

Усіхняя і нічыя,
Не рупішся аб ураджаі
І не адрозніваеш,
Дзе — восень,
А дзе — вясна.

Адпаўшы ад неба,
Але не супаўшы з зямлёю,
Вучышся быць паслухмянай таму,
Што не мае
Абгрунтавання.

22

Бясконцая колькасць

Абліччаў
З цябе вынікае,
А ты
Не супадаеш з ніводным.

Ні з кім не ваюеш,
Не хаўрусуеш
І не адстойваеш сваёй праўды.

Але звяртаюцца да цябе,
Урэшце,
Усе абліччы
Па канчатковае высвятленне:

Што значаць яны,
Калі яны ёсць,
І што яны будуць значыць,
Калі іх не стане?

23

Бесперастанку
Вяртаецца да цябе
Наваколле,
Як рэха,
Якое акрэсліла круг
І ўвабрала, што ў крузе,—

І постаці дрэў,
І гурму будынкаў,
І ўвесь краявід,—
Але ўжо не можа,
Вяртаючыся, знайсці,
Адкуль яно ўзнікла
І з кім
Ма́е супасці...

Далучаная да наваколля,
Шукаеш з ім разам
Нешта —
Што не адшукваецца,

А ёсць.

24

Імгла:
Ні святло, ні цемра.

Замкнуліся вочы,
Што бачылі
І разумелі ўначы,
А вочы,
Што бачаць удзень,
Не спяшаюцца адамкнуцца.

Такая наша пара —
Між колішнім
І наступным.

І самай відушчай
У гэтай пары
Абвяшчаецца гліна.

25

Рухавая,
Як вада,
І непарушная, нібы камень,

Ці толькі яшчэ
Падаешся да небакраю,
Ці ўжо вярнулася —
І небакрай
Ператварыла ў сваю прыкмету?

Вандруеш са стану ў стан
І, што пакідаеш,
Маеш
Сваім набыткам.

26

У гліне сляды:

Не лучацца між сабою
Нічым,
Апроч гліны.

Хіба распазна́е сябе
Той, хто ідзе,
У сваіх слядах?
А той, хто жыве,
У тым, кім ён жыве?

Але зноў і зноўку
Упісваюцца сляды
У вечную гліну,
А гліна —
Ў нявечнага чалавека.

27

Не піў —
А яе паіў малаком,
Не еў —
А яе карміў хлебам,

Каб абудзілася,
Каб ажыла
І сказала с л о в а,
Якое людзі згубілі,
Калі захацелі ўзысці
Нацянькі да Бога.

Ела мой хлеб,





Піла маё малако,
Але каб сказаць —
Не сказала нічога.

Зноўку замкнулася ад мяне,
Зноў адхінулася —
Ці то ў здзіўленні,
Ці то ў расчараванні,—

Нібы яна
Мне прызналася ў нечым,
А я не здолеў пачуць.

28

Не прадаецца —
Бы золата,
І не купляецца —
Нібы срэбра.

Усюды знаёмая ўсім,
Ні ў кога
Не выклікае ні зайздрасці,
Ні захаплення.

Хінуся да гліны:
Не купіць
І не прадасць,
Але навучыць справе.

29

З таго боку часу
Доўжышся да мяжы
Гэтага дня
І хвіліны гэтай.

І запаўняеш сабою
Усе прагалы,
Разломы,
Разрывы,
Расколіны,
Што раз‘ядналі
Адказ і пытанне,
Прычыну і вынік,—

І з цягам часу
Нас прысвячаеш

У шлях.

30

Бы пераможаная,
Ляжыш пад нагамі
У кожнага ваяра,
У кожнага заваёўцы.

Бурацца вежы,
Руйнуюцца гарады,
Гінуць дзяржавы,
Якія былі аздобай
І гонарам свету —

І ты іх бярэш
У сваё бязмежжа,
Але не становішся
Ні знакамітай,
Ні зруйнаванай.

І гэтак
Заўжды.

31

Разломіцца раптам
Зямная кара —
І ў разломе
З‘явіцца голае цела
Гліны.

Нібыта ўва мне самім
Убачылі вочы нешта,
Што забаронена бачыць —

Уражваюся,
Што я ёсць
І бачны
Зоркам і гліне.

32

Наносішся кропкамі,
Рысамі
І кругамі
На рукі,
На твар,
На грудзі.

Датвораеш,
Дамалёўваеш чалавека,
Упэўніваеш яго,
Што ён дужы,
Разумны,
Прыгожы
І благаслаўлёны Богам.

Але калі ты сціраешся —
Чалавек
Губляецца ў акалічнасцях
І ўяўленнях

І скардзіцца Богу,
Што той
Ад яго адступіўся.

33

За курганамі
Свеціцца і не блякне
Далечыня.

Сцежкі знайшлі,
Куды слацца,
І болей не ўводзяць у зман
Вандроўцаў.

Мінуў
Спякотлівы дзень,
А вечар
Не надышоў.

Пара
Знаходзіць паразуменне
З глінай.

34

Пусцеюць радовішчы,
Рэкі
Спрабуюць цячы назад.

Безгалоса
Выстройваюцца тысячагоддзі
Адно за адным,
Ды нічым
Не могуць дапамагчы
І парадзіць нічым не могуць
Гэтаму крайняму дню,
Гэтаму крайняму году.

І толькі гліна
Бярэцца правесці
Па-над прадоннем
Сваёю дарогай
Пакінутага чалавека.

35

Ты дазваляеш
Рабіць з сабою
Усё,
Што надумае чалавек
І што здолее,—

Нават Бога.

Ужываешся ў вобраз,
Якім чалавек надзяляе
Таго,
Хто мусіць яго зразумець
Глыбей, чым ён сам.

Услухоўваешся ў таямніцы,
У якіх чалавек адкрывае
Сябе перад тым,
Хто сам
Найвялікшая таямніца.

І застаешся ўсё роўна
Сабой —
Спрадвечнай магчымасцю
Быць інакшай.

36

Па рэках крыві
Цячэш
У інакшыя далячыні.

І, прысвячаючы чалавека
У немінучую смерць,
Прысвячаеш
У немінучую неўміручасць.

Апошняй праводзіш
І сустракаеш

Першай.

37

Збочваем:

З бальшакоў
На патайныя сцежкі,
Каб забароненае забрала
У нас нямогласць,
А даравала моц.

Гліну,
Якая адольваецца,
Мяняем
На гліну,
Якая паволі,
Але няўхільна,
Адольвае нас.

38

Накрэсліваю на гліне
Знакі,
Узоры,
Вобразы —

І яны
З яе выпаўзаюць,
З яе вылятаюць,
З яе выходзяць,
Яе пакідаючы,
І пачынаюць
Адно за адным паляваць.





Калі сустракаюся з імі
У наваколлі,
Яны пужаюцца,
Уцякаюць,
Злуюць,

Быццам яны
Насампраўдзе жывыя,
Быццам яны
Насампраўдзе —

Я н ы.

39

Змена,
Што ўсё перайначвае,
А сама
Застаецца нязменнай.

Сабранае траціцца,
І рэчаіснасць
Разгортваецца ў здагадку,
Каб адшукацца
З таго боку слоў.

Вяртаюся ў заўтра,
Дзе гліна значыць
Болей,
Чым постаці
Уздоўж перыметру
Сцен.

40

Штодня сустракаемся
І штодня
Марым аб нейкай іншай —
Тут немагчымай —
Сустрэчы.

Дрэвы
Нас памятаюць,
А гліна
Вядзе да свайго небакраю,
Дзе Бог
Не будзе адрозніваць
Ад чалавека

І жыццё —
Ад жыцця.

41

У глыбіні — пласты,

А тут,
На паверхні,
Звініць сцюдзёны ручай
І вецер
Вагае галіны дрэў,
І прастора
Не мае мяжы...

Але апынаецца паступова
Тое, што мучыць і радуе,
Вабіць і засмучае,
Ў мінулым,

І апынаецца ўсё бліжэй
Чалавек ля гліны.

42

Нібы ўбіваюцца ўглыб
Апоры,
Калі будуецца дом,
З глыбіні
Праступаюць задумы,
Каб неўзабаве
Звязацца ў цэласны тэкст,

Як гліна.

Прысутнічаеш незаўважна
У кожнай развазе,
А заўважаешся —
І прастора
Страчвае рыштаванні:

К у д ы  і  а д к у л ь.

43

Прыклейваешся да чаравікаў,
Да рук,
Да слоў,

І як бы далёка
Хто ні заходзіў,
Не дазваляеш яму
Адысці назусім
І зрабіцца
Староннім,
Чужым,
Абыякавым да мясціны,
Табою асвечанай.

Нават
Не думаючы пра цябе,
Табе прысягаюць людзі,
Што будуць памятаць пра цябе
Да скону.

## 44

Моцай,
Якую ўкладаем у рэчы,
Каб імі валодаць,
Рэчы
Трымаюць нас.

Між сабой
Згаджаемся,
Узгадняемся
І вітаем
Адзін аднаго пры сустрэчы.

Але глыбіня
Ад нас адступаецца
І закрываецца
Тоўшчай паверхні.

І толькі гліна —
Каб мы не згубілі сябе дарэшты —
Свеціцца,

Як ліхтар.

## 45

Знаходзіць сама ў сабе
Безліч рэчаў,
Але самую сябе
Губляе.

Згадвае мноства імёнаў,
Якія даюцца ўсяму,
Што ўзнікае,
Але сваё забывае.

Калі настае —
Мінае,
Калі становіцца нечым —
Перастае быць

Н і ч ы м.

І тады
У рыбін і птушак
Выпытвае шлях
Дадому.

## 46

Прысутнае вабіць
Вока
І вокам засвойваецца:

Адлегласць
Між тым, што знадворку,
І тым,
Што ўнутры.

Прамень
Напружанага спасціжэння
Прыцягвае і адпускае
Прадмет —

І прадмет
Пачынае распазнаваць
Адлегласць,
А ў ёй
Прысутную гліну.

## 47

Збан зберагае,
Што маецца ў ім,
І, што маецца ў ім,
Спаражняе.

Нібыта завязь у плод —
Няўзнак
Будучыня перайшла
У мінулае:
Ува што
Пярэйдзе мінулае?

Тут нас ужо няма,

Але ўжо
Адбылася гліна.

## 48

Што ні здараецца з намі,
Здараецца як бы не з намі —
А з некім.

Спяваюць раніцай птушкі
І дрэвы
Шапочуць лістотаю,
І бялее
Так блізка,
Але к у д ы нам ужо
Немагчыма патрапіць,

Гліна.

Нас перайначвае вынік,
Аднак заўсёды
Мы застаёмся прысутнічаць
Некім ці нечым
Побач з мінулым,
Якое было

Ц я п е р.

## 49

Не намагаешся спрасавацца
У крамянёвую моц
Ці рассыпацца ў пыл...

Мудрацы
Табе давяраюць
Свае развагі —

Не для таго,
Каб з імі
Застацца ў вяках,
А каб высветліць праз вякі,
Дзе думка
Распазнавала праўду,
А дзе памылялася...

Доўжышся, як жыццё,
Нікому не прыналежная,
І ўсё роўна

Усім свая.

## 50

Не хочаш
Дужаю быць
І не можаш слабою.

Ты не пярэчыш Богу,
А свет
Табе не пярэчыць.
На шалях
Унутранай раўнавагі
Узважваеш Паражнечу
І Паўнату

І нікому
Не прызнаешся, чаму
Не перацягвае шаля
Шалі.

## 51

Паставай,
Якой аб'яўляюся т у т,
Шукаю сябе самога...

Ці месца,
Каб спраўдзіцца?..

Гліна
Тлумачыць пісьмёны
Забытых стагоддзяў,

А я і м а ё
Засвойваюць сінтаксіс
Паразумення.

Нямое,
Нікім не адмененае,
Змаганне
Паміж паверхняй
І глыбінёй.

## 52

Нашча:

Рыхтуешся да пары,
Калі сэнс табе скажа:
«Збудзься!..»

Стра́шыць
І кліча адначасова
Нязнанае прызначэнне.

Штораз
Ахвяруеш сабой —
І гэтак
Наноў заваёўваеш
Свет.

## 53

Сведчыш пра цэласнасць,
Да якой
Нічога нельга дадаць
І адняць ад якой
Гэтаксама нічога нельга.

А мы
Разумеем паглядам
І думаем дотыкам
І адкладаем на потым сябе,
Каб зноў
Бясконцае мноства разоў

Вяртацца.

## 54

Творыцца паступова
У целе гліны
Цела быцця,
А ў ім,
Калі яно створыцца,—
Цела думкі,
А ў ім,
Як яго сарцавіна,—
Цела святла:

Драбіна,
Якая вядзе
Да Бога.

Пільнуеш свой час
І сама

Няўзнак адымаешся,

Але ўсё роўна
Заўсёднай апораю

Застаешся.

55

Тоесны
Нечаму іншаму,
Чым таму,
Кім існую,
Ад рэчаў
Скіроўваюся да гліны —

Жывы,
Але мёртвы,
Да мёртвай,
Але жывой.

І болей нікога няма
І нічога няма:

Адно перад тым
Як сустрэцца —
Р о с т а н ь,
Адно перад тым
Як расстацца —
С у с т р э ч а.

56

Перамагаеш
Без перамогі,
Дзейнічаеш
Без учынку,
Жывеш
Без жыцця.

Паміж назоўнікам і дзеясловам
Сутонішся ў спраўджаным
І світаеш
У тым, што спрабуе
Стацца сабой,—

Часціна
Іншай мовы,
Што не засвойваецца,

Як назоўнік
І як дзеяслоў.

57

Паклікала —
Але не назвалася.

Уначы,
У цьмянай размове
З нераспазнаным,
Я ўпэўніўся,
Што не памру,
А памяняюся месцам
З нераспазнаным.
І стаў чакаць,
Калі развіднée,
А развіднéла —
Убачыў мёртвую гліну

І прачытаў уголас
Яе імя.

58

Калі дакранаюся да яе,
Яна
Нешта іначшае ўжо,
Чым гліна.

Усё,
Што збылося,—
Знікла.
І што не збылося —
Знікла.

Няма ні жывых,
Ні мёртвых,
Ні пераможаных,
Ні пераможцаў.

І толькі страла
У нерухомай прасторы гліны
Ляціць
З пачатку ў канец.

# Алесь АСТАШОНАК

МЫ



# РЫГОР ДАНАДОНІ, ЭСКВАЙР

## ЖОЎТЫ КОЛЕР БЕЛАГА СНЕГУ

# РЫГОР ДАНАДОНІ, ЭСКВАЙР

Даўно ўжо хацеў напісаць вялікае апавяданне пра тое, як чалавек растоптвае свае пачуцці, нішчыць каханне. Чалавек неблагі, можа, нават і добры, але што ж ён робіць з іншымі людзьмі — жонкаю, сустрэтай каханай жанчынаю,— і нават, урэшце, з самім сабою.

Усё ідзе «на знос».

Хацелася напісаць пра ўсё ягонае жыццё, пачынаючы ад не зусім звычайнага маленства (пражытага ў прыватным сектары ў вялікім горадзе — бо гэта маё, адчутае) і заканчваючы тым, дзеля чаго й задумвалася апавяданне, — забойствам кахання і ці не ўсяго лепшага ў сваёй асобе. Гэта быў бы мой аднагодак, які паспеў пражыць некалькі даволі адрозных перыядаў жыцця ўсяе краіны: у раннім дзяцінстве — цьмяна запомненую паслясталіншчыну, затым — хрушчоўшчыну, брэжнеўшчыну, яе росквіт, стагнацыю, заняпад, час андропаўскіх марных спробаў, чарненкаўскую кому, ілюзіён рэфарматара — і, нарэшце, цяжкі й горкі вынік, амаль без святла ў бясконцым патанулым у цемры тунелі. І ўсё гэта пад не надта назвылівы, аднак надзіва ўстойлівы рэфрэн, іранічна-горкі настрой бальшыні грамадства: «Наш путь во мраке, но он безоблачен и ясен!» Задума пачынала патыхаць па духу сваім і памеры аповесцю, а то нават і раманам. Я й імя герою ўжо знайшоў — Рыгор Данадоні, эсквайр, якое й выношу ў загаловак нарэшце закончанага апавядання. Рыгор Данадоні, эсквайр,— гэта не аўтарскае выпендрыванне, гэта герой вылузваецца, каб зарысавацца, усё падаць прыгожа, а дакладней, з «красівасцямі», пад пудраю, бо любіў бы гэты чалавек —дапусцім, Ягор ці Ігар Данчак,— пры ўсёй сваёй адметнасці, бляск і любоў гэтая ў яго надта часта й моцна межавала б з мішурою. Дробным у многім быў бы гэты далёка не пасрэдны мужчына, у якога не склалася жыццё, і далёка не ва ўсім быў бы ён мужчынам. А багата ж было яму дадзена ад прыроды. Аднак не ўдаліся яму ні кар'ера вучонага, хоць школу ён закончыў з залатым медалём, а маскоўскі універсітэт, у які здолеў прабіцца без чыёйсьці дапамогі,— з «чырвоным» дыпломам (і там, і там перамагаючы на розных алімпіядах ды конкурсах), ні проста чалавечы лёс, бо мітусіўся, дужа часта й моцна сумняваўся, вагаўся, хістаўся, таму што быў неразборлівы ў многім, а часта ўвогуле рабіў выбар зусім кепскі. І жонка ў яго была нядрэнная, але жыццё з ёю зрабілася невыносным. Нарэшце яму сустрэлася жанчына — здавалася б, ягоны ідэал, да якога ён ішоў усім сваім папярэднім жыццём, якім, можа, мроіў яшчэ ў юнацтве. Сустрэў ён яе ў доме адпачынку: самыя звычайныя акалічнасці, бадай, і наражаюць нетрывіяльныя працягі. Як толькі ён яе ўбачыў, дык адразу ж нешта ўсё роўна як абарвалася ў ім. Дванаццаць дзён прабылі яны ў тым доме, і дзесяць з іх разам, у нейкім салодка-шалёным сне, які разгортваўся, быццам спружына раскручваецца: імклівa й магутна. Гэта быў выбух. Апошнюю ноч яны, у шчасці кахання, са страхам чакалі світанку, асабліва яна: у жанчын інтуіцыя заўсёды вастрэйшая. А ўранку, калі яны ад'язджалі і ён зайшоў па яе ў нумар, дзе яны столькі ўсяго перажылі, ён убачыў, што яна стаіць, самотная, у роспачы, ля зачыненых дзвярэй і па шчацэ ў яе сцякае сляза. Дамоў ён вярнуўся, вырашыўшы, што сыдзецца з гэтай жанчынаю. Але сталася так, як дужа часта стаецца: яму не хапіла рашучасці, і ён кідаўся ад аднае да другой,— а быў жа ўжо не хлопчыкам,— і непрыкметна перайшоў тую мяжу, калі мажлівае робіцца немажлівым.

А яшчэ трэба было б расказаць пра тое, якператваралася спаміж ім і жонкаю ў нянавісць былое, растаптанае ўжо каханне, як узрастала гэтая нянавісць, як перапляталіся раптам гэтыя варожыя пачуцці і ў нянавісці абуджалася, ненадоўга праўда, не зусім забітая яшчэ прыязнасць...

І пра тое, як аднойчы жонка ўбачыла, што ён уранку ўвайшоў на кухню,— яна снедала,— усунуўся заспаны, у трусах, якія спаўзалі, не працёршы нават вачэй, сеў за стол і, нешта буркнуўшы, пачаў есці, і яна ўбачыла раптам у ім свайго любага-нялюбага бацьку, гледзячы на якога думала праз усё сваё дзяцінства й юнацтва, што яна ўжо будзе жыць зусім не так, як мама, што муж у яе будзе інакшы... І пра тое, што ён не заўважыў тады пагардлівага яе позірку, бо даўно ўжо быў да яе абыякавы й дужа многага не заўважаў...

Пра многае яшчэ трэба было б расказаць...

Праходзіць час, і герой конча разумее, што зрабіў памылку, магчыма, жудасную. Але ўжо позна. Зусім позна. Яшчэ праз нейкі час ён едзе ў той самы дом адпачынку, каб глытнуць таго памятнага, шчымлівага, балючага й салодкага «паветра».

І там стол у сталоўцы, за якім яны калісь разам сядзелі, дзверы, у якія ён столькі разоў стукаўся, ля якіх бачыў яе слёзы, бачацца яму святымі. Найдаражэйшы яму храм — за гэтымі дзвярыма.

А ўсё галоўнае, найважнейшае мусіла быць у самым канцы твора.

Я й пачаў пісаць яго з канца. І зрабіў гэты канец. Потым пачынаў і з пачатку, і з сярэдзіны. І сярэдзіна ў мяне была ўжо не адна — іх налічвалася дзве ці тры, не памятаю колькі, пакуль не засталося аніводнае, бо ўрэшце я падумаў, падышоўшы да гэтага, можа, знянацку, а можа, і спакваля: навошта пісаць так доўга і, мажліва, нудна, калі задумвалася ўсё, як я ўжо сказаў, дзеля аднаго, уласна, зместу канца? Калі й канец, як нават, зрэшты, і сам твор, можа быць адным толькі радком?

Ну чым, да прыкладу, не раман гэтыя радкі Арсенія Таркоўскага: «Жизнь моя, что я сделал с тобою?»

Як здаецца мне, на маё шчасце, раманны сверб мне зусім не ўласцівы. Прычынаю тут перадусім мая прырода, *але й яшчэ*, мяркую, цяперашні час — у самым шырокім, сусветным сэнсе. Пра дачыненні сённяшняга часу й рамана адметна пісаў Юрый Алеша, сам аўтар выдатнага, фенаменальна кароткага рамана «Зайздрасць», у сваіх «Ні дня без радка», дзе раманы на старонках жменямі рассыпаныя.

«Я цяпер выкажу думку, якая здасца прынамсі недарэчнай, але я прашу мяне зразумець.

Сучасныя празаічныя рэчы могуць мець адпаведную сучаснай псіхіцы каштоўнасць толькі тады, калі яны напісаныя ў адзін прысест. Роздум або ўспамін у дваццаць ці трыццаць радкоў —сама болей у сто, скажам, радкоў — гэта й ёсць сучасны раман.

Эпапея не ўяўляецца мне не толькі патрэбнай, але і ўвогуле мажлівай.

Вялікія кнігі чытаюцца цяпер у пярэрвах — у метро, нават на ягоных эскалатарах,— дзеля чаго ж тады кнізе быць вялікай? Я не магу сабе ўявіць доўгага чытача — на ўвесь вечар. Папершае — мільёны тэлевізараў, па-другое — у калгасах — трэба прачытаць газеты».

Гэтыя радкі, як і ўся кніга, дужа ўразілі мяне гадоў яшчэ амаль трыццаць назад. Сталі для мяне адкрыццём. Я не ва ўсім згодны з пісьменнікам, сто радкоў зусім не здаюцца мне аптымальным памерам, хоць і сустракаюцца ў мяне самога, я не закрэсліваю рамана, больш таго, часта з асалодаю чытаю й нават перачытваю раманы, аднак...

Каб пісаць сёння раман, трэба Бог яго ведае якім мастаком быць. Я маю на ўвазе адметны раман, што сапраўды можа зацікавіць чытача, як, прыкладам, «Сто гадоў адзіноты» ці «Калі хочацца плакаць, не плачу». Я згадаў усяго толькі ўмомант прыпомненыя творы. Што менавіта яны прыйшлі першыя ў галаў — можа быць выпадковым, а можа й не. Я мог бы назваць яшчэ дзесятак-другі моцных сучасных раманаў. «Імя ружы», «Леапард» ці «Чужы твар» і гэтак далей. У свеце не так ужо й мала добрых раманаў, нават, можна сказаць, багата. Ёсць колькі проста выдатных раманаў. Але й добрых, а тым больш выбітных раманаў даволі мала ў кожнай асобнай краіне, калі яны й ёсць яшчэ ў многіх асобных краінах. А тое, што часта толькі называецца раманам — і ў нас, і ў іх,— я называю антыраманам, бо прызначэнне гэтых невядома навошта напісаных твораў хіба што адно — забіваць раман. Пішуцца яны, мабыць, на ўсцеху самалюбству, у палоне ілюзій аб уласным таленце. Так, менавіта таленце. Я ж зусім не адмаўляю ў ім багата якім аўтарам не патрэбных ці, у лепшым выпадку, не надта патрэбных раманаў. Яны проста (няхай даруюць мне катэгарычнасць, гэта не лепшы лад доказу, але тут я перакана, ны) блытаюць дзверы, праз якія ўваходзяць у дзверы літаратуры ці спрабуюць у іх увайсці. А ўжо ў сэрца чытача дык яны дакладна ломяцца, бы ў зачыненыя дзверы.

Зрэшты, можа, я й сам цяпер памыліўся, робячы такое доўгае адступленне. Апавяданне, якое б незвычайнае яно ні было, скарочанае, заканспектаванае, незакончанае ці, як, мяркую, у далейшым маім выпадку, невядома якое,— зусім не месца для крытычных практыкаванняў. Выказваць сваё стаўленне да таго ці іншага жанру трэба менавіта ў крытычных опусах, калі ўдасца, а калі не, дык у спробах іх стварыць. А можа, я й сам гляджу цяпер на прозу толькі з вышэйшага даступнага мне паверха — кожны пісьменнік ці купка пісьменнікаў сядзяць жа адно на дасягальных для іх паверхах.

Я дазволіў сабе такое вялікае адступленне, выбраўся з уласна апавядальнай калявіны свя-

дома, не баючыся страты ў мастацкасці. Баяцца мне няма чаго. Твор маленькі, не першы і, спадзяюся, далёка не апошні, гэта не «Пані Бавары» й не «Смаленне вепрука», я не Чэхаў і не Акутагава. Зрабіў я гэта і не ў апраўданне майму ранейшаму жанраваму вызначэнню цыкла апавяданняў — «няскончаны раман».

Я зрабіў гэта, бо спавядалася так душа. Таму што пішу цяпер сабе ў вялікае задавальненне. Можна сказаць, гуляю, як гуляе ў кубікі дзіця. Працую-гуляю, не думаючы ні пра якую эфемерную славу, ні пра міфічныя грошы, нават не зважаючы на іх, больш таго, зневажаючы, калі ўжо гаварыць па вялікім рахунку,— гэта я як перад Богам кажу. Прысягаць не буду; хто яго ведае, што там за не спазнаная намі самімі праўда жыве дзесьці на дне нашай загадкавай душы?..

Зрэшты, лухту сказаў — што як перад Богам.

Пісьменнік, калі хоча лічыць сябе такім, можа тысячу разоў памыляцца ў жыцці й рабіць тысячы памылак, самых недаравальных і нават, на жаль, брудных. Але, калі ён сядае за аркуш паперы, яму застаецца адно-адзінае дазвання чыстае, што засталося ў ягоным жыцці,— споведзь на гэтым аркушы. Перад людзьмі, перад Усявышнім, перад самім сабою, перад Богам, які спрабуе выжыць у нашай душы, перад мамаю, што памерла, пражыўшы жыццё ў нястачы, грашовай і духоўнай, перад сястрою ці братам, якія мусілі нарадзіцца і не нарадзіліся, перад дзядзькам, які загінуў у дзевятнаццаць гадоў за некалькі дзён да заканчэння вайны і ў гонар якога цябе назвалі, не ведаю, перад кім яшчэ,— перад усімі разам. І тады ён усё прамаўляе як перад Творцам. Калі толькі хоча адчуваць сябе пісьменнікам і звацца ім. Прынамсі, быць ім у сваіх уласных ды боскіх вачах. Таму што пішам мы ўсё-такі, пераканабыя, перадусім дзеля Бога ў нашай — не буду даваць блытаных вызначэнняў, бо іншыя й даць нельга,— душы.

Заканчваю водступ і самую прадмову. Ці канспект? Апавядання. Аповесці. Рамана?..

Нейкі час хацеў напісаць кароткі кампактны раман, які зазвычай называю еўрапейскім, хоць і ў расейскай, і ў нашай літаратурах ёсць ягоныя ўзоры: прыкладам, «Запіскі Самсона Самасуя». Нешта накшталт «Чужаніцы» або «Вікторыі» — не па змесце, вядома, а па аб'ёме ды сціскласці. (Дарэчы, усе згаданыя тут кароткія раманы — ад 80 да 100 старонак, «Герой нашага часу» — 135.) Менавіта хацеў, а не хачу, бо прайшло ўжо тое жаданне. Прынамсі, я яго не адчуваю. І ўсё ж думаю, што жаданні нашыя, цяперашнія й колішнія, памерлыя, спраўджваюцца незалежна ад нашае волі — і даволі часта. Часам яны спраўджваюцца нават падсвядомыя, калі мы й не здагадваемся пра існаванне жадання,—і тым больш тады, мяркую, яны спраўджваюцца. Чым больш хочам, тым менш маем. А можа, і наадварот.

А можа, яно ўжо й спраўдзілася, гэтае жаданне. Спраўдзілася, як гэта ні дзіўна і з якім бы выклікам гэта ні гучала, у маім апавяданні «Patria aeterna», якое ўмяшчаецца на дваццаці двух старонках і ўяўляе сабою, па сутнасці, канспект рамана. Нядаўна чытаў у «Новом мире» тры старонкі маладога пісьменніка, названыя ім са згоды шаноўнай рэдакцыі раманам. Што нават мяне — з усімі маімі стаўленнямі да рамана, з усімі канцэпцыямі, жаданнямі, свядомымі, падсвядомымі й адсутнымі,—дужа здзівіла.

Але гэтым разам, не прэтэндуючы на раманнасць якогасьці радка з наступных і тым больш на стварэнне эпітафіі апавяданню, я пакінуў у творы сваім толькі канец і — чамусьці — назву, якую лёгка можна было б змяніць. Яна й будзе эпітафіяй апавяданню.

Даруйце, калі яшчэ не страцілі цярпення, за водступы. Як хто з чытачоў застаўся, дык я ім (яму) буду вельмі ўдзячны. А калі й не застаўся, дык радасць усё роўна са мною застанецца: працуючы, я гуляў — і дзякуй за тое Богу й маме, якія такім мяне стварылі.

А зараз — канец аповеду, напісаны два з паловаю гады назад, а цяпер крыху толькі выпраўлены.

Ён пакінуў за гэтымі дзвярыма столькі шчасця, а цяпер там сядзела, ляжала, спала, і, можа, нават не адна, якая-небудзь вульгарная баба. У нумары, дзе жыла *я н а*! У нумары, дзе яшчэ некалькі месяцаў назад, бы ў сне, здзяйснялася патаемнае. Асабліва раз'ятрыўся ён, калі, праходзячы неяк уранку па двары, убачыў раптам у вакне нумара гэтую жанчыну — то сапраўды была баба: тлустая, натынкаваная, з юрлівымі вочкамі на азызлым твары, з фарбаванымі, шэра-фіялетавымі, валасамі, вязлівымі сцёгнамі-кумпякамі й цыцкамі. Жанчына сядзела за сталом, за якім *я н а* гадала на картах на *і х*, на *і х н і л ё с*,— і накручвала свой рэдкі шэра-фіялетавы пушок на бігудзі! Тая самая таўстуха ў кароткай спадніччы, нашмат вышэйшай за круглякі-калені на нагах-бярвеннях, што гэтак раздражняла яго ў сталовай, аж даводзіла да шалу, бо ўвесь час паглядвала на яго, прыцэньваючыся і адначасна бясплатна прадаючы сябе ў сваім адпачынку.





Гэта так вывела яго з душэўнае раўнавагі, што ён пайшоў у мястэчка, узяў гарэлкі і ўвесь дзень піў. Упершыню ў жыцці піў адзін. Кампаньёнаў можна было назбіраць мяшок, але ён ні з кім не хацеў гаварыць, нікога не хацеў бачыць.

Надвячоркам ён быў ужо моцна п'яны. П'яны неяк асабліва па-дурному, як ніколі раней. Ён пакуль яшчэ не хістаўся, але ў галаве ў яго быў адзін тлум, усё бачылася быццам у крывым люстэрку, раз'юшвала.

Прыкончыўшы ўрэшце гарэлку, ён выйшаў з дома і доўга, без аніякае мэты бадзяўся па тэрыторыі. Часта клаўся на траву і глядзеў у неба. Неба было дзівосна блакітнае й чыстае, і птушкі спявалі ў лесе, і лес быў ласкавы й ціхатворны, здавалася б звычайнай душы, і не выходзіў бы чалавек адсюль аніколі,— аднак жыццё й тут не бачылася непрыкаяннiку радаснейшым і святлейшым. Ён з ціхім, але неабдымным жахам усведамляў, што не вінаватыя ў ягоным няскладным жыцці ні жонка, ні *я н а*, жанчына, з якою ён мог бы распачаць усё нанова, ні само жыццё, што станавілася ўсё больш жорсткім,— ён усведамляў, што вінаваты ён сам, і толькі адзін ён, ніхто больш. Бо які б ні быў вонкавы свет, перадусім заўжды вінаваты сам чалавек — вінаваты, што не знайшоў сабе выйсця, аддушыны, не пракапаў сабе, урэшце, калі ўжо на тое пайшло, ходу.

Усё, здавалася яму, памерла ў ім. Цяпер ён быў ужо зусім пусты: падумалася, дакраніся зараз да яго хто-небудзь, і ён зазвініць або загудзіць — цікава, а з якога я матэрыялу?.. Можа, з ваты? Ці — з нічога?.. Нічога — яно ж і ёсць нічога.

Дык, значыцца, не каханне памірае ў нас, а мы самі забіваем у сабе каханне, забіваючы й сябе?..

Ён упершыню ў жыцці зразумеў раптам, чаму людзі канчаюць з сабою. Пра сябе ён у гэтым сэнсе, так бы мовіць — накірунку, не падумаў, а калі б і падумаў, дык не забаяўся б — жыць зусім не хацелася. Моташна было жыць. Гідка.

Нарэшце, калі пачало ўжо брацца на прыцемкі, ён вырашыў вярнуцца ў нумар і знарок прайшоў у дом непрыкметна, цераз чорны ўваход, які, на шчасце, яшчэ не зачынілі,— вяртацца ў такім стане праз чысты, на вачах ва ўсіх, яму было сорамна, хоць у душы амаль што перакрывала ўсе астатнія прымерлыя пачуцці адно-адзінае: «Усё роўна». Жыццё такое спаскуджанае, што нічога ўжо не паправіш і нічога не пагоршыш. Ну куды ўжо горш? Але ж заставаўся яшчэ ў гэтай душы адзіны, апошні некрануты светлы куточак — леташні травень, дзесяць дзён найвялікшага ў ягоным жыцці шчасця, гэты чорны ўваход, цераз які яны хадзілі ў лес, трынаццаты нумар, у якім ён амаль што знайшоў сябе.

Калі ён, стараючыся ісці роўна — хоць хмель у галаве праходзіў, ногі чамусьці ўжо цяпер пачалі заплятацца,— уваліўся ў калідор, адчыніліся дзверы трынаццатага нумара. Хвіліну таму ён не заўважыў, што жанчына ў ім крыху адсунула фіранку, неяк адчуўшы ягонае набліжэнне.

Выйшаўшы з нумара, жанчына какетліва-юрліва ўсміхнулася яму. Ды яна ўся, з галавы да ног, была ўсё роўна як нашпігаваная юрам, мільганула ў яго ў галаве. Ён застыў і тупа агледзеў яе.

—Вам, мусіць, блага? — спытала яна гулліва.

—Блага. Я п'яны,— пралапатаў ён у адказ (язык у яго заплятаўся), з прыглушаным гарэлкаю сорамам адчуваючы, да чаго ж ён цяпер нікчэмны, толькі жалю й варты — ды дзе там жалю! — пагарды.

—З кім не бывае,— яшчэ шырэй усміхнулася яна.— Дый які вы п'яны? Так проста — нюхнулі.

Ён хацеў быў раптам зараўці на яе: «Ну куды ты лезеш?!» — хаця ў чым яна вінаватая? — але стрымаўся й вырашыў пажадаць ёй «Дабранач» і пайсці да сябе ў нумар — і тут замест гэтага сам усміхнуўся. Кіслая, напэўна, была ягоная ўсмешка, непрыгожая, гідкая, толькі й паспеў падумаць ён, як яна ўжо запрасіла яго да сябе, бо ёй таксама блага, праўда, на душы, нудна тут, пагаварыць нават няма з кім, а ў яе ёсць такое адмысловае, сваё, хатняе віно — калі яго прыгубіць крыху, дык не п'янееш, а, наадварот, цверазееш, не верыце?.. Я з сабою багата ўзяла. Заўсёды спатрэбіцца, зноў усміхнулась яна яму, узяўшы за локаць. Потым рука яе цёпла слізганула па ягонай таліі — яму не стала гідка, наадварот, гэта нешта казытнула ў ім.

Усё роўна спаскуджана ўсё, раптам цяжка пракруцілася ў ягоных затлумленых глуздах кола руйнавання,— і ён апынуўся ў яе нумары, апынуўся ў *я е* нумары.

Там яму адразу захацелася выць. Ён згадаў усё перажытае тут, але жанчына ўжо разлівала віно.

Прачнуўся ён ажно апоўдні, хоць звычайна, упіўшыся, уставаў вельмі рана, ускручваўся, як казала жонка. А тут спаў быццам аглавушаны.

Жудасна балела галава. Але не аб тым, як адолець пахмелле, падумаў ён спярша. Ён адразу ж зноў успомніў усё, што перажыў у гэтым пакоі летась, адразу згадаў, што сталася з ім тут гэтай ноччу,— і ціха застагнаў.

—Галоўка баліць? — пачуў ён голас жанчыны й павярнуў галаву ў яе бок.

Яна была яшчэ тлусцейшая, чым гэта здавалася, калі яна была адзетая, рыхлая, белая, і грудзі яе здаваліся нейкімі вялізнымі шарамі з ружовымі, амаль пляскатымі шырачэзнымі саскамі. Касметыкі на твары не засталося,— ці то ён злізаў яе ўсю за ноч (ён з гідкасцю й жахам цьмяна згадаў свае доўгія п'яныя ласкі), ці то яна змыла яе сама, да таго ж і твар, і ўсё цела яе былі абсыпаны нейкімі сіняватымі плямамі, што засталіся, напэўна, ад нядаўна скалупнутых балячак; і таўстуха ўбачылася яму нарэшце ва ўсёй сваёй непрыгляднасці й дурасці.

Ураканне яшчэ больш павялічвала юрлівая ўсмешка, якая, здавалася, ніколі не сыходзіла з яе твару. Яна зноў хацела яго, усё роўна як і не была з ім зусім. Ці яна заўжды некага хацела? Жывёліна ненасытная, з гідкасцю падумаў ён і адразу схамянуўся: нібыта ён сам не быў жавёлінай.

Жанчына ўзнялася з ложка, голая — ужо, відаць, асвойталася з ім ці ўвогуле заўсёды так лёгка асвойтвалася, як, зрэшты, дужа многія,— і, віхляючы з боку на бок вялізазным і, як, мусіць, здавалася ёй, прыгожым і неверагодна спакуслівым задам, прайшла да стала, наліла ў шклянку віна і паднесла яму да самых вуснаў.

—На, палячыся. Добра, што пакінула. Каб не я, ты б усё выжлукціў.

Яна глядзела на яго, калі ён піў, і яму здалося, глядзела ласкава — гэта таксама, як і ўсмешка яе, адно павялічвала ягонае раздражненне. Дык ты ўжо са мною на такой кароткай назе, захацелася яму закрычаць раз'ятрана, а хто ты такая, і ён, мажліва, і не стрымаўся б, і зароў бы, выпіўшы віно, але яна ўмомант, ні аб чым не падазраючы, міжволі астудзіла яго.

—А ты нічога,— сказала яна, калі ён выпіў.— Я, па праўдзе, думала, калі ты столькі віна засмактаў, што ўжо ні на што здатны не будзеш. Я табе ўсё казала, што досыць, а ты —не, усё нармалёва, мяне віно не бярэ. Такі ўпарты — нічым цябе не праймеш. Я й махнула рукою: пі, хоць захлыніся.

Віно, як заўсёды, надзіва хутка зняло пахмельнае занядужанне й пачало разлівацца ў атручаным нутры прыемнай цёплай лёгкасцю, мяняючы многае ў душы.

—Што, упала? — спыталася яна, насмешліва заглядаючы яму ў вочы.

—Што — упала? — не зразумеў ён.

—Віно.

—А... Упала...— з раптоўнай стомаю-абыякавасцю адказаў ён.

—Толькі ты дзіўны нейкі.— Таўстуха крыху прыўзняла на далоні цыцку і, выглядзеўшы каля саска прышчык, выціснула яго сваімі кароткімі, тоўстымі, як абсечаныя сардэлькі, пальцамі.—Пра каханне мне ўсё расказваў... Ты што, сур'ёзна, памятаеш яшчэ яе, жанчыну гэтую, што тут жыла?.. І ўвогуле, ты каго кахаеш — яе ці жонку?.. Ты што маўчыш?.. Ці не прабіла яшчэ?.. Не ўпала, значыцца, віно... Дык у мяне болей няма... Праўду кажу... А ты алкашка...

Ён глядзеў на яе з нянавісцю. Жанчына не магла знаць, што не на яе глядзеў ён, а на сябе, на сваё адлюстраванне.

Потым у яго пацякла па шчацэ сляза.

—Ты чаго гэта, га? — Спалохаўшыся, яна рэзка адсунулася ад яго.

Ён зарыдаў, уткнуўшыся тварам у падушку й абхапіўшы яе рукамі.

Пацягнула цыгарэтным дымком: накінуўшы халат і ўзнервавана захінуўшыся, жанчына закурыла.

—Ну, псіхі, ну, псіхі...— патушыла яна вялізны недакурак, але ўжо неўзабаве запаліла новую цыгарэту...

Пад вечар яму стала зусім блага. Усё здавалася ўжо яму не спаскуджаным, а зусім знішчаным. Разбураным, зруйнаваным. Наперадзе былі, напэўна, яшчэ доўгія гады жыцця, але ён не ведаў, як пачынаць жыць зноў. Хацелася памерці.

Аднак яшчэ больш, усміхнуўся ён сам сабе з нянавісцю,—апахмяліцца: нясцерпна балела галава.

Гледзячы, як ён, разгублены й няшчасны, пакутна бадзяецца па тэрыторыі, не знаходзячы сабе месца, таўстуха пашкадавала яго й раздабыла недзе бутэльку гарэлкі.





# ЖОЎТЫ КОЛЕР БЕЛАГА СНЕГУ

Ці ж думаў ты калі-небудзь, што ўсё вось так атрымаецца?

Што будзе ранак — светлы, чысты, празрысты, што сонечна будзе на дварэ, што ўсё існае па-за жытлом тваім будзе клікаць цябе да жыцця, спяваць будзе: «Уставай, уставай, цябе чакае столькі прыгожага, столькі ўсяго наўкол закране душу тваю, зашчыміць у ёй радасцю-хваляваннем, і ўсё гэта не толькі й не проста прыгожае — яно патаемнае, хуткаплыннае, яно чамусьці дадзена табе знаўзвышы, дадзена табе, а не мільярдам тых зародкаў, што загінулі, шчасця гэтага не атрымаўшы!» — а ты захутаешся з галавою ў коўдру й будзеш пакутаваць ад наступу дня, будзеш маліць, каб ён затрымаўся ў сваёй дарозе, будзеш уздрыгваць ад аднаго ўжо святла, бо не толькі не пацягнешся да ўсяго таго, што абяцае табе абуджэнне жыцця, але й будзеш баяцца гэтага абуджэння — і свайго, і ўсяго свету, з якога ты выпадаеш...

І не адзін такі ранак пражывеш ты. Іх будзе так шмат, і запар, што стане здавацца: няма ўжо ім канца.

Ты не наблізішся да думкі аб самагубстве, і, можа, ніколі не з'явіцца яна ў тваёй галаве, не ўзнікне ў ёй нават уяўна, але й жыцця ты прагнуць не будзеш... Пазней ты зразумееш, што гэта й ёсць нейкае набліжэнне подыху самагубства да глыбіняў тваёй душы: і закрасціся ў яе не можа такі намер, аднак ты й не дарожыш тым, што маеш. Зусім не дарожыш. Нічым. Надта доўга ўжо не дарожыш. Усё табе абыякава, ад усяго крыўдна, усё наўкол поўніцца несправядлівасцю да цябе — ці гэта толькі здаецца? — усе куточкі душы запаўняе пустата. З твайго бязвольнага дазволу, з тваёй ненаўмыснай наўмыснасці гэтая пустата прадзіраецца ўжо ў самую астатнюю вольную яшчэ ад яе шчылінку.

І ты поўнішся пустатою. Пустаты гэтак шмат, што душу ад яе распірае, што няма ўжо куды ад яе падзецца — і не можацца ўцякаць ад яе. Ды дзе там уцякаць — ты нават рукою паварушыць нездатны. Рука ў цябе на падушцы, пад скроняю, галава таксама здранцвела, не паварочваецца, і позірк твой — застылы, можа, нават ужо знямелы, хіба што не мёртвы...

Настае дзень — і гэта цяпер найвялікшае тваё засмучэнне.

А да гэтага быў золак і, расплюшчваючы вочы, ты са страхам узіраўся ў вакно: ты ўжо прадчуваў, што ён блізіцца —дзень... А яшчэ да гэтага панавала ноч, і як добра было табе, як цёпла ў ёй. У параўнанні, вядома, з днём: ты ведаў — да яго яшчэ далёка.

І ўначы, і на золку ты захутваўся ў коўдру, але тады крыху прыемным было яшчэ табе тое захутванне: ты захутваўся ва ўтульнасць, захутваўся ў паратунак, захутваўся ў надзею, што гэтая ноч і нават гэты золак будуць доўгія-доўгія. Аднак, вядома, надзея цябе падманула — дзень насоўваўся няўмольна, а ўжо ён будзе па-сапраўднаму доўгі, нават узімку, не тое што гэтыя кароткія начныя гадзіны...

А зусім ужо да ўсяго гэтага было ўсё тваё папярэдняе жыццё. Колькі радасцяў прынесла яно табе, колькі шчасця, але ж і колькі горычы й расчараванняў!

І вось насталі такія дні, калі на цяперашнім шляху тваім расчараванні безнадзейна пераважваюць радасці... Радасці ўжо й не помняцца, усё роўна як і не было іх — расчараванні засцяць усё. Ты зусім забыўся на тую простую і неабвержную ісціну, што й з гэтых чорных дзён неадменна знойдзецца выйсце ў нейкае невядомае табе заўтра, якое ты пакуль яшчэ й цьмяна не ўгадваеш.

Гэтым разам табе здаецца, што выйсця ўжо болей не будзе, што яго проста не можа быць. Так, ты не аднойчы выбіраўся раней з тупікоў — і з якіх тупікоў! — але цяпер ты выразна адчуваеш: выйсце ёсць з тупікоў, але яго няма ў лабірынтах, дзе адны тупікі. І нішто не можа пахіснуць трываласць і цвёрдасць гэтага адчування.

Ты закружляўся...

Нарэшце ты здолееш узняцца з ложка, адзенешся — а можа, табе й не прыйдзецца адзявацца, бо ты спаў адзеты: адзетаму з такой душою неяк утульней спаць, бо ты захутваешся ад наступу дня не толькі ў коўдру, але яшчэ і ў адзежу, ты двойчы тады захутаны — і двойчы абнадзеены... Дык вось, нарэшце ты адзенешся, пратрэш вадою вочы і, калі хопіць сілы й калі ты ўбачыш у гэтым сэнс, нават пачысціш зубы. Ты можаш і не чысціць іх: табе ж не трэба выходзіць на вуліцу і ніхто да цябе не прыйдзе.

Ты падыдзеш да вакна і будзеш узірацца ў двор унізе. Ён будзе пусты — і на душы ў цябе

стане яшчэ пусцей, бо й там пуста. Ён будзе гаманлівы — і на душы ў цябе зноў жа стане яшчэ пусцей, бо людзі там, унізе, пра нешта гавораць, жывуць, а ты й слова прамовіць нікому не хочаш, нават сабе, ты быццам жывеш і разам з тым зусім не жывеш, а толькі баішся прачынацца й перасоўваешся механічна ў прасторы, зведзенай цяпер для цябе да клеткі, у якой невядома навошта месцішся...

Ложак будзе незасланы, прасціны будуць пакамечаныя, згэмтаныя і, хутчэй за ўсё, трохі ўжо брудныя — да зусім брудных прасцінаў ты яшчэ не даходзіў. У хаце будзе рэзрух, але не будзеш ты яго заўважаць, бо што рэзрух у хаце, калі ён — у душы?..

І тут сусед загрукае малатком, які-небудзь маладзён урубіць на ўсю моц вар'яцкую музыку, нехта засмяецца бясклапотным смехам (пустым, здасца табе, а можа, і не здасца, і на самай справе ён будзе пусты) і забрэша, а то й — Божа! — заскавыча, завые раптам у чыёйсьці кватэры-вязніцы сабака...

Дык што ж за жыццё было ў цябе да ўсяго гэтага?..

Была ў таго, пра каго я расказваю, як і ў мяне, родная хата амаль у сэрцы горада.

Вы разумееце, што такое **родная хата амаль у сэрцы горада?..**

Я выходзіў у сад — і ён здаваўся мне лесам, я спыняўся ля грушы — і яна была мне дубам, я залазіў на яе, азіраў суседнія сады й дахі — і яны былі мне сусветам...

Уранку я прачынаўся, і сонечны прамень у вакне заўсёды абуджаў на маіх вуснах усмешку, якую б крыўду ні перажыў я ўчора. А я ж, з розных прычын, быў вельмі адзінокім —хлопчык мала калі бывае такім адзінокім,— і ўсё роўна я быў шчаслівы!

Прачнуўшыся, я ніколі не ляжаў доўга, як часта бывае цяпер, у ложку. Нейкі час, зусім невялікі, я радаваўся промню, радаваўся жыццю — і, таропка й разам з тым не мітусліва адзеўшыся, выскокваў на двор.

Там мяне сустракалі куры, певень — празваны мною Сільверам пасля шмат разоў прагледжанага фільма, што стаў любімым, бо вельмі рамантычнае было ў ім жыццё дарослых, зусім не такое, якое бачыў я наўкол,— там лашчыліся да мяне кот Марцін і сабака Рэкс.

Гэта былі мае лепшыя сябры, і мне іх хапала. А цяпер у мяне процьма знаёмых, прыяцеляў, ёсць, можа, нават і сябры, а мне так не хапае душы, якая б па-сапраўднаму разумела мяне. Па-сапраўднаму, разумееце? Да канца.

Пад плотам у мяне была схавана палка — мая шабля. Я хвастаў ёю па лапухах уздоўж плота. Лапухі прыгіналіся — то былі мае разбітыя ворагі. Але я, вядома, не адчуваў да іх нянавісці, як адчуваю яе, бывае цяпер, да сваіх злоснікаў, часам зусім дробных,— я проста перажываў радасць сваёй перамогі, і ворагі былі ўсяго толькі пераможаныя мною, а не прыніжаныя, нізрынутыя, раздушаныя, растаптаныя, растрыбушаныя.

Але што я расказваю пра тое, што вы самі ведаеце не горш за мяне, а можа, і лепей?

У мяне ёсць прыяцелі — а што, калі ў вас толькі знаёмыя?..

Таму вернемся да чалавека, што стаіць цяпер ля вакна, утупіўшыся застылым позіркам няважна ў які двор.

Не, даруйце, я не расказаў пра таго хлопчыка, што сек некалі лапухі, як сваіх, так бы мовіць, ворагаў, дзве рэчы, дужа важныя, як мне здаецца, і для таго чалавека, пра якога распавядаю...

Я заходзіў у дзедаў пакой у пабудове на двары, якую ён сам называў адрынаю. Усе астатнія называлі яе па-расейску: «сарай». А дзед, прытаміўшыся ад мітусні ў хаце, спакойнамудра казаў: «Пайду ў адрыну». Ён жыў там з малавядомых мне прычын, пра якія не час тут гаварыць. Пакой ён сабе абсталяваў вельмі ўтульна: цёпла абшытыя ўзорыстымі дошкамі сцены й столь, гладзюсенькая, усё роўна як адпаліраваная падлога, бялюткая, з кафлі, грубка. Усё гэта ён зрабіў сваімі рукамі. Ён шмат чаго ўмеў, мой дзед, не тое што я.

Я страшэнна зайздросціў дзеду, што ў яго ёсць такі свой куток.

Тады я, вядома, не мог разумець, што зайздрошчу, інтуітыўна, няхай сабе й няпростаму, ды ўсё-такі спакою ў ягонай душы. Спакой гэты быў выпакутаваны, створаны ўласнай воляю, што пераадольвала нялёгкія выпрабаванні калдобістага жыцця, але як прыгожа адрозніваўся ён ад усяго таго гармідару, што панаваў наўкол дзеда й ператварыўся нарэшце ў нязносны вэрхал!..

У дзеда быў свой свет, вонкава вузкі й шырачэзны па сутнасці, глыбокі й закрыты ад іншых вачэй. Гэты свет ёсць цяпер і ў мяне, але ж які ён часам крыклівы, як проста дазваляеш ты іншым, часта самым грубым і нізкім, шніпарыць па ім бруднымі насмешлівымі вочкамі...

Але тады я проста зайздросціў утульнасці й ціхамірнасці ягонага пакоя.

Мы з мамаю й татам жылі ў хаце, у малюпасенькім дзевяціметровым катушку; яшчэ ў хаце





была так званая «зала», дзе стаяў тэлевізар, фікус, круглы стол з венскімі крэсламі і дзе начаваў мой дзядзька; быў яшчэ бабулін пакойчык, дзе вісеў абраз.

У тым дзевяціметровым катушку праходзіла жыццё трох чалавек — двух дарослых і аднаго маленькага, з усімі іхнімі рознымі жаданнямі-запатрабаваннямі. Пра гэта доўга б можна было расказваць, ды зноў жа не час, не пра тое, урэшце, гаворка. Скажу толькі, што, прыкладам, пад ложкам у мяне стаяла міска з вадою, ля якой я ўзімку, укленчыўшы, праціраў сабе вочы, і што жылі мы там, пакуль мне не споўнілася дванаццаць гадоў: бацьку далі тады пятнаццаціметровы пакой у камунальнай кватэры —якім велізарным бачыўся ён мне яшчэ доўгі час, якім цудам здаваліся ванная й цёплая прыбіральня, да якіх я, між іншым, не адразу прызвычаіўся і з-за якіх калі-нікалі ў нас узнікалі праблемы з суседзямі, добрымі, дарэчы, людзьмі...

Дык вось — я заходзіў у дзедаў пакой у ягонай адрыне, і ўсё-такі галоўнае, што бачыў я там, была не ўтульнасць, а кнігі й падшыўкі газет і часопісаў. Чытаў дзед толькі дзве-тры кнігі, але бібліятэка ў яго, як для простага чалавека, была багатая.

Бацькі мае кніг амаль не куплялі — дзе іх там было паставіць у нашым катушку, дый грошай вечна не хапала: бацька атрымліваў доўгія гады, колькі памятаю, дзевяноста рублёў, маці — шэсцьдзесят. Былі сякія-такія танюткія «Мои первые книжки», памятаю маршакоўскія, ды нейкія казкі. І чамусьці «Похождения Ходжи Насреддина».

Да дванаццаці гадоў, да тае пары, калі я сам пачаў набываць сабе кнігі, вымяркоўваючы грошы на марожаным і газіроўцы, мама купіла мне з тузін кніжак. Запомніліся выбраныя творы Янкі Маўра на рускай мове і Гогаля на беларускай, «Хижина дяди Тома» і —зноў жа чамусьці — выбраныя творы Уладзіміра Лідзіна і трохтомнік Веры Інбер.

Зрэшты, чаму — «зноў жа чамусьці»? Усё тлумачылася проста: кнігі былі ўцэненыя. Лідзін каштаваў трыццаць, трохтомнік Інбер — семдзесят пяць капеек.

Усе гэтыя кнігі я перачытваў некалькі разоў. Праз усё жыццё памятаю з Маўра імя інданэзійскага сусухунана (імператара) —Паку Бувона Сенапаці Інгнаголага Нгабдур Рахман Сайдын Панатагама,— чым заўсёды нямала многіх дзівіў і дагэтуль дзіўлю.

Я дагэтуль захоўваю ўсе гэтыя кнігі як рэліквіі.

Затое ў дзеда былі петраградскі Нат Пінкертон і «буржуазналатвійскі», рыжскі, Эдгар Уолес — «Тайна желтых нарциссов», «Матиас Шандор» — жульвэрнаўскі «Граф Монтэ-Крыста», афрыканскія нататкі адкрывальніка вадаспаду Вікторыя Давіда Лівінгстана, камплекты «Охотничьих просторов», з якіх я ўпершыню даведаўся пра існаванне такога пісьменніка, як Іван Бунін, і, нарэшце, «Последние из могикан» з неверагодна старажытнымі, як мне тады здавалася, ілюстрацыямі (зрэшты, сёння яны ўжо сталі такімі — неверагодна старажытнымі,— гэтыя ілюстрацыі з пазамінулага жыцця, зробленыя ў жыцці мінулым).

Гатэлі, банкіры, графы, махлыгі, банкруты, узломшчыкі, дэтэктывы, індзейцы...

Як глыбока запалі мне ў душу кніжныя героі — глыбей за ўсіх жывых людзей, якіх я бачыў...

Я гартаў падшыўку «Футбола» і даведваўся пра дзівоснага варатара Барыса Разінскага, які не толькі выдатна бараніў вароты, але й забіваў галоў, з пенальці, больш за многіх нападнікаў. Я гартаў «Историю кино» і даведваўся, што былі некалі такія знакамітыя фільмы, як «Кабінет доктара Калігары» і «Выкрадальнікі веласіпедаў», што славуты Рудольфа Валянціна, кінаідал дваццатых гадоў, усприймаў сваё аблысенне як найвялікшую трагедыю і зафарбоўваў залысіны нечым чорным... І ці ж не скончыў ён, аднагодак Ясеніна, якога ён усяго толькі на год перажыў, свой шлях самагубствам?..

Я даведваўся... О, шмат аб чым я даведваўся ў дзедавым пакойчыку, вялікі свет адкрываўся мне ў ім!..

І я марыў жыць у гэтым свеце, дзе агні вялікага горада, кнігі, карнавалы, маскарады, фестывалі, балы, аўто, яхты, смокінгі, жанчыны ў футрах, падарожжы, грошы, поспех, «Маракана», «Уэмблі», Непал, Тасманія — і дзе буду я...

Дый я ж упэўнены быў, што я там буду!

Я вёў дзённік прыроды й запісы будучага афіцэра, змайстраваў сабе цір і практыкаваўся з рагаткаю, гадзінамі важдаўся з мячом... Я збіраўся стаць футбалістам і акторам, разведчыкам і падарожнікам, кім толькі я не збіраўся стаць!..

Я шмат дзе быў і шмат чаго бачыў, не тое што мая мама. Праўда, усё гэта вельмі далёка ад таго, аб чым я марыў, але ж...

Мая мама, простая жанчына, доўгія маладыя дый пазнейшыя гады пакутавала праз тое, што «не вывучылася» — яна ж гадзінамі магла чытаць па памяці «Бандароўну», «Новую зямлю», «Збянтэжанага Саўку», «Тараса Бульбу», багата што з Ясеніна,— я спраўдзіў, здавалася

ёй, яе надзеі, але ж...

Але ж цяпер я падоўгу магу стаяць ля вакна, зусім як той чалавек, пра якога йдзе гаворка, ад якой я даўно адхіліўся ці — можа? — да якое наблізіўся. Няўжо ў яго было не так, як у мяне? Мы ж такія падобныя... Дзяцінства ў нас прайшло на суседніх вулках...

Пра кнігі я ўжо расказаў.

Засталася яшчэ адна рэч.

Кожнага года ў маім жыцці былі чатыры святы.

Два першыя — дзень нараджэння й Новы год — як ва ўсіх.

(Вялікдзень, дарэчы, у сям'і таксама святкавалі, але гэта неяк мяне абыходзіла. Яйкі хіба што чырвоныя былі, біліся імі, дый яшчэ дарослыя пілі больш, чым зазвычай.)

Але былі ў мяне і два незвычайныя святы: у першы дзень траўня і ў сёмы — лістапада. У гэтыя дні на хаце вывешвалі сцяг — мой дзед чамусьці заўсёды вывешваў не чырвоны, як бальшыня суседзяў, а чырвона-зялёны.

Але дзіва: гэтымі днямі я заўсёды заставаўся ў «зале» адзін. Мама ў гэтыя дні працавала. А бацька так ухіляўся ад дэманстрацый, што, мусіць, нават тэлевізара пазбягаў. Дый дзед насіў у сабе нешта падобнае. Малады дзядзька недзе гойсаў. Вось толькі бабка не ведаю, дзе была.

І я адзін глядзеў усе гэтыя парады й дэманстрацыі. Парады мне, як «секачу» й «будучаму афіцэру», вядома, падабаліся. А вось ад дэманстрацый заўсёды рабілася сумна. Яшчэ ў восем гадоў.

І надвор'е чамусьці ў гэтыя дні кожны год выдавалася паганае. Мажліва, і было калі-небудзь на гэтыя святы добрае надвор'е, але нешта не прыпомню. Заўсёды адно: на дварэ — змрочна, холадна, аж у душу забіраўся холад. І б'еццa на пранізлівым, калючым ветры сцяг, і мне яго шкада й хочацца зняць. Здаецца, што замёрз ён, гэты бедны сцяг, — ну навошта, дзеля чаго яго вывесілі? Раз дзень такі, дык і вывешваць не трэба.

Ува мне ўзрастаў, так бы мовіць, пагодна-атмасферны антыкамунізм.

Але чаму расказаў я пра гэтыя «святы»? Навошта?

Відаць, адбітак нейкі наклалі яны на ўсё маё жыццё, які й растлумачыць не магу — што за ён дакладна (без маёй уласнай віны), і чаму, і калі ён пачаў на мяне накладвацца. Апрача ж бацькавых размоў, нічога й не чуў благога наконт камуністаў. Бацька мой, «рабацяга», быў у клане ізгоем. Усіх астатніх фартуна песціла.

Але вернемся нарэшце да вакна й чалавека насупраць яго.

Што было потым у гэтага чалавека? Пасля дзяцінства.

О, гэта зусім ужо доўгая гісторыя, а я не бачу за сабою права на расцягнутыя аповеды.

Была дзяўчына, быў снег, і яны пісалі на ім мыскамі ботаў, пісалі вялізнымі літарамі: «НЯХАЙ НАШ КОЛЕР БУДЗЕ ЗАЎЖДЫ ЧЫРВОНЫ!» Зноў быў снег, і ён ішоў па ім і еў яго, бо вусны гарэлі, і шаптаў, як вар'ят, заклён: «Няхай наш колер будзе заўжды чырвоны!..» Было лета, быў парк, і было дрэва, пад якім яны закапалі ліст у будучыню: «Няхай наш колер будзе заўжды чырвоны!» Іх агульны ліст. А яшчэ яны абое напісалі кожны свой ліст, са сваім прызнаннем, сваім спадзевам, сваім жаданнем-мараю, сваім закляццем... Яны запомнілі, дзе тое дрэва, на якіх прысадах, яны так кахалі адно аднаго, што не трэба было запісваць нумары і ўказальнікі, яны трымалі ў памяці і лічбы, і накірункі, ногі самі прывялі б іх да таго дрэва... Чаго толькі ў іх не было!.. Была ноч, і яны не спалі, яна ляжала адзетая й змушала яго глядзець на яе — да самага ранку, не даючы й вочы на хвілю заплюшчыць: ёй хацелася бачыць, як ён кахае яе... Ён мучыўся, ён пакутаваў, вочы ягоныя зліпаліся, але ён глядзеў — бо...

Бо тады ён ніколі не стаяў ля вакна, утупіўшыся ў няважна які двор застылым позіркам, тады ён нават падумаць не мог, што будзе калі-небудзь баяцца наступу дня, уздрыгваць, адчуўшы на сабе, захутаным з галавою ў коўдру, сонечны прамень...

А потым — гэта ж так часта бывае ў жыцці, калі каханне хоча зберагчы сябе хоць у памяці сваіх абраннікаў,— яны рассталіся. Прайшоў год, два, тры, ён не памятае колькі, і дарога да дрэва забылася. Аднаго дня ён захацеў прачытаць, што яна сказала яму ў сваім лісце. Сам ён напісаў: «Мы заўжды будзем разам». Ён досыць лёгка знайшоў прысады, але дрэва так і не адшукаў. О, як шкадаваў тады ён, што яны не закапалі гэтыя лісты ў лесе: там можна было б капаць у запомненай мясціне пад кожным дрэвам, а дзе ж ты будзеш капаць пад кожным дрэвам, нават калі гэтых дрэў толькі пяць ці сем, у парку?

Ён хацеў прачытаць, што напісала яна, бо тады яму ўпершыню ў жыцці стала па-сапраўднаму блага без блізкага чалавека. А яна была ўжо далёка-далёка, ён нават не ведаў дзе, ведаў толькі, што далёка, і ўжо замужам, і мае двое дзяцей.

А потым прайшло яшчэ некалькі гадоў, і ён трапіў у гэты парк з жанчынаю, не любай яму, для яго не прыгожай, дый увогуле не задужа пагляднай,— ён проста сустракаўся, спаў з ёю, спаў толькі ўдзень, бо ўначы і яму, і ёй трэба было вяртацца дахаты, яму — да жонкі, ёй — да мужа, а сустракаўся ён і спаў з ёю таму, што з жонкаю блага было, ва ўсім блага... Калі ён трапіў з гэтай жанчынаю ў той парк, у іх быў нейкі шалёны юр, можа, таму, што са злосці-крыўды ён быў п'яны, а яна проста запальвалася імгненна, бо была ўжо кабетаю на схіле жаночых дзён і нейкі чорт у ёй усхадзіўся, дый муж у яе, як яна сказала...

Была зіма, і было шмат снегу, і дрэва тое было дзесьці непадалёк, яны спыніліся акурат каля тых прысадаў, і ён расшпіліў ёй кофту, а яна сама загаліла грудзі, і тут... І тут ён заўважыў, што мядзведзяў, гіпсавых мядзведзяў, якія стаялі ля гэтых прысадаў, мядзведзяў, да якіх ён з той, з дзяўчынаю, на якую глядзеў усю ноч, заўсёды прыходзіў на спатканне, калі яна прыязджала да яго з іншага, далёкага горада,— мядзведзяў гэтых няма. Ён здранцвеў, утупіўся застылым позіркам у пустэчу, а жанчына, з агаленымі на марозе грудзьмі, спалохана пазірала на яго: «Што з табою?»

Ён стаяў і разумеў, што ніколі ўжо болей не ўбачыць тае, першае свае дзяўчыны, бо нават калі й даведаецца, дзе яна жыве, дык жонка з дому не выпусціць ляцець за блізкі свет, не здолее ён падмануць жонку, дый ці трэба яе падманваць?.. Усё роўна —тых літараў на снезе ўжо не напішаш і напісанае не спраўдзіш... Ён раптам нібыта азвярэў, і паваліў тую кабету ў снег, і ўзяў яе, груба, жывёльна, хутка, і — Божа! — ёй было прыемна, ёй было неверагодна прыемна, яна крычала й прасіла яго кусаць ёй грудзі, а ён валодаў ёю і ў глыбіні душы хацеў забіць яе, а яшчэ больш хацеў забіць самога сябе, але ведаў, што не заб'е ніколі...

А потым яны ішлі з парка цераз раку, яна вяла яго пад руку й гаварыла яму, якое прыгожае неба, якія зоркі на ім, што гэта й ёсць шчасце, дзеля якога варта жыць, а ў яго ў скронях стукала адно: «Мядзведзяў болей няма... Мядзведзяў болей няма...» Прыйшоўшы дахаты, ён згадаў тое, чаму не надаў значэння ў парку: ён памачыўся там на чысты белы снег, бо не мог вытрываць, да таго абапіўся півам, памачыўся на той, *той*, **той**, т о й, ТОЙ снег — і здавалася, галава ўжо болей не вытрымае...

Галава вытрымала.

Але жоўты колер белага снегу стаяў у яго перад вачыма ўсю ноч.

А жонка адно запыталася:

—Ты дзе гэта быў, коцік?

—У каханкі! — не вытрымаўшы, кінуў ён ёй.

—Якія дурныя ў цябе жарты,— павяла яна недаўменна галавою і не стала болей ні аб чым распытваць.— Есці хочаш? Там табе мама галубцоў прынесла... Ты ж любіш маміны галубцы...— І заснула.

А ён пасунуўся на кухню есці цешчыны галубцы. А назаўтра пайшоў у лазню са сваім цесцем —намеснікам міністра, які ўладкаваў яго ў гэтым жыцці, і цёр, цёр, цёр яму спіну. Мачалкаю, да страхотнай чырвані, бо так яму, цесцю, падабаецца. Парыў і цёр, парыў і цёр. За тое, што ў жыцці ўладкаваў. Парыў і цёр і думаў, што сёння ж усё кіне, і згадваў знаёмага, якога нядаўна сустрэў,— той у гаражы ў сябра жыве, дыхаць, кажа, няма чым у сям'і, не магу больш маніць... І ён таксама думаў, што адпарыць вось сёння цесця, разатрэ яму спіну хоць у кроў і пойдзе; у яго ж свой гараж ёсць і свая машына, якія дастануцца яму пры гіпатэтычным падзеле маёмасці, яны з жонкаю гэта ўжо не раз абгаворвалі,— і нікуды не пайшоў. Бо як пайсці жыць у гараж, нават у свой? Калі ёсць усё, за што прывык хавацца ад праўды й чым нават ганарыцца навучыўся. Гняздо, якое ты звіў, на якое жыццё паклаў. Не, лягчэй прывыкнуць, чым прызнацца сабе, што ўсё, чым жывеш ты ў гэтым гняздзе,— хлусня, якую ты некалі так ненавідзеў...

У цябе плаўнікі выраслі, зразумеў ён раптам. Гэта рыба не можа жыць у брудной вадзе. А ты можаш. Ты — ці ўвогуле чалавек? — такая істота, якая да ўсяго прывыкае.

І тут ён сам сабе зарагатаў.

Жонка прачнулася й спалохана ўтупілася ў яго. Яна заўсёды падазравала, што ён «з прыветам». Ёй жа ніхто не перашкаджае раз на год ехаць на поўдзень адной, бо яна вычытала ў амерыканскіх псіхааналітыкаў («Слова якое прыдумалі! — шалеў ён, калі яна расказвала аб прачытаным у іх.— Хіба ж можна прааналізаваць псіхіку?!»), што сужэнцы раз на год павінны расставацца на нейкі час, каб адпачыць адно ад аднаго... Дык вось, ёй жа ніхто не перашкаджае прыязджаць з гэтага поўдня пышнай, сакавітай, задаволенай і млява, прытворна-пяшчотна ўсміхацца, пацалаваўшы яго: «Як сумавала я без цябе, коцік... А ты, ты сумаваў без мяне?» — «Пэўна ж, дарагая»,— адказваў ён, ненавідзеў сябе — і разумеў сябе...

Яму даўно ўжо было напляваць на ўсё, што з ёю звязана, толькі ўсё-такі цяжка бычыць на

ёй увесь гэты пляжны бруд... Але ён маўчаў, абы не чапала. Абы ў душу не лезла. А часам так хацелася раптам, каб залезла — усёй рукою! Сказала б хоць што-небудзь. Можа, штосьці ўсплыло б тады на паверхню бруднай вады — чалавечае... Бо што за гэтым брудам убачыш, апрача таго, што жыццё пустое й праходзіць у хлусні, двудушшы, здрадзе, у вязніцы, якую ты сам сабе збудаваў.

Яна яму світар вяжа, у падарунак на які-небудзь Новы год ці дзень нараджэння, а ён яго ціха так ненавідзіць... Глядзець не можа, як вяжацца ён, глядзець не можа на рукі яе, што так спрытна маніпулююць спіцамі, нават на самі спіцы, а потым носіць гэты світар — і нічога, нават прыемна бывае, калі калегі па працы ўхваляюць жончыны рукі й густ...

Дык вось — ён зарагатаў сам сабе. Бо раптам падумаў:

«У мяне ж патэльня без здору смажыць, вось у чым справа! Усё ў мяне ёсць, нават патэльня без здору смажыць! Вось чаго я ў гэтым жыцці дасягнуў. Ці магла падумаць калі-небудзь пра такое мая бедная мама, якая доўгія гады і ўзімку есці гатавала ў хляўчуку, бо не хацела завіхацца побач з свякрухаю на кухні ў хаце, не хацела замінаць ёй...»

А потым ён аднойчы не вытрымаў і абазваў цесця прыстасаванцам, жулікам, прайдохам, махляром, шахраем, чмутом, аферыстам, бандзюгам, злачынцам, эсэсаўцам — кім толькі ён яго не назваў! — і калі ўжо цесць усчырванеў з твару больш, як у лазні, і нагаварыў яму ў сваю чаргу, што зяцёк ягоны —паслаў жа Бог! — алкашня «падзаборная», нікчэмнасць, рубля парванага без яго, цесця, не каштуе,— «Дарма, што ты мне спіну трэш, думаеш, я не разумею?» — ён заляпіў цесцю такую поўху, што стары грымнуўся на падлогу...

Потым быў мір. Сарамлівая цішыня за сталом, пяцізорачны «Арарат», ікра чырвоная й чорная і камандзіроўка за мяжу, і не куды-небудзь, а ў Данію,— цесцем, вядома, зробленая... І павышэнне па службе — істотнае павышэнне, цераз галаву. Ты толькі, зяцёк, не шумі. Я сам калісь шумеў, сказаў яму цесць шэптам на кухні, ужо на добрым падпітку. Ты думаеш, я яе, старую каргу, кіўнуў ён у бок гасцёўні, не ведаю? Думаеш, не ведаю, што гэта за штучка была?.. І яму, зяцьку, было сорамна, і яны цалаваліся, і нават плакалі, жаліліся адзін аднаму на жыццё, але аднаго не заўважалі: яны ж адзін аднаму самі на сябе жаляцца...

А калі пайшоў цесць, жонка, сама ўпітая, сказала яму нешта абразлівае, і ён збіў яе на горкі яблык. Яна два тыдні на працу выйсці не магла — твар сіні быў. Кідалася не тое што на развод — у суд падаваць. Але прыйшоў цесць, крычаў, лямантаваў, роў, трэс перад самым яе носам нейкімі паперамі, паводле якіх зяцёк едзе ў Данію на тры месяцы, і сам нарэшце, не вытрымаўшы яе енку, гэтак заехаў дачцэ ў вуха, што яна ажно пакацілася. Вішчэла, вішчэла — і сціхла.

А ён ёй з Даніі такое футра прывёз, што ў яе аж вочы на лоб вылезлі і яна ўмомант забылася на той страшны мардабой. Нават новы відзік разам глядзелі, які ён з той самай Даніі прывёз,—стары на кухню перанеслі,— глядзелі, вядома, парнуху, з тае ж Даніі, і займаліся ўсім гэтым, што бачылі на экране,— усю ноч, да ачмурэння.

Але пад золак, калі яна прасіла: «Яшчэ, яшчэ!» — ён раптам здранцвеў і ўсё ў ім памерла.

Мядзведзяў болей няма, згадаў ён.

І снег — жоўтага колеру.

—Ну чаму так заўсёды — снег становіцца жоўты?! —зароў ён раптам, калі ўвесь дом яшчэ спаў, зароў так, што ажно сабака ў кватэры наверсе забрахаў,— і яна спалохана адсунулася ад яго да сцяны, забілася ў кут.

І шмат яшчэ чаго было ў ягоным жыцці...

Пра каго расказваю я? Пра яго? Пра сябе? Пра нас абодвух?

Ён стаіць ля вакна.

Я стаю ля вакна.

Багата хто з маіх знаёмых стаіць ля вакна. З тых, што душу сваю хоць крыху раскрывалі мне ці чыю душу я й сам без расповедаў бачыў.

А нехта ніколі не стаіць.

Толькі чаму і праўда так часта снег з гадамі становіцца жоўты?..



# Міхаіл БАХЦІН

## ЁН



Нельга давесці сваё alibi
ў падзеі быцця.

Самасвядомасць індывіда
ёсць толькі высверк
у замкнутым ланцугу
гістарычнага жыцця.

Няма нічога
абсалютна мёртвага:
у кожнага сэнсу будзе сваё
свята адраджэння.

Нічога апошняга
ў свеце яшчэ не адбылося,
апошняе слова свету
і пра свет
яшчэ не вымаўлена,
свет адкрыты і вольны,
яшчэ ўсё наперадзе
і заўсёды
будзе наперадзе.

## *Пра ЯГО*

АЎТАР І ГЕРОЙ У ЭСТЭТЫЧНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

ТВОРЧАСЦЬ ФРАНСУА РАБЛЕ
І НАРОДНАЯ КУЛЬТУРА СЯРЭДНЯВЕЧЧА І РЭНЕСАНСУ

ВІЦЕБСК. ЧАСОПІС. БАХЦІН.

БАХЦІН і ЗАХАД
ЗАХАД і БАХЦІН

# Пра ЯГО

*Міхаіл Бахцін, сын арлоўскага купца Міхаіла Бахціна і ягонай законнай жонкі Варвары Захаравай (абодва праваслаўныя), нарадзіўся ў 1895 годзе.*

*Аднак тут мімаходзь заўважым, што ў кнізе, якую Бірменгенскі універсітэт прысвяціў старэйшаму брату Міхаіла —Мікалаю, гаворыцца аб прыналежнасці Мікалая да шляхецкага роду. Па словах вядомага маскоўскага літаратара Вадзіма Кожынава, калі ён пытаўся ў Міхаіла Бахціна аб ягоным паходжанні, той ухіліўся ад пэўнага адказу.*

*Недзе летам 1905 года бацьку Міхаіла пераводзяць па службе з Арла ў Вільню. Разам з ім пераязджае і ўся сям'я. Міхаіл паступае вучыцца ў Віленскую першую мужчынскую гімназію. Гэтая гімназія была заснаваная ў 1803 годзе, мясцілася ва ўласным будынку, мела падрыхтоўчы клас, два аддзяленні, два інтэрнаты, вучнёўскі летнік. Дырэктарам гімназіі быў стацкі саветнік Павел Яхантаў, які скончыў курс Санкт-Пецярбургскага гісторыка-філалагічнага інстытута і выкладаў лаціну.*

*Два гады запар Міхаіл лічыцца ў спісе вучняў першага класа. Магчыма, дрэнна вучыўся, але больш верагодна, што хварэў.*

*Прыкладна ў сярэдзіне 1911 года Бахціны пакінулі Вільню і пераехалі ў Адэсу. Міхаіл працягваў вучобу ў 4-ай гарадской гімназіі.*

*Што да вучобы Міхаіла Бахціна ў Наварасійскім (Адэскім), а затым Пецярбургскім універсітэтах (1913—1918), то тут пакуль у даследчыкаў няма пэўнасці. Да таго ж самым апошнім часам М.Панькоў высунуў версію, згодна якой Міхаіл Бахцін, магчыма, так і не атрымаў вышэйшай адукацыі, а ягоныя сцверджанні пра заканчэнне Пецярбургскага універсітэта—містыфікацыя.*

*У 1920 годзе Міхаіл Бахцін зноў апынуўся на Беларусі і прабыў тут (г. Віцебск) да 1925 года.*

*Р.Міркіна, якая ў Віцебску слухала лекцыі Міхаіла Бахціна, апісвае яго так: «Гэта быў малады чалавек гадоў дваццаці сямі, даволі высокі, зграбны, з русымі, гладка зачэсанымі назад доўгімі валасамі, насуперак модзе той пары. Спачатку ён хадзіў голеным, потым адпусціў нядоўгую і негустую бараду. На бляклым твары з вельмі высокім ілбом з глыбокімі залысінамі — цёмна-карыя вочы з мяккім, уважлівым поглядам і трохі загадкавай усмешкай...»*

*Калі верыць сведкам, публічныя лекцыі Міхаіла Бахціна карысталіся вялізным поспехам сярод віцебскіх інтэлігентаў.*

*Міхаіл Бахцін з жонкай Аленай Аляксандраўнай (Акаловіч) жыў на Смаленскай вуліцы, працаваў выкладчыкам у Віцебскай народнай кансерваторыі, часта і падоўгу хварэў. «У мяне зноў бяда: пасля тыфусу сталася запаленне касцянога мозга ў правай назе, давялося перанесці аперацыю і цяпер я ляжу ў шпіталі; давядзецца пралежаць, верагодна, яшчэ тыдні два. У Віцебску мне страшэнна не шанцуе, я амаль увесь час ляжу ў ложку, вельмі хочацца адсюль з'ехаць» (з ліста Мацвею Кагану. 1921 г.).*

*Як бачым, Віцебск быў для Міхаіла Бахціна часовым прытулкам, аднак не выпадковым, пра што сведчаць наступныя радкі таму ж адрасату: «Нешта падобнае на акадэмічны асяродак можна было знайсці толькі ў сталіцах, але цяпер і там яго няма. Гэтак жа сумна складаюцца абставіны і з аўдыторыяй; калі ў Вас ат-*

# АЎТАР І ГЕРОЙ У ЭСТЭТЫЧНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ

*ФРАГМЕНТ**

Праблема аўтара

<...>

Эстэтычна творчыя адносіны да героя і яго свету ёсць адносіны да яго як да маючага памерці (moriturus), процістаўленне яго сэнсаваму напружанню ратаўнічага завяршэння; для гэтага ясна трэба бачыць у чалавеку тое, чаго сам ён у сабе прынцыпова не бачыць, застаючыся ў сабе самім і ўсур'ёз перажываючы сваё жыццё, умельства падысці да яго не з пункту гледжання жыцця, а з іншай пазіцыі — пазажыццёва актыўнай. Мастак і ёсць умелец быць пазажыццёва актыўным, не толькі знутры прылучаны да жыцця (практычнага, сацыяльнага, палітычнага, маральнага, рэлігійнага) і знутры яго разумеючы, але і любячы яго звонку — стуль, дзе яго няма для сябе самога, дзе яно скіравана вонкі сябе і мае патрэбу ў пазамесцавай і пазасэнсавай актыўнасці. Боскасць мастака — у яго спрычыненасці пазамесцавасці вышэйшай. Бо гэтая пазамесцавасць падзеі жыцця іншых людзей ёсць... асаблівы і апраўданы від прылучанасці да падзеі быцця. Знайсці сутнасны падыход да жыцця звонку — вось задача мастака. Гэтым мастак і мастацтва ўвогуле ствараюць зусім новае бачанне свету, вобраз свету, рэальнасць смяротнай плоці свету, якую ніводная з іншых культурна-творчых актыўнасцяў не ведае. І гэтая знешняя (і ўнутрана-знешняя) пэўнасць свету, што знаходзіць сваё вышэйшае выяўленне і замацаванне ў мастацтве, спадарожнічае заўсёды нашаму эмацыянальнаму мысленню аб свеце і аб жыцці. Эстэтычная дзейнасць збірае рассеяны ў сэнсе свет і згушчае яго ў завершаны і самадастатковы вобраз, знаходзіць для праміналнага ў свеце эквівалент, што ажыўляе і ахоўвае яго, знаходзіць вартасную пазіцыю, з гледзішча якой прамінальнае свету набывае вартасную падзейную вагу, атрымлівае значнасць і ўстойлівую пэўнасць. Эстэтычны акт нараджае быццё ў новым вартасным плане свету, нараджаецца новы чалавек і новы вартасны кантэкст — план мыслення аб чалавечым свеце.

Аўтар павінен знаходзіцца на ўзмежку свету, што ім ствараецца...

Аўтар накіраваны на змест..., ён яго фармуе і вершыць, выкарыстоўваючы для гэтага пэўны слоўны матэрыял, паднапальваючы гэты матэрыял сваёй мастацкай задуме... Можна адрозніць у мастацкім творы тры моманты: змест, матэрыял, форму. Форма не можа быць зразумета незалежна ад зместу, але не можа быць незалежнай і ад прыроды матэрыялу і абумоўленых ёю прыёмаў. Форма абумоўлена дадзеным зместам і асаблівасцю матэрыялу і спосабамі яго апрацоўкі... Мастацкі прыём не можа быць толькі прыёмам апрацоўкі слоўнага матэрыялу..., ён павінен быць найперш прыёмам апрацоўкі пэўнага зместу, але пры гэтым з дапамогаю пэўнага матэрыялу. Лёгкадумна было б уяўляць сабе, што мастаку патрэбна адна толькі мова і веданне прыёмаў абыходжання з ёю..., і што мова і натхняе мастака, і ён выконвае на ёй усе магчымыя заданні, не выходзячы за межы яе **як мовы толькі**... Сапраўды, мову апрацоўвае мастак, але не як мову; як мову ён яе пераадольвае, бо яна не павінна ўспрымацца як мова ў яе лінгвістычнай пэўнасці... (Слова павінна перастаць адчувацца як слова). Паэт творыць не ў свеце мовы, мовай ён толькі карыстаецца. Адносна матэрыялу заданне мастака... можна вызначыць як **пераадоленне матэрыялу**... У матэрыяле пераадольваецца магчымае неэстэтычнае выяўленне яго: мармур павінен перастаць процістаяць як мармур..., ён павінен выяўляць пластычна формы цела, аднак жа не ствараючы ілюзіі цела, усё фізічнае ў матэрыяле пераадольваецца менавіта як фізічнае. Ці павінны мы адчуваць словы ў мастацкім творы менавіта як словы?.. Ці ёсць цэлае мастацкага твора ў сутнасці слоўным цэлым?.. Слоўнае цэлае, якое ўспрымаецца як слоўнае, праз тое не ёсць мастацкае. Але пераадоленне мовы, як пераадоленне фізічнага матэрыялу, мае зусім іманентны характар, яна (мова) пераадольваецца не праз адмаўленне, а праз **іманентнае ўдасканаленне** ў пэўным, патрэбным кірунку. (Мова сама па сабе вартасна індыферэнтная, яна заўсёды паслугач і ніколі не з'яўляецца мэтай...) Наіўна лічыць, што свет творчасці складаецца з навукова-абстрактных элементаў: аказваецца, што мы ўвесь час гаворым про-

* Пераклад зроблены з выдання «Бахтин М.М. Эстетика словесного творчества...— 2-е изд.— М.: Искусство, 1986». Згодна каментарыю, гэтая работа стваралася ў першай палове ці ў сярэдзіне 20-х гадоў у Віцебску і не была скончана.— *Рэд.*

# ВІЦЕБСК. ЧАСОПІС. БАХЦІН.

*Диалог. Карнавал. Хронотоп.—*
*Віцебск: Выдавецтва Віцебскага педінстытута N 1 — 1992 г., N 2 — 1993 г.*

Віцебск — гэта Беларусь без Беларусі, «адкрытая культурная зона», мяжа ўсяго з усім, дзе «нашае», топабыційнае згорнутае ў маргіналію этнаграфічнага дзіва і ўжо адно ў якасці гэтага дзіва роўніцца з іншымі дзівосамі, што досыць памяркоўна хаўрусуюцца тут між сабой.

Віцебск (у спрыяльных для яго гістарычных варунках) дэманструе нам, якой магла б быць уся Беларусь, каб не было Беларусі (зусім): у адным **хранатопе дыялог** «славянскага базару» з еўрапейскай **карнавальнай** традыцыяй...

Гэта ўжо іншая рэч, **што** ў нас саміх паўстае супраць такой Беларусі, дзе на адной вуліцы ў адну пару ганарова шпацыруюць у блакітную вечнасць Шагал, Бахцін, Малевіч, Кандзінскі, Салерцінскі, Юдзіна... а тутэйшы месціч тужліва туліцца да прыцемку сцяны... Гэта ўжо іншая рэч, **чаму** нам не даспадобы такая вось карнавальна-базарная Беларусь і **што** нас мусіць шукаць, выдумляць, ладзіць нейкую іншую... Якую?

Але не пра гэта цяпер гаворка.

З'яўленне перыядычнага часопіса ("Диалог. Карнавал. Хронотоп" планаваўся як штоквартальнік), цалкам прысвечанага адной постаці (расейскаму філосафу еўрапейскага кшталту Міхаілу Бахціну), у якім заўгодна горадзе Беларусі сёння сапраўды выдавала б на дзіва... У якім заўгодна, але не ў Віцебску... (Што, натуральна, не змяншае павагі да тых людзей, якія вымагаюцца, каб рэалізаваць гэты праект.)

Але акрамя, так бы мовіць, анталагічнай магчымасці, прытоенай у феномене места, была і рэальная падстава для такога выдання менавіта тут. Бахцін жыў у Віцебску з 1920 па 1925 год. Якраз у «віцебскі» перыяд, уласна філасофскі перыяд творчасці Бахціна (пазней «філасофія» ў яго будзе пераважна запакаванай у літаратуразнаўства), сфармаваліся пачаткі ці не большасці тых канцэптуальных ідэй, якія потым будуць разгортвацца на працягу ўсёй творчасці. І найперш — «культура мяжы», культура, як тое, што адбываецца, выяўляе сябе адно на мяжы ў **дыялогу** (Бахцін тады яшчэ не ўжываў гэтага апірышчнага для яго слова-філасафемы) з **другой** ("другі" — яшчэ адно з яго базавых слоў-філасафем) культурай.

Не станем спрошчваць і казаць, што ўладкаваны на памежжы культур ды ідэалагічна запачаткаваны на дыялогу з кожным, як з другім, Віцебск неяк непасрэдна паўплываў на фармаванне светаглядных канцэптаў Бахціна. Але і зусім выключаць фактар места (прысутнасці быцця ў чалавеку, як **падзеі быцця**), напэўна, было б таксама залішне катэгарычна...

Што да самога часопіса «навуковых росшукаў пра біяграфію,

*рымалася сабраць хаця б вузкае кола пастаянных слухачоў, то большага ў Расеі пры сучасных умовах і жадаць няма чаго. Леў Васільевіч ужо паўгода ў Петраградзе, але не знайшоў нават такой аўдыторыі, якая была ў яго ў Віцебску».*

*Нагадаем, што на той час у Віцебску сабралася столькі будучых сусветных знакамітасцяў, колькі тады мела не кожная еўрапейская сталіца: Бахцін, Шагал, Малевіч, Кандзінскі... У горадзе бруіла інтэлектуальнае жыццё, ладзіліся дыспуты, выставы, канцэрты, ствараліся суполкі, часопісы, тэатры...*

*Аднак у 1925 годзе Міхаіл Бахцін ужо ў Петраградзе. Гэты перыяд яго жыцця найперш адзначаны выхадам кнігі «Праблемы творчасці Дастаеўскага» (1929 г.). На кнігу адгукнуўся Луначарскі, былі і яшчэ рэцэнзіі, але калі мець на ўвазе, што дзякуючы менавіта гэтаму твору Міхаіл Бахцін стане сусветна вядомым філосафам, то давядзецца прызнаць, што кніга засталася неацэненай у дастатковай меры як у Савецкай Расіі, так і на Захадзе. Верагодна, што гэта нейкім чынам звязана і з арыштам Міхаіла Бахціна.*

*«Я прыгавораны да 5 г. саслання ў Салавецкі канцэнтрацыйны лагер. З 16 год я пакутую ад цяжкай хранічнай хваробы — множнага астэмаліту, які пашкодзіў галёнку і бядро левай нагі, кісць левай рукі і левы тазабёдраны сустаў. На працягу апошніх 8 год запаленне тазабёдранага сустава бывае па некалькі разоў на год і ўсялякі раз боль і высокая тэмпература прымушае мяне легчы на паўтара-два месяцы ў ложак. 27 чэрвеня гэтая знясільваючая хвароба ўскладнілася паранефрытам і 10 ліпеня мне была зроблена аперацыя ў бальніцы імя Урыцкага, што аднак не выбавіла мяне ні ад хваравітых пачуванняў, ні ад шырокага інфальтрата ў вобласці левай тазавай косткі. У гэты час я знаходжуся ў бальніцы Эрысмана пад наглядам дактароў-спецыялістаў. Я падаў заяву аб пераглядзе маёй справы ў адпаведныя органы пракуратуры, копію якой пры гэтым прыкладваю.*

*Зважаючы, што пры такім стане майго здароўя вынесены мне прысуд, калі ён застанецца ў сіле, безумоўна з'явіцца для мяне прысудам да павольнай і пакутлівай смерці,— прашу Вас аб прызначэнні лячэбнай камісіі для засведчання стану майго здароўя». (Заява ў Народны камісарыят аховы здароўя. 2.IX.29 г.)*

*У другой палове 30-х гадоў Міхаіл Бахцін шмат пераязджае з месца на месца: Кустанай, Саранск, Савелава, Кімры. Нягледзячы на неверагодна складаныя ўмовы, у 30—50 гады ён працягвае інтэнсіўна працаваць і стварае сваю другую фундаментальную кнігу «Творчасць Франсуа Рабле і народная культура сярэднявечча і Рэнесанса». (Першае выданне пабачыла свет у 1965 г.)*

*Пасля смерці Алены Аляксандраўны (1971 г.) Міхаіл Бахцін пражыў яшчэ чатыры гады, але, як сведчаць тыя, хто яго добра ведаў (В.Кожынаў), у дзень яе смерці ён зрабіўся «... другім чалавекам. Ён стаў зусім маленькім, выклікаў шкадобу... Так у ім уражвала нейкая манументальнасць, а смерць жонкі разбурыла яго дарэшты... Усё ж такі паўвека сумеснага жыцця... Дзяцей у яго не было, усіх родных раскідала па свеце... Жонка заставалася адзінай блізкай істотай... Ён нават потым расказваў, што ўвогуле збіраўся памерці, але ў апошні момант перадумаў».*

*Да гэтага фрагмента, здаецца, добра дапасуюцца наступныя словы Міхаіла Бахціна: «Асоба не памірае. Смерць ёсць адыход. Чалавек* сам *адыходзіць. Чалавек пайшоў, сказаўшы сваё слова, але само слова застаецца ў дыялогу, які ніколі не завершыцца».*

**Падрыхтаваў**
**Валянцін АКУДОВІЧ.**

зай, не падазраючы таго... Наіўна лічыць, што мы маем справу ў свеце з матэрыяй, з псіхікай, з матэматычным лікам, што яны судакранаюцца з сэнсам і мэтаю нашага ўчынку і могуць патлумачыць наш учынак, нашу творчасць... Гэтыя паняцці тлумачаць толькі матэрыял свету... (які) пераадольваецца ўчынкам і творчасцю... Трэба зразумець не тэхнічны апарат, а **іманентную логіку** творчасці, і найперш зразумець вартасна-сэнсавую структуру, у якой працякае і ўсведамляе сябе вартасна творчасць, зразумець кантэкст, у якім асэнсоўваецца творчы акт. Творчая свядомасць аўтара-мастака ніколі **не супадае** з моўнай свядомасцю, яна толькі момант, матэрыял, спрэс кіруемы чыста мастацкім заданнем... Асноўная задача — перадусім вызначыць мастацкае заданне і яго сапраўдны кантэкст, гэта значыць той вартасны свет, дзе яно ўзнікае і здзяйсняецца. З чаго складаецца свет, у якім мы жывём, дзеім, творым? З матэрыі і псіхікі? З чаго складаецца мастацкі твор? Са слоў, сказаў, раздзелаў..., старонак, паперы? У актыўна творчым кантэксце мастака ўсе гэтыя моманты займаюць не першае, а другое месца, не яны вартасна вызначаюць яго, а абумоўліваюцца ім.

Такім чынам, творчая свядомасць мастака не ёсць моўная свядомасць..., яна толькі пасіўны момант творчасці — матэрыял, што іманентна пераадольваецца... Адносіны мастака да слова як да слова ёсць другасны, вытворны момант, абумоўлены яго першаснымі адносінамі да зместу, гэта значыць да непасрэднай дадзенасці жыцця і свету жыцця... Мастак з дапамогаю слова апрацоўвае свет, дзеля чаго слова павінна быць пераадолена... Уласна слоўны стыль ёсць адлюстраванне мастацкага стылю; мастацкі стыль працуе не словамі, а момантамі свету і жыцця..., абумоўлівае і адносіны да матэрыялу, слова... Мастак стасуецца непасрэдна з прадметам як момантам падзеі свету — і гэта вызначае затым яго стаўленне да прадметнага значэння слова як чыста слоўнага кантэксту...

Падмена зместу матэрыялам (ці толькі схільнасць да такой падмены) знішчае мастацкую задуму, зводзячы яе да другаснага моманту — адносін да слова...

Але магчыма падмена сапраўды вартаснага кантэксту аўтара не слоўным, а літаратурным кантэкстам, гэта значыць моваю, ужо апрацаванай дзеля нейкага першаснага задання (даводзіцца дапусціць дзесь у абсалютнай мінуўшчыне першасны творчы акт, які адбываўся не ў літаратурным кантэксце, якога яшчэ не было). Згодна гэтай канцэпцыі, творчы акт аўтара адбываецца спрэс у чыста літаратурным вартасным кантэксце, ні ў чым не выходзячы за яго межы і спрэс ва ўсіх момантах толькі ім асэнсоўваючыся; тут ён вартасна нараджаецца, тут ён і заканчваецца, тут ён і памірае. Аўтар здабывае літаратурную мову, літаратурныя формы — свет літаратуры і нічога болей,— тут нараджаецца яго натхненне, яго творчае памкненне стварыць новыя пабудовы-формы, не выходзячы за межы літаратурнага свету. Сапраўды, бываюць творы, задуманыя, вынашаныя і народжаныя ў чыста літаратурным свеце, але гэтыя творы вельмі рэдка абмяркоўваюцца з прычыны іх поўнай мастацкай нікчэмнасці...

Аўтар пераадольвае ў сваёй творчасці чыста літаратурнае супрацiўленне чыста літаратурных старых формаў, звычак і традыцый, ніколі не сустракаючыся з супраціўленнем іншым, пры гэтым яго мэтай з'яўляецца стварэнне новай літаратурнай камбінацыі з чыста літаратурных жа элементаў, пры гэтым і чытач павінен «адчуваць» творчы акт аўтара толькі на фоне звыклай літаратурнай манеры, гэта значыць ні ў чым не выходзячы за межы вартасна-сэнсавага кантэксту матэрыяльна зразуметай літаратуры. Сапраўдны творчы вартасна-сэнсавы кантэкст аўтара, асэнсоўваючы яго твор, якраз не супадае з чыста літаратурным кантэкстам; гэты апошні ўваходзіць у першы, але якраз не з'яўляецца тут вызначальным... Літаратурная пазіцыя вызначаецца больш асноўнай пазіцыяй аўтара ў падзеі быцця, у каштоўнасцях свету... Можна сказаць: формы мастацкага бачання і вяршэння свету вызначаюць знешнелітаратурныя прыёмы; архітэктоніка мастацкага свету вызначае кампазіцыю твора, а не наадварот. Даводзіцца змагацца са старымі ці не старымі літаратурнымі формамі, карыстацца імі і камбінаваць іх, пераадольваць іх супраціўленне ці знаходзіць у іх апірышча, але ў аснове гэтага руху ляжыць самая сутнасная, вызначальная, **першасная мастацкая барацьба** з пазнавальна-этычнай накіраванасцю жыцця і яго супраціўленнем; тут кропка вышэйшага напружання творчага акта мастака, калі ён з'яўляецца **першым мастаком**, гэта значыць непасрэдна сутыкаецца і змагаецца з сырой пазнавальна-этычнай жыццёвай стыхіяй, хаосам..., і толькі гэта сутыкненне высякае чыста мастацкую іскру.

**Міхаіл БАХЦІН**

тэарэтычную спадчыну і эпоху Міхаіла Бахціна», то тыя два нумары, якія мы маем на руках, яшчэ не даюць падставаў для нейкага сур'ёзнага аналізу і акцэнтаваных на нечым высноваў (пакуль даволі таго, што часопіс распачаўся). Адно вось на што хацелася б звярнуць увагу. У дэкларацыях, якія папярэднічалі выхаду часопіса, згадвалася, што ён будзе друкавацца і на беларускай мове. А ў другім нумары нават пазначана, што 500 асобнікаў надрукавана па-беларуску. Праўда, ні я, ні мае знаёмцы тых беларускіх асобнікаў не бачылі, але калі гэта сапраўды так і яны існуюць рэальна — то шкада... дарэмнай працы... Механістычны пераклад-калька (а іншае ў Віцебску не магчыма таму, што немагчыма) дзеля нейкіх кан'юнктурных ці хай сабе і «благіх» мэтаў нічога не дадасць беларускасці, бо беларускасць — гэта не тое, што ёсць, а тое, што адбываецца, не тое, што марнее ў каморцы/архіве, а тое, што дзеіцца, тое, што выпінае, тое, што мусіць...

Так, часопіс узнік у нашай топакультуры, але не з турбот нацыянальнага духу ён паўстаў, не да праблемаў беларускага мыслення ён звернуты. Да таго ж у модулі «Диалога. Карнавала. Хронотопа» не закладзена хаця б магчымасць **дыялогу** з культуралагічным дыскурсам Беларусі, і гэта засмучае куды больш, чым мова выдання ці нічым не ўтаймаваная эклектыка (апошняе, ёсць надзея, паступова пераадолеецца).

("НН". 1994. N 3.)

**Валянцін АКУДОВІЧ**

# ТВОРЧАСЦЬ ФРАНСУА РАБЛЕ І НАРОДНАЯ КУЛЬТУРА СЯРЭДНЯВЕЧЧА І РЭНЕСАНСУ

*/Пастаноўка праблемы/*

З усіх вялікіх пісьменнікаў сусветнай літаратуры Рабле ў нас найменш папулярны, найменш вывучаны, найменш зразуметы і ацэнены.

А між тым Рабле належыць адно з самых першых месцаў у шэрагу вялікіх стваральнікаў еўрапейскай літаратуры. Бялінскі называе Рабле геніяльным, «Вальтэрам XVI стагоддзя», а ягоны раман — адным з лепшых раманаў мінулай пары. Заходнія літаратуразнаўцы і пісьменнікі звычайна ставяць Рабле — па яго мастацка-ідэалагічнай моцы і па яго гістарычным значэнні — непасрэдна пасля Шэкспіра ці нават побач з ім. Французскія рамантыкі, асабліва Шатабрыян і Гюго, адносілі яго да найвялікшых «геніяў чалавецтва» усіх

# БАХЦІН і ЗАХАД

*/Фрагменты/*

... Амаль нікому не вядомы трыццаць год назад кандыдат філалагічных навук з Саранскага педінстытута (цяпер універсітэта) сёння ўсведамляецца на Захадзе як буйнейшы расейскі філосаф XX ст. і, больш за тое,— у якасці ключавой (пасля Дастаеўскага і Бярдзяева) фігуры расейскай духоўна-ідэалагічнай культуры ўвогуле.

***

... Бахцін (дакладней, бахцінскі «дыялагізм») становіцца цяпер, па-

водле выказвання найбольш аўтарытэтнага даследчыка і біёграфа Бахціна, прафесара Йельскага універсітэта (ЗША) Майкла Холквіста, «адкрытай падзеяй» нашага часу менавіта ў якасці падзеі і праблемы «заходняга мыслення», як нейкі трансдэдуктыўны момант самасвядомасці амерыканскіх, канадскіх, англійскіх, італьянскіх, нямецкіх і ўвогуле ўсіх гуманітарыяў ды інтэлектуалаў ад Прыстана да Пекіна.

***

Для таго, каб даць цяпер папярэдняе ўяўленне пра тое, у якой меры і ў якім сэнсе «адкрытая падзея», аб якой казаў М.Холмквіст, з'яўляецца *праблемнай* падзеяй, мэтазгодна сабраць як бы ў адзін фокус рэальнае мноства супярэчлівых выказванняў ды ідэй вакол Бахціна на Захадзе і выкласці своеасаблівы гранічны сэнсавы вобраз бахцінскага аўтарства, рэальна існуючы паміж рознымі гледжаннямі, кругаглядамі, ідэалагічнымі групоўкамі і «галасамі». Перад намі тады паўстане зусім фантастычнае, накшталт «фантастычнага рэалізму» Дастаеўскага і «гратэсковага рэалізму» самога Бахціна, сумяшчэнне несумяшчальных, як бы наўмысна палярных выяўленняў, якія, у чыста дагматычным плане, вельмі лёгка раз'ядноўваюцца на падазрона сіметрычныя парныя групы, якія ў цэлым складаюць нейкую гратэскнакамічна-жудасную пародыю на сучасную «нармальную» навуку з яе «бінарнымі апазіцыямі», а ў навуковым мысленні самога Бахціна называюцца «двуцэлым целам сэнсу». Вось некаторыя асноўныя з гэтых «апазіцый»:

—З аднаго боку, Бахцін — гэта найрадыкальны рэфарматар гуманітарнага мыслення Новага часу, які таясаміцца з усімі «героямі-ідэолагамі» XX стагоддзя. З другога — трансідэолаг «падполля» ў культуры XX ст., у сутнасці голас з усіх галасоў і моў яе, няўлоўны ні ў адным з іх.

—З аднаго боку, мысляр і навуковец, які прадбачыў цэлыя накірункі і парадыгмы мыслення «бадзёрага новага свету» мадэрнізму і постмадэрнізму,— і, з другога боку, загадкавы «рускі», які дыялагічна аспрэчыў і «зняў» гэтыя накірункі, парадыгмы ды ідэалагемы яшчэ да іх «афіцыйнага» з'яўлення на свет.

—Апанент практычна ўсіх сваіх папярэднікаў, сучаснікаў і постсучаснікаў: Платона і Ніцшэ, Канта і Гегеля, Маркса і Фрэйда, Лукача і Хайдэгера, Сартра і Адорно, В.Шклоўскага і Ж.Дэрыда, Дэкарта і Плоціна, Бярдзяева і Фларэнскага, Р.Барта і М.Фуко, а з другога боку — неспасцігальны ў сваёй іншасці «другі», чыё гледзішча мае — у поўнай адпаведнасці з ягонымі тэорыямі «дыялогу» і «карнавальнай амбівалентнасці» —здольнасць пераствараць усе тыя пункты погляду,

часоў і народаў. Яго лічылі і лічаць не толькі вялікім пісьменнікам у звычайным сэнсе, але і мудрацом і прарокам. Вось вельмі паказальнае меркаванне пра Рабле гісторыка Мішле:

«Рабле збіраў мудрасць у **народнай стыхіі правінцыйных гавораў, прымавак, прыказак, школьных фарсаў, з вуснаў дурняў і блазнаў.** Але, пераламляючыся праз гэтае **блюзнерства**, раскрываецца ва ўсёй сваёй велічы геній века і яго **прарочая сіла**. Усюды, дзе ён яшчэ не знаходзіць, ён **прадбачыць**, ён абяцае, ён накіроўвае. У гэтым гушчары сноў пад кожным лістком тояцца плады, якія збярэ будучыня. Уся гэта кніга ёсць **«залатая галіна»** (тут і ў наступных цытатах выдзелена мною.— *М.Б.*).

Усе падобнага роду меркаванні і ацэнкі, натуральна, умоўныя. Мы не збіраемся вырашаць тут пытанні пра тое, ці можна ставіць Рабле побач з Шэкспірам, ці вышэй ён за Сервантэса альбо ніжэй і да т.п. Але гістарычнае месца Рабле ў шэрагу гэтых стваральнікаў новых еўрапейскіх літаратур, а значыць, у шэрагу: Дантэ, Бакаччо, Шэкспір, Сервантэс,— ва ўсялякім разе, апошняе не падлягае ніякаму сумненню. Рабле істотна паўздзейнічаў на лёс не толькі французскай літаратуры і французскай літаратурнай мовы, але на лёс сусветнай літаратуры (верагодна, не ў меншай ступені, чым Сервантэс). Не падлягае таксама сумненню, што ён — **найдэмакратычны** сярод гэтых пачынальнікаў новых літаратур. Але самае галоўнае для нас у тым, што ён больш цесна ды больш істотна, чым другія, звязаны з **народнымі вытокамі**, прытым — спецыфічнымі (Мішле пералічвае іх даволі дакладна, хаця і не зусім поўна); гэтыя вытокі вызначылі ўсю сістэму яго вобразаў і яго мастацкае светабачанне.

Менавіта гэтай асобнай і, так бы мовіць, радыкальнай народнасцю ўсіх вобразаў Рабле і тлумачыцца тая выключная насычанасць іх будучыняй, якую зусім правільна падкрэсліў Мішле ў згаданым меркаванні. Ёю ж тлумачыцца і асобная «нелітаратурнасць» Рабле, гэта значыць неадпаведнасць ягоных вобразаў усім пануючым з канца XVI стагоддзя і да нашага часу канонам і нормам літаратурнасці, як бы ні мяняўся іх змест. Рабле не адпавядаў ім у непараўнальна большай ступені, чым Шэкспір ці Сервантэс, якія не адпавядалі толькі параўнальна вузкім класіцысцкім канонам. Вобразам Рабле натуральна нейкая асаблівая прынцыповая і незнішчальная «неафіцыйнасць»: ніякі дагматызм, ніякая аўтарытарнасць, ніякая аднабаковая сур'ёзнасць не могуць ужыцца з раблезіянскімі вобразамі, варожымі ўсякай завершанасці і ўстойлівасці, усякай абмежаванай сур'ёзнасці, усякай гатоўнасці і вырашанасці ў сферы думання і светагляду.

Адсюль — асаблівая адзінота Рабле ў наступных стагоддзях: да яго нельга падысці ні па воднай з тых вялікіх і набітых дарог, па якіх ішлі мастацкая творчасць ды ідэалагічная думка буржуазнай Еўропы на працягу тых чатырох стагоддзяў, што аддзяляюць яго ад нас. І калі на працягу гэтых стагоддзяў мы сустракаем шмат захопленых творчасцю Рабле, то якога-небудзь поўнага і выказанага разумення яго мы нідзе не знаходзім. Рамантыкі, што адкрылі Рабле, як яны адкрылі Шэкспіра і Сервантэса, не змаглі яго, аднак, раскрыць, і далей за эмацыйныя водгукі справа не рушыла. Шмат каго Рабле адштурхваў і адштурхвае. А большасць яго проста не разумее. Па сутнасці, вобразы Рабле яшчэ і па сёння шмат у чым застаюцца загадкай.

Адгадаць гэтую загадку можна толькі шляхам глыбокага вывучэння **народных вытокаў Рабле**. Калі Рабле падаецца такім адзінокім і ні на кога не падобным сярод іншых прадстаўнікоў «вялікай літаратуры» апошніх чатырох стагоддзяў гісторыі, то на фоне правільна раскрытай народнай творчасці, насупраць,— хутчэй гэтыя чатыры стагоддзі літаратурнага развіцця могуць падацца чымсьці спецыфічным і ні на што не падобным, **а вобразы Рабле апынуцца ў сябе дома ў тысячагоддзях развіцця народнай культуры.**

Рабле — найцяжэйшы з усіх класікаў сусветнай літаратуры, паколькі ён патрабуе для свайго ўразумення істотнай перабудовы ўсяго мастацка-ідэалагічнага ўспрымання, патрабуе здольнасці забыцца на многія глыбока ўгрунтаваныя патрабаванні літаратурнага густу, перагляда многіх паняццяў, а галоўнае —ён патрабуе глыбокага пранікнення ў мала і павярхоўна вывучаныя вобласці народнай смехавой **творчасці**.

Рабле складаны. Але затое яго твор, правільна раскрыты, праменіць адваротнае святло на тысячагоддзі развіцця народнай смехавой культуры, найвялікшым выразнікам якой у вобласці літаратуры з'яўляецца ён сам. У гэтым сэнсе значэнне Рабле вялізнае; ягоны раман павінен стацца ключом да мала вывучанай і амаль зусім не зразуметай грандыёзнай скарбніцы народнай смехавой творчасці. Але найперш патрэбна гэтым ключом авалодаць.

Задача гэтых уводзін — паставіць праблему народнай смехавой культуры сярэднявечча і Адраджэння, вызначыць яе аб'ём і даць папярэднюю характарыстыку яе своеасаблівасці.

Народны смех і яго формы — гэта, як мы ўжо казалі, найменш вывучаная вобласць народнай творчасці. Вузкая канцэпцыя народнасці і фальклору, якая склалася ў эпоху прадрамантызму і была завершанай у асноўным Гердэрам і рамантыкамі, амаль зусім не змяшчала ў сваіх рамках спецыфічна народна-карнавальнай культуры і народнага смеху ва ўсім багацці яго праяў. І ў далейшым развіцці фалькларыстыкі і літаратуразнаўства народ, які смяецца на плошчы, так і не зрабіўся прадметам якога-кольвечы ўважлівага і глыбокага культурна-гістарычнага фалькларысцкага і літаратуразнаўчага вывучэння. У багатай навуковай літаратуры, якая прысвечана абраду, міфу, лірычнай і эпічнай народнай творчасці, смехавому моманту адводзіцца толькі самае сціплае месца. І тут найбольшая бяда ў тым, што спецыфічная прырода народнага смеху ўспрымаецца зусім скажона, бо да яго прыкладваюцца ненатуральныя яму ўяўленні і паняцці пра смех, што склаліся ва ўмовах буржуазнай культуры і эстэтыкі новага часу. Пагэтаму можна без перабольшання сказаць, што глыбокая своеасаблівасць народнай смехавой культуры мінулага да гэтай пары застаецца цалкам нераскрытай.

Між тым і аб'ём, і значэнне гэтай культуры ў сярэднія вякі і ў эпоху Адраджэння былі вялізнымі. Цэлы неаглядны свет смехавых формаў і праяў супрацьстаяў афіцыйнай і сур'ёзнай (па сваім тоне) культуры царкоўнага і феадальнага сярэднявечча. Пры ўсёй разнастайнасці гэтых формаў і праяў — святы карнавальнага тыпу, асобныя смехавыя абрады і культы, блазны і дурні, веліканы, карлікі, страшыдлы, скамарохі рознага роду і рангу, вялізная і шматстайная парадыйная літаратура і многае іншае —усе яны, гэтыя формы, валодаюць адзіным стылем і з'яўляюцца часткамі і часцінкамі адзінай і цэласнай народна-смехавой карнавальнай культуры.

Усе шматаблічныя праявы і выяўленні народнай смехавой культуры можна паводле іх характару падзяліць на тры асноўныя віды формаў:

1. Абразліва-відовішчныя формы (святы карнавальнага тыпу, розныя смехавыя дзеі на плошчы ды інш.);

2. Моўныя смехавыя (у тым ліку парадыйныя) творы рознага роду: вусныя і пісьмовыя, на лаціне і на народных мовах;

3. Розныя формы і жанры фамільярна-карнавальнай мовы (лаянка, бажба, праклён, блюзнерства ды інш.).

Усе гэтыя тры віды формаў, якія адлюстроўваюць — пры ўсёй іх адрознасці — адзіны смехавы аспект свету, цесна ўзаемазвязаныя і шматразова пераплятаюцца адзін з другім.

Дадамо папярэднюю характарыстыку кожнаму з гэтых відаў смехавых формаў.

***

Святы карнавальнага тыпу і звязаныя з імі смехавыя дзеі і абрады займалі ў жыцці чалавека сярэднявечча значнае месца. Акрамя карнавалаў ва ўласным сэнсе з іх шматдзённымі і складанымі вулічнымі дзеямі і шэсцямі, ладзіліся асаблівыя «святы дурняў» ("festa stultorum"). Болей за тое, амаль кожнае царкоўнае свята мела сваю, таксама асвечаную традыцыяй, народна-скокавую смехавую гульню. Гэткія, напрык-

што аспрэчваюцца ў перспектыве «незавершанасці», «свята адраджэння».

—Для Захада асабліва каштоўны Бахцін — крытык «навуковасці», «тэарэтызму», «сістэмнасці» і да т.п. А з другога боку, усё больш відавочным робіцца парадокс: даследаванні менавіта гэтага аўтара па філасофіі, філалогіі, літаратуразнаўстве, гісторыі культуры, якія з'яўляюцца па тэрміналогіі Бахціна «парадыйнымі стылізацыямі» навуковых «жанраў мовы» Новага часу, абарочваюцца для нас сёння — і ў гэтым увесь «скандал» і смех, ва ўлюбёным бахцінскім жанры «сур'ёзна-смехавога»!— самай сапраўднай, ісцiннай навукай у самым што ні ёсць «строгім», когенаўска-гусерлеўскім сэнсе,— і, усё ж, у нейкім зусім іншым.

—З аднаго боку — апалагет «народа»: народа, які пераЖыў усіх «самазванцаў», «думагубаў» і «сентыментальных катаў» гісторыі і ўсе «інтэлігенцкія выдумкі» ідэалагічных Дон-Кіхотаў Новага часу — утапістаў, эстэтаў і «збаўцаў чалавецтва». А з другога боку — сапраўды расейскі інтэлігент, які даў свайму народу нешта накшталт «бібліі для пасpалітых» (выраз Мандэльштама) — грандыёзны расейскі аналог таго, што Г.Коган, адзін з філасофскіх настаўнікаў Бахціна, даў у сваім спадчынным тастаменце «Рэлігія розуму з асноў юдаізма», двум другім лёсавызначальным і «фантастычным» народам сусветнай гісторыі — габрайскаму і нямецкаму.

Выключна сучасны крытык марксізму, на якога на Захадзе абапіраюцца гуманісты і лібералы,— і выключна сучасны «рэвалюцыянер» у марксізме, на якога спрабуюць абаперціся «постмарксісты» і асабліва супраць лібералаў і гуманістаў.

—З аднаго боку — мысляр, які абнавіў сэнс менавіта расейскай філасофска-рэлігійнай традыцыі XIX — пачатку XX стагоддзя; з другога — цэнтральная у XX ст. фігура ў традыцыі «расейскай контр-ідэі», якая філасофскі і рэлігійна высветліла глыбей чым калі яшчэ спецыфічны ўхіл рускага духу і ў «ідэалогію», і ва «ўтопію», крытыкамі чаго ў XIX ст. былі Герцэн, Л.Талстой, Чэхаў, у нейкай меры Дастаеўскі і, нарэшце, аўтары «Вех», а выказнікам гэтай «контр-ідэі» ў літаратуры XX ст. стаўся А.Платонаў.

—Тэарэтык, які вызначыў (і абгрунтаваў), паводле яго слоў, «свецкі» варыянт ідэі культуры, г. зн. па заходніх мерках, антытэалагічную і антыметафізічную аўтаномію таго, што М.Хайдэгер называў «Dosein» ("тутэйшае быццё"), а ягоны наследавальнік-апанент Ж.Дэрыда называе проста «зямным» (mondain). А з другога боку тое самае паўстае як бы ў адваротным выглядзе, і Бахцін аказваецца «рэлігійным мысляром», чыя

«філасофія мовы» і тэорыя літаратуры (як, дарэчы, і сацыялогія, лінгвістыка і тэорыя культуры)— не што іншае, як пераўтвораная і замаскаваная хрысталогія, рэалізацыя і канкрэтызацыя ідэі «кенасіса», г. зн. уцялесненне-уваскрашэння Слова, якое «сталася плоццю».

Гэтакія некаторыя (не ўсе) біпарныя схематызмы, што складаюць нейкі гіпатэтычны вобраз бахцінскага аўтарства ў свядомасці замежных інтэрпрэтатараў і якімсьці правакуючым чынам відавочна звязаныя з крытыкай паняцця «вобраз аўтара» ў тэорыі самога Бахціна. Вобраз бахцінскага аўтарства, як бачым, абарочваецца адным вялікім пытаннем, што яшчэ на пачатку 80-х гадоў узняў канадскі крытык У.Томпсан, які аналізаваў рознамоўныя нацыянальныя вобразы нашага аўтара: «Хто вы — Міхаіл Міхайлавіч Бахцін?»

Зразумела адно: «адкрытая надзея», унутры якой многія заходнія гуманітарыі бачаць сябе ў люстэрку бахцінскага дыялагізму, прыадчыняе нейкую асаблівую, пазалюстэркавую прастору паміж «імі» ды «намі». Квазізаходніцкая расейская ўтопія пра Захад, вываратка і двайнік утопіі антыквазізаходніцкай, у роўнай меры нясучая ўсю меру адказнасці за тое, што з намі адбылося і адбываецца па сёння,— якраз з апірышчам на бахцінскі «дыялагізм» і пакінута назаўсёды ў якасці гістарычна фатальнай «інтэлігенцкай выдумкі».

Можна сказаць так: не таму «двойчы адстаўны», на мерку «праграсіўных дурняў» 20-х і 60-х гг., Бахцін раптам стаўся «жывейшым за ўсіх жывых», што проста на змену адной модзе прыйшла другая; хутчэй наадварот: Бахцін таму і зрабіўся модным, на яго быццам «адкрыліся вочы», што ўсе гэтыя, яшчэ ўчора незразумелыя ці быццам зразумелыя бахцінскія паратэрміналагічныя паняцці і «слоўкі» ("кругагляд" і «лішак бачання», «пазапрысутнасць» і «прыналежнасць», «тэарэтызм» і «маналагізм», «унутрана пераканаўчае слова» і «чужая мова», «карнавальная амбівалентнасць» і «нябачны свету смех», «паліфанія» і «радыкальна новая аўтарская пазіцыя», «маё не-алібі ў быццё» і «спакуса эстэтызму», «матэрыяльная эстэтыка» і «абсурд сучаснага дыанісійства», «двайнік-самазванец» і «сентыментальныя каты», «двуцелае цела» «гратэскнага рэалізму» і «народ, што смяецца на плошчы», «памяць жанра» і «вялікі час», «універсум моў, якія ўзаемаасвятляюцца» і, натуральна, сквазны метатэрмін «дыялог»),— усё гэта цяпер у нас і на Захадзе, літаральна і свядома становіцца, у гегелеўскім сэнсе, «рэальнасцю паняцця» — незалежна ні ад бахцінскіх, ні ад чыіх бы там ні было тэарэтычных набудоў.

Вяртаючыся да таго, што Бахцін (маючы на ўвазе Робэ) называў «даверам да мыслячага вока і відушчай думкі і недаверам да кружных шляхоў абстрактнага мыслення», мы, па сутнасці справы, пазначаем — на матэрыяле заходняй бахцініяны —агульнае для сучаснай культуры пытанне пра «выратаванне з'яў», дадзенасцяў і крытэрыяў рэальнага свету і рэальнай ісціны ад самазабойнай цяпер ужо, па словах ранняга Бахціна, «распярэзанай гульні пустой аб'ектыўнасці», да якой прывяла ў сучасным свеце, паводле выказвання П.Спотэрдыйка, «капернікаўская мабілізацыя» Новага часу.

Такім чынам, размова ідзе пра спробу ўсеахопнай арыентацыі, набыццё ракурсу бачання сярод аб'ектыўна існуючых па-за мной (а значыць, рэальна значных не толькі (не толькі) ў ідэі «быцця», а ў самым быцці) меркаванняў і кантэкстаў. Мы не можам сказаць Захаду: «У вас свая праўда, у нас — свая»; праўда — ісціна адзіная, але яна не адзінкавая, не «маналагічная» — і тут зыходны пункт «дыялагізму» Бахціна.

Віталь МАХЛІН
("Вопросы философии"
N 1, 1993 г.)

лад, так званыя «храмавыя святы», якія звычайна суправаджаліся кірмашамі з іх багатай і рознабаковай сістэмай скокавых гульбішчаў (з удзелам веліканаў, карлікаў, страшыдлаў, «вучоных» звяроў). Карнавальная атмасфера панавала ў дні пастановак містэрый і стоці. Царыла яна на такіх сельскагаспадарчых святах як збор вінаграда (vendange), якія адзначалі і ў горадзе. Смех суправаджаў звычайна і грамадзянскія і бытавыя цырыманіялы і абрады: блазны і дурні былі іх нязменнымі ўдзельнікамі і парадыйна дублíравалі розныя моманты сур'ёзнага цырыманіялу (ухвалу пераможцаў на турнірах, цырыманіял перадачы ленных правоў, прысвячэнне ў рыцары і да т.п.). І побытавыя выпіўкі не абыходзіліся без элементаў смехавой арганізацыі,— напрыклад, абранне на час выпіўкі каралеў і каралёў: «дзеля смеху» ("roi pour rire").

Усе названыя намі арганізаваныя на смехавым пачатку і асвечаныя традыцыяй абрадава-відовішчныя формы былі распаўсюджаныя ва ўсіх краінах сярэднявечнай Еўропы, але асаблівым багаццем і складанасцю вылучаліся яны ў раманскіх краінах, у тым ліку і ў Францыі. У далейшым мы зробім больш поўны і падрабязны разбор абрадава-відовішчных формаў у працягу нашага аналізу вобразнай сістэмы Рабле.

Усе гэтыя вобразна-відовішчныя формы як арганізаваныя на пачатках **смеху**, надзвычай рэзка, можна сказаць, прынцыпова адрозніваліся ад **сур'ёзных** афіцыйных — царкоўных і феадальна-дзяржаўных — культавых формаў і цырыманіялаў. Яны давалі зусім іншы, падкрэслена неафіцыйны, пазацаркоўны і пазадзяржаўны аспект свету, чалавека і чалавечых адносін; яны як быццам будавалі па той бок усяго афіцыйнага **другі свет і другое жыццё**, да якога ўсе людзі сярэднявечча былі ў большай ці меншай ступені прылучаныя, у якім яны ў пэўныя тэрміны **жылі**. Гэта —асаблівага роду двусветнасць, без уліку якой ні культурная свядомасць сярэднявечча, ні культура Адраджэння не могуць быць правільна зразуметыя. Ігнараванне альбо недаацэнка народнага сярэднявечча, якое смяецца, скажае карціну і ўсяго наступнага гістарычнага перыяду развіцця еўрапейскай культуры.

Падвоены аспект успрыняцця свету і чалавечага жыцця існаваў ужо на самых ранніх стадыях развіцця культуры. У фальклоры першабытных народаў побач з сур'ёзнымі (па арганізацыі і тоне) культамі існавалі і смехавыя культы, якія высмейвалі і ганьбавалі боствы ("рытуальны смех"), побач з сур'ёзнымі міфамі — міфы смехавыя і лаянкавыя, побач з героямі — іх парадыйныя двайнікі-дублёры. У апошні час гэтыя смехавыя абрады і міфы пачынаюць прыцягваць увагу фальклarыстаў. Але на ранніх этапах, ва ўмовах дакласавага і дадзяржаўнага грамадскага ладу, сур'ёзны і смехавы аспекты боства, свету і чалавека былі, пэўна, аднолькава святымі, аднолькава, так бы мовіць, «афіцыйнымі». Гэта захоўваецца часам у адносінах асобных абрадаў і ў больш позні перыяды. Так, напрыклад, у Рыме і на дзяржаўным этапе цырыманіял трыумфу амаль на роўных правах уключаў у сябе і ўхвалу і ганьбаванне пераможцаў, а пахавальны чын — і аплакванне (ухваленне) і ганьбаванне нябожчыка. Але ва ўмовах класавага і дзяржаўнага ладу поўная роўнасць двух аспектаў робіцца немагчымай, і ўсе смехавыя формы — адныя раней, другія пазней — пераходзяць на стан неафіцыйнага аспекту, падпадаюць пад пэўнае пераасэнсаванне, ускладненне, паглыбленне і робіцца асноўнымі формамі выказвання народнага светаадчування, народнай культуры. Гэтакія карнавальнага тыпу святы антычнага свету, у асаблівасці рымскія сатурналіі, гэтакія і сярэднявечныя карнавалы. Яны, натуральна, ужо далёкія ад рытуальнага смеху першабытнай абшчыны.

Якія ж спецыфічныя асаблівасці смехавых абрадава-відовішчных формаў сярэднявечча і — перш за ўсё —якая іх прырода, гэта значыць які род іхняга быцця?

Гэта, вядома, не рэлігійныя абрады накшталт хрысціянскай літургіі, з якой яны звязаныя асобнай генетычнай роднасцю. Арганізуючы карнавальныя абрады, смехавы пачатак абсалютна вызваляе іх ад усялякага рэлігійна-царкоўнага дагматызму, ад містыкі і пашаноты, яны цалкам пазбаўленыя і магічнага і малітоўнага характару (яны нічога не патрабуюць і нічога не просяць). Больш за тое, некаторыя карнавальныя формы з'яўляюцца непасрэднай пародыяй на царкоўны культ. Усе карнавальныя формы паслядоўна нецаркоўныя і нерэлігійныя. Яны належаць да зусім іншай сферы быцця.

Па сваім відовочным канкрэтна-пачуццёвым характары і па наяўнасці моцнага **ігравога** элемента яны блізкія да мастацкавобразных формаў, менавіта да тэатральна-відовішчных. І сапраўды — тэатральна-відовішчныя формы сярэднявечча ў значнай сваёй частцы імкнуліся да народна-пляцавай карнавальнай культуры і ў пэўнай ступені ўваходзілі ў яе склад. Але асноўнае карнавальнае ядро гэтай культуры зусім не з'яўляецца чыста мастацкай тэатральна-відовішчнай формай і ўвогуле не ўваходзіць у сферу мастацтва. Яно знаходзіцца на межах мастацтва і самога жыцця. Па сутнасці, гэта — само жыццё, але аформленае асаблівым забаўляльным чынам.

Сапраўды, карнавал не ведае падзелу на выканаўцаў і гледачоў. Ён не ведае рампы нават у пачатковай форме. Рампа пабурыла б карнавал ( як і наадварот, зніштажэнне рампы пабурыла б тэатральнае відовішча). Карнавал не глядзяць — у ім жывуць, і жывуць усе, таму што па сваёй сутнасці ён усенародны. Пакуль карнавал дзеіцца, ні для кога няма другога жыцця, акрамя карнавальнага. Ад яго няма куды схавацца, бо карнавал не ведае прасторавых межаў. Падчас карнавалу можна жыць толькі па яго законах, гэта значыць па законах карнавальнай **свабоды**. Карнавал мае сусветны характар, гэта асаблівы стан усяго свету, яго адраджэнне і аднаўленне, да якога ўсе прылучаныя. Такім ёсць карнавал у сваёй задуме, у сваёй сутнасці, якая актыўна разумелася ўсімі яго ўдзельнікамі. <...>

Значыць, у карнавале само жыццё забаўляецца, а забава на пэўны час становіцца самім жыццём. У гэтым спецыфічная прырода карнавала, асаблівы род яго быцця.

Карнавал — гэта другое жыццё народа, арганізаванае на смехавым пачатку. Гэта яго **святочнае жыццё**. Святочнасць — сутнасная асаблівасць усіх смехавых абрадава-відовішчных формаў сярэднявечча. <...>

Свята (усялякае) — гэта вельмі істотная **першасная** форма чалавечай культуры. Яго нельга вывысноўваць і патлумачыць з практычных умоваў і мэтаў грамадскай працы ці — яшчэ больш вульгарная форма тлумачэння — з біялагічнай (фізіялагічнай) патрэбы ў перыядычным адпачынку. Свята заўсёды мела сутнасны і глыбокі светагляднаы сэнс. Ніякое «практыкаванне» ў арганізацыі і ва ўдасканаленні грамадскапрацоўнага працэсу, ніякая «гульня ў працу» і ніякі адпачынак ці перапынак у працы **самі па сабе** ніколі не могуць стацца **святочнымі**. Каб яны сталіся святочнымі, да іх павінна далучыцца нешта з іншай сферы быцця, са сферы духоўнаідэалагічнай. Яны павінны атрымаць санкцыю не са свету сродкаў і неабходных умовін, а са свету **вышэйшых мэтаў** чалавечага існавання, гэта значыць са свету ідэалаў. Без гэтага няма і не можа быць ніякай святочнасці.

Свята заўсёды мае непасрэдныя стасункі з часам. У аснове яго заўсёды ляжыць пэўная і канкрэтная канцэпцыя прыроднага (касмічнага), біялагічнага і гістарычнага часу. Пры гэтым святы на ўсіх этапах свайго гістарычнага развою былі звязаныя з **крызіснымі**, пераломнымі момантамі ў жыцці прыроды, грамадства і чалавека. Моманты смерці і адраджэння, змены і абнаўлення заўсёды былі вядучымі ў святочным светаадчуванні. <...>

У супрацьлегласць афіцыйнаму святу карнавал як бы сцвярджаў часовае вызваленне ад пануючай праўды да існуючага ладу, часовую адмену ўсіх іерархічных адносін, прывілеяў, нормаў і забаронаў. Гэта было сапраўднае свята часу, свята станаўлення, зменаў і аднаўлення. Яно было варожым да ўсялякай статычнасці, завершанасці, канцовасці. Яно глядзела ў незавершаную будучыню.

**Міхаіл БАХЦІН**

# ЗАХАД і БАХЦІН

Ужо па выкладзеных фрагментах з «вопыту агляднай арыентацыі» В.Махліна «Бахцін і Захад» чытач мог заўважыць, што ў інтэрпрэтацыі Махліна ўсё адцягненае еўрапейскае мысленне ад Платона да Дэрыда выглядае адно каментарам да творчасці Міхаіла Бахціна, нейкім дадаткам да такой «падзеі быцця» як Бахцін. Ну а той, хто азнаёміўся цалкам з гэтай, без перабольшання, выдатнай у сваім «жанры» працай, мусіў запэўніцца, што ўвесь папярэдне напрацаваны «еўрапейскім чалавецтвам» корпус тэкстаў — толькі пастамент для помніка Бахціну, і пастамент яшчэ не дароблены, занізкі ды завузкі, бо Бахцін не змяшчаецца на ягонай пляцоўцы: ён як бы завіс трохі вышэй і збоку, мабыць, чакаючы, пакуль пастамент падрасце ўвыш ды шыркі.

Спробы вылучыць Бахціна ў якасці інтэлектуальнага месіі трэцяга тысячагоддзя, пакласці ягоны *дыялагізм* на пачатак не тое каб філасофскай ці гуманістычнай, а нават шырэй — быційнай парадыгмы будучыні, мы назіраем не ў аднаго Махліна. Ну што на гэта можна сказаць, акрамя таго, што ў гэтым вінаваты не сам Бахцін, а месіянская ментальнасць ягоных інтэрпрэтатараў —гэта з аднаго боку, а з другога — «комплекс філасофскай непаўнавартасці» пэўнай часткі расейскіх інтэлектуалаў, якія раз-пораз хапаюцца то за Салаўёва, то за Бярдзяева ці Шастова, а цяпер вось —

Бахціна, каб адным махам кампенсаваць сваю адсутнасць у «метафізыцы веды», ды яшчэ адразу выперадзіць тут даўно прысутных, стацца павадыром для астатніх.

О, непазбыўная прага цуда: шчупак прамовіць, печка паедзе, філосаф сам сабою народзіцца, абібокам праваляндае трыццаць тры гады, а потым як загаворыць... Усе тут і вохкнуць!

Бахцін — адметны навукоўца і мысляр. У расейскім інтэлектуальным кантэксце свайго часу ён, бясспрэчна, адна з найбольш значных падзей, але...

Але ці магчымы быў Бахцін як значная, тым болей — вышынная з'ява расейскай культуры, каб ён не сфармаваўся на інтэлектуальных ідэях Захаду і з гэтай прычыны не прыдаўся Захаду як яшчэ адзін аргумент на карысць ягонай інтэлектуальнай вартасці?

Пытанне можа быць пастаўлена і больш гранічна: ці ўвогуле магчымы Бахцін без Захаду?

Спроба Махліна выключыць Бахціна з філасофскай парадыгмы Еўропы, надаць яму статус «цуда», якое ўзнікла само па сабе, «вынесці» Бахціна ўзбоч і паставіць над еўрапейскім тэарэтызаваннем — не можа не выклікаць пярэчання. Праўда, тут трэба заўважыць, што, скарыстаўшы прынцып «бінарных апазіцый» і жангліруючы Бахціным з «аднаго боку» на «другі бок», Махлін як быццам не адмаўляе прыналежнасць Бахціна да еўрапейскага філасофскага дыскурса, але кожнаму моманту гэтай прыналежнасці ён імгненна вынаходзіць процілегласць, якая б праз брамку апазіцыі выводзіла Бахціна з еўрапейскай рацыяналістычнай ідэалогіі ў прастору расейскага змесіяванага канцэптуалізму (хаця апошняе, прытоенае ў падтэксце, не надта вытыркаецца).

Увогуле, гэта марная справа — выбавіць Бахціна ад «еўропы» і выдаліць з Бахціна «еўропу». Кожная такая спроба будзе абарочвацца адным — Бахцін апынецца нідзе і ні ў чым. Бо хаця ён мусіць і павінен разглядацца ў кантэксце расейскага мыслярства, аднак нейкі плён такое «прачытанне» Бахціна можа мець толькі тады, калі папярэдне будзе ўлічана, што ён вырас з філасафемы Захаду і не да нейкай умоўнай трансцэндэнцыі, а менавіта да яе звяртаўся, з ёю «дыялагізаваў» у сваіх творчых росшуках. А што да расейскай філасофскай традыцыі, то Бахцін яе ўсур'ёз не ўспрымаў, за што сведчаць як метадалогія і праблематыка ягоных работ, так і непасрэдныя выказванні ды ацэнкі. Спашлемся толькі на два факты. «На жаль, вымушаны сказаць, што ў Расіі Вам яшчэ доўга давядзецца быць адзінокім, і сустракаць Вы будзеце ў лепшым выпадку павагу і вельмі мала разумення і спачування, бо ў нас, як гэта ні жахліва, і пад «філасофіяй» разумеюць нешта вельмі малападобнае на тое, што разумееце Вы, і не толькі ў асяродку абываценляў, а і прысяжных нашых філосафаў». Гэта з ліста М.Кагану, а вось сведчанне В.Кожынава: «... ён (Бахцін — *В.А.*) лічыў, што ў Расеі ніколі не было сапраўднай філасофіі, у Расеі было тое, што ён называў некалькі з адценнем зніжанасці «мыслительством». Мне запомнілася такая яго фраза: ён казаў, што многія расейскія мысляры —"мнимые храбрецы", бо яны імкнуцца, закрыўшы вочы, адным скачком пераадолець вялізную бездань, а сапраўдны філосаф, сапраўдны мысляр павінен мужна глядзець на ўсё адкрытымі вачыма. <...> Ён лічыў, што на базе ўсяго напісанага раней яшчэ можна толькі пачаць стварэнне расейскай філасофіі».

Зусім не выпадкова, што Бахцін, які лічыў сябе менавіта філосафам і нікім іншым, пры сваім «другім нараджэнні» пасля выхаду другога выдання кнігі «Праблемы творчасці Дастаеўскага» і кнігі «Творчасць Франсуа Рабле і народная культура сярэднявечча і Рэнесанса» быў прачытаны і ўспрыняты на бацькаўшчыне выключна як літаратуразнаўца. З гэтага статусу ён у Расеі, пэўна, ніколі б і не выбраўся, каб Захад не ўключыў праблематыку ягоных работ у свой філасофскі кантэкст. Як гэта заўсёды было характэрна для Расеі, пад уплывам аўтарытэту Захаду, сёння тут ужо амаль забыліся на Бахціна літаратуразнаўцу і разглядаюць яго пераважна як вялікага расейскага філосафа, але пры гэтым старанна не заўважаюць, што ідэі Бахціна на «такт-другі» прыпазняліся ў часе параўнальна з інтэлектуальным рытмам Еўропы XX ст., што Бахцін, па сутнасці, не быў генератарам новых ідэй, а толькі арыгінальным інтэрпрэтатарам, які своеасабліва ілюстраваў тыя тэорыі, што з'яўляліся на Захадзе (маецца на ўвазе найперш «дыялагізм» Марціна Бубера, фрэйдызм, экзістэнцыялізм...) і, у нейкім сэнсе, спрабаваў іх аформіць канцэптуальна.

Праўда, калі мы кажам, што расейская апалагетыка Бахціна, у пэўных месцах прыспешваючы хаду, спрабуе як мага хутчэй прамінуць залежнасць бахцінскіх канцэптаў ад запанаваўшых тады на Захадзе тэорый (яскравы выпадак — В.Махлін), то адначасна мусім сказаць, што не абыходзіцца і без фактаў цвярозага стаўлення да стасункаў: Захад — Бахцін. Да прыкладу, працытуем Н.Банецкую ("М.М. Бахцін і традыцыі рускай філасофіі"): «Бахцін як мысляр належыць еўрапейскай культуры. І тое, што даследаванне яго творчасці распачалося на Захадзе, мае глыбокія ўнутраныя прычыны. Ідэі Бахціна не проста спасцігаюцца — яны асімілююцца заходнім інтэлектам; чужое, іншароднае не можа быць засвоена гэтак натуральна. І справа тут не ў фантастычнай папулярнасці працаў Бахціна; кнігі Бярдзяева не менш вядомыя на Захадзе, але ўспрымаецца Бярдзяеў як філосаф спецыфічна рускі і, болей за тое, праваслаўны. А вось у Бахціне еўрапеец бачыць свайго, змяшчае яго ў шэраг заходніх мысляроў, выбудоўвае шматлікія сэнсавыя паралелі ягоных ідэй з традыцыямі еўрапейскай філасофіі. Расейскія літаратуразнаўцы, якія «адкрылі» Бахціна і кантактавалі з ім у апошнія гады ягонага жыцця, сведчаць, што сам Бахцін прызнаваў асновапалеглымі для свайго філасофскага станаўлення ідэі Германа Когена. І Бахціна разглядаюць, зыходзячы з гэтага факта: аўтарытэтным сталася ўзвядзенне меркаванняў Бахціна да інтуіцыяў Когена ў манаграфіі пра Бахціна Майкла Холквіста і Катарыны Кларк. Ужо асэнсаванае ўздзеянне на Бахціна абодвух школ неаканціянства, суадносіны ягоных ідэй з філасофіяй Марціна Бубера, вытокі якой — у Марбургскай школе, а таксама з фрэйдызмам, марксізмам, філасофскай анталогіяй, экзістэнцыялізмам — думкі Бахціна цяпер успрымаюцца ў параўнанні менавіта з гэтымі філасофскімі накірункамі».

Магчыма, цытаванне залішне доўжылася, але, думаецца, тут Н.Банецкая сцісла і выразна акрэсліла прычыны, якія вылучылі Бахціна з расейскай традыцыі і ўлучылі ў еўрапейскую.

Аднак тое, што Бахцін, як мысляр, спароджаны еўрапейскай культураю, толькі напалову тлумачыць сённяшнюю ўвагу да ягонай творчасці на Захадзе. Не ў меншай ступені зацікаўленасць Бахціным вынікае з таго, што ён выяўляў сваю еўрапейскую сутнасць праз спосабы і формы расейскага мыслення.

Бахцін для Захаду — экзатычная версія еўрапейскага інтэлектуалізму XX стагоддзя. Ён — той *другі* для заходняга мыслення, які з прычыны свайго *падабенства праз інакшасць* дае магчымасць Захаду зірнуць на сябе як бы збоку, у нейкай нязвыклай праекцыі, «варварской, но верной». Адначасна Бахцін у гэтым сваім *інакшым падабенстве* — аргумент, на які можна абаперціся, дадатна трамбуючы грунт для большай трываласці як тых тэарэтычных канструкцый, што ўжо паўсталі, так і тых, што яшчэ толькі паўстаюць...

Адным словам, Бахцін — да месца сказаны камплімент еўрапейскаму інтэлектуалізму з боку містычна заангажаванай Расеі. На ўдалы камплімент немагчыма не звярнуць увагі, асабліва калі ў ім твой сыход (мысленне XX ст.) далікатна здымаецца напамінам аб тваёй маладосці...

На гэтым можна было б паставіць кропку, каб не ўзнікла пачуццё, што скепсіс, прагучаўшы тут у дычыненні да месцамі залішняй апалагетыкі Бахціна, раптам абернецца ў чытача думкай, быццам гэта скепсіс да самога мысляра, жыццё і творчасць якога сталася сапраўды яшчэ адной «падзеяй быцця» XX стагоддзя.

Валянцін АКУДОВІЧ



Францусуа РАБЛЕ

ЁН



# Гарганцюа і Пантагруэль

*(Урыўкі)*

## З кнігі першай

# *Пра ЯГО*

*Як гэта ні дзіўна, аднак дата нараджэння аднаго з не толькі найвялікшых французскіх пісьменнікаў, але і ўвогуле тытанаў Адраджэння й сусветнай літаратуры — дакладна не высветлена.*

*Паводле адных крыніц — гэта* **1494** *, паводле другіх —* **1483** *год.*

*Але вядома, што нарадзіўся Рабле ў Турэні (гістарычная правінцыя), у месце Ля Дэвіньер, каля Шынона. Бацька ягоны быў заможным адвакатам.*

*Гісторык дадае: гады дзяцінства й пачатковай вучобы Рабле — змрочныя.*

*З* **1510** *ці з* **1520** *года — Рабле — манах. Спярша францысканец, пасля, з* **1524** *года,— бенедыктынец.*

*У* **1526** *ці ў* **1528** *годзе ён пакідае манастыр і вучыцца ў розных універсітэтах: у Бергу, Арлеане, Парыжы — звычай тады дужа распаўсюджаны.*

**1528—1530** — *У Рабле нараджаюцца ад парыжскай удавы хлопчык і дзяўчынка.*

**1530—1532** — *Вучыцца на факультэце медыцыны ўніверсітэта ў Монпэлье. Атрымлівае званне бакалаўра.*

**1532—1534** — *Лекар у Ліёне.*

**1532** — *Выдае ў Ліёне «Афарызмы» Гіпакрата з уласнымі каментарыямі. Публікуе пад псеўданімам д'Алькофрыбас Назье «ПАНТАГРУЭЛЬ».*

**1534** — *Публікуе «ГАРГАНЦЮА».*

## Ад аўтара

Славутыя выпівакі і вы, прывялебныя пранцучкі (бо вам, а не каму іншаму, прысвечаныя мае пісанні)! У Платонавым дыялогу, называным *Банкет*, Алцыбіяд, усхваляючы свайго настаўніка Платона — бясспрэчна, галаву ўсіх філосафаў,— параўноўваў яго, апроч іншага, з Сіленамі. Сіленамі даўней называлі куфэркі, накшталт тых, што і цяпер яшчэ можна ўбачыць у аптэкарскіх крамках; звонку яны размаляваныя рознымі вясёлымі ды забаўнымі фігуркамі: гарпіямі, сатырамі, зацуглянымі гусянятамі, рагатымі зайцамі, наўючанымі качкамі, крылатымі казламі, аленямі ў аглоблях ды іншымі фацэтнымі карцінкамі, прыдуманымі на пацеху людзям (а менавіта на такія выдумкі быў вялікі мастак Сілен, настаўнік слаўнага Бахуса); усярэдзіне ж у іх захоўвалі рэдкія лекі, такія, як бальсан, амбру, імберац, мускус, цывету, розныя камяні ды іншыя каштоўныя рэчы. Такі, паводле Алцыбіядавых словаў, быў і Сакрат, бо, паглядзеўшы на яго звонку ды памеркаваўшы па знешнім выглядзе, вы не далі б за яго і гарэлага шэлега — настолькі ён быў брыдкі целам і смешны звычкамі: з кірпатым носам, бычынымі вачыма, тупым выразам твару, просты ў паводзінах, непераборлівы ў адзенні, бедны на грошы, няўдалы з жанчынамі, няздольны ні на якую дзяржаўную службу, ён заўсёды толькі смяяўся, ні з кім ніколі не адмаўляўся выпіць ды ўвесь час пакепліваў, хаваючы гэтым сваю боскую мудрасць. Але, адкрыўшы гэты куфэрак, вы знайшлі б там чароўнае і неацэннае зелле: звышчалавечую дасціпнасць, дзівосную дабрачыннасць, непераможную мужнасць, непараўнальную цвярозасць і неверагодную пагарду да ўсяго, дзеля чаго смяротныя так мітусяцца, шчыруюць, працуюць, вандруюць ды ваююць.

Але ў які ж бок гэты мой першы крок, куды, па-вашаму, хіліць гэты ўступ? А туды, даражэнькія мае вучні ды іншыя гультаяватыя разявакі, што, чытаючы пацешныя назвы пэўных складзеных мною кніг — такіх, як *Гарганцюа, Пантагруэль, Фэспэнт, Пра годнасць гульфікаў, Гарох на сале cum commento*[1] і г.д.,— вы надта хутка робіце выснову, што ўсё апісанае ў іх — спрэс толькі жартачкі, блазенства ды вясёлыя байкі; інакш кажучы, звярнуўшы ўвагу толькі на знешнюю шыльду (ці то — назву) і не паспеўшы яшчэ дапяць да сутнасці, ужо загадзя вы пачынаеце, як зазвычай, рагатаць ды выскаляцца. Але з такою лёгкасцю ставіцца да чалавечае працы нягожа. Бо самі вы кажаце, што не кожны манах, на кім габіт, бо ёсць такія, што хоць і апранутыя манахамі, але ўсярэдзіне зусім не манахі, ці такія, што хоць і носяць гішпанскі плашч, ды гішпанскай смеласці ні каліва не маюць. Таму разгарніце маю кнігу ды добра пакумекайце, што ды нашто ў ёй гаворыцца. А тады самі пабачыце, што зелле, схаванае ўсярэдзіне, зусім іншае якасці, чым тое, якое абяцаў куфэрак; іншымі словамі, я хачу сказаць, што рэчы, напісаныя ў ёй, не такія блазенскія, як можна было б меркаваць, прачытаўшы назву.

Але нават калі раптам пэўныя мясціны здадуцца вам даволі вясёлымі і ў сваім літаральным значэнні будуць нібыта цалкам адпавядаць назве кнігі, не давайце сабе на гэтым спыніцца, не прыслухоўвайцеся да спеву сірэн, а пастарайцеся ўспрыняць у болей высокім стылі ўсё тое, што выпадкова палічылі напісаным дзеля чыстай пацехі.

Ці даводзілася вам калі-небудзь адкаркоўваць бутэлечку? Атож! Дык прыгадайце, якую асалоду вы адчувалі пры гэтым. А ці бачылі вы калі-небудзь сабаку, які знайшоў мазгавую





костку? Платон, дарэчы, у кн. II *De Rep.*[2] кажа, што сабака — самая філасофская жывёліна ў свеце. І калі вы яго бачылі, дык маглі заўважыць, з якой багамольнасцю ён гэтую костку ахоўвае, з якім імпэтам вартуе, з якім гарачым пачуццём трымае, як асцярожна за яе бярэцца, з якім смакам разгрызае і з якою старраннасцю высмоктвае. Што ж падахвочвае яго да гэтага? Што ён спадзяецца знайсці? Якога багацця шукае? Зусім ніякага, апроч кавалачку шпіку. Праўда, гэты кавалачак смачнейшы за многае іншае, бо, як кажа Гален у кн. III *Facu. natural.*[3] і кн. XI *De usu parti.*[4], шпік — найдасканалейшы з усіх харчоў, створаных калі-небудзь прыродай.

Вось так і вам, па прыкладзе згаданага сабакі, трэба быць мудрымі, каб унюхаць, учуяць і ацаніць гэтыя мае цудоўныя і прывабныя кнігі, і быць жвавымі ў пагоні ды трывалымі ў бойцы; а потым, па ўважлівым чытанні і доўгіх развагах, разгрызці костку і высмактаць з яе пажыўны шпік (ці тое, што я разумею пад гэтым піфагарыйскім сімвалам) — з упэўненаю надзеяй, што такое чытанне зробіць вас болей дасведчанымі і болей адважнымі, бо ў гэтае кнізе вы знойдзеце і своеасаблівы дух, і веды, даступныя далёка не кожнаму, дзякуючы якім перад вамі раскрыюцца самыя вялікія сакрэты і жахлівыя таямніцы, як у дачыненні нашай рэлігіі, так і нашага палітычнага ды гаспадарчага ладу.

Але скажыце, няўжо вы шчыра даяце веры, што Гамэр, калі пісаў *Іліяду* і *Адысею*, думаў пра тыя алегорыі, якія яму прыпісвалі Плутарх, Гэракліт Пантыйскі, Эўстафій ды Карнут, а разам з імі і Паліцыян, які ў іх усё якраз і злізаў? Калі вы ў гэта верыце, дык нашыя сцежкі-дарожкі разыходзяцца, бо я мяркую, што Гамэр думаў пра іх гэтак жа мала, як Авідый у сваіх *Метамарфозах* пра эвангельскія святыні, хоць адзін тупагаловы чарнарызнік-падлізнік пнуўся давесці ўсё якраз наадварот, спадзеючыся, відаць, што дзе-небудзь сустрэне, як той казаў, другога-рабога дурня такога, як ён сам.

Калі ж у вас на ўсё гэта іншая думка, дык ад чаго б і чаму б вам не зрабіць тое ж самае з маімі вясёленькімі ды такімі свежанькімі аповесцямі, хоць, калі я складаў іх, я думаў пра ўсякія такія рэчы не болей за вас, а вы ж наконт выпіўкі, бадай, за мяне не горшыя? Дарэчы сказаць, на сачыненне гэтай незвычайнае кнігі я патраціў і выдаткаваў менавіта той час (і не болей), які ў мяне адведзены на падтрыманне маёй цялеснае сілы, ці то — на піцепне ды ядзенне. А гэта самы прыдатны час, каб пісаць пра такія высокія матэрыі ды глыбоканавуковыя рэчы, што цудоўна разумелі Гамэр, узор усім філолагам, і бацька лацінскіх паэтаў Эній, пра што сведчыць Гарацый, хоць нейкі шалахвост і заявіў, што ад Эніевых вершаў патыхае болей вінам, чым алеем.

Тое самае адзін прайдзісвет сказаў і пра мае кнігі; ну дый насраць на яго! Бо наколькі водар віна прывабнейшы, прынаднейшы, прыемнейшы, саладзейшы й смачнейшы за пах алею! Каб пра мяне казалі, што я на віно трачу болей, чым на алей, дык я лічыў бы гэта за такі самы гонар, як Дэмасфэн, калі пра яго казалі, што ён траціць больш на алей, чым на віно. І калі пра мяне мяркуюць ды кажуць, нібыта я добры аргамака і слаўны субяседнік, дык для мяне гэта найвышэйшая пашана і чэсць, бо з такою славаю мяне заўжды сардэчна вітаюць ва ўсякай пачэснай кампаніі пантагруэлістаў. А вось Дэмасфэна адзін занудa папракнуў, што ад ягоных прамоваў, маўляў, тхне, як ад фартуха бруднага і завэдзганага алейніка. Ну, а вы ўжо ўспрымайце мае ўчынкі ды словы з самага што ні на ёсць лепшага боку, стаўцеся з павагаю да маіх творагападобных мазгоў, якія ўбагавольваюць вас гэтымі чароўнымі балачкамі, ды, як можаце, падтрымлівайце мяне заўсёды ў добрым гуморы.

Такім чынам, любыя мае, чытайце далей ды пацяшайцеся —целу на задавальненне ды ныркам на карысць! Але паслухайце вось яшчэ што, дуралеі, бадай на вас трасца: вы ж не забудзьцеся за мяне выпіць, а ўжо я вас чакаць не прымушу.

**1534—1536** — *У Рабле нараджаецца й неўзабаве памірае другі сын. Рабле двойчы суправаджае ў Рым парыжскага епіскапа Жана дзю Бэлле. У другой ягонай паездцы папа Павел III узаконьвае яго рэлігійны сан.*

**1536** — *Манах, потым канонік у Сэн-Мор-дэ-Фосэ пад Парыжам.*

**1537** — *Заканчвае ў Монпэлье вывучэнне медыцыны, атрымлівае званне доктара.*

**1539—1541** — *Папа прызнае дзяцей Рабле, жывых і нябожчыка, законнымі.*

**1542** — *У Ліёне публікуецца апошні аўтарскі тэкст «ГАРГАНЦЮА І ПАНТАГРУЭЛЯ».*

**1543** — *Факультэт тэалогіі Сарбоны забараняе кнігу.*

**1546** — *У Парыжы публікуецца «Трэцяя кніга» рамана. Забараняецца Сарбонаю.*

**1546—1547** — *Рабле — гарадскі сакратар у Метцы.*

**1548** — *Публікуецца частка «Чацвёртае кнігі».*

**1551** — *Рабле атрымлівае два прыходы: у Сэн-Мартэн-дэ-Мэдон і Сэн-Крыстоф-дзю-Жамбэ ў епархіі Мана. Але сучаснікі сведчаць, абавязкаў святара Рабле не выконваў.*

**1552** — *Поўная публікацыя «Чацвёртае кнігі». Забараняецца Сарбонаю.*

**1553** — *Рабле адмаўляецца ад прыходаў.*

**1553,** *9 красавіка — Смерць у Парыжы. Пахаваны на могілках Сэн-Поль.*

**1562** — *Публікацыя часткі «Пятае кнігі».*

**1564** — *Поўная публікацыя «Пятае кнігі».*

*Аўтэнтычнасць яе, аднак, большасцю літаратуразнаўцаў аспрэчваецца — кніга прыпісваецца невядомаму аўтару ці аўтарам, які (якія) скарыстаў (скарысталі) матэрыялы, пакінутыя Рабле.*

## РАЗДЗЕЛ I

### Пра генеалогію і старажытнасць роду Гарганцюа

Усіх, хто хоча пазнаёміцца з генеалогіяй Гарганцюа і запэўніцца ў старажытнасці яго роду, я адсылаю да вялікай Пантагруэльскае кронікі. З яе вы болей падрабязна даведаецеся, як узніклі на свеце першыя волаты і як па простай лініі ад іх пайшоў Пантагруэлеў бацька Гарганцюа; а зараз, няхай гэта вас не ўгнявіць, я не буду асобна спыняцца на гэтай гісторыі, хоць сама па сабе яна і такая, што чым часцей пра яе ўспамінаць, тым больш яна вашым імасцям была б даспадобы; і, каб пацвердзіць сказанае, я спашлюся на Платонавых *Філеба* і *Горгію* ці на Флака, які даводзіць, што пэўныя рэчы (а гэтая гісторыя, безумоўна, належыць якраз да такіх) робяцца тым прыемнейшыя, чым часцей пра іх паўтараць.

Дай Божа, каб кожны гэтак дакладна ведаў свой радавод ад Ноева каўчэга да нашых дзён! Мне ж думаецца, што шмат хто з цяперашніх імператараў, каралёў, герцагаў, князёў ды пап паходзяць ад якіх-небудзь нікчэмных шалапутаў ды шалахвостаў і, наадварот, шмат гаротных і ўбогіх старцаў у багадзельнях ёсць кроў ад крыві і плоць ад плоці вялікіх каралёў і імператараў, пра што можа сведчыць хоць бы тое, як на дзіва хутка змянілі

асірыйцаў — мідзяне,
мідзянаў — персы,
персаў — македонцы,
македонцаў — рымляне,
рымлянаў — грэкі,
грэкаў — французы.

Што ж датычыць мяне, дык я, пэўна ўжо, паходжу ад якога-небудзь заможнага караля ці князя, які жыў у старадаўні час, бо ва ўсім свеце не знайсці чалавека, якому больш за мяне карцела б стаць каралём і забагацець, каб увесь час банкетаваць, ніколі не працаваць, не мець жаднага клопату і толькі шчодра адорваць сяброў і ўсіх сумленных ды разумных людзей. Пакуль жа я суцяшаю сябе тым, што ў іншым свеце я ўжо абавязкова каралём стану, ды яшчэ такім вялікім, што цяпер і падумаць страшна. Прыдумайце ж і вы сабе такую ці нават якую яшчэ лепшую ўцеху ў сваім няшчасці ды піце на здароўечка, калі ёсць за што.

Вяртаючыся ж да нашых бараноў, мушу сказаць, што вялікаю ласкаю неба радаслоўная Гарганцюа захавалася для нас з самых даўніх часоў і ў больш поўным выглядзе, чым любая іншая, апроч хіба Месіяшавай, пра якую я цяпер казаць нічога не буду, бо яна тут ні пры чым, і тым больш што гэтаму ўпарцяцца чэрці (а гэта вядомыя паклёпнікі ды крывадушнікі). А знайшоў гэтую радаслоўную Жан Адо ў сябе на поплаве непадалёк ад Арсо Гало, што трошкі ніжэй ад Алівы, у тых краях, дзе Нарсэ, і здарылася гэта, калі далакопы, якім загадалі ачысціць канавы, раптам заўважылі, што рыдлёўкі ў іх упіраюцца ў нейкі велічэзны, невераголднай даўжыні бронзавы склеп, канец якога знайсці так і не ўдалося, бо ён знікаў далёка аж пад в'енскімі шлюзамі. І вось калі ў тым самым месцы, дзе на веку быў выбіты келіх, а вакол яго этрускімі літарамі накрэслена: *Hic bibitur* (тут п'юць),— склеп вырашылі адкрыць, то ў ім былі знойдзеныя дзевяць пляшак, што стаялі ў такім самым парадку, у якім гасконцы расстаўляюць кеглі, а пад сярэдняю пляшкай ляжала грубая, грузная, грузкая, гразкая, прыгожая, невялічкая, заплеснелая кніжка, ад якой пахла мацней, але, на жаль, не лепш, чым ад ружы.

У гэтай кніжцы і была змешчаная памянёная радаслоўная, цалкам запісаная канцылярскім курсіўным пісьмом, але не на паперы, не на пергаменце і не на васкаванай таблічцы, а на кары маладога вяза, якая, зрэшты, так спарахнела, што на ёй цяжка было разабраць нават тры літары запар.

Я, ваш нікчэмны раб, быў туды кліканы і, узброіўшыся акулярамі ды прыкладаючы ўсё майстэрства чытаць адсутныя літары, якому нас навучаў Арыстоцель, усё аднавіў і пераклаў, як вы гэта самі зможаце ўбачыць, калі пачняце пантагруэльнічаць, ці, іначай кажучы, папапіваць гарэлачку ды папачытваць аб прыжахлівых дзеях Пантагруэлевых.

У канцы той кніжачкі быў дададзены невялічкі трактат пад назваю *Жыватворныя забаўкі.* Пачатак гісторыі пашкамуталі пацукі ды прусакі, а можа (каб толькі не схлусіць), яшчэ якія шкадлівыя жывёліны, а рэшту я, праз пашану да старадаўнасці, прыкладаю тут цалкам.

<...>

## РАЗДЗЕЛ XXV

### Пра тое, як паміж прасначнікамі з Лернэ і сялянамі Гарганцюа ўсчалася звада, якая паклала пачатак вялікім войнам

Тымі днямі, калі настала пара збіраць вінаград,— а было гэта на пачатку восені,— пастухі з земляў Гарганцюа выйшлі даглядаць вінаграднікі ды пільнаваць, каб шпакі не дзяўблі свежых ягад.

На той самы час па бальшаку з Лернэ ехалі прасначнікі, якія на дзесяці ці дванаццаці калёсах везлі да горада праснакі.

Пастухі ветліва папрасілі ў іх прадаць праснакоў — за грошы ды па базарнай цане. Бо трэба вам зазначыць, што тым, хто пакутуе на запор, паесці нашча свежанькіх праснакоў з вінаградам, ды яшчэ такім, як піно, ф'ер, мускадэ, бікарн ці фуарар,— гэта самая што ні на ёсць боская ежа, бо тады іх так наскрозь прабірае, што за бздом яны нярэдка проста ў штаны і кладуць, за што іх і называюць дрыстунамі.

Але просьба пастухоў не сустрэла ў прасначнікаў ніякай спагады — наадварот, яны пачалі бэсціць іх самымі гнюснымі словамі, называючы бяззубымі галадранцамі, рудымі блазнамі, шалудзівымі бугаямі, круцялямі, вісусамі, крывадушнікамі, невукамі, ласунамі, пузанамі, выхвалякамі, няздарамі, хамуламі, пранырамі, абібокамі, цюхцяямі, фертамі, пустабрэхамі, лотрамі, доўбнямі, барыламі-дурыламі, ёлупнямі, абэлтухамі, пудзіламі гарохавымі, выхрыстамі, сранымі-дранымі казапасамі, гаўнянымі пастухамі ды іншымі крыўднымі эпітэтамі, дадаўшы пры гэтым, што не з іхнімі храпамі частавацца такімі смачнымі праснакамі, а няхай, маўляў, душацца хлебам з макухаю ды паловаю і будуць задаволеныя.

На такія абразы адзін пастух, на імя Фарж'е, хлопец сам з сябе вельмі паважны ды знатны, далікатна адказаў:

— Скуль гэта вы такой пыхі набраліся, што ў вас мухі ў носе завяліся? Далібог, раней колькі заўгодна нам прадавалі, а цяпер адмаўляецеся. Так добрыя суседзі не робяць, і мы так з вамі не абыходзімся, калі вы прыязджаеце купляць нашую цудоўную пшаніцу, з якой выпякаеце свае праснакі ды пірагі. А мы яшчэ хацелі былі даць вам нашага вінаграду ў дадатак. Ну ўжо не, каб мне Бог не памог, калі вам не давядзецца пашкадаваць: будзеце вы яшчэ мець з намі справу, тады і мы абыдземся з вамі гэтак жа. Дасца вам усё гэта ў знакі!

На гэта Маркэ, вялікі жазланосца з цэху прасначнікаў, сказаў яму:

— Нешта ты зранку сёння дужа грэбень свой натапырыў. Мусіць, нанач проса аб'еўся. Ану-ану, хадзі сюды, зараз я табе дам праснака!

Нічога не падазраючы, Фарж'е падышоў да яго і выняў з-за пояса манету ў дванаццаць дэн'е, думаючы, што Маркэ ў адказ дасць яму з торбы праснак. Але той замест гэтага так моцна выцяў яго па нагах пугай, што ў небаракі ажно пісагі павыступалі. Маркэ тут жа хацеў быў падмазаць пяты, але Фарж'е, загаласіўшы: «Забіваюць!» — з усяе, колькі было, сілы запусціў у яго таўшчэзнаю дубінаю, якую трымаў пад пахай, і пацэліў у самае шво лобнае косці, над правай скроневаю артэрыяй — ды так, што Маркэ кульнуўся як сноп з кабылы і ўпаў ні жывы ні мёртвы.

Тым часам хутаране, якія непадалёк латашылі арэхі, збегліся са сваімі даўжэзнымі жардзінамі і пачалі малаціць прасначнікаў, як недаспелае жыта. Пастухі з пастушкамі, пачуўшы крыкі Фарж'е, таксама прыбеглі са сваімі рагаткамі ды прашчамі і кінуліся за прасначнікамі, засыпаючы іх градам камянёў. Урэшце яны прасначнікаў дагналі і забралі ў іх праснакоў тузінаў чатыры ці пяць; праўда, пры гэтым яны ім заплацілі, па звычайнай цане, а ў дадатак надавалі яшчэ добрую сотню арэхаў ды тры кашы белага вінаграду. Тады прасначнікі дапамаглі цяжка параненаму Маркэ ўзлезці зноў на кабылу і памалу рушылі, але ўжо не ў Парыльe, а назад у Лернэ. А напаследак яшчэ пракрычалі сэгейскім ды сынэйскім пастухам і хутаранам нейкія страшныя і рашучыя пагрозы.

А пастухі і пастушкі, застаўшыся адны, дадушы паласаваліся праснакамі з цудоўным вінаградам ды пачалі весяліцца-гуляць пад гукі валынкі, пасміхаючыся з фанабэрыстых прасначнікаў, якія добра зарабілі на абаранкі, бо ўсталі, відаць, не з тае нагі. Фарж'е тым часам дбайна абмылі ногі сокам турэнскага вінаграду, і ўсё ў яго адразу прайшло.

## РАЗДЗЕЛ XXVI

### Пра тое, як лернэйцы пад камандаваннем свайго караля Пікрахола нечакана напалі на пастухоў Гарганцюа

Вярнуўшыся ў Лернэ, прасначнікі адразу, не піўшы, не еўшы, скіраваліся ў Капітолій да свайго караля Пікрахола Трэцяга і склалі перад ім скаргу, паказваючы свае паламаныя кашы, патаптаныя капелюшы, пашкуматаныя плашчы ды рассыпаныя праснакі, а галоўнае — моцна параненага Маркэ, заявіўшы, што ўсё гэта ўчынілі ім пастухі і хутаране Гарганцюа на бальшаку непадалёк ад Сэйі.

Гэтая навіна страшэнна караля разлютавала, і ён, нават не распытваючы далей ні як ні чаму, загадаў абвясціць па ўсёй краіне пагоню, каб кожны, і стары і малы, пад страхам павешання з'явіўся апоўдні са сваёю зброяй на плошчу перад каралеўскім палацам.

Дзеля большае важкасці свайго загаду ён разаслаў па горадзе і наваколлі бубначоў, а сам, пакуль яму гатаваўся абед, пайшоў распарадзіцца, каб гарматы былі пакладзеныя на лафеты, каб ягоныя сцягі з арыфламаю былі разгорнутыя і каб усяго было назапашана ўдосталь: як збройнага рыштунку, так і харчоў.

За абедам кароль падпісаў прызначэнні. Згодна з ягоным указам, на чале авангарду ў шаснаццаць тысяч чатырнаццаць аркебузіраў ды трыццаць пяць тысяч адзінаццаць добраахвотнікаў павінен быў стаць пан Капцан.

Артылерыя была даручаная вялікаму канюшаму Выхвальяку, а налічвалася ў ёй дзевяцьсот чатырнаццаць адзінак цяжкай пальнае зброі, у тым ліку: бронзавыя маджжэры, падвойныя гарматы, базылікі, сэрпентыны, куляўрыны, бамбарды, фальканэты, пасваланы, спіролі ды іншая зброя. Над ар'ергардам быў пастаўлены герцаг Грашадраль, а галоўныя сілы ўзялі пад сваё камандаванне сам кароль і прынцы каралеўскага роду.

Калі ж войска збольшага ўшыкавалася, было вырашана, перад тым як выступаць у паход, паслаць наперад атрад лёгкай кавалерыі з трохсот коннікаў пад камандаю ваеначальніка Разявака, каб яны агледзелі мясцовасць ды высветлілі, ці няма дзе якой засады. Але старанная разведка паказала, што вакол панууюць цішыня ды спакой і ніякіх вайсковых злучэнняў не выяўлена.

Пачуўшы гэта, Пікрахол даў загад зараз жа выступаць кожнаму пад сваёй харугвай.

Тут адразу ўсё перамяшалася, і войска без складу і ладу паваліла па палях, ломячы й нішчачы ўсё на сваім шляху, не шкадуючы ні беднага, ні багатага, ні храмаў, ні сялянскіх хат; яны цягнулі за сабою быкоў, кароў, валоў, цялят, цялушак, авечак, бараноў, коз і казлоў, курэй, каплуноў, куранят, гусянят, гусей, гусакоў, вяпрукоў, свіней і парасят, латашылі арэхі, абдзіралі вінаград, зносілі з сабою цэлыя лозы і абтрасалі ўсе пладовыя дрэвы. Няма з чым параўнаць, якія разруху і вэрхал яны ўчынялі, але ніхто ім ніяк не супраціўляўся; усе сяляне адразу здаваліся ім на літасць і прасілі толькі аднаго: каб пераможцы абыходзіліся з імі палюдску, прымаючы пад увагу, што яны спрадвеку былі ім добрымі і дружнымі суседзямі і ніколі не ўчынялі ніякай абразы ні крыўды, каб вось гэтак знячэўку цярпець гэткія здзекі, але ж Божанька ўсё бачыць і за ўсё іх пакарае. У адказ на такія папрокі і перасцярогі ваякі адказвалі сялянам, што яны, маўляў, прыйшлі навучыць іх, як праснакі есці.

## РАЗДЗЕЛ XXVII

### Пра тое, як адзін манах з Сэйі ўратаваў манастырскі сад ад варожых рабункаў

Гэтак шалеючы ды лютуючы, крадучы ды рабуючы, дабраліся яны да Сэйі, дзе пачалі абдзіраць ды абабіраць мужчын і жанчын і хапаць усё, што траплялася пад руку: нічога яны не цураліся і нічым не грэбавалі. І нават не зважаючы, што ў большасці дамоў панавала чума, яны ламаліся ва ўсе дзверы, выносілі ўсё, што знаходзілі, і пры гэтым ніхто з іх не заразіўся. А гэта ўжо само па сабе выпадак найдзівоснейшы, бо святары, вікарыі і прапаведнікі, хірургі, лекары ды аптэкары, якія лячылі, перавязвалі, наведвалі, спавядалі і настаўлялі хворых, усе як адзін заразіліся і загавелі душой. З чаго б гэта магло быць, панове? А вы падумайце, калі ласка.

Разрабаваўшы такім чынам мястэчка, войска з жудасным грукатам рушыла да манастыра, але манастыр аказаўся з усіх бакоў зачынены на замкі ды запоры, і таму галоўныя сілы выступілі далей, да Вэдскага броду, а сем дружынаў пяхоты і дзвесце коннікаў з дзідамі засталіся, каб праламаць манастырскія муры ды, залезшы ў сад, спляжыць усе вінаграднікі.

Нябогі манахі не ведалі, якому святому маліцца. На ўсякі выпадак яны пачалі званіць *ad capitulum capitulantes*[5]. На сходзе было вырашана наладзіць урачыстую працэсію, прыправіўшы яе чароўнымі песнапеннямі ды літаннямі *contra hostium insidias*[6], а таксама чытаннем біблейскіх выслоўяў *pro pace*[7]

Быў на той час у манастыры адзін манах, празываны братчык Жан Бікрышы, чалавек малады, абыходлівы, жыццярадасны, спрытны, адважны, бясстрашны, рашучы, высокі, хударлявы, не абдзелены глоткаю, не пакрыўджаны носам, майстар адсмаліць імшу, адчасаць ютрань ды адшпарыць нешпар,— адным словам, самы сапраўдны манах, якога бачыў свет з тае пары, як пачаў па-манаску манахамі абманашвацца. А яшчэ дадамо, што кантычку ён ведаў усю як ёсць назубок.

І вось, калі гэты самы манах пачуў шум, які ўтваралі ў манастырскім садзе ворагі, і выйшаў паглядзець, што ж там такое, ён убачыў, што злодзеі абдзіраюць вінаград, ад якога залежыць увесь гадавы манастырскі запас віна. Тады ён што было духу паляцеў назад да касцёла і заспеў там астатніх манахаў, якія, вылупіўшы вочы, як бараны, на біблію, цягнулі:

— *Ini nim, pe, ne, ne, ne, ne, ne, ne, tum, ne, num, num, ini, i, mi, i, mi, co, o, ne, no, o, o, ne, no, ne, no, no, no, rum, ne, num, num!..*[8]

—Божа праведны, як чароўна яны пяюць — што сабакі выюць!— сказаў ён.— А чаму б вам лепей не заспяваць:

Кашы, бывайце, збор мінуўся?

Бо каб мяне чэрці кармілі-паілі, калі яны ўжо не ўлезлі ў наш сад і не рэжуць вінаград разам з лозамі! Дык гэтак жа мы, не ведзячы свет, яшчэ чатыры гады за імі адны рэшткі падбіраць будзем! А бадай ты бадай, што ж мы, нябогі, увесь гэты час будзем піць? Божа літасцівы, *da mihi potum!*[9]

Тут наперад выступіў ігумен.

—Што тут робіць гэты п'янюга?— сказаў ён.— Ану, кіньце яго ў вязніцу. Як можа ён замінаць, калі мы славу Богу пяем?!

—Але, Вашая прывялебнасць,— адказаў манах,— якраз тады мы, слава Богу, пап'ем, калі нам ніхто замінаць не будзе. Бо самі вы, як кожны добры чалавек, любіце добрае вінцо. А ніводзін пачэсны чалавек ніколі добрага віна ганіць не будзе — такая ў нас, у манахаў, ёсць апафтэгма. Так што гэтае вашае пяянне тут, далібог, няўчаснае!

З чаго, скажыце, у час жніва і збору вінаграду нашыя набажэнствы кароткія, а ўзімку доўгія? Добрай памяці брат наш Масэ Пэлюс, шчыры руплівец нашае веры (каб мяне чэрці ўбрыкнулі, калі я хлушу), тлумачыў мне, як прыгадваецца, прычыну гэтага тым, што ўлетку і ўвосень мы выціскаем сок і робім віно, а ўзімку гэтым віном частуемся.

Дык слухайце, шаноўныя, усе, хто аматар да выпіўкі: з намі Бог — за мной! Бо шчыра кажу, хай мяне спаліць антонаў агонь, калі хто з вас дакранецца да пляшкі, не схацеўшы цяпер абараніць вінаграднікаў! Ды што я кажу, святыя ўгоднікі,— гэта ж увесь наш царкоўны набытак! Чакай, чакай! Халера! Дык гэта ж за яго ахвяраваў жыццём святы Тамаш Ангельскі: значыць, калі я памру, мяне таксама залічаць у святыя? Ну ўжо не, я не памру — ужо лепш я сам іх да Абрагама па піва адпраўлю.

З гэтымі словамі ён скінуў з сябе габіт і ўхапіў здаравенную пярэчыну ад рабінавага крыжа — яна была даўжэзная, як кап'ё, таўшчэзная, як добры кулак, і сям-там размаляваная лілейкамі, якія, праўда, ужо амаль сцерліся. І так, у адным падрасніку, павязаўшы габіт цераз плячо і патрасаючы пярэчынаю ад крыжа, ён неспадзеўкі рынуўся на ворагаў, якія, страціўшы баявы парадак, без сцягоў, без трубаў ды бубнаў, абдзіралі сабе ў садзе вінаград: значканосцы са сцяганосцамі папрыпіралі свае значкі ды сцягі да мура, бубначы папрапорвалі з аднаго боку бубны, каб было куды ссыпаць вінаград, а ўсе трубы былі напханыя цэлымі гронкамі — ворагі разбрыліся па садзе каму куды собіла. І тут на іх без ніякага папярэджання са страшэннаю сілаю наляцеў манах; асабліва не разводзячы цырымоніяў, ён пачаў пярэсціць злоснікаў па чым давядзецца і раскідаць іх, як куранят.

Адным ён раскавельваў чарапы, другім ламаў рукі ды ногі, трэцім перабіраў пазванкі на карку, чацвёртым пералічваў скабы, квасіў насы, падвешваў пад вачыма ліхтары, зварочваў сківіцы, прарэджваў зубы, выкручваў лапаткі, адбіваў лыткі, вывіхваў сцёгны, драбіў рэпкі ды локці.

Хто спрабаваў схавацца ў густым вінаградным лісці, таму ён напалам перабіваў спінны хрыбет і, як сабаку, раструшчваў хвасцец.

Хто спрабаваў уратавацца ўцёкамі, таму ён рассаджваў галаву на кавалкі якраз па самым ламбаідальным шве.

Хто залазіў на дрэва, спадзеючыся, што там знойдзе бяспеку, таму ён заганяў пярэчыну якраз у заднепраходную адтуліну.

А калі хто з былых знаёмцаў крычаў: «Гэй, братка Жан, дружа добры! Братка Жан, я здаюся!» — таму ён адказваў: «А дзе ты дзенешся! Але здавай ужо разам і душу сваю ўсім чарцям!» — І адным махам яго агаломшваў.

Калі ж раптам трапляўся хто трошкі смялейшы і спрабаваў з ім падужацца, тут ужо ён паказваў усю моц сваіх цягліц і прабіваў яму грудное міжсценне аж да самага сэрца. Каму не ўдавалася паказытаць рэбры, тым ён выварочваў страўнік, і яны на месцы каналі. Другіх ён так моцна акладаў па пупку, што ў іх ажно вывальваліся вантробы. А некаторым ён распанахваў паміж ядрамі ўсё аж да самае кутняе кішкі. Паверце, відовішча было найжахлівейшае з усіх, якія калі-небудзь даводзілася ўбачыць.

Адны крычалі: «Святая Барбара!»

Другія: «Святы Юрый!»

Трэція: «Святая Незачэпа!»

Чацвёртыя: «Маці Боская Кюноская! Ларэцкая! Дабравесніца! Ленуская! Рыўерская!»

Адны прасілі ратунку ў святога Якуба.

Другія — у шамберыйскае плашчаніцы, якая, дарэчы, трыма месяцамі пазней згарэла, так што і нітачкі ад яе ўратаваць не ўдалося.

Трэція — у кадуінскіх мошчаў.

Чацвёртыя — у святога Яна Анжэрыйскага.

Пятыя — у святога Эўтропа Сэнцкага, святога Мэсма Шынонскага, святога Мартына Кандскага, святога Клаўдыя Сінэйскага, у жаўрызэйскіх мошчаў і ў тысячы розных іншых святых, рангам драбнейшых.

Адны паміралі, не гаворачы, другія гаварылі, не паміраючы. Адны паміралі і гаварылі, другія гаварылі і паміралі.

А былі такія, хто пачынаў на ўсю глотку крычаць: «Спавядальніка! Спавядальніка! *Confiteor! Miserere! In manus!*»[10]

Пачуўшы галасны лямант параненых, ігумен з усімі манахамі выйшлі ў сад, і, убачыўшы бедных-няшчасных, што ляжалі сярод вінаграднікаў і гэтага ўжо былі выпусціць з цела душу, яны ўзяліся некаторых з іх спавядаць. А пакуль духоўнікі прабаўляліся споведзямі, малады паслушнікі пабеглі да братчыка Жана і папыталіся, ці могуць яны чым-небудзь яму дапамагчы. На гэта братчык Жан ім адказаў, што няхай, маўляў, даразаюць тых, хто валяецца на зямлі. Паслушнікі тут жа павесілі свае доўгія хламіды на бліжэйшы жываплот ды пачалі даразаць і дабіваць тых, хто ўжо быў за тры чвэрці ад смерці. І ведаеце, чым яны гэта рабілі? Маленькімі ножычкамі, гэткімі крывенькімі сцізорыкамі, якімі дзятва ў нашых краях лушчыць зялёнае шалупінне з валоскіх арэхаў.

Братчык Жан тым часам са сваёю пярэчынаю дабраўся да пралома, зробленага непрыяцелем. А паслушнікі, хто ўвішнейшы, пачалі расцягваць сцягі па келлях, каб пасля зрабіць сабе з іх падвязкі. Калі ж тыя, хто спавядаўся, хацелі шмыгануць у пралом, братчык Жан адным ударам уходваў іх, прымаўляючы:

— Хто спавядаўся, пакаяўся і дастаў даравання грахоў, таму простая дарога ў рай — нацянкі два дзянькі ды пасля ўлукаткі.

Так дзякуючы яго адвазе была паагалоўна вынішчаная частка варожага войска, якая

пранікла ў сад, а было ў ёй трынаццаць тысяч шэсцьсот дваццаць два чалавекі, і гэта, як ужо яно павялося, без уліку жанчын і дзяцей.

Сам пустэльнік Мажыс, пра якога пісана ў *Подзвігах чатырох сыноў Эмонавых,* не выявіў такой мужнасці, ідучы са сваім посахам на сарацынаў, якую паказаў братчык Жан, выйшаўшы супраць ворагаў з пярэчынаю ад крыжа.

## РАЗДЗЕЛ XXVIII

### Пра тое, як Пікрахол прыступам узяў Ларош-Клермо, і пра тое, як цяжка і горка было Грангузье пачынаць вайну

Тым часам як братчык Жан, згодна з вышэй апісаным, дубасіў ворагаў, што ўлезлі ў манастырскі сад, Пікрахол з вялікай паспешнасцю перайшоў са сваімі людзьмі Вэдскі брод і аблажыў Лярош-Клермо, дзе, зрэшты, ні ад кога не сустрэў ніякага супраціву; а таму, што пачынала ўжо цямнець, ён вырашыў пераначаваць з усім войскам у гэтым горадзе ды даць крыху суцішыцца свайму гнеўнаму свербу.

Раніцай ён узяў прыступам абарончыя валы і гарадскі замак і пачаў яго як след умацоўваць ды забяспечваць усімі патрэбнымі прыпасамі, вырашыўшы — на той выпадак, калі раптам на яго нападуць,— абсталяваць тут сабе прытулак, бо месца гэтае дзякуючы свайму становішчу і размяшчэнню мела не толькі збудаваныя, але і натуральныя ўмацаванні.

Тут мы яго пакуль што пакінем, а самі вернемся да нашага добрага Гарганцюа, які рупліва вывучае ў Парыжы навукі ды ў прамежках займаецца атлетычнымі практыкаваннямі, і да ягонага бацькі Грангузье, які пасля вячэры якраз сядзіць цяпер і грэе задніцу каля вясёлага, светлага і цёплага агню ды чакае, пакуль падпражацца каштаны, выводзячы нешта на падлозе каля агменя абгарэлым канцом палкі, якой варушаць вуголле, ды баячы жонцы і ўсім сямейнікам пра добрыя старыя часы.

Якраз гэтай парою прыбег да Грангузье пастух, на імя Піло,— з тых, што вартавалі вінаграднікі,— і падрабязна, нічога не выпускаючы, пачаў расказваць яму, якія зладзействы і рабункі чыніць у яго ўладаннях і землях лернэйскі кароль Пікрахол, як ён абабраў, абадраў і спляжыў увесь яго край (апроч Сэйільскага манастыра, уратаванага дзякуючы геройству манаха братчыка Жана Бікрышы) і што цяпер, маўляў, гэты самы Пікрахол засеў з усім сваім войскам у Лярош-Клермо і з вялікай паспешлівасцю яго ўмацоўвае.

—О гора мне, гора!— адказаў на гэта Грангузье.— Што ж гэта робіцца, людцы добрыя? Ці сніцца мне, ці ўсё гэта праўда? Каб мой стары, нязменны мой сябар Пікрахол, з якім нас лучаць сваяцкія і кроўныя повязі, ды раптам на мяне напаў? Ды хто ж яго на гэта штурхнуў? Хто падгаварыў-падбухторыў? Хто яму гэта параіў? Вох-вох-вох-вох! Божа ж мой, Божа-Збавіцель, дапамажы мне, навучы ды парай, што мне рабіць! Будзь да мяне літасцівы, бо клянуся-прысягаюся перад табою, што ніколі я не рабіў яму ніякай нялюбасці, ніколі не чыніў ніякага ліха ягоным сялянам, не бяззэчнічаў у ягоных землях,— наадварот, я заўсёды яму дапамагаў і людзьмі, і грашыма, і прыхільнасцю, і парадай, ва ўсіх выпадках жыцця стараўся быць яму карысны. Відаць ужо, нячысцік яго падаткнуў, калі ён здолеў гэтак мяне пакрыўдзіць. Божа мілы, ты ведаеш усе мае думкі, бо нічога немагчыма ад цябе стаіць! Калі, выпадкам, ён звіхнуўся з розуму і ты накіраваў яго да мяне, каб уставіць яму мазгі, дык дай жа мне сілы і ўмення праз добрую навуку вярнуць яго ва ўлонне тваёй святой волі.

Вох-вох-вох! Людцы мае добрыя, сябры мае і верныя мае слугі, няўжо мне давядзецца дакучаць вам сваімі просьбамі аб дапамозе? Ах ты, гора, маё гора! На старасці год я ўжо толькі пра спачынак і марыў і ўсё жыццё хацеў аднаго — каб вакол былі мір ды спакой. Ды, відаць, давядзецца мне зноў цяпер надзець панцыр на мае чэзлыя, нямоглыя плечы і ўзяць у дрыготкія рукі дзіду і булаву, каб заступіцца і абараніць маіх бедных падданых. Так загадвае мне справядлівасць, бо іхняю працаю я жыву і іхнім потам кармлюся — і я сам, і дзеці мае, і ўсе мае сямейнікі.

І ўсё ж вайны я не распачну, пакуль не выпрабую ўсіх мірных сродкаў і спосабаў,— такое маё рашэнне.

Пасля гэтага ён загадаў склікаць раду, на якой расказаў усё, што да чаго ды як, і было на ёй вырашана паслаць да Пікрахола якога-небудзь разважнага чалавека, каб той даведаўся, з чаго гэта раптам сусед так раз'юшыўся ды захапіў землі, на якія не мае ніякага права, ды паслаць таксама па Гарганцюа з ягонымі прыбліжанымі, каб яны, вярнуўшыся, падтрымалі і абаранілі краіну ў такі цяжкі час. Усё гэта спадабалася Грангузье, і ён пастанавіў, каб так усё і зрабілі.

Зараз жа ён паклікаў свайго лёкая-баска і загадаў, каб той, не марудзячы, выпраўляўся да Гарганцюа ды завёз яму яго, бацькаў, ліст.

## РАЗДЗЕЛ XXIX

### Пра тое, аб чым Грангузье пісаў у сваім лісце да Гарганцюа

«Твая руплівая вучоба яшчэ доўга патрабавала б не парушаць твайго філасафічнага заспакаення, калі б сёння нашыя сябры і старыя хаўруснікі не ашукалі майго даверу і не патурбавалі старэчага майго адпачынку. Але такі ўжо, відаць, злы гэты лёс, што найбольшы клопат дастаецца якраз ад тых, на каго болей за ўсё пакладаўся; і таму я вымушаны цяпер паклікаць цябе на абарону людзей і ўладанняў, даручаных табе паводле натуральнага права.

Бо як бескарысна брацца за зброю, калі ў тваёй хаце рады няма,— гэтаксама й бясплённая любая вучоба і марная парада, калі іх не ўжыць у патрэбны час і не давесці да адпаведнае мэты.

Мая ж мэта не распаляць, а мірыць, не нападаць, а абараняць, не захопліваць, а заступацца за маіх верных падданых і спадчынныя мае землі, у якія гэтак без дай прычыны, як сапраўдны злодзей, уварваўся наш сусед Пікрахол і чыніць цяпер дзень пры дні сваю ліхую справу, наносячы нясцерпныя крыўды нашаму вольнаму люду.

Я лічу за свой абавязак суняць яго тыранічны гнеў і стараюся прапанаваць усё, што, на маю думку, магло б яго задаволіць; ужо не адзін раз я з самымі дружалюбнымі намерамі пасылаў да яго людзей, каб даведацца, хто, чым і як мог яго гэтак абразіць, але ў адказ ён толькі задзірліва заяўляе, што мае права рабіць у маіх землях усё, што яму заманецца. З гэтага я раблю выснову, што Бог, апякун наш вечны, за адзінае стырно пакінуў яму толькі ўласныя яго одум і волю, а яны не могуць быць не ліхія, калі не кіруюцца штохвілінна Боскаю мілатою; і таму — каб абудзіць у ім пачуццё адказнасці і вярнуць яму ўсведамленне рэчаў — неба наслала яго на мяне з вайной.

У сувязі з такімі абставінамі, сыне мой любы, прачытаўшы гэты мой ліст, паспяшайся як мага хутчэй дадому на дапамогу не столькі мне (хоць праз пачуццё натуральнай спагады ты й павінен гэта зрабіць), колькі тваім падданым, ратаваць і абараніць якіх — твой абавязак. Гэты подзвіг табе належыць зрабіць з найменшым кровапраліццем, і тады, дасць Бог, ужываючы адпаведныя ў кожным выпадку сродкі, перасцярогі і ваенную хітрасць, мы здолеем ратаваць душы людзей і, ім на радасць, адпусцім іх па дамах.

Няхай жа будзе з табою, найдаражэйшы мой сыне, ласка збавіцеля нашага Ісуса Хрыста. Прывітай ад мяне Панакрата, Гімнаста і Эўдэмона.

20 верасня.
Твой бацька,
Грангузье»

## РАЗДЗЕЛ XXX

### Пра тое, як да Пікрахола быў пасланы Ульрых Гале

Прадыктаваўшы і падпісаўшы ліст, Грангузье паклікаў свайго вярхоўнага суддзю Ульрыха Гале, чалавека разумнага і дасведчанага, які неаднаразова ўжо выяўляў сумленнасць і разважнасць пры разборы самых заблытаных спраў, і загадаў яму ехаць да Пікрахола ды перадаць усё, што было вырашана на іхняй радзе.

У тую ж хвіліну слаўны Гале рушыў у дарогу і, перабраўшыся цераз брод, папытаўся ў мясцовага млынара, дзе цяпер можа быць Пікрахол. На гэта млынар яму адказаў, што Пікрахолавы ваякі начыста яго абабралі, не пакінуўшы ні пуляркі, ні пеўня, а самі заселі ў Лярош-Клермо і што ён, маўляў, не раіць яму ісці далей, бо ворагі вельмі лютуюць, і крый Божа, каб не трапіць яму на іхні дазор. Гале млынару лёгка паверыў і застаўся пераначаваць у ягонае хаце.

А назаўтра раніцай, трубячы ў трубу, ён пад'ехаў да замкавай брамы і запатрабаваў у варты, каб яго пусцілі пагутарыць з каралём — таму ж, маўляў, на карысць.

Словы трубача былі перададзеныя Пікрахолу, але той загадаў ні ў якім разе браму не адчыняць і, выйшаўшы на вал фартэцыі, спытаўся ў пасланца:

—Ну, што там за навіна? Што вы мне хацелі сказаць?

Тады Ульрых Гале звярнуўся да яго з прамовай.

## РАЗДЗЕЛ XXXI

### Прамова, з якою Гале звярнуўся да Пікрахола

—Спавядліва кажуць, што няма болей сумнай падставы адчуць у душы боль, чым тады, калі людзі, ад якіх вы па праву чакалі ласкі й зычлівасці, чыняць вам крыўду і шкоду. Менавіта з гэтай прычыны (хоць не й нельга лічыць разумнаю) шмат хто, апынуўшыся ў падобным становішчы, уважаў за лепшае развітацца з жыццём, чым цярпець такую знявагу, але, упэўніўшыся, што не немагчыма выправіць ані сілай, ані іншымі сродкамі, урэшце даводзіў сябе да самагубства.

Таму не дзіва, што люты і непрыхавана варожы набег твой прывёў майго гаспадара, караля Грангузье, у вялікую роспач і скруху. Дзіўна было б, наадварот, калі б яго не ўсхвалявала такое нечуванае самавольства, якое ты і людзі твае чыніце ў яго землях ды над яго падданымі, самавольства, якое ні з чым немагчыма параўнаць па ягонай бесчалавечнасці, і гэта асабліва выклікае ў майго караля вялікае шкадаванне, бо ва ўсім свеце не знайсці другога такога гаспадара, які б з такою сардэчнай спагадай і ласкаю ставіўся да сваіх падданых. Але, шчыра кажучы, болей за ўсё маркоціць яго тое, што злачынствы гэтыя і прыгнёт чыняцца менавіта тваімі людзьмі і табою, бо з пракаветных часоў і ты, і дзяды твае заўсёды дружылі і сябравалі і з ім, і з ягонымі продкамі і дружбу гэтую, дасюль непарушную, супольна заўжды берáглі, ахоўвалі і шанавалі, як святыню, так што не толькі ён і яго падданыя, але і чужын-

цы — пуатвінцы, брэтонцы, мансольцы і ўсе, хто жыве па-за Канарскімі выспамі ды горадам Ізабэлаю,— лічылі, што лягчэй абрынуць скляпенне нябеснае і ўзнесці апраметную да завоблачнай вышыні, чым разбурыць ваш саюз, і яго настолькі ўсе баяліся ў сваіх варожых замерах, што ніхто ніколі не насмельваўся кінуць выклік, узлаваць ці прычыніць шкоду каму-небудзь аднаму з вас, баючыся гневу другога.

Болей за тое. Розгаласам пра вашу свяшчэнную дружбу настолькі поўніцца паднябесная, што сярод народаў, якія насяляюць увесь кантынент і акіянскія выспы, мала знойдзецца сёння такіх, якіх не грэлі б надзеі ўступіць у ваш саюз на пастаўленых вамі ж умовах, бо лучнасць вашую яны паважаюць настолькі ж, наколькі паважаюць уласныя свае ўладанні і землі; і дзякуючы гэтаму — колькі хапае памяці — ніколі яшчэ не было такога манарха ці іх аб'яднання, якія б набраліся пыхі ці звар'яцелі настолькі, што паквапіліся б — я ўжо не кажу —на вашыя землі, але нават на землі вашых саюзнікаў, а калі хто-небудзь, наслухаўшыся неразумных парадаў, пачынаў строіць супраць іх падступныя планы, дык, пачуўшы ўжо толькі адно імя і назву вашага саюза, адразу ад іх адмаўляўся.

Дык што ж цябе прывяло цяпер у такое шаленства, што ты, разбурыўшы ўвесь ваш саюз, патаптаўшы ўсю дружбу, пераступіўшы ўсякае права, гэтак па-варожаму ўварваўся ў нашыя землі, хоць ні мой кароль, ні яго падданыя не прычынілі табе ніякае шкоды, нічым цябе не ўгнявілі і нічым не абразілі? Дзе ж вера? Дзе закон? Дзе розум? Дзе чалавечнасць? Дзе страх перад Богам? Ці, можа, ты думаеш, што твае зладзействы схаваюцца ад духаў нябесных і ўсемагутнага нашага Бога, які па справядлівасці дае кожнаму паводле ўчынкаў ягоных? Калі ты гэтак думаеш — ты памыляешся, бо нішто не ўнікне ягонага суду. А можа, усё гэта злое наканаванне лёсу і ўплыў ліхіх зор, якія вырашылі пакласці канец твайму дабрабыту й спакою? Кожная рэч у гэтым свеце мае сваю мяжу і канец, і ўсё, што дасягае сваёй найвышэйшае кропкі, немінуча абрынаецца ўніз, бо не можа доўга трываць у гэтым становішчы. Менавіта такі канец чакае кожнага, хто не ўмее разважна памяркоўнасцю стрымаць сваіх прагных памкненняў і не задавальняецца заможнасцю і багаццем, якіх дасягнуў.

Але калі ўжо такі табе выпаў лёс і тваім спакою і шчасцю мусіў настаць канец, дык хіба трэба было, каб нягоды праз гэта цярпеў мой кароль — той, дзякуючы каму ты падняўся на трон? Калі твайму дому наканавана было ўпасці, хіба трэба было, каб, падаючы, ён абрынуўся на агмень таго, хто яго аздабляў? Усё гэта настолькі не месціцца ў рамках разумнага, настолькі пярэчыць усякай рацыі, што наўрад ці чалавечая свядомасць здольная ўсё гэта ўспрыняць. І нават чужынцы не дадуць гэтаму веры, а калі ўпэўняцца і пераканаюцца, што такое магло-такі здарыцца, дык прыйдуць да адзінае думкі, што таму, хто дзеля сваіх падступных замераў выракаецца Бога і прынятых законаў,— нішто ўжо не міла й не свята.

Калі б мы ўчынілі якую шкоду тваім падданым або ўладанням, калі б выявілі прыхільнасць да тваіх злоснікаў, калі б не дапамаглі табе ў тваіх нягодах, калі б зняславілі тваё імя і твой гонар ці — што найбольш верагодна — калі б які-небудзь падступны пляткар і д'яблаў паслужнік, жадаючы штурхнуць цябе на нядобрае, ілжывымі байкамі і гнюснымі выдумкамі ўклаў табе ў галаву, што мы ўчынілі нешта ганебнае і нявартае нашай даўняе дружбы, ты перш за ўсё павінен быў дашукацца праўды і потым выставіць нам прэтэнзіі, а мы ўжо па тваім патрабаванні зрабілі б усё, што магло б цябе задаволіць. Але — о Божа вечны!— што зрабіў ты? Няўжо, як падступны тыран, ты вырашыў гэтак проста разрабаваць і спляжыць каралеўства майго гаспадара? Няўжо ты падумаў, што ён такі баязлівы і неразумны, што не захоча, ці такі бедны на грошы, дарадцаў, на люд і на зброю, што не здолее даць адпору тваім вераломным наскокам?

Зараз жа выбірайся адсюль раз і назаўжды, і каб заўтра ўжо ты быў у сваіх землях, а калі будзеш выходзіць, не ўздумай чыніць па дарозе ніякага шуму ні гвалту; за нанесеную ж нашым землям шкоду заплаці тысячу залатых бізантаў — палову заўтра, а другую палову на бліжэйшыя майскія іды, пакінуўшы нам тым часам заложнікамі герцагаў дэ Галяка, дэ Віслазада і дэ Карантыша, а таксама князя дэ Кароста і віконта дэ Вашапруда.

## РАЗДЗЕЛ XXXII

### Пра тое, як Грангузье, жадаючы дамагчыся міру, загадаў вярнуць праснакі

Калі слаўны Гале, скончыўшы прамову, змоўк, Пікрахол на ўсе яго довады адказаў так:

—Ага, ага, хадзіце ды бярыце, заўтра з мехам прыходзьце! А то ж у мяне ваякі бы з цеста. Дык прыходзьце, яны наробяць вам праснакоў.

Тады Гале вярнуўся да Грангузье і заспеў гаспадара на тым, што ён, стоячы на каленях, з непакрытаю галавой, маліўся на покуці ў сваім пакоі Богу, просячы яго вярнуць Пікрахолу розум і суцішыць ягоны гнеў, каб дзеля гэтага не спатрэбілася ўжываць сілы. Заўважыўшы, што Гале вярнуўся, Грангузье спытаў:

—Ах, дружа мой, дружа, якія ж навіны вы мне прынеслі?

—Няма з ім ніякай рады,— адказаў Гале.— Гэты чалавек зусім з глузду з'ехаў, сам Бог ад яго адступіўся.

—Вунь як!— сказаў Грангузье.— Але, дружа, чым ён усё-такі тлумачыць свае зладзействы?

—Ніякіх прычын ён мне не назваў,— адказаў Гале.—Праўда, у гневе ён крыкнуў штосьці пра праснакі. Хто яго ведае, можа, праўда нашыя пастухі нешта ўчынілі яго праснaчнікам?





—У такім разе,— сказаў Грангузье,— раней чым вырашыць, што нам рабіць далей, я павінен ва ўсім гэтым як след разабрацца.

Ён зараз жа загадаў, каб па гэтай справе навялі звесткі, і высветліў, што, сапраўды, яго пастухі гвалтам забралі ў Пікрахолавых праснaчнікаў некалькі праснакоў і што нейкі Маркэ дастаў пры гэтым па галаве дубінаю, але, разам з тым, за ўсё захопленае было добра заплачана, а памянёны Маркэ сам першы параніў Фарж'е, хвастануўшы яго па нагах пугаю. Улічваючы апошнюю акалічнасць, скліканая рада аднагалосна пагадзілася, што Фарж'е зрабіў усё слушна, бо вымушаны быў абараняцца. Але Грангузье, не адмаўляючы агульнай высновы, тым не менш сказаў:

—Калі гаворка ідзе ўсяго пра некалькі праснакоў, я ўсё ж паспрабую Пікрахола ўлагодзіць, бо вельмі не хацелася б мне праз гэта ўвязвацца ў вайну.

Зараз жа паслалі спытаць, колькі праснакоў было ўзята, і, калі даведаліся, што тузінаў чатыры ці пяць, Грангузье пастанавіў, каб за адну ноч іх напяклі пяць поўных вазоў і адзін, з найлепшымі праснакамі, выпечанымі на найлепшым масле, не шкадуючы яек, цудоўнага шафрану і духмяных прысмакаў, перадалі Маркэ, якому за панесеныя страты ён выдаткоўваў яшчэ і семсот тысяч тры залатыя філіпы — на аплату лекарам за зробленыя перавязкі — і ў дадатак адпісваў у вечнае і бясплатнае карыстанне — яму і ягоным нашчадкам — хутар Памардзьер. Завесці і перадаць дарункі прызначаны быў Гале. Дарогаю, калі яны праязджалі праз паплавы, што каля Сале, ён загадаў нарэзаць як мага болей трыснягу і чароту і, упрыгожыўшы імі вазы, даць па сцябліне і кожнаму возніку; адну сцяблíну ён узяў у рукі і сам, жадаючы паказаць гэтым, што просяць яны аднаго толькі міру і менавіта дзеля яго прыехалі.

Пад'ехаўшы да замкавай брамы, яны паведамілі, што маюць гутарыць з Пікрахолам ад імя Грангузье. Пікрахол, аднак, загадаў іх не ўпускаць і перадаць, што ён, маўляў, вельмі заняты і выйсці да іх не можа, але, калі хочуць, няхай перакажуць усё капітану Выхвальяку, які цяпер якраз на замкавых мурах назірае, як кладуць на лафет гармату. Тады Гале прамовіў да Выхвальяка:

—Васпане, каб у вас не было болей прычыны з намі спрачацца і каб зніклі ўсе перашкоды, якія не дазваляюць вам зноў уступіць з намі ў саюз, мы прыехалі вярнуць вам праснакі, якія паслужылі падставай разладу. Нашыя ў вас забралі іх пяць тузінаў, за ўсё гэта было добра заплачана, але мы настолькі шануем мір, што цяпер вяртаем вам цэлыя пяць вазоў, і адзін — вось гэты — асабіста Маркэ, які найбольш пацярпеў. Апроч таго, дзеля поўнага яго задавальнення я маю ўручыць яму семсот тысяч тры залатыя філіпы, а на пакрыццё нанесеных страт, якога ён мог бы ад нас запатрабаваць, перадаю ў вечнае ўладанне хутар Памардзьер, якім ён і яго нашчадкі змогуць карыстацца бязвыплатна, пра што сведчыць вось гэтая дароўная грамата.І давайце, дзеля ўсяго святога, будзем жыць з гэтага часу ў міры; вяртайцеся ў вясёлым гуморы дадому, а гэтае месца пакіньце нам, тым больш што вы самі цудоўна ведаеце, што не маеце на яго ніякага права, і будзем, як і раней, сябрамі.

Усё гэта Выхвальяк перадаў Пікрахолу, а пасля, каб распаліць у яго геройства, сказаў:

—Ото хамулы пераляқаліся! Далібог, гэты стары п'янтос Грангузье поўныя штаны наваліў! Вайну ваяваць — гэта яму не чаркі куляць, тут ён не майстар. Я вось што думаю: забярэм у іх грошы і праснакі, а тады хуценька тут умацуемся ды пойдзем далей множыць нашыя поспехі. А то што яны думалі — з дурнем якім справу маюць? Спадзяваліся накарміць вас гэтымі праснакамі? А ўсё таму, што вы надта ласкава заўжды з імі абыходзіліся, дужа дазвалялі з сабой фамільярнічаць — вось яны цяпер і лічаць вас за нішто. Ну ды як вы з намі, так і мы з вамі: не ўсё ж мігдалами карміць.

—Правільна-правільна,— сказаў Пікрахол.— Святым Богам клянуся, яны ў мяне пабачаць! Рабіце ўсё, як сказалі.

—Я вас толькі вось пра што хачу папярэдзіць,— сказаў Выхвальяк.— З правіянтам у нас тут не надта густа, і калі Грангузье надумаецца нас аблажыць, з харчамі можа выйсці нявыкрутка. Таму я ўжо зараз пайду й загадаю, каб мне павыдзіралі ўсе зубы, пакінуўшы толькі тры, і вашым жаўнерам раю ўсім зрабіць тое самае, інакш мы ўмэнт усе прыпасы патрушчым.

—Ну не,— не пагадзіўся Пікрахол,— харчоў у нас хоць адбаўляй. Дый што мы сюды прыйшлі — аб'ядацца ці змагацца?

—Змагацца, вядома,— адказаў Выхвальяк.— Але ж якая страва, такая й справа, а дзе голад пануе, там сілы бракуе.

—Ну чаго языком малоць!— сказаў Пікрахол.— Ідзіце ды забірайце ў іх усё, што яны прывезлі.

Тут жа ў пасланцаў забралі і грошы, і праснакі, і быкоў, і вазы, а потым выставілі іх прэч без ніякага адказу, гыркнуўшы толькі, каб да замка яны болей блізка не падыходзілі, а чаму — маўляў, заўтра даведаюцца. Так, нічога не выходзіўшы, пасланцы вярнуліся да Грангузье і, усё яму расказаўшы, дадалі, што ніякай іншай надзеі схіліць злачынцаў да міру няма, апроч як аб'явіць ім вайну не на жыццё, а на смерць.

## РАЗДЗЕЛ XXXIII

### Пра тое, як пэўныя Пікрахолавы начальнікі паставілі яго сваімі неразважнымі парадамі ў страшную небяспеку

Калі захоп праснакоў быў закончаны, да Пікрахола прыйшлі герцаг дэ Карантыш, граф Задзірак і военачальнік Блазэн і сказалі:

—Сір! Мы гатовыя зрабіць вас самым удалым і непераможным гаспадаром ад часоў Аляксандра Македонскага.

—Надзеньце, надзеньце капелюшы,— адказаў ім Пікрахол.

—Вельмі ўдзячныя,— сказалі яны.— Сір, мы ведаем сваю справу. Зрабіць трэба вось што: пакіньце тут невялічкі атрад пад камандаю якога-небудзь военачальніка — гэты гарнізон будзе ахоўваць замак, які ўяўляецца нам і так добра ўмацаваным як дзякуючы свайму натуральнаму становішчу, так і тым абарончым будовам, што ўзведзеныя паводле нашых праектаў. Астатняе войска падзяліце надвая — як самі палічыце лепей. Адна частка наваліцца на Грангузье з ягонымі мужыкамі. З першага ж налёту нашы лёгка іх размятуць. І вы зможаце там заграбастаць цэлую кучу грошай — іх у гэтага скнары як гразі; а мы называем яго скнарам, таму што ў сумленнага гаспадара ніколі шэлега за душой не бывае. Толькі скнары грошы й запасяць. Другая частка тым часам рушыць на Аніс, Сэнтонж, Ангумуа і Гасконь, а таксама на Пэрыдор, Мэдок і Ланды. Не сустракаючы ніякага супраціву, яны займуць там усе гарады, крэпасці й замкі. У Баёне, Сэн-Жан-дэ-Люсе і Фуэнтарабіі вы захопіце ўсе караблі і, трымаючыся берагоў Галісіі і Партугаліі, разрабуеце ўсе прыморскія пасяленні аж да Лісабона, а там ужо ўдосталь прызапасіцеся ўсім, як і належыць пераможцу. Гішпанцы, каб на іх ліха, здадуцца, гэта вядомыя цюхцяі! А тады пройдзеце Сыбільскі праліў і паставіце там сабе на вечную памяць два слупы — яшчэ болей велічныя за Геркулесавы, і будзе з гэтага часу той праліў называцца Пікрахолавым морам. А як пройдзеце Пікрахолава мора, тут вам і Барбароса здасца ў вечнае рабства...

—Я з яго злітуюся,— сказаў Пікрахол.

—Можна і так,— пагадзіліся яны,— толькі няхай спачатку ахрысціцца. Такім чынам вы заваюеце каралеўствы Туніскае, Гіпскае, Алжыр, Бону, Карэну і доблесна захопіце ўсю Бэрбэрыю. Потым вы прыбераце да рук Маёрку, Мінорку, Сардынію, Корсіку і іншыя астравы ў Лігурыйскім і Балеарскім морах. Тады, трымаючыся левага берага, возьмеце ўсю Нарбонскую Галію, Праванс, Алаброгію, Геную, Фларэнцыю, Луку, а там ужо — бывай здароў!— і Рым не за гарамі! Няшчасны спадарок папа памрэ са страху.

—Клянуся гонарам, я не буду цалаваць яму ў туфлю,—сказаў Пікрахол.

—А як возьмеце Влохію, тут ужо вам і Неапаль, Калабрыя, Апулія, Сіцылія — рабуй, не хачу,— ды яшчэ Мальта ў дадатак. Ото хацеў бы я паглядзець, як гэтыя гора-рыцарчыкі, якіх турнулі з Радоса, выйдуць з вамі змагацца,— ды яны хутчэй у штаны нацурболяць!

—Адтуль я з ахвотаю рушыў бы на Ларэта,— сказаў Пікрахол.

—Не-не,— сказалі яны,— гэта калі будзем вяртацца. А адтуль лепей падбярэм Кандыю, Кіпр, Радос і Кікладскія астравы ды навалімся на Марэю. Вось ужо яна і наша. А цяпер — з намі Бог!— наперад, на Ерусалім: дрыжы султан, бо дзе ўжо яго магутнасці параўнацца з вашай!

—Вось тут ужо я й загадаю, каб адбудавалі Саламонаў храм,— сказаў Пікрахол.

—Не, пакуль рана, пачакайце крыху,— сказалі яны.—Ніколі не будзьце такі скоры ў сваіх задумах. Ведаеце, што сказаў Актавіян Аўгуст? *Festina lente*[11]. Спачатку вам трэба ўзяць Малую Азію, Карыю, Лікію, Памфілію, Цыліцыю, Лідыю, Фрыгію, Мізыю, Бітынію, Сарды, Адалію, Самагарыю, Кастамун, Лугу, Сэбасту — аж да самага Эўфрата.

—А Бабілон і гару Сынайскую мы ўбачым?— спытаў Пікрахол.

—Ну, цяпер якраз няма зусім ніякай патрэбы,— адказалі яны.— Ці мала вам і так было клопату — пераплыць Гіканскае мора ды прагойсаць па дзвюх Арменіях ды трох Аравіях?

—Далібог, мы зусім ашалелі,— сказаў Пікрахол.— А бедныя ж мы, бедныя!

—Што здарылася?— спыталі яны.

—Ды што ж мы піць у гэтых пустэльнях будзем? Вунь Юльян Аўгуст, кажуць, загінуў там ад смагі з усім сваім войскам.

—Ну-у,— сказалі яны,— з гэтым у нас усё прадумана. На Сырыйскім моры ў вас дзевяць тысяч чатырнаццаць караблёў з грузам найлепшых у свеце він: усе яны прыбываюць у Яфу. Там ужо чакаюць дваццаць дзве сотні тысяч вярблюдаў і шаснаццаць соцень сланоў, якіх вы ўзялі на паляванні пад Сыджыльмасай, калі ўвайшлі ў Лівію. Апроч таго, можаце лічыць сваім любы караван, які ідзе ў Меку. Дык няўжо вам мала таго віна, што яны падвозяць?

—Мала дык яно не мала,— сказаў Пікрахол,— але нешта ж нейкае яно не зусім халаднаватае.

—А бадай ты, бадай, каб вам добра жылося!— сказалі яны.— Герой, заваёўнік, прэтэндэнт і кандыдат на сусветнае панаванне не можа заўсёды карыстацца ўсімі выгодамі. Яшчэ падзякуйце Богу, што і так са сваім войскам цэлыя ды здаровыя дабраліся да Тыгра!

—Але што ўвесь гэты час робіць другая частка нашага войска — тая, што разбіла гэтага скнарлівага жлукту Грангузье?

—Яны таксама не сядзяць склаўшы рукі,— адказалі дарадцы.— Мы з імі, дарэчы, хутка сустрэнемся. А пакуль яны вам звявалі Брэтань, Нармандыю, Фландрыю, Эно, Брабант, Артуа, Галяндыю і Зэляндыю, потым па трупах швэйцарцаў і ландскнехтаў перапраўіліся цераз Рэйн, а невялікая іх частка скарыла яшчэ Люксэмбург, Латарынгію, Шампань і Савою — аж да Ліёна; і вось тут яны спаткаліся з вашымі дружынамі, якія вярталіся пасля перамог на Міжземным моры. Пазней, у Багеміі, абодва войскі злучыліся зноў, папярэдне спляжыўшы Швабію, Вюртэмбэрг, Баварыю, Аўстрыю, Маравію і Штырыю. Потым агульнымі сіламі яны ўдарылі на Любэк, Нарвэгію, Швэдзію, Данію, Готлянд, Грынляндыю і ганзэйскія гарады і выйшлі да Ледавітага акіяна. Паконч ыўшы з гэтым, яны захапілі Аркадскія астравы і падпарадкавалі сабе Шатляндыю, Англію і Ірляндыю. Адтуль яны пераплылі Пясчанае мора і, мінуўшы Сарматыю, перамаглі і скарылі Прусію, Польшчу, Літву, Расею, Валахію, Трансыльванію, Вугоршчыну, Балгарыю, Турцыю і цяпер знаходзяцца ў Канстантынопалі.

—Давайце і мы хутчэй да іх!— сказаў Пікрахол.— Мне вельмі карціць таксама быць трапэзундскім імператарам. А чаму б нам не перабіць усіх гэтых сабак туркаў і магамецянаў?

—Ну, вядома,— сказалі яны,— якога ж чорта нам яшчэ там рабіць! А пасля вы раздасцё іх багацці і землі тым, хто паслужыў вам верай і праўдай.

—Гэтага патрабуе здаровы сэнс,— пагадзіўся ён,— дый так яно будзе сапраўды справядліва. Дарую вам Караманію, Сырыю і ўсю Палястыну.

—Ах, сір!— сказалі яны.— Вы такі шчодры, вялікі вам дзякуй! Хай Бог пашле вам вечнага дабрабыту!

Пры ўсім гэтым прысутнічаў стары дваранін, на імя Эхэфрон[12], чалавек выпрабаваны ў розных прыгодах і загартаваны ў шматлікіх бойках; пачуўшы такія прамовы, ён сказаў:

—Баюся я надта, што з усёю гэтай задумай будзе тое самае, што з тым гарлачом малака, дзякуючы якому адзін шавец марыў забагацець; той гарлач потым разбіўся, а шавец паклаў зубы на паліцу. На што вы спадзяецеся ва ўсіх гэтых чароўных перамогах? Чым скончацца гэтыя вашыя намаганні і вандраванні?

—А скончацца яны тым,— адказаў Пікрахол,— што мы вернемся і дадушы адпачнём.

На гэта Эхэфрон заўважыў:

—А калі раптам не вернецеся? Бо дарога будзе доўгая і небяспечная. Ці не лепей адпачыць ужо цяпер і не ўблытвацца ва ўсе гэтыя прыгоды?

—Ну, далібог,— сказаў Задзірак,— вось ужо знайшоў пра што марыць! Зараз мы залезем на печ, зашыемся ў цёплы куток ды ўсё жыццё будзем сядзець і бавіць час з бабамі, нізаючы пацеркі ды сукаючы нітачкі, як той Сарданапал. Хто баіцца рызыкі, той не здабудзе сабе ні каня, ні мула, казаў Саламон.

—А Маркул яму на гэта адказваў, што той, хто рызыкуе занадта, страчвае і сваіх мула й каня,— заўважыў Эхэфрон.

—Хопіць!— умяшаўся Пікрахол.— Не звяртайце на яго ўвагі. Я вось толькі чаго баюся: гэтых чартоў з грангузьёўскага войска. Што, калі раптам, пакуль мы будзем у Мэсапатаміі, яны лупануць нам у тыл? Што тады рабіць будзем?

—Усё вельмі проста,— адказаў Блазэн.— Вы пішаце маленькі ўказік, пасылаеце яго да маскалёў, і яны тут жа, як міленькія, даюць у вашае распараджэнне чатырыста сорак тысяч адборных жаўнераў. Гэх, паставілі б вы мяне ў іх намеснікам, ужо я там бы ўсім палкі павыдзіраў ды рукі-ногі панастаўляў! Ух, як бы я біў, крышыў, кусаў, ламаў, лавіў, лупіў!

—Ну, годзе ўжо, годзе,— сказаў Пікрахол.— Не будзем марудзіць. Усе, хто мне верны, за мной!

## РАЗДЗЕЛ XXXIV

### Пра тое, як Гарганцюа пакінуў Парыж, каб заступіцца за сваю краіну, і як Гімнаст натрапіў на ворагаў

Тым часам Гарганцюа, прачытаўшы бацькаў ліст, адразу выехаў з Парыжу на сваёй вялізнай кабыле і разам з Панакратам, Гімнастам і Эўдэмонам, якія, каб не адстаць,узялі паштовых коней, мінуў ужо Нанэнскі мост. Астатні абоз ішоў звычайнай хадою, везучы розныя філасафічнае начынне і кнігі.

Прыбыўшы ў Парыльe, Гарганцюа даведаўся ад мясцовага хутараніна Гугэ, што Пікрахол, умацаваўшыся ў Лярош Клермо, выслаў адтуль незлічонае войска пад камандай военачальніка Трупэ, якое заняло ўвесь Вэдскі лес і маёнтак Вадагры, спустошыла ўсе куратнікі аж да Біярскага бровара і ўвогуле творыць па ўсёй краіне такое паскудства, што цяжка і страшна ўявіць. Гарганцюа быў гэтым так напалоханы, што не ведаў ні што казаць, ні як быць. Тады Панакрат параіў яму паехаць да маёнтка Лавагіён, уладар якога быў заўсёдны іх добры сябар і саюзнік і мог бы даць болей дакладныя звесткі. Так яны,не марудзячы, і зрабілі. Гаспадар маёнтка, сапраўды, з ахвотаю пагадзіўся ім дапамагчы і прапанаваў паслаць каго-небудзь са сваіх людзей, каб той агледзеў мясцовасць і выведаў, што і дзе робяць ворагі, а тады ўжо яны,маўляў, змогуць выбраць дарогу адпаведна наяўнае абстаноўцы. Гімнаст вызваўся паехаць на разведку сам, але было вырашана, што будзе ўсё-такі лепей, калі ён возьме з сабою кагось, хто добра ведае вакольныя сцежкі-дарожкі ды рэчкі.

І вось неўзабаве Гімнаст і лавагіёнскі канюшы Фарсун бясстрашна выехалі на разведку навакольных абшараў.Гарганцюа тым часам крыху падмацаваўся і адпачыў са сваімі спадарожнікамі і загадаў, каб ягонай кабыле далі меру аўса, што склала семдзесят чатыры мюіды і тры буасо.А Гімнаст з напарнікам ехалі сабе, ехалі ды раптам натрапілі на ворагаў: тыя абы-як паразбягаліся, хто куды, ды рабавалі й цягнулі ўсё, што здольныя былі знесці. Гімнаста яны заўважылі яшчэ здалёк і наляцелі на яго цэлаю кодлай з намерам абчысціць. Тады Гімнаст ім сказаў:

—Панове, я бедны, як чорт, і прашу вас з мяне злітавацца. У мяне яшчэ засталося некалькі экю: вось мы на іх і вып'ем, бо гэта самае што ні на ёсць *aurum potabile*[13]. А я, каб было

за што адзначыць сустрэчу, нават і каняку гэтага во прадам.І тады можаце лічыць мяне за свайго, бо, далібог,нідзе няма чалавека, які лепш за мяне ўмеў бы сцалыпаць, абскубці, абсмаліць, абсмажыць, разабраць і абабраць любую курыцу. Так што, з нагоды майго *proficiat*[14], прапаную выпіць за ўсіх добрых субяседнікаў.

З гэтымі словамі Гімнаст адаткнуў сваю біклагу і глынуў нагбом ад шчырай душы. Латрыгі глядзелі на яго, як харты, разявіўшы пашчы і высалапіўшы языкі, спадзеючыся,што зараз змогуць глынуць таксама, але ў гэтую хвіліну да іх якраз падаспеў военачальнік Трупэ, які вырашыў паглядзець, што там робіцца. Гімнаст працягнуў яму пляшку і мовіў:

—Бярыце, вашамосць, піце смела — я ўжо пачаставаўся. Гэтае вінцо — з Лафэ-Манжо.

—Што? — незалюбіў Трупэ.— Гэты хамула з нас тут здзекуецца! Ты хто такі?

—Я бядняк,— адказаў Гімнаст,— бедны, як чорт.

—Ага! — сказаў Трупэ.— Ну, калі ўжо ты бедны,дык я цябе прапушчу: бедныя чэрці нідзе падаткаў і мыту не плацяць. Але нешта не бачыў я, каб бедныя чэрці гойсалі на такіх добрых каняках. Так што, пане чорце,злазьце са сваёй кабылы ды давайце яе сюды. І глядзіце — калі яна мяне не панясе, дык давядзецца вам, пане чорце, самому мяне несці, бо надта ўжо мне карціць, каб мяне чорт панёс.

## РАЗДЗЕЛ XXXV

### Пра тое, як Гімнаст удала ўтрупяніў военачальніка Трупэ ды іншых Пікрахолавых ваякаў

Пачуўшы такія размовы, многія страшэнна перапалохаліся і пачалі жагнацца абедзвюма рукамі,думаючы, што, можа, гэта і праўда перад імі пераапрануты чорт. А адзін галава сялянскай дружыны,на мянушку Жан Добры, выцягнуў аднекуль з гульфіка кантычку і пачаў даволі гучна крычаць:

—*Agios ho Theos!*[15] Калі ты ад Бога, дык кажы, а калі ад Таго, Другога,— дык сыдзі прэч!

Але Гімнаст дзе стаяў, там стаяць і застаўся.Убачыўшы гэта, шмат хто з хеўры вырашыў лепш,пакуль цэлы, прыбрацца сам. А Гімнаст тым часам аглядаўся ды ўсё прыкмячаў.

Потым ён зрабіў выгляд, быццам збіраецца злезці з каня, а сам, нахіліўшыся ўлева, спрытна, са шпагаю на баку, крутануўся ў стрэмені, перакульнуўся ў каня пад брухам і, падскочыўшы ўгору, стаў абедзвюма нагамі на сядло, толькі да конскага хваста тварам.

—Нешта, чуе мой нос, не туды я пацэліў,— сказаў ён.

Тады, з гэтай паставы, ён падскочыў на адной назе, крутануўся ўлева і заняў тое самае становішча, у якім быў упачатку, нічым яго не парушыўшы. На гэта Трупэ сказаў:

—Ну, цяпер я такога рабіць не буду, ёсць у мяне на гэта прычына.

—От жа, мухі сраныя! — расчаравана прамовіў Гімнаст.— Зноў я даў маху! Давядзецца перарабляць.

І, выявіўшы немалую сілу і спрыт, ён крутануўся яшчэ раз і зрабіў такі самы скачок, як і раней, толькі цяпер управа. Потым, пачапіўшыся вялікім пальцам правай рукі за сядзельны арчак, ён падцягнуўся ўсім целам і, утрымліваючы сябе ў паветры на адных толькі мускулах і цягліцах гэтага пальца, зрабіў патройны кульбіт. Чацвёрты кульбіт ён зрабіў ні за што ўжо не трымаючыся і, апынуўшыся ў каня між вушэй, абапёрся ўсёю вагой цяпер ужо на вялікі палец левай рукі, даў круг ветраком і, пляснуўшы далоняй правай рукі пасярэдзіне сядла, падкінуў сябе так, што апынуўся ў каня на крыжы, сеўшы бачком, як паненка.

Пасля гэтага ён лёгка, нібыта гуляючы, перакінуў левую нагу цераз сядло і прыняў паставу вершніка, які едзе на крыжы.

—Не,— сказаў ён,— лепей сяду я паміж арчакоў.

З гэтымі словамі ён абапёрся абодвума вялікімі пальцамі на крыж і, кульнуўшыся цераз галаву, роўненька сеў якраз паміж арчакоў; потым зноў адным махам падкінуў усё цела ў паветра, апаў, злучыўшы выпрастаныя ногі, зноўку паміж арчакоў і, напераменку перастаўляючы рукі, крутануўся болей за сто разоў з гучным крыкам:

—Шалею, чэрці, шалею! Гэх, шалею! Трымайце мяне, чэрці! Вой, трымайце мяне, трымайце!

Пакуль ён гэтак вальтыжаваў, дужа ўражаныя латрыгі перашэптваліся:

—Каб мяне трэсла ды каб мяне ў трасцы, калі гэта не які пярэварацень ці пераапрануты чорт! *Ab hoste maligno, libera nos, Domine!*[16]

Урэшце яны кінуліся наўцёкі і ўвесь час азіраліся, бы сабака, які сцалыпаў гусінае крыльца.

Тут Гімнаст, убачыўшы, як усё зручна складаецца, саскочыў з каня, выхапіў з похваў шпагу і пачаў наводліў пялегаваць усіх, хто знатнейшы, сцелячы снапамі забітых, параненых і пакалечаных; пры гэтым ніхто яму не супраціўляўся, бо ўсе думалі, што ён і ёсць самы сапраўдны чорт, ды яшчэ згаладалы, у чым іх пераканала і яго дзівосная вальтыжоўка, і тое, што Трупэ, калі гутарыў з ім, называў яго *панам чортам.* Зрэшты, гэты самы Трупэ якраз і хацеў быў па-здрадніцку раскроіць яму чэрап сваім палашом, але латы й шалом у Гімнаста аказаліся добрыя, і ён, адчуўшы толькі важкасць удару, тут жа павярнуўся, наставіў на Трупэ вастрыё сваёй шпагі і, пакуль той бараніў сабе грудзі, працяў яму страўнік, абадочную кішку і палову печані. У выніку Трупэ грымнуўся на зямлю, выпусціўшы з прапоратага чэрава чатыры гаршкі супу, а разам з супам і душу.

Гімнаст тут жа вырашыў прыбірацца прэч, мяркуючы, што шанцуе не вечна і меры ў такіх выпадках перабіраць не трэба, а таму кожны рыцар павінен ставіцца да сваёй удачы ашчадна, не змушаючы яе і не раздражняючы; з гэтаю думкаю ён ускочыў на каня, даў яму шпоры ды паскакаў простай дарогай у Лавагіён, а за ім паспяшаўся й Фарсун.

## РАЗДЗЕЛ XXXVI

### Пра тое, як Гарганцюа разбурыў замак пры Вэдскім бродзе і як з усёю сваёй кампаніяй пераправіўся цераз брод

Вярнуўшыся ў маёнтак, Гімнаст паведаміў пра размяшчэнне непрыяцеля і расказаў, як дзякуючы выкарыстанай ім стратэгіі ён адзін адолеў цэлую варожую дружыну. Пры гэтым ён запэўніў, што Пікрахолавы ваякі — звычайныя злодзеі, грабежнікі ды латрыгі і нічога ў ваеннай навуцы не цямяць, а таму можна смела выпраўляцца ў дарогу, бо калі што — яны лёгка іх пераб'юць, як скаціну.

Гарганцюа тут жа сеў на сваю вялізную кабылу, і ўсёю кампаніяй, пра якую згадвалася вышэй, яны рушылі наперад. Па дарозе ім трапілася высокае і тоўстае дрэва, якое ў народзе называлі дрэвам св. Марціна, бо яно вырасла з посаха, які св. Марцін уторкнуў у зямлю,— і вось, убачыўшы яго, Гарганцюа сказаў:

—О, гэта якраз тое, што мне трэба: я змагу ім карыстацца і як посахам, і як дзідай.

З гэтымі словамі ён лёгка выдраў дрэва з зямлі, абламаў на ім вецце і, каб прыемней было трымаць у руцэ, аблупіў з яго ўсю кару.

Тым часам яго кабыла вырашыла палегчыць капшук і памачыцца, ды нацурболіла столькі, што затапіла вакол усё аж на сем вёрст, а калі ейная мача сцякла да Вэдскага броду, там настолькі падняўся ўзровень вады, што хеўра ворагаў была ахопленая вялікім жахам і ўся патапілася, за выняткам тых, хто падаўся лявей і паспеў да пагоркаў.

Калі Гарганцюа пад'ехаў да Вэдскага лесу, Эўдэмон паведаміў яму, што рэшткі ворагаў заселі ў замку, і, каб упэўніцца ў гэтым, Гарганцюа на ўсю глотку крыкнуў:

—Вы там ці вас там няма? Калі вы там, дык каб вас там больш не было, а калі вас там няма, дык і казаць няма чаго.

Але тут адзін паганы кананір, які стаяў ля байніцы, стрэліў у Гарганцюа з гарматы, і ядро з разлёту патрапіла яму якраз у правую скроню; тым не менш Гарганцюа адчуў пры гэтым не большы боль, чым каб у яго кінулі слівінай.

—Гэта яшчэ што? — сказаў ён.— Вы тут што — вінаграднымі косткамі кідаецеся? Я вам дам, як наш вінаград абдзіраць! – А ён сапраўды падумаў, што гэта была вінаградная костка.

Пачуўшы шум, латрыгі, што прабаўляліся рабункамі ў замку, выбеглі на фартэцыі і вежы і пачалі смаліць па Гарганцюа з фальканетаў ды аркебузаў, выпусціўшы разам болей за дзевяць тысяч дваццаць пяць залпаў; і страляніна гэтая была такая шчыльная, што ўрэшце Гарганцюа закрычаў:

—Панакраце, дружа мілы! Я за гэтымі мухамі нічога не бачу. Выламайце мне пруток з тых вунь вербаў, я ім буду адмахвацца.

Яму і праўда здавалася, што свінцовыя і каменныя ядры — гэта самыя звычайныя сляпні. Тады Панакрат растлумачыў яму, што ніякія гэта не мухі, а гарматныя ядры і што страляніну па іх вядуць з замка. Пачуўшы такое, Гарганцюа з усяго размаху пачаў дубасіць па замку сваім таўшчэзным дрэвам, пляжачы фартэцыі і вежы, пакуль не ператварыў увесь замак у руіны. А разам з замкам былі раструшчаныя і расплюшчаныя і ўсе, хто ў ім быў.

Рушыўшы далей, Гарганцюа і ягоныя прыяцелі неўзабаве дабраліся да млынавога паства і ўбачылі, што ўвесь брод завалены целамі мерцвякоў, якіх было столькі, што яны нават запрудзілі сабою млынавы вадаспуск; а гэта былі ўсё тыя, хто загінуў падчас кабылінага мочапатопу. Тут сябры спыніліся ды пачалі меркаваць, як бы ім адолець гэтую трупатворную перашкоду ды пераправіцца на той бок. Тады Гімнаст заявіў:

—Калі тут чэрці праходзілі, дык і я выдатненька прайду.

—Чэрці тут, вядома, праходзілі,— сказаў Эўдэмон,— ім трэба было забраць душы гэтых нягоднікаў.

—Клянуся святым Трэньянам! — усклікнуў Панакрат.— У такім разе і Гімнаст тут абавязкова пройдзе.

—Атож,— сказаў Гімнаст,— з чаго мне тырчаць пасярод дарогі?

І, даўшы шпоры каню, ён без ніякае цяжкасці перабраўся на другі бераг, бо ягоны конь зусім не баяўся трупаў, а магчыма, гэта было дзякуючы таму, што Гімнаст, карыстаючыся навукаю Эліяна, прывучыў яго не палохацца ні целаў, ні душ мерцвякоў, але не забіваючы дзеля гэтага людзей, як рабілі Дыёмэд, што забіваў тракійцаў, ці Адысей, што сцяліў пад ногі сваім коням забітых ім ворагаў, а кладучы ў сена чучала і прымушаючы каня цераз яго пераступаць, дзеля чаго вабіў яго аўсом.

Тры яго спадарожнікі рушылі следам і таксама паспяхова перабраліся на той бок — усе, апроч Эўдэмона, конь якога па самае калена ўграз праваю нагою ў чэраве аднаго тоўстага і тлустага нягодніка, які плаваў у вадзе дагары тварам; конь ніяк не мог вызваліць угразлай

нагі і доўга б яшчэ так завіхаўся, калі б Гарганцюа не гахнуў сваёю дубінаю і не патапіў рэшткі нягоднікавых бэбахаў у вадзе; тады конь падняў нагу, і — о, дзіва ў гіпіятрыі! — пухліна, якая была ў яго на назе, ад дотыку з вантробамі гэтага тлустага латрыгі імгненна знікла. <...>

## РАЗДЗЕЛ XLVIII

### Пра тое, як Гарганцюа аблажыў Пікрахола ў Лярош-Клермо і разбіў усё Пікрахолава войска

Гарганцюа цалкам узяў на сябе камандаванне ўсімі войскамі. А ягоны бацька, які застаўся ў крэпасці, падбадзёрыў жаўнераў добрымі словамі і паабяцаў вялікія ўзнагароды тым, хто вызначыцца якім-небудзь геройскім учынкам. І вось праз пэўны час дружыны падышлі да Вэдскага броду і на чаўнах ды па хутка наведзеных мастах у адзін дух пераправіліся на другі бераг. Потым, агледзеўшы размяшчэнне горада, які стаяў на ўзвышэнні, у выгадным для абароны месцы, Гарганцюа пастанавіў ноч перачакаць і тым часам абдумаць, што ім рабіць далей. Але Гімнаст яму на гэта сказаў:

—Вашамосць, натура і нораў у французаў такія, што зухі яны толькі па першым часе — тады яны страшнейшыя за чарцей. А як заседзяцца, дык тут і з бабамі падужацца ўжо не змогуць. Думка мая такая: як толькі вашыя людзі крыху аддыхаюцца і адпачнуць, дык адразу іх і вядзіце на прыступ.

Гімнаставa думка здалася Гарганцюа разумнай. Ён тут жа вывеў свае войскі ў чыстае поле, а частку пакінуў за пагоркам у рэзерве. Манах жа ўзяў з сабою шэсць дружынаў пяхоты і дзвесце латнікаў і, з вялікаю хуткасцю перапраўіўшыся цераз балоты і пакінуўшы ўнізе Пюі, выйшаў на Лудэнскі бальшак.

Тым часам прыступ ужо ішоў поўным ходам. Пікрахолавы людзі, праўда, не ведалі, ці ім лепей выйсці і сустрэць непрыяцеля перад мурамі, ці абараняць горад, застаючыся на месцы. Але ўрэшце Пікрахол так раз'юшыўся, што сам з дружынаю латнікаў выйшаў за браму і — зараз жа быў сустрэты й пачаставаны такою магутнаю стралянінай з гармат, якія пачалі, бы градам, абсыпаць валы і пагоркі ядрамі, што нават гарганцюісты палічылі за лепшае адступіць да раўніны і не замінаць сваёй артылерыі. Абаронцы горада адбіваліся як маглі, але іхнія стрэлы праляталі высока па-над галовамі і нікому не рабілі ніякае шкоды. Нарэшце пэўныя латнікі, якім удалося вырвацца з-пад абстрэлу, з лютасцю кінуліся на нашых, але карысці з гэтага выйшла мала, бо іх адразу ўсіх акружылі і на месцы ўлажылі. Убачыўшы такое, астатнія хацелі былі падацца назад, але з тылу дарогу ім ужо заступіў манах, і тады ворагі пачалі ўцякаць без ніякага складу і ладу. Воі з манахавай дружыны памкнуліся былі за імі ў пагоню, але манах іх утрымаў: ён баяўся, што, пераследуючы ўцекачоў, яны страцяць баявы парадак і, скарыстаўшыся з гэтага, ворагі, што заселі ў горадзе, змогуць на іх навалiцца. Крыху счакаўшы і ўбачыўшы, што нiхто з горада больш не выходзіць, ён паслаў герцага Франтыста[17] да Гарганцюа з просьбаю, каб той заняў левы пагорак і не даў Пікрахолу схавацца праз левую браму. Не марудзячы ні хвіліны, Гарганцюа так і зрабіў, паслаўшы туды чатыры дружыны пад камандай Сэбаста[18], але не паспелі яны яшчэ ўзысці на пагорак, як нос у нос сутыкнуліся з Пікрахолам і яго пашкуматаным атрадам. Нашы крута памкнулі на ворага, але пацярпелі праз гэта немалыя страты, бо з муроў па іх адкрылі моцную стралянiну, засыпаючы ядрамі й стрэламі. Убачыўшы такое, Гарганцюа зараз жа паспяшаўся даць ім магутную падмогу, і ягоная артылерыя пачала малаціць па тым участку муроў, ды так, што ворагі мусілі перакінуць туды свае сілы з усяго горада.

Тым часам манах, убачыўшы, што з яго боку не засталося ніякай аховы ні абароны, велічнаю хадою рушыў да мура і са сваімі людзьмі борздзенька на яго ўскараскаўся, бо справядліва лічыў, што нечаканы напад наганяе на ворага болей жаху і страху, чым любая доўгая і ўпартая бойка. Але адразу ў наступ кідацца ён не стаў, счакаўшы, пакуль на мур не ўзлезуць усе яго воі, апроч двухсот латнікаў, якіх ён да пары пакінуў на ўсякі выпадак вонкі. Потым ён жудасна загарлаў, гэты крык падхапілі ягоныя воі і, наляцеўшы на варту, што ахоўвала браму, тут жа яе,не сустрэўшы ніякага супраціву, усю перабілі, а тады браму адчынілі, латнікаў упусцілі і, разам з імі стрымгалоў пабегшы да ўсходняе брамы, дзе была галоўная завaруха, навaліліся на ворагаў з тылу і пасадзілі ўсё іхняе войска на задніцу. Убачыўшы, што яны абложаны з усіх бакоў і што гарганцюісты ўжо ў горадзе, пікрахольцы, не доўга думаючы, здаліся на літасць пераможцаў. Тады манах загадаў ім скласці ўсю зброю й даспехі, а потым завёў у царкву і там зачыніў, а каб яны не ўцяклі, пазавальваў дзверы пярэчынамі ад крыжоў і, пакінуўшы сваіх людзей на варце, сам хуценька адчыніў усходнюю браму і паспяшаўся на дапамогу Гарганцюа.

А Пікрахол палічыў, што падмога з горада ідзе якраз да яго, і так пачаў шчыраваць і насядаць, што Гарганцюа аж крыкнуў:

—Братчык Жан, ах, мой ты дружа, як жа ж ты паспеў у самы час!

Тады, уцяміўшы нарэшце, што ўсё страчана, Пікрахол і яго ваякі кінуліся ўцякаць куды каго ногі панясуць. А Гарганцюа гнаў, біў іх і сек аж да самага Вагадры, а потым загадаў біць адбой.

<...>





## РАЗДЗЕЛ L

### Прамова, з якою Гарганцюа звярнуўся да пераможаных

—Ва ўсе часы нашыя бацькі, дзяды і прадзеды былі такія, што пасля выйграных імі бітваў у знак сваёй перамогі й трыумфу з большай ахвотаю ўзводзілі помнікі й манументы ў сэрцах пераможаных — дзякуючы сваёй літасці, а не ў землях, заваяваных імі,— дзякуючы дойлідскаму ўмельству; і рабілі яны гэта таму, што жывую людскую памяць, здабытую дабрадзейнасцю, цанілі вышэй за маўклівую мову калон, арак і пірамід, падуладных капрызам прыроды і чалавечай зайздрасці.

Досыць будзе вам прыгадаць, з якой міласэрнасцю паставіліся яны да брэтонцаў у дзень бітвы пры Сэнт-Абэн-дзю-Карм'е ці пры разбурэнні Партэнэ. Вы, вядома, чулі, а чуючы, захапляліся тою мяккасцю, з якою яны абышліся са шпанёльскімі варварамі, якія разрабавалі, спустошылі й спляжылі ўсё марское ўзбярэжжа ў Алоне й Тальмонце.

Уся паднябесная поўнілася пахваламі і прывітальнымі воклічамі, якія вы ўзносілі разам з бацькамі вашымі, а тым часам канарскі кароль Альфарбал, не могучы здаволіцца сваім і без таго незлічоным багаццем, брутальна напаў на Аніскі край і сваімі пірацкімі наскокамі змучыў усе Армарыкскія астравы і сумежныя вобласці. Але ў праведнай марской бітве ён быў урэшце разбіты і ўзяты ў палон маім бацькам, няхай яго беражэ і бароніць Бог. І што ж? Мой бацька не стаў яго абражаць, прыніжаць, мардаваць у вязенні ці абкладаць непамернымі паборамі і падаткамі, як зрабілі б іншыя каралі з імператарамі, якія называюць сябе пры гэтым каталікамі,— не, ён паставіўся да яго з пачцівасцю, па-сяброўску, пасяліў побач з сабой у палацы і, выявіўшы неверагодную дабрыню, абсыпаўшы падарункамі, ласкамі і ўсімі магчымымі прыяцельскімі паслугамі, забяспечыўшы ахоўнымі граматамі, адпусціў на волю. Што пасля гэтага зрабіў Альфарбал? Пасля гэтага, вярнуўшыся на радзіму, ён загадаў склікаць на сойм усіх князёў і прадстаўнікоў усіх станаў свайго каралеўства і, распавёўшы, з якой чалавечнасцю яго ў нас прымалі, папрасіў іх вынесці такое рашэнне, якое ўсяму свету паслужыла б узорам і паказала б, што з якою мы да іх паставіліся прыязнай пачцівасцю, з такою і яны пачцівай прыязнасцю паставіліся да нас. І пастанавілі яны з агульнае згоды перадаць у нашае поўнае і вольнае карыстанне ўсе свае землі, маёнткі і ўсё каралеўства. Тады Альфарбал зараз жа, уласнай асобай, выправіўся ў дарогу назад, ведучы за сабою дзевяць тысяч трыццаць восем вялікіх караблёў, гружаных скарбамі, якія належалі не толькі асабіста яму і яго каралеўскаму роду, але былі сабраныя ледзь не з усяе краіны, бо, пакуль караблі, чакаючы ў ветразі спадарожнага ветру з вест-норд-оста, стаялі ў порце, люд, што тоўпіўся на прычале, кідаў у іх золата, срэбра, пярсцёнкі, каштоўнасці, прысмакі, духмянасці й зёлкі, папугаяў, пеліканаў, малпаў, цыветаў, гэнетаў і дзікабразаў. Кожны, хто шанаваў гонар свайго сямейства, прыносіў у дарунак самае асаблівае, што ён меў. Калі ж Альфарбал нарэшце прыбыў да майго бацькі, ён хацеў быў кінуцца долу і пацалаваць яму ў ногі, але мой бацька палічыў гэты жэст непрыстойным і не дапусціў яго, абняўшы Альфарбала, як сябра. Тады Альфарбал хацеў перадаць майму бацьку дарункі, але і яны не былі прынятыя з прычыны занадта вялікага іх багацця. Тады ён аб'явіў сябе і сваіх нашчадкаў добраахвотнымі яго рабамі і слугамі, але і з гэтым бацька не пагадзіўся, разважыўшы, што так будзе несправядліва. Тады на падставе рашэння сойма Альфарбал перадаў майму бацьку дароўныя граматы, падпісаныя, змацаваныя пячаткамі і зацверджаныя ўсімі, кім трэба, згодна з якімі майму бацьку аддаваліся ўсе землі яго каралеўства, але і ад гэтага бацька рашуча адмовіўся, а граматы кінуў у агонь. Кончылася ўсё тым, што мой бацька, бачачы такую добрую волю і шчырасць канарцаў, расчуліўся ад шкадобы да іх і расплакаўся, як дзіця, а потым, ужываючы самыя вытанчаныя выразы і цытуючы адпаведныя выпадку выслоўі, пастараўся прыменшыць значэнне ўчыненай ім дабрадзейнасці, кажучы, што зрабіў толькі тое, чаго патрабавалі ад яго правілы добрага тону, і што ніякай асаблівай ветлівасці тут з яго боку няма, бо ён проста павінен быў так зрабіць. Але тым болей прыўзносіў яго Альфарбал. І які ўрэшце быў вынік? Замест таго, каб мы, запатрабаваўшы самага тыранскага выкупу і ўзяўшы ў заложнікі старэйшых Альфарбалавых сыноў, атрымалі як кампенсацыю— па самай высокай мерцы —два мільёны экю, яны самі аб'явілі сябе нашымі вечнымі даннікамі і абавязаліся выплачваць штогод па два мільёны манет з найчысцейшага, на дваццаць чатыры караты, золата. Але, заплаціўшы нам на першы год два мільёны, яны на другі, па сваёй добрай волі, выплацілі ўжо два мільёны трыста, на трэці — два мільёны шэсцьсот, на чацвёрты — тры мільёны і так па асабістым жаданні ўсё павялічвалі і павялічвалі суму, пакуль мы не вымушаныя былі ўвогуле адмовіцца ад іх што-небудзь прымаць. У гэтым і ёсць сутнасць удзячнасці, бо калі ўсякую рэч час разбурае і нішчыць, дык дабрадзейнасць ён узвялічвае і памнажае, бо добры ўчынак, зроблены ад шчодрай душы разумнаму чалавеку, безупынна прыўзносіцца і расце ў яго высакародных думках і памяці.

І таму я, не хочучы ні ў чым здраджваць спадчыннай дабрыні майго роду, вызваляю вас цяпер і адпускаю, так што вы з гэтай пары, як і раней, зноўку вольныя і свабодныя. Болей за тое, на выхадзе за гарадскую браму кожнаму з вас будзе выплачана столькі, колькі хопіць пражыць на тры месяцы, каб усе вы маглі спакойна вярнуцца дадому і да сваіх сем'яў, а каб па дарозе вам не было шкоды ад маіх сялянаў, я даю вам дзеля аховы шэсць соцень латнікаў і восем тысяч пяхоты на чале з маім канюшым Аляксандрам. І няхай дапаможа вам Бог!

Я ад усяго сэрца шкадую, што тут няма Пікрахола, бо я растлумачыў бы яму, што гэтая вайна была развязаная не па маёй волі і я зусім не спадзяваўся ўзвялічваць у ёй майго багацця ці гучнасці майго імя. Ды калі ўжо так сталася, што ён прапаў і немаведама куды падзеўся, я хачу, каб яго каралеўства цалкам перайшло яго сыну, а паколькі ён занадта яшчэ малы — бо яму не споўнілася і пяці гадоў,— няхай рэгентамі і настаўнікамі пры ім будуць князі старажытных родаў і вучоныя дзеячы яго каралеўства. Тым не менш, разумеючы, што і так падточаная вайною дзяржава можа быць лёгка даведзеная да галечы праз жадобу і прагнасць кіраўнікоў, я хачу і пастанаўляю, каб галоўным наглядчыкам над усімі рэгентамі стаў Панакрат, якому й перадаюцца ўсе патрэбныя дзеля гэтага паўнамоцтвы і які застанецца побач з малалетнім прынцам да той пары, пакуль не прызнае яго здольным самастойна кіраваць і ўладарыць.

Мне вядома, што занадта паблажлівая і мяккацелая схільнасць дараваць злачынцам служыць ім потым падставаю лёгка ўчыняць новыя зладзействы, карыстаючыся з гэтай згубнае звычкі з усіх, і заўсёды літавацца.

Мне вядома, што Майсей, найлагоднейшы з усіх людзей, якія жылі ў яго часы на зямлі, тым не менш сувора караў бунтароў і падбухторшчыкаў ізраільскага народу.

Мне вядома, што Юлі Цэзар, вялікі палкаводзец, дабрыня якога дала Цыцэрону падставу сказаць, што найвышэйшаю яго добрачыннасцю было тое, што ён заўсёды імкнуўся — і нічога не цаніў так высока, калі мог,— кожнага і ўсякага ўратаваць і кожнаму дараваць, і нягледзячы на гэта, у адпаведных выпадках бязлітасна караў завадатараў бунтаў.

Наследуючы іх прыкладу, я хачу, каб, раней чым мы разышліся, вы мне выдалі, па-першае, гэтага мілягу Маркэ, чыя фанабэрыстая напышлівасць паслужыла вытокам і першапрычынай вайны, па-другое, ягоных прыяцеляў-прасначнікаў, якія не паклапаціліся зараз жа прывесці да розуму гэтага шаленца, і нарэшце, усіх Пікрахолавых дарадцаў, военачальнікаў, афіцэраў і прыхвасняў, якія падгаварылі яго, падбухторылі і пад'юдзілі, каб ён паламаў усе межы і нарабіў нам такой бяды.

### Заўвагі

1 З каментарамі (*лац.*).
2 Пра дзяржаву (*лац.*).
3 Пра прыродныя сілы (*лац.*).
4 Аб прызначэнні частак [цела] (*лац.*).
5 Усе члены капітула — на капітул (*лац.*).
6 Супраць варожых падкопаў (*лац.*).
7 На славу міру (*лац.*).
8 Impesum inimicorum ne timueritis (*лац.*) — Варожае навалы не палохайцеся (*лац.*).
9 Дай мне піцення! (*лац.*).
10 Каюся! Злітуйся! У рукі [твае перадаю мой дух]! (*лац.*)
11 Спяшайся паволі (*лац.*).
12 Абачлівы (*грэц.*)
13 Пітное золата.
14 Шчаслівага прыезду (*лац.*).
15 Святы Божа! (*грэц.*).
16 Ратуй нас ад нячыстага, Госпадзе! (*лац.*).
17 Разумны (*грэц.*).
18 Паважаны (*грэц.*).

**Пераклаў са старафранцузскай Зміцер КОЛАС.**





# Галіна БУЛЫКА

## ТЫ



## *Вершы*

## З Галінай БУЛЫКА гутарыць Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

## МАСТАК МАЛЮЕ ДЛЯ МЯНЕ РУЖУ

## НА ВОСТРАВЕ ТАЙНЫ

## Будзённае і вечнае ў паэзіі Галіны БУЛЫКА

*з ТАБОЮ:*

# З Галінай БУЛЫКА гутарыць Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

Неаднойчы даводзілася чуць, што паэзія Галіны Булыка нязвыклая. Гэтае вызначэнне можна разумець па-рознаму — як паэзія новая, якой яшчэ ў нас не было, і як паэзія чужая, не ўласцівая нашай звыклай лексіцы, а значыць, шмат у чым і прасодыі. Мяркую, такая антынамічная расшыфроўка вышэйпамянёнага эпітэта мае свой матываваны сэнс. Новае — гэта заўсёды і чужое, але тое карыснае чужое, якое непазбежна з часам удзячна засвойваецца, робіцца сваім, родным.

У 1986 годзе я рэдагаваў кнігу Галіны Булыка «Сінтэз» і, мусіць, мала памыліўся, убачыўшы асноўную якасць яе вершаў у непрыняцці звыклай мовы і абжытага папярэднікамі шаблоннага пісьма. Сапраўды, «Сінтэз» уражвае нязвыклаю лексікай, тэматычнымі адкрыццямі, як, дарэчы, і новая кніга «Турмалін», якая выходзіць сёлета ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

У каго Галіна Булыка вучылася? Думаю, перш за ўсё ў самой сябе. Што канкрэтна паўплывала на яе паэзію? Зноў жа не нейчы канкрэтны вопыт, а разуменне значнасці ўласнага вопыту і цудоўна засвоеных ведаў. Паэтэса першая ўвяла ў нашу паэзію тэму навукі, чаго, дарэчы, абсалютна дастаткова, каб застацца ў літаратуры. У адной з прыватных гутарак было заўважана, што энергетыка вершаў Галіны Булыка — мужчынская. Слушна заўважана, улічваючы далёкі ад сантыментаў вобразны лад «Сінтэзу» і вывераную нежаночай логікай музыку «Турмаліну».

Фізіка, хімія, матэматыка, філасофія, культуралогія слепа сыходзяцца ў прастору верша і робяцца відушчымі —ператвараюцца ў паэзію. А пачуцці? Ёсць і пачуцці, калі разумець пад імі не набор выклічнікаў, а здзіўленне, якое дорыць мне, чытачу, космас лазурыту, бурштыну, гіпсу, каменю, бронзы, срэбра, золата, шкла, ёду, сургучу, агню, турмаліну, а таксама космас іншых сімвалаў і адметных знакаў Галіны Булыка.

Не буду далей маналагічна тлумачыць яе паэзію, паспрабую ў дыялозе высветліць для сябе таямніцу магчымага, якую стварае Галіна Булыка.

а.— Галіна, у вершы «Рэзчык люстэркаў» ты сумна прамовіла: «Ніхто навокал не прыкмеціў, як ты Сусвет адлюстраваў». Гэта пра паэта? Пра марнасць яго намаганняў?

—Гэта наогул пра смяротнага чалавека, які спрачаецца з Творцам у плыні неаспрэчнага. Наш час, наша прастора, наша ўздзеянне на навакольнасць несумаштабныя бясконцай вонкавасці. Творчы чалавек здольны адлюстраваць адно глыбіні ўласнай душы. А калі «абрыс твой працінаюць зоры», ці так ужо і сумна, што ніхто навокал не прыкмеціў адлюстраванага ва ўяўным люстэрку Сусвету?

б.— Што такое паэзія? Колькі на зямлі паэтаў, столькі ж прыкладна можа быць і адказаў. А калі ўспомніць пра крытыкаў і чытачоў (чытачы вершаў, дзякуй Богу, яшчэ не звяліся), то лічба адказаў будзе вельмі і вельмі значная. Можа сабрацца матэрыялу на вялізны том, магчыма, нават на некалькі тамоў. У гэтым гіпатэтычным зборы мне было б прыемна пазнаёміцца з думкаю Галіны Булыка адносна банальна-няпростага пытання: што такое паэзія?

—Паэзія універсальная, як вада ў прыродзе. Паэт стварае цякучую сістэму вобразаў і сімвалаў, якая, падобна да вадкасці, можа запаўняць пасудзіны і класічнай, і мудрагелістай формы. Паэзія валодае ўласцівасцямі абцякаць, расчыняць, вымываць, разбураць, наносіць, назапашваць... Кругаварот вечных тэм, смак, колер і пах паэзіі залежаць ад «дамешкаў» індывідуальнасці паэта. І тут — бясконцая прастора для варыяцый.

в.— Агульнавядома, што паэзію ў асноўным жывяць пачуцці, адчуванні чалавека, паводле чаго можна заключыць, што менавіта паэт з'яўляецца стваральнікам паэзіі. Разам з тым цяжка не пагадзіцца з меркаваннем, што паэзія існуе незалежна ад паэта, выяўленая ў навакольнай прыродзе, у непазбежнасці лёсу —паэзія, створаная непадуладнай нам сілаю. Зыходзячы з гэтага, ці ёсць сэнс гаварыць пра дзве паэзіі — паэзію, якая існуе ў літаратурных формах, і паэзію нелітаратурную, «вышэйшую»? Ці ўсё ж такі паэзія адна?

—Тут мне бачыцца дыялектыка адзінкавага і цэлага. Адзінку — паэтычны талент — можна параўнаць з магічным

### МЫЦЦЁ АКНА

*Вада і шкло — два светы,*
*дзве празрыстасці,*
*Два асяроддзі ў шыбіне адной.*
*Ты толькі сцежку Сонца з рук*
*не выпусці,*
*Саюз Зямлі з Вадой (Вады з Зямлёй?).*

*Два рэчывы — напятае і вагкае,*
*Два гукі, бы трывожаць дзве струны:*
*Ад гідрасферы —*
*кроплі гулка плакалі,*
*Ад літасферы — ліўся звон шкляны.*

*Цякла вада, струменьчыкі цягнуліся,*
*І шэры цень ўстрывожана радзеў.*
*Размытая на шкле, дрыжала вуліца,*
*Нібы адлюстраванне на вадзе.*

*А калі ноч спусцілася калматая,*
*Калі патухла лямпа на стале,*
*Тры зоркі на Зямлю бязважка падалі:*
*У небе,*
*у рацэ,*
*у чыстым шкле.*

### СЕРАБРО

*А пальцы так любілі серабро*
*З яго няяркай мяккасцю чарнёнай.*
*Не ззяў, а непрыкметна цвіў*
*пярсцёнак,*
*Як у жыцці каханне і дабро.*

*У філіграннных рамках завушніц*
*Каменьчыкі высвечвалі таемна,*
*Той дзіўны ўзор, нязвыклы і прыемны,*
*Вяртаў у дні*
*сустрэч і таямніц...*

*І прыбіралі раннія снягі*
*У серабро жывую чэрнь прыроды.*
*Гады ўпляталі срэбравыя ноты*
*У чорнае гучанне кос тугіх.*

*Сцямнелыя каменьчыкі ў вушах*
*І стомленай сукенкі колер цёмны.*
*І новай чэрню песціцца пярсцёнак.*
*І тым жа шчасцем срэбрыцца душа.*

### МЛЫН БЕЛАРУСКІ

*Млын,*
*зацэнены лісцем стрымцелым*
*і чорным,*
*У міжрэчную выспу забіты,*
*бы кол,*
*Круціш духам якім*
*ненажэрныя жорны?*
*Мелеш чорту якому*
*зярністы падзол?*

*То праткнуцца нябёсы*
*арліцай залётнай,*
*То патоне*
*прыблудных варон чарада.*
*То з усходу на захад,*
*То ў бок адваротны*
*Без дарог*
*круціць хісткае кола*
*Вада.*

*Дзе ж той волат,*
*што выспу падніме на плечы*
*І стрывае ў няўмольнай*
*чужой пустаце,*
*Аж пакуль азярынка*
*на ростані рэчак,*
*Як дзіцячае цемечка,*
*Не зарасце?..*

### БАЛТЫ

*Мы помнім...*
*Мы помнім з дасвецця*
*радзімае мора.*

Пушкін любіў згадваць словы Дэльвіга: «Чем ближе к небу, тем холоднее». Галіна Булыка небяспечна наблізілася да нябёсаў...

Каб пераадолець уладны цяжар *зямлі*, ёй давялося вынесці паэзію з кантэксту цялеснай прыналежнасці ў метафізічны дыскурс...

Мяркую, што на сёння Галіна Булыка ўжо змагла амаль канчаткова адасобіць «плоць» і «дух», рассунуць іх па розных вымярэннях аднаго існавання і гэтым як бы ўзаконіць амбівалентнасць у якасці парадыгмы свайго лёсу. З апошняга вынікла магчымасць асвойтваць геаграфію трансцэндэнтнага, не ахвяруючы ўжытковым, і песціцца ва ўтульнасці жытла, не пазбягаючы скразнякоў астральнага бязмежжа.

І ўсё ж не будзем ідэалізаваць амбівалентнасць у якасці парадыгмы існавання. Дваістае прачытанне сябе, як падзеі быцця, пагражае непаўнатой прысутнасці і *там* і *тут*, тоіць небяспеку блытаніны ў прамежку паміж не-лінейна рассунутымі скранямі і не выключае таго, што аднойчы дваістасць абернецца раздвоенасцю, дзе кожная з супрацілегласцяў гэтай раздвоенасці станецца асобным, але аднолькава чужым для паэта, лёсам...

Зрэшты, ці не ёсць адчужанасць ад самога сябе тым наканаваннем, з якім мусіць змірыцца ўсялякі, хто наважыўся зрыфмаваць рып астральнага кола з тухканнем крыві ў скронях?..

**Валянцін АКУДОВІЧ**

# МАСТАК МАЛЮЕ ДЛЯ МЯНЕ РУЖУ

*(Чытаючы вершы Галіны БУЛЫКА)*

... А пачыналася ўсё з настрою, кепскага, як само жыццё. Пасля працы, пасля магазінаў, пасля хатняй жаночай работы: прыгатаваць, памыць, прыбраць... Нарэшце, вольная хвіліна перад сном, што называецца, для сябе. Толькі што з яе, гэтай вольнай хвіліны, калі на душы адна стомленасць і знерваванасць! Не хочацца нават чытаць, ніякіх сіл для вялікага тоўстага рамана. І тут падхоплівае нейкая шалёная думка: а што калі паваражыць, як гэта раней бывала, на вершах? Чыіх? Ды хоць бы і Галі Булыка! Тым больш, што абяцала напісаць пра яе некалькі старонак у «Крыніцу». А напісаць жа можна па-рознаму. Ці абавязкова раскладваць, як гэта было з года ў год у рэцэнзіях на кніжкі паэтаў: вось гэта радкі высокаграмадзянскай паэзіі, а гэта — вершы аб прыродзе, далей самыя розныя, але абавязкова сацыяльнага гучання. А калі проста паэзія без усялякага раскладу з адзінай думкаю, што ў ёй сапраўды ёсць нейкая прарочая сіла, як ва ўсім, што ад Бога! Адным словам, вырашана.

Бяру кніжку Галіны Булыка «Сінтэз» і загадваю: старонка 25-ая, 4-ты радок зверху. Перагортваю старонкі і чытаю: «Ад цэнаў камянее спелы мёд». Я нават разгубілася, нібыта анёл падыграў мне. Надта ж добра ведаю, што такое нашы сённяшнія цэны. Ад іх сапраўды можа скамянець што заўгодна. І ў душы заварушыўся азарт: а што ж далей? Адкрываю 17-ты

*Мы спадчынна чуем*
*у кожным прыліве крыві*
*Стамлёнасць глыбіняў,*
*Зваёванай солі пакору,*
*Загуслую помсту*
*І шэпт плаўніковы:*
*«Плыві».*

*Прысніцца жанчыне*
*спавітая воблакам выспа.*
*Прымроіцца вою*
*заморскага ветру страла.*
*А Нёман лясны*
*разгайдае чаўны і калыскі:*
*То з хваляй*
*Чыясьці апошняя лодка сплыла...*

*На вогненны покліч астатні*
*душа прыляцела,*
*З расталага цела*
*вужакаю выпаўз хрыбет —*
*Вяртайся ж, змяя, да зямлі,*
*што не мае падзелу,*
*Да мора,*
*забранага продкамі ў новы сусвет.*

*Здранцвеюць ваўкі,*
*а багі адхіснуцца пужліва,*
*Калі падвартуем у пушчах*
*бязмежных*
*Свой час.*
*Тутэйшыя ворагі*
*рэкамі клічуць*
*Адлівы.*
*З наступным прылівам*
*Павернецца мора*
*да нас.*

## РАКАВІНКА

*Азірнуся —*
*Сыходзяцца ў кропку цяжкія кругі,*
*Вадзяністую памяць*
*сціраючы з гладкай паверхні.*
*Нібы зрэнку павекі,*
*абступяць прасвет берагі —*
*І не стане вышыняў,*

крышталём, які праламляе прамені паўсюдна разлітых, як сонечнае святло, паэтычных сітуацый. Свет паэзіі, як свет Платонавых ідэй, існуе незалежна ад паэтаў, але каб праявіць «мета-», зрабіць адчувальным хаця б для шостых пацуццяў чалавека, патрэбна «оптыка». Шэдэўры, што акрэсліваюцца ў літаратурных формах, нагадваюць паўночнае ззянне — пераўвасобленыя фарбы космасу — цэлага, усяго. Літаратурная паэзія імкнецца зліцца з вышэйшай, але памкненне гэтае абмяжоўваецца распазнавальнай здольнасцю «оптыкі».

г.— Доўгія стагоддзі беларуская мова ратавалася ад поўнага знішчэння пад сялянскай страхою. Прыкладна з сярэдзіны XIX стагоддзя яе пачалі ратаваць паэты. Мова выжыла, дзякуючы літаратуры. Спадзяюся, некалі вялікі свет усё ж ацэніць подзвіг нашай літаратуры — яна ўсё зрабіла дзеля таго, каб захаваць сваю мову і, захаваўшы яе, захавала неабходны баланс у экалогіі сусветных моў. Хіба ж гэта не подзвіг?! Але захаваўшы нацыянальную літаратурную мову, мы згубілі нацыянальную мову вуліцы. Ва ўсякім разе, вуліцы гарадской. І згубілі назаўсёды ці на доўгі-доўгі час. Зрэшты, без вулічнай мовы наша паэзія можа існаваць, але трэба прызнаць, што агульная яе палітра будзе заўсёды значна бяднейшай, чым палітры суседніх паэзій. З немалой зайздрасцю я ўяўляю, як працуе, напрыклад, сучасны англійскі паэт. Ён знаходзіцца ў пастаяннай лексічнай гармоніі, утворанай прачытаным і пачутым. Мы ж знаходзімся ў заўсёднай антыгармоніі, вызначанай толькі чытаннем...

—Цалкам падзяляю твае думкі, Леанід. Тым больш, што належу да генерацыі, якая вырасла ў горадзе і практычна ніколі не мела натуральнага беларускамоўнага атачэння. Але, магчыма, пры такіх зыходных дадзеных наша мова робіцца для літаратара амаль малітоўнай, што дазваляе лягчэй «падключацца» да вышэйшых сфер, да нябеснага гучання. Так, наша мова выжыла, дзякуючы літаратуры. У гэтага медаля «За подзвіг» ёсць і адваротны бок. Беларуская літаратура доўгія гады мусіла існаваць (баюся сказаць — развівацца) ва ўмовах адсутнасці дзяржаўных гарантый і на ўзроўні інстынкту самазахавання ўвесь час абараняць сябе ад пагрозы быць размытай, ад асіміляцыі. Адсюль — памкненне абжываць ужо некалі жылыя мясціны, якія былі ці пакінутыя, ці знішчаныя,

радок зверху на старонцы 70-ай: «Яшчэ не заўтра, не цяпер...». Дальбог, кідае ў адчай. Вельмі добра разумею, што нешта зменіцца ў нашым жыцці да лепшага не заўтра і не цяпер... А што ж наперадзе? Ах, Галачка, Галачка! Дзе ж твой шчаслівы радок для мяне? Можа, 5-ты знізу на старонцы 76? Я засмяялася ўголас, калі прачытала: «Вер, што збудуцца мары, а шчасце не будзе імгненным»... Пасля такога стала мала радкоў, схацелася цэлага верша і, магчыма, не такога адкрытага, як кажуць, не ў лоб, а каб у радках чулася штосьці прытоенае, прыхаванае, але каб захліствала цалкам. І такі верш знайшоўся.

*А горад быў ля мора і ад мора.*
*І вар'яцелі чайкі ля прычалаў,*
*І караблі вялізныя маўчалі,*
*Стаміўшыся ад вестаў і ад нордаў.*
*Гуляў салёны вецер па кварталах,*
*Кіпеў кірмаш ад фарбаў і ад твараў.*
*А мора каля самага бульвара*
*Лісты прыбою цёплыя гартала.*
*Тут безліч вуліц з безліччу усмешак*
*Зліліся, як зямля злілася з морам,*
*А мора з небам, дзе ярчэйшай з зорак,*
*Жаданай зоркай ззяў маяк увечар.*
*Ад маяка чырвоным порт адсвечваў,*
*Туман густы праменні прабівалі.*
*У горадзе бяссонна панавалі*
*Сум развітання з радасцю сустрэчы.*

І ўявілася, што гады адбегліся, адкруціліся назад... І я зусім яшчэ юная жанчына. Цёплая паўднёвая ноч, харал цыкадаў і нізкія, праменістыя зоркі... А потым крокі... І вось ужо дужая, цёплая рука дакранаецца да пляча, і мне вельмі хочацца ў гэты абдымак, у таемнасць ночы, поўнай шэптаў і пацалункаў. Мора накатваецца і адкатваецца, яго трапятлівасць палоніць, а той, хто побач, так хмельна пахне вятрамі і загарам. І мяне закручваюць гэтыя вятры і знясільвае шэпт, хай сабе і падманны. Я ўдзячная прыродзе, што мне выпала нарадзіцца жанчынаю, што ў мяне ёсць гэ-





жаданне рэстаўраваць «запаведныя» традыцыі, агульная скіраванасць да зачыненасці, да кансерватыўнасці, да адмаўлення старонніх уплываў, да антаганізму «свайго» і «чужога». Функцыя культуры ў беларусаў дасюль не аддзялілася ад функцый дзяржавы. Мы жывём у дарэнесансны перыяд. Нездарма так часта (і ў літаратуры таксама) гучыць слова «адраджэнне». Мы яго прамаўляем, не асэнсаваўшы як след ролю гарадской культуры (не толькі мовы). Гэтая роля ў Еўропе акрэслілася менавіта пасля рэнесансу. Адсюль —памкненне некаторых крытыкаў падзяліць прозу і паэзію на гарадскую і вясковую, хаця і тая, і другая жывяцца ў «навейшы час» кніжнасцю, бо лексіка сённяшняй вёскі не бліжэй да гармоніі, чым лексіка горада. Адчувальная для нашай, можа, больш, чым для якой іншай паэзіі, і праблема інтэрнацыянальнай лексікі. Запазычваецца мноства слоў, якія, на мой погляд, не могуць «працаваць» у чыстым выглядзе ў літаратурнай мове, створанай на грунце народных гаворак ў нетэхнізаванай культуры. Паняцці, якія яны вызначаюць, магчыма, больш плённа было б замяняць адэкватнымі вобразнымі злучэннямі, прынамсі, у рыфмаванай паэзіі. Асабіста я імкнуся пазбягаць модных у перыёдыцы рыфмаў кшталту «радыяцыя — мутацыя».

д.— Я веру ў рамантычную метафару: паэт — гэта чалавек, пацалаваны Богам. Менавіта таму, якімі б малымі ні былі тыражы вершаваных зборнікаў, як бы шырока ні разлягалася поле чытацкай абыякавасці да паэзіі, якая б глухата і пагарда ні існавалі ў дачыненні да парнаскае музыкі,— усё адно нават самае прагматычнае грамадства пакідае своеасаблівую недатыкальную нішу, у якой паэт адчувае сябе не толькі творцам, але і мае магчымасць ствараць умовы для творчасці. Вядома, ёсць такая ніша і ў цябе. Але якая яна? Ці ўтульна ты сябе ў ёй адчуваеш?

—Я не бачу, шчыра кажучы, карэляцыі паміж Боскім пацалункам і прыхільнасцю грамадства... Магчымасці для творчасці ва ўжо посткамуністычным, але яшчэ не постіндустрыяльным ладзе адшукваюцца вельмі цяжка. І нішы ўзнікаюць не дзякуючы ўмовам, а, хутчэй, насуперак ім. Фізічная ніша — жытло, якое неабходна надыхаць, як рукавічку, зрабіць супамерным сабе і прыдатным для разумо-

*І зорка зямная памеркне.*
*Апускаюся ўглыбкі.*
*Цянёты зялёныя рву,*
*І мядуз абмінаю,*
*І морак мяняю на морак.*
*Загарнуўшыся ў цені,*
*праточнаю кветкай плыву.*
*Наліваецца завязь часоў*
*за пялёсткамі створак.*

*Ад спакою,*
*што крыгаю вечнай блішчыць*
*на вадзе,*
*Да спакою,*
*што мудра сплятае сужылкі*
*цячэнняў,*
*Пурпуровая цёплая нітка*
*за мною вядзе,*
*А душу ўжо*
*каменнае белае рэха*
*пячэ мне...*

## ПІТЭР БРЭЙГЕЛЬ СТАРЭЙШЫ

*Выпадковая птушка,*
*даверся сляпому палёту*
*Ва ўчарашняе неба,*
*дзе сумам зацягнута сінь.*
*Над гатыцкім рудым лабірынтам*
*Заблытайся ўпотай*
*І мяне, быццам пёрка,*
*У перыстай дымцы пакінь.*

*Бесцялеснае пёрка*
*ўсплыве аж да лёзных вышыняў,*
*Да асмужных дымоў,*
*Да скразнога спляцення шляхоў —*
*І адтуліцца горад*
*Драбнейшы ад крылаў птушыных,*
*І на дзюбах сабораў*
*Спячэцца вячэрняя кроў.*

*Колькі ж, колькі надзея мая*
*прапаўзла лабірынтаў?*
*Колькі ж перайка тое*
*жар-птушак*

тае буркатлівае мора і тонкая-тонкая талія, якой не церпіцца вызваліцца ад паяска лёгкай спаднічкі, што непазбежна ляжа да ног паслухмянай аблачынкай... «А горад быў ля мора і ад мора. І вар'яцелі чайкі ля прычалаў...» — яшчэ раз учытваюся ў радкі верша і ўжо з сумам сакрасямігадовай жанчыны пазіраю на сябе, тую юную і свавольную, і зайздрошчу ёй і хочацца вярнуцца яшчэ далей назад... А што ж там было ў той незваротнай далячыні? Перагортваю старонку за старонкай... Ну, вядома ж, было вось гэта:

*Славуты фікус. Ліст, як тры далоні*
*Маіх*
*(а мне было, напэўна, шэсць),*
*І цёплы сырадой на падваконні.*
*І ў сподку жоўты сонечны агрэст.*
*Баліць яшчэ разбітае калена —*
*Навыперадкі бегала — і вось...*
*Пакой маленькі, вышыўкі на сценах*
*Ды саматканы палавік наўскос.*
*Пастукаюць у шыбу пальцы бэзу:*
*Да вечара далёка пойдуць сны.*
*Рыпучы ложак. Ціхенька я злезу*
*І вып'ю малако глытком адным.*
*Карункавы абрус, на ім — скарбонка,*
*Герані куст, партрэты над сталом...*
*І кожны ранак светлы быў і звонкі.*
*А хмарных дзён ніколі не было.*

І як не ўспомніць тыя кусточкі герані, што стаялі на падваконнях у бабулінай хаце на мілай Брэстчыне! Туды прыязджала штолета... І былі вышыўкі на сценах, і быў бэз... А яшчэ гара, куды гуртам з аднагодкамі бегалі, каб набраць жоўтага пяску для шаравання падлогі. Ля той гары стаяла маленькая хатка, ледзь не да паловы ўрослая ў зямлю. У хатцы жыў Коля... Коля-мастак. Яго прозвішча дзесьці згубілася ў гадах. І як ні ўспамінаю, не магу ўспомніць. Гаварылі, што даўно ўжо жыве дзесьці ў Расіі, што стаў там вядомым мастаком, а тады... Коля заканчваў дзесяцігодку і маляваў, маляваў... Мы нярэдка падбягалі да хаткі, ляпалі клямкай:

*магло б апячы?*
*Безнадзейнаю зоркай*
*палаю ў прасторы адкрытай,*
*І цяжэе наўкол*
*Варанёнае пер'е начы.*

*Веру ў вольнасць —*
*лунаць —*
*Каб ні твару, ні гуку, ні ветру*
*З тых завулкаў,*
*куды абгарэлыя пёры ляцяць.*
*Наглыталася птушка на ўзлёце*
*зямнога паветра*
*І баіцца над зоркай*
*Сцюдзёную дзюбу*
*расцяць...*

## ДЗВЕ СТАЛІЦЫ

*Каму скарыцца і каму маліцца?*
*На замчышча, парослае зямлёй,*
*Ён узышоў і мовіў:*
*«Будзь сталіцай,*
*Прылюднаю княгіняю маёй!»*

*На захадзе Венера дагарае.*
*Дзве ночы з жорнаў сеюцца*
*дваіх,*
*І срэбны цень чужога небакраю —*
*Чэрнь у абліччах*
*месцічаў тваіх.*

*Над Свіслаччу не вежа —*
*вежавіца**
*Сівее варажбіцкаю смугой.*
*Трымці,*
*мая цярплівая сталіца,*
*Ільдзінкай на люстэрку той,*
*другой.*

*І цешся,*
*што паненка-паланянка*
*Пакутуе ў вязніцы сна твайго.*
*Ці здрадлівая Лёсава каханка,*
*Ці верная саўдзельніца яго?*
*І вер: марозны вэлюм*
*рысы скрывіць*

* Вежавіца — травяністая расліна.

вых практыкаванняў. Эмацыйная ніша —некалькі блізкіх людзей, якія не абавязаны разумець цябе наскрозь ("Другому как тебя понять?"), яны жывяць тваю творчасць проста сваім існаваннем на адным з табой свеце і ў адным часе. Так бы мовіць, тэматычная ніша — гэта адчуванне ўласных межаў і магчымасцяў у пазнаванні неспазнавальнага. Амаль не маючы зваротнай сувязі з чытачом, я не пакутую, бо настаў час, калі творчасць зрабілася прыватнай справай, калі жыццё паэта пазбываецца неабходнасці мець выгляд «жыція». І ці патрэбныя ў такіх варунках шматтысячныя тыражы паэтычных зборнікаў? Жаданні амаль эзатэрычнай секты апантаных прыхільнікаў прыгожага пісьменства здольная задаволіць сотня-другая паасобнікаў.

е.— У заходнееўрапейскай, таксама ў амерыканскай паэзіі існавалі вызначальныя напрамкі, эстэтычна скіраваныя на самадастатковасць творчасці, па-за ўвагаю якое перш за ўсё заставаліся грамадскія праблемы. Ці плённы гэта шлях для беларускага паэта, улічваючы нашыя ўмовы? І даруй мне такое банальнае пытанне — як табе бачыцца роля паэта ў сучасным грамадстве?

—Нават улічваючы вельмі драматычныя ўмовы існавання беларускай нацыі, паэзія і палітыка — рэчы несумяшчальныя apriori. У іх розныя мэты і сродкі. Дарэчы, гэтыя паняцці не змешвалі ўжо ў антычнай Грэцыі. Паэту, як асобе, безумоўна, уласцівыя патрыятычныя пачуцці, але літаратура патрабуе адмежаванага гледзішча, здольнасці да мастацкай «пераплаўкі» ўражанняў. Не можа быць «надзённых радкоў»! Гэта проста недарэчны аксюмарон! Паэзія няўчасная, і таму яна існуе ад пачатку гісторыі. Надзённасцю сілкуецца журналістыка, у якой я працую трэці год і, як кажуць у рэкламах, «адчула розніцу». А каб выразіць эсхаталагічныя настроі, існуюць шляхі «Цемрадзі» Байрана ці «Голасу з хору» Блока... Літаратура, дзякаваць Богу, перастала быць ідэалогіяй, словы «пісьменнік» і «грамадскі дзеяч» — ужо не сінонімы. Мы прыходзім да разумення самадастатковасці творчасці, а яно ва ўсіх развітых літаратурах вяло да пошуку новых формаў, якія афармляліся ў вызначаныя эстэтычныя напрамкі.

ё.— Ёсць даволі ўстойлівае і, на маю думку, слушнае мер-

**«Коля, намалюй... Мяне! Мяне!» — крычалі наперабой. І Коля пагаджаўся. Ён ахвотна маляваў нашы партрэты на лістках з вучнёўскага сшытка, простым алоўкам. Як жа яны ўражвалі сваім падабенствам! І ноччу мне сніліся сны, дзе галоўным героем, вядома ж, быў Коля. Ён найчасцей у тых снах маляваў для мяне ружу: белую, трапяткую, з расой на пялёстках, быццам бы яе толькі-толькі зрэзалі ў нейкім незямным садзе. Коля дарыў мне сваё палатно, і мяне ахутваў водар. І чамусьці чулася ў гэтым водары духмянасць сунічных палян, пахі прывялага, скошанага на досвітку, разнатраўя. Я прыціскала сваю ружу да грудзей, і здавалася, што яе бялюткі водсвет змяняе свет. Сонца свяціла тое і не тое, людзі ішлі тыя і не тыя, і вышыня была інакшай. Толькі шматок сена, які выхапіў раптоўны віхор з нейкага валка, і цяпер нёс у нязнанае, гаварыў мне, што я ўсё яшчэ на зямлі... Як і цяпер — усё яшчэ на зямлі... Толькі няма Колі, няма той клямкі, няма водару сунічных палян...**

**Старонка 51-ая, 3-ці радок зверху, загадваю для сябе напаслед. «Лішак сонца не лішні, і горад застаўся звычайным»,— мудра зазначае Галя Булыка сваім радком. Пагаджаюся з ёй. За вокнамі звычайны начны горад. Ведаю, што звычайным ён будзе і заўтра. Пасля работы буду стаяць у звычайнай чарзе па звычайны больш танны прадукт і ў думках лаяць звычайнае безграшоўе. Звычайныя людзі, звычайныя словы... Незвычайнае толькі тое *Нязнанае*, куды панёс раптоўны віхор шматок зямнога сена ў маім дзіцячым сне. Яно пазірае ў маё вакно халоднай зімовай зоркаю. Трэба класціся спаць, захутвацца ў цёплую коўдру і, можа, як калісьці, мне прысніцца сон: мастак малюе для мяне ружу.**

**Раіса БАРАВІКОВА**





каванне: на схіле дваццатага стагоддзя беларуская мова зрабілася элітарнай. Мы ведаем, якія абставіны прывялі нашу мову да гэтай горкай элітарнасці. Ёю пагарджалі гэтак жа, як і паэзіяй, таму беларуская мова сінанімічна паэзіі не толькі ў гарманічным плане — у дысгарманічным таксама. І вось вынік апошніх дзесяцігоддзяў — у сваім напаўіснаванні беларуская мова зрабілася больш прыдатнай для паэзіі, чым для прозы. Вядома, не апошнюю ролю тут адыгрывае і сама жанравая сутнасць паэзіі. Яна ўсё ж — лірычная, «індывідуалістычная», а не «калектывісцкая», як у прозы. Паэт выказваецца ад сябе — гэта значыць, ад імя чалавека, які размаўляе і думае па-беларуску. Празаік часцей за ўсё выказваецца за некага. Эпічны жанр прымушае гаварыць і за тых людзей, якія па-беларуску не размаўляюць і не думаюць. У выніку — беларускаму празаіку заўсёды бракуе слоў, не хапае мовы, асабліва ў дыялогах і ў простай мове герояў. Зусім не выпадкова, што ў сучасных рэалістычных раманах мова мае ненатуральнае гучанне. Не лішне будзе заўважыць, што беларускаму паэту лягчэй, чым беларускаму празаіку, захоўваць неабходную раўнавагу паміж задуманым і выказаным, таму наша паэзія сёння ўяўляе больш дасканалую мастацкую дамінанту, чым проза...

—Самае цікавае, што так дакладна сфармуляваныя табой прычыны недахопу гутарковай мовы прыводзяць «артадаксальных» празаікаў амаль да авангарднага гіперрэалізму. «Фазавы пераход» творцы ад паэзіі да прозы ў нашай літаратуры патрабуе каласальнай, «ядзернай» энергіі, бо змены адбываюцца не ў стылі, а ў самой існоце аўтара. Але сусветны вопыт сведчыць, што паэты часцей імкнуліся да «індывідуалістычнай» эсэістыкі, чым да рэалістычнай прозы. Дваццатае стагоддзе — пераважна час маналогаў, чым дыялогаў, час унутраных галасоў, як ні парадаксальна прагучыць, час паэзіі. Згадваецца прыклад вялікага Цютчава, які ў гутарках і нават у ліставанні зусім не паслугоўваўся роднай мовай. Заходняя культура і наўмысная элітарызацыя, сакралізацыя слова вызначалі шлях да філасофскай лірыкі. Уся наша літаратура сёння знаходзіцца ў полі дзеяння «правіла Цютчава».

*Класічныя,*
*як ружу — лёд.*
*Але ж*
*Сачы*
*яе стамлёны гостры прывід*
*Штораз,*
*як Старавіленскай ідзеш.*

## МОСТ

*Я на мосце жыву.*
*У спакоі*
*Ён смалой і вадою прапах.*
*Дзве дарогі*
*слядоў не загояць*
*І на мосце пярэйдуць*
*у шлях.*

*Ледзьве ступіш —*
*грувасткія бёрны*
*势ануць кладкаю, вострай,*
*як нож,*
*А над плыннай скрозьдоннасцю чорнай*
*Судны цень прабяжыць басанож.*

*Дзень і ноч не сыходзячы з моста,*
*Урастаю ў драўніну гадоў.*
*Дзве дарогі разлучацца проста.*
*І ні пылу на іх,*
*Ні слядоў.*

## РАЗЬБЯР

*Я разгледзеў цябе*
*за лісцём, да грудзей прыкарэлым.*
*Я ўзіраўся,*
*А цень*
*сарамліва прыпаў да травы:*
*Так свяцілася ты!*
*І прачыстым здавалася цела,*
*Калі я пад карою намацваў*
*твой вобраз жывы.*

*Я русалчыну песню падслухаў*
*за спевамі птушкі,*
*Пералётнай душы,*

**Прызнаюся шчыра: я не вялікі прыхільнік паэзіі Галіны Булыка, але ж таксама дадам, што дагэтуль не разумею — чаму заўсёды з вялікай цікавасцю, з хваляваннем чытаю яе вершы.**

**Для мяне заўсёды свет паэта загадкавы, схаваны ў знакахсімвалах ды таямніцах, і не толькі асабістага жыцця. Зайздрошчу ім, бо, здаецца, паэта ніколі не пакідае натхненне ў працэсе нараджэння вершаў. Наш брат празаік — араты, хадок на доўгія дыстанцыі. Муза ўтульна пачувае сябе сярод паэтаў. У празаікаў натхненне вельмі хутка саступае месца будзённай карпатлівай рабоце. Проза, як заўважаю, любіць натуру, якая адыходзіць, учарашні дзень, паэзія ж заўсёды — азарэнне, прадчуванне будучага, пульс часу, панарама дня, які персаніфіцыруецца ў эмоцыі. XX стагоддзе — залаты век беларускай літаратуры, візітная картка на стагоддзі ўперад. Наш народ за гэтае стагоддзе падараваў еўрапейскай паэзіі шмат яркіх імёнаў. Досыць таленавіта былі распрацаваны нашымі паэтамі самыя разнастайныя паэтычныя накірункі. На зорным небе паэзіі толькі-толькі нарадзілася і зорка Галіны Булыка. Святло гэтай зоркі не кідкае, больш цьмянае, у нечым загадкавае. Усе мы, творчыя людзі, на пачатку свайго шляху, каб хоць як-небудзь сцвердзіць сябе, пачынаем з пратэсту супраць старых школ, метадаў, сістэмы каардынат, рэалістычных падыходаў. З часам, праўда, большасць наватараў усё ж вяртаецца да ісцін Бога, да Жанчыны, да Радзімы. З доляй добрай іроніі я ставіўся да першых «геаметрычна-хімічных вершаў» Галі Булыка. Не мог уцяміць: няўжо ў словы, якімі яна ахвотна карыстаецца — Сінтэз, Гіпс, Бурштын, Ювелір, Алмаз,— можна ўкласці сэнс радзімы, пачуццё кахання? Я згадзіўся, што яе паэзія была арыгінальнай на агульным фоне жаночай (не люблю гэтае слова) «вясковай» лірыкі. Хадзілі жарты:**

*Што ўзрасла на карэнні чужым.*
*І сталістай сякернай мелодыяй*
*ліпу разгушкаў,*
*І сардэчную тайну лістка*
*па сужылках пражыў.*

*А пакуль церусілася*
*рэха падвялага цвету*
*Ды паганскі нектар*
*у асклепак збірала пчала,*
*Ты з драўлянае хвалі*
*ступіла на ўскраіну свету,*
*На мяне не зірнуўшы,*
*Па ветру*
*на храм узышла.*

*Ты да неба імкнулася,*
*быццам лісток да палёту.*
*Праступаў на далонях*
*раслінны малюнак густы.*
*Да плячэй дакрануўся*
*імгненны пакроў пазалоты.*
*І дарос да маланкі*
*няўрымслівы дым залаты.*

### ГУТНІК

*Ты імкнуўся ахутаць планету*
*ахоўным дыханнем?*
*Выдзьмуць птушкам*
*шкляныя нябёсы без хмар і вятроў?*
*За саломінку*
*Моцна трымаўся*
*і дзьмуў без адхлання —*
*Ды замкнулася сфера,*
*цябе зацягнуўшы ў нутро.*

*Ашклянелы абшар*
*ад вачэй адкаціўся імкліва.*
*Падрабнелі рамонкі*
*абапал скажоных дарог.*
*А празрыстае неба*
*Услед усміхнулася крыва,*
*Як задыханы пыл*
*на суцэльныя вокны налёг.*

*Вечны рух пераважыўся*
*матавым шклом запацелым.*
*Ты стварыў новы свет —*
*дык спачні ж ад распаленых мук...*
*Са стыхіі*
*ў шкляную шкарлупіну*
*птушка ўляцела:*
*«Прачынайся, сынок...» —*
*І саломінку вырвала з рук.*

### РЭЗЧЫК ЛЮСТЭРКАЎ

*Будзённы божы дзень памеркнуў*
*У ненаўмыснай варажбе*
*Сярод бяспамятных люстэркаў,*
*Што лёс*
*пазычылі ў цябе.*

*Ты ім адпомсціў:*
*Гром і вецер*
*У люстраную гладзь схаваў.*
*Ніхто навокал не прыкмеціў,*
*Як ты*
*Сусвет адлюстраваў.*

*А што за люстрам?*
*Смутак цесны?*
*Празрысты одум?*
*Тло і прах?*
*Ці здолее алмаз рамесны*
*Наўсцяж раскрэсліць*
*тайны шлях?*

*Ды па прасвету срэбнай пены*
*Правесці веру між пакут?..*
*Узлёт імклівы,*
*Спад імгненны —*
*А ты маўчыш,*
*загнаны ў кут.*

*І скрозь цябе*
*глядзяць дзве прорвы —*
*Два вокі сну —*
*адно ў адно.*
*Абрыс твой працінаюць зоры:*
*Шукаюць за душою*
*дно.*

Элітарнасць, нават горкая, спрыяе тонкаму адчуванню адценняў мовы, вывядзенню з нівеліруючай будзённасці яе стыхійнай пластыкі. Патэнцыяльна беларусы маюць магчымасць стварыць своеродны феномен «аранжарэйнай» літаратуры. Тым больш, што сіноптыкі абяцаюць хуткае глабальнае пацяпленне клімату.

ж.— Ва ўступным слове да гэтай гутаркі я спытаўся ў самога сябе, што карэнна паўплывала на паэзію Галіны Булыка, і адказаў: не нейчы канкрэтны вопыт, а разуменне значнасці ўласнага вопыту. А можа, я памыліўся, і ўплыў нейчага канкрэтнага вопыту ўсё ж такі адбыўся?

—І так, і не... Самы пачатак майгоババ вершаскладання наогул не варта зводзіць да вопыту — ні нейчага, ні ўласнага. Вершы прыходзілі спантанна, як стыхіі. Дарэчы, тады я зусім не цікавілася, як трэба пісаць, амаль нічога не ведала пра форму, расла, калі можна так сказаць, дзіка, не «ад літаратуры». Цікавасць да тэорыі прыйшла, калі ўжо сфармавалася ядро асобы. Таму я не памятаю адчування паглынаючай улады вонкавых уплываў. «Нейчы канкрэтны вопыт» дзейнічаў не непасрэдна, а энергетычна. Сугучныя душэўнаму настрою чужыя радкі, як і творы выяўленчага мастацтва, музыка выклікалі прылівы стваральных сіл. Іншая справа — версіфікатарскі вопыт майстра можа ўплываць больш «матэрыяльна»: у памяці, у «арсенале» назапашваюцца прыёмы, падыходы. Хацелася б адзначыць, што я не зусім прымаю прыемныя папрокі ў тэматычнай нязвыкласці маіх вершаў. Ёсць прыклад і абстрактных «Трафеяў» француза Жазэ Мары Эрэдзіа, і спецыялізаванай на біялогіі «Дзікай парфіры» паэта срэбнага веку Міхаіла Зянкевіча. Гэтыя аўтары мне блізкія па тэматыцы. Але блізкіх па душы значна больш, і перад іх канкрэтным вопытам губляецца разуменне значнасці вопыту ўласнага...

з.— Галіна, якую рысу ты праводзіш паміж мараллю і тварчасцю — глыбокую ці ледзь заўважную? І, наогул, ці павінна быць паэзія маральнай?

—Здаецца, часы супрацьпастаўлення этыкі і эстэтыкі мінулі. Таму і «амаральнасць творчасці» паводле Л.Талстога, і перакананне XX стагоддзя ў тым, што творчасць вышэй за мараль, як мне падаецца, не акрэсліваюць ісціны. Мараль і творчасць не ствараюць бінарнай апазіцыі. Яны зусім лагічна злучаюцца ў «маральнасць творчасці», і тады можна гаварыць пра праблему плагіяту, не такую ўжо неактуальную для нашай зачыненай кансерватыўнай літаратуры. У гэтым кантэксце магчымыя і развагі пра маральныя якасці творчай асобы: мараль і творчасць атаясамліваюцца ў неабходнасці быць натуральнымі, нязмушанымі. Гісторыя літаратуры распавядае яшчэ і пра творчасць маралістаў, але тое адбывалася не ў нашых шыротах.

і.— Часам цябе не палохаюць цагляна-шкляныя-ёдзістыя сцены, якія ты будуеш у сваіх вершах, табе не хочацца іх разбурыць?

—Мае сцены падобныя да рогавай абалонкі малюска. У сярэдзіне — мякаць. Як жа разбураць ракавінку? Яна дапамагае адчуваць сябе праз матэрыю, ісці да канкрэтнай якасці праз абстрактнае абагульненне.

й.— Твая творчасць пераважна рацыяналістычная. Вершы маюць навукова-грунтоўную аснову і трывалае прафесійнае выкананне. Гэта ўсё добра, але... Рацыяналізм не стаміў паэтэсу Галіну Булыка?

—У маіх пошуках не больш рацыяналізму, чым у дзеяннях рэальнай птушкі, якая дзяўбе намаляваную рабінавую гронку. Тое, што мне ўдаецца ўбачыць, толькі вонкава лучыцца з якой-кольвек навукай. Рэч, якасць праступаюць з «адаптаванага» свету, у якім графіка прэвалюе над жывапісам, а мінералогія над батанікай.

к.— У тваіх вершах няма жаночай пяшчоты і гуллівасці. Няма традыцыйнага вобраза каханага... Ці ўсё гэта ёсць, але нейкім дзівосным чынам зашыфравана?

—А можа, больш за непасрэдную гуллівасць, жаноцкасць паэзія вызначаецца ўважлівасцю сузірання? Пачуццёвасць, як і паэзія,— не рэчыва, а палявая тонкая матэрыя. Яна не прысутнічае наяўна, а напаўняе прастору, як гіпатэтычны эфір. Закаханы чалавек прываблівае менавіта ўнутраным патаемным свячэннем. У маёй новай кнізе з дзесятак вершаў пра каханне. У «Ювеліры» рамеснік апрацоўвае камень, надае яму каштоўнасць —новую якасць, і... губляе натхненне. Хіба ж гэта не пра каханне, не пра вечны канфлікт нашага памкнення перарабіць жаданага чалавека, змясціць яго ў шэ-

**«Каб расшыфраваць галаваломкі Булыка, трэба ўзброіцца геаметрычнай лінейкай і штангенцыркулем». Але ж нябачная сіла прыцягвала да яе вершаў. Ішлі гады. І добра, што Галя засталася адданай самой сабе, не змяніла свой стыль, падыход да рэчаіснасці, а толькі паглыбіла яго. Неяк неўпрыкмет, калі чытаеш яе вершы, прыходзіць здзіўленне, што ты, чытач, спачуваеш Гліне, на якой не растуць кветкі, але якая патрэбна ганчару і якой тушаць агонь. Я як бы пераасэнсоўваю сваё стаўленне да тых ці іншых рэчаў. Паэтэса ўмее цераз рацыю розуму весці чытача ў свет пачуццяў, а свет гэты для яе вельмі драматычны, у ім усё дыхае насцярожанасцю, адчуваннем маючай вось-вось адбыцца катастрофы — для якой дастаткова аднаго хлуслівага слова, аднаго злога ўмыслу чалавека. Сакрэт радкоў у тым, што паэтэса ў звычайнае, тое, што і ўвагі не заслугоўвае, укладае імпульс любові, як бы дзеліцца з жорсткім абыякавым светам сваёй дабрынёю. Але ж адкуль гэты сум у яе апошніх вершах? Відаць, ад таго, што паэтэса разумее — яна не паспявае ахапіць пачуццямі веліч створанага Богам, і таму шукае найчасцей істотнае, нават не ісціну, не хуткаплыннасць, а трываласць, вечнае. Заўважым, і назвы яна выбірае як вехі на шляху чалавецтва: «Камяняр», «Каваль», «Ганчар», «Балота», «Вецер». Яна кожнаму шукае не апраўдання, а сэнс існавання. Яна талентам далучае чытача да сuперажывання і тым перамагае і свой смутак, і адзіноту, і сваё трагічнае светаўспрыманне. Адно хіба хочацца пажадаць: пачувайце сябе, Галіна, у літаратуры больш паўнакроўна, упэўнена, не выкарыстоўвайце паэзію як доказ каму-небудзь, што вы таленавітая. Ёсць небяспека, што тады вершы ператворацца ў шарады, тэарэмы, якія мы будзем разгадваць толькі розумам і толькі ім, а душа наша будзе спаць.**

**Георгій МАРЧУК**

### ГАЛІНЕ БУЛЫКА — ПАЖАДАННЕ АД КАЛЕГІ

*Калі Вы нарэшце кінеце журналістыку?*

*З-за штотыднёвай змушанай «гаварыльні», напэўна, не могуць як след пачуцца галасы больш істотныя, сутнасныя — тыя, што Вы* яшчэ *можаце пачуць. Сцеражыцеся журналістыкі! Не падманвайцеся «Культурай»!..*

**Ю.З.**

# НА ВОСТРАВЕ ТАЙНЫ
## Будзённае і вечнае ў паэзіі Галіны БУЛЫКА
*Эсэ*

**Ёсць ходкі выраз: кожны ў душы паэт. Мушу не згадзіцца: менавіта ў душы — далёка не кожны. У думках — кожны. Таму што любое думанне — вобразнае, нават самае прымітыўнае. Скажам:** *Варона сядзіць на дубе.* **Малюнак трэба ўбачыць і зафіксаваць яго ў галаве:** *Варона* **(а чаму не сарока?),** *сядзіць* **(а не скача) ды яшчэ** *на дубе* **(а не проста на дрэве).**

**Але паэт паэту розніца. Сапраўдны паэт — гэта метафара і думка, якія пераўтвараюць гэты наш агульны будзённы свет у нечаканую сферычную карцінку і прымушаюць іншага здзіўляцца ёй як цуду:**

*Быў штыль. І крыга*
*белай скурай гладзіла*
*Адлюстраванне хмараў у вадзе.*

**Чым ярчэйшыя ды свяжэйшыя метафара і думка, тым мацнейшы паэтычны дар, тым рухомей ажываюць звычайныя прадметы. Кожны прадмет на-**

*А перад свечкаю грамнічнай*
*Застыў на гранях пустаты*
*І ў цень твой*
*затуліў аблічча*
*Натоўп людзей,*
*Такіх, як ты...*

## ЮВЕЛІР

*Калі навечна вызваліў ён грані,*
*Калі з кутоў бліскучы пыл скрышыў,*
*Калі таварны стаў*
*прыродны камень,—*
*Сышло натхненне з майстравай*
*душы.*

*Аправіць*
*адмыслова і багата.*
*Схавае ў аксамітны футарал...*
*Імкнуцца долу*
*спелыя караты,*
*Як пачуццё,*
*якога не чакаў.*

*І блісне дыямент*
*на раздарожжы*
*Малой дваінкай існасці зямной,*
*І ў лужыне абудзіцца...*
*Дык, можа,*
*Ён да натуры вернецца самой?*

*І ў летуценнай ювелірнай форме,*
*У жудаснай дакладнасці кута*
*Паспее пакрывіцца*
*слепа-чорны,*
*Усюдыісны*
*Цень ад капыта?*

раг спасцігнутага, хіба ж гэта не пра цяжкі пераход ад фізічнага да духоўнага? «Дзве сталіцы» я ўявіла ў вобразах дзвюх жанчын-суперніц, квазі-Евы і квазі-Ліліт. У жыцці каханне вядзе да перастварэння самой сутнасці чалавека, яно дорыць магчымасць бачыць новыя сэнсы. Я пазычаю метад у рэальнасці і спадзяюся, што сляды і цені пачуццяў, заўважаныя і адлюстраваныя, набываюць больш універсальнае гучанне, злучаюць і акрэсліваюць, здавалася б, далёкія ад сантыментаў рэаліі.

л.— Галя, што ты адкажаш на пажаданне твайго калегі спадара Ю.З.: «Калі Вы нарэшце кінеце журналістыку? З-за штотыднёвай змушанай "гаварыльні", напэўна, не могуць як след пачуцца галасы больш істотныя, сутнасныя — тыя, што Вы яшчэ можаце пачуць. Сцеражыцеся журналістыкі! Не падманвайцеся "Культурай"!»?

—Не хацелася б зноў пра палітыку з эканомікай... Дарагі калега Ю.З.! Шчыры дзякуй, што Вы чытаеце маю змушаную «гаварыльню». Спадзяюся і на больш істотнае, сутнаснае наша ўзаемаразуменне, якое яшчэ можа ўзнікнуць... А калі яшчэ менш сур'ёзна, то днямі я бачыла рэкламу нейкай фірмы, з назовам «Турмалін» (!). Вось бы расчуліць «цёзку» на мецэнацтва. На жаль, мяне падвёў рацыяналізм, і газету з рэкламай напаткаў незайздросны лёс усіх газет...

м.— Мы жывём на самым схіле стагоддзя. Ёсць нейкая асаблівая таямніца ў часе, якім стагоддзі завяршаюцца. Якім паэтычным радком (сваім ці чужым) ты б вызначыла сутнасць гэтай таямніцы?

—У Давіда Самойлава ёсць надзвычай «рэтра-прарочыя» вершы «Канец XVIII», «Канец XIX»... І там: «Безвременье. Отдых души. Девяностые годы». Усё супадае, акрамя адпачынку душы. Канец стагоддзя «тут і цяпер» характарызуе, хутчэй, Блок: «Последний пурпур догорал...» Стагоддзе сыходзіць, «век сыходзіць каменнем», як некалі напісалася мне, але таямніца спынення часу застаецца, і застаецца пакуль сам час, апошні каменьчык стагоддзя, калі ўжо даецца разуменне, што я, як казюрка ў бурштыне, замураваная ў ім. «Яшчэ празрыста. Каламуць яшчэ не выспела ў люстэрках...»

---

**поўнены тайнаю, гэта жывая істота для Сусвету, а мы яе прыкладаем толькі да сябе, глухіх, сляпых і таўстаскурых, і таму глядзім як на штосьці мёртвае, нават і блізка не здагадваючыся, што ўзаемадзейнічаем з ім (прадметам), хочам гэтага ці не хочам.**

*Пад скураю шэрай адценняў багацце.*
*Што камень халодны і мёртвы,*
*не верце.*
*Гавораць аб чэрствых:*
*«Каменныя сэрцы»,—*
*Ды ці камяні нам у тым вінаваціць.*

**Альбо:**

*Б'ецца ў граніце жыццё адчайна,*
*Б'юцца сэрцы плямёнаў тых,*
*Што ўклалі ў камень вечную тайну,*
*Святла і мары святы матыў.*

**У Г.Булыка ажываюць самыя «нежывыя» рэчы і рэчывы: кальчугі, азбест, свінец, гліна, сургуч... (тут у яе проста магічная здольнасць). І само па сабе ўзнікае пытанне: чаму яна выбірае менавіта іх, а не штосьці іншае, больш «паэтычнае»? У тым і соль, што не яна выбірае іх, а яны выбралі яе. Гэта нам толькі здаецца, быццам паэзія прыходзіць да нас таму, што мы гэтага хочам, што мы чамусьці навучыліся. Усё наадварот: яна прыходзіць, таму што гэта патрэбна *некаму* іншаму, хто вышэйшы за нас,— Божаму Духу, Вышэйшаму Розуму, Космасу, проста Небу? — і тады ён выбірае таго, хто здольны ў словах ажыццявіць ягоную задуму на зямлі.**

**Колісь Мендзялееву (не лішне будзе нагадаць у кантэксце — цесцю А.Блока) *прыснілася* сістэма элементаў; а Галіна Булыка пераўвасобіла яе ў паэтычную сістэму — як бы падняла яе і растварыла ў тумане вобразаў, а затым асадзіла расою паэтычных слоў на паперу. Разумее ці не разумее Г.Булыка гэтую амаль што містычную з'яву, а я адчуў яе з першых вершаў, раз-пораз сустракаючы словы: *Бог, Сусвет, таямніца, галактыка, планета, зоркі, неба, паднябессе...***

**Калі б камяні, гліна, дрэва, металы жылі толькі паводле законаў фізічнай інерцыі, то гэта была б навука, ці звычайнае рыфмаванне ў лепшым выпадку; але ў вершах Г.Булыка яны жывуць паводле духоўнай інерцыі. Для мяне было проста дзівам сустрэць у паэтэсы гэтыя словы (думаю, што і для многіх яны застануцца загадкаю):**

*Якім ён быў, той доўгі стрыжань?*
*Гавораць, выгнутым спіральна,*
*Як прэнт-галактыка пад крыжам*
*Сіл інерцыйных і астральных.*

**Гэтыя радкі, асабліва два апошнія, былі напісаны ў часы безагляднага пакланення фізіцы, дыямату; метафізіку ж асцярожна ўпаміналі ў пераліку цемрашальскіх буржуазных выдумак, а пра свет астральны ніхто ўвогуле не чуў (якія ж МЫ былі невукі!).**

**Дык вось, паэту вёскі надоўга хапае паэтызмаў рэальных, зрокавых, слыхавых (амаль што гатовых), і ён больш прыземлены, ціхапачуццёвы, тады як паэт горада, а злашча жанчына, проста вымушаны імкнуць увысь, у неба, у галактыку, у свет абстрактных матэрый (як хочаце). Бо адна справа — травы, яблыні ў садах, кветкі, спеў салаўя, ручай, і зусім іншая — асфальт, ліхтары, колба, кран, кібернетыка, атам, вентылятар...**

*А ў мяне не было сваёй вёскі ніколі —*
*Толькі мінскі асфальт чарнеў,*—**як быццам з жалем прамаўляе паэтэса, паддаючыся тэндэнцыі, не падазраваючы, што менавіта гэтая акалічнасць дапамагла раскрыцца ейнаму дару, падняла свядомасць у палохаючую бясконцасць, дзе толькі паэзія і жыве. Высмыкнуць яе адтуль па жаданні нельга. Трэба самому ўзвысіцца інтэлектуальна, духоўна — і тады (як адваротны працэс) паэзія міжвольна, ужо нават *супроць жадання* пальецца ў сэрца на мове «адной з найцудоўнейшых моў». Ніякімі намаганнямі, патугамі тут не дапаможаш. Толькі твая ўнутраная падрыхтаванасць — не кожнага, а чалавека *выбранага* — адчыніць дзверцы для палёту ў астральную сферу.**

*Не паспець за розумам сумленню!*

**Веданне фізічных законаў вельмі многае можа праясніць, падказаць у жыцці, і я разумею «вечную прагу ведаў» у паэтэсы, ейную адмысловую эрудыцыю (усе нашыя беды ад няведання ці, што яшчэ горш, ад паўведання), інтэлект, без якога за чынную літаратуру і брацца не варта. Але фізічныя законы, як ні дзіўна, часам не ёсць абсалютная ісціна, бо яны замыкаюць чалавека толькі на самім сабе і адкрываюцца на пэўным прамежку пазнання. Абсалютная ісціна тая, што вынікае са святасці, з відочнага тварэння Божага Духу, на якім і павінна ўсё, у тым ліку і чалавек, замыкацца (вобраз, думка, высокая мараль).**

*І скрозь цябе глядзяць дзве прорвы —*
*Два вокі сну — адно ў адно.*
*Абрыс твой працінаюць зоры:*
*Шукаюць за душою дно...*

**Я ніколі не думаў (дзіўленне — самы беспамылковы крытэрый сапраўднасці паэзіі), што вачыма людзей такіх груба́сткіх прафесій, як разьбяр, рэзчык люстэркаў, ганчар, камяняр, каваль, можна зазірнуць у таямнічую глыбіню мікракосму душы. Ад дробязі (гліна, шкло, кавалак жалеза, дрэва) — да глабальнага, неабдымнага:**

*Ніхто навокал не прыкмеціў,*
*Як ты Сусвет адлюстраваў.*

**Добра, калі ў паэзіі ёсць вобразнасць; добра, калі — і малюнкавасць; добра, калі — і празрыстая, як шкло, яснасць думкі. Але найлепей для мяне, калі ў паэзіі, апроч усяго, ёсць міраж тайны, якісьці водар загадкавасці. Вось будзе набор адных і тых жа слоў: у аднаго — голыя дроцікі, у другога — па іх бяжыць ток. Напісаў я пра дроцікі, яшчэ не чытаючы верш «Філіграннасць», а калі прачытаў — уразіўся, што іду па следзе паэтэсы: знайшоў радкі пра «дроцікі».**

**Яны магічныя, гэтыя нябачныя эфірныя токі, што пульсуюць у вершы, страфе ці — нават! — радку: «Ці здолее алмаз рамесны наўсцяж раскрэсліць тайны шлях?» Міжволі яны пранізваюць і тваю душу, чаруюць яе, і ўжо са зляклівым холадам пачынаеш думаць: што за бяздонне раскрылася маладой жанчыне-гараджанцы. Яскрава адчуваеш тое рэдкае ў творцаў, што сухімі словамі, але коратка можна назваць *другім планам паэта,* якія немагчыма (і не трэба!) разгадваць. Паэтаў з другім планам у нашай беларускай літаратуры асабіста я ведаю (з тых, каго чытаў) не больш пяці.**

**Доўгі час лічыў, што паэзію пісаць цяжэй, чым прозу. Нядаўна адзін агульнапрызнаны таленавіты літаратар пераканаў мяне, што — наадварот. Цяпер я зноўку вяртаюся да сваёй думкі. Бо арыенцір на вечнае ў прозе ў наш постсавецкі час выбраць амаль што немагчыма, і, тым не менш, я ўпэўнены: метафізіка, філасофія павінны прыйсці і ў прозу.**

*І калі недаспелку сарвеш,*
*Паспытаеш ды кінеш з праклёнам,*
*Ведай — яблык нальецца, як верш,*
*Ад сучасся зялёны.*

**Ну што было б, калі б я пачаў вышукваць заганы ў вершах Галіны Булыка ці крытыкаваць тое, што мне не спадабалася (гэта мае праблемы, а не ейныя!)? Гэта было б не прачытанне паэзіі, а нясціплае ўзнясенне сябе: маўляў, глядзіце, мяне не задавальняе нават такі рэдкі талент, значыцца, я вышэйшы. А ўсіх, зрэшты, паэзія і не павінна задавальняць. Не змог увайсці ў лес вобразаў, пачуццяў, заблудзіўся ў ім — значыць, ты сам вінаваты, што такі бездапаможны, ідзі ў іншы лес, знаёмы і рэдкі, праз які прасвечваецца твая вёска.**

**Калі б мне не легла на душу паэзія, не «адкрылася», я ўвогуле пра яе не пісаў бы. Навошта?**

**Уладзіслаў РУБАНАЎ**

## ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА ГЛІНЫ

*Галіне Булыка*

*На самым дне глухой душы*
*Шукае слова змоў і згукаў*
*Са светам...*
*Так у гладышы*
*Зумчыць зняволеная муха...*

*І б'юцца ў дно і ў зманны верх,*
*Агнём і духам сцятай*
*гліны,*
*Якую Бог і Чалавек*
*Павінны вызваліць з ляпніны.*
*І формы рук,*
*іх кожны рух*
*Тварыў не згадкі, а загадкі...*
*Так павуту пляце павук*
*Не для красы,*
*а — дзеля пасткі...*

*Вунь, зорны ўжо іканастас*
*Запавуцеў на небасхіле,*
*Пакуль Гасподзь замешваў час*
*І нас*
*у вечнасці і ў гліне.*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

ЯНЫ

# Сэмуэл БЭКЕТ
# НЕ Я

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

**Рот.**
**Слухач.**

*РЭМАРКА:*

*Рухі: яны складаюцца з простага падняцця рук з абодвух бакоў і іх рэзкага вяртання назад, у першапачатковае становішча, з выразам бездапаможнага спачування. Размах памяншаецца з кожным разам: на трэцім ён ледзь заўважны.*
*Дзеля гэтага паўза досыць працяглая, бо Рот паступова адыходзіць ад рашучай адмовы выпусціць трэцюю асобу.*
*Сцэна зацемненая, але Рот — у глыбіні сцэны, справа ад публікі, каля васьмі футаў над падлогай, слаба асветлены зблізку і знізу; астатняя частка твару ў цяні. Нябачны мікрафон.*
*Слухач — на пярэднім плане, злева ад публікі: высокая вертыкальная постаць нявызначанага полу, загорнутая з ног да галавы ў прасторны чорны балахон з капюшонам, уся асветленая слабым святлом; стаіць на нябачным п'едэстале, чатыры футы вышынёю: гэта відаць толькі з таго, што яна павернутая тварам па дыяганалі сцэны ў бок Рота; яна ўвесь час нерухомая, акрамя тых чатырох момантаў, калі робіць кароткія рухі — там, дзе гэта пазначана. Глядзі «Рэмарку».*
*Пакуль у тэатры гасне святло, Рот нешта неразборліва гаворыць за заслонаю. Святло ў тэатры цалкам пагасла. Неразборлівая гаворка за заслонаю доўжыцца 10 секунд. Калі падымаецца заслона, ідзе імправізацыя паводле тэксту — як магчымая прапанова — аж да таго, як заслона паднятая і ўвага дастаткова сканцэнтравана на:*

Рот: ... туды... у гэты свет... гэты свет... малюсенькая рэч... да свайго часу... у забыты ўсімі — ...што? ... дзяўчынка? ... ага... малюсенькая дзяўчынка... у гэты... туды, у гэты... перад яе часам... забытая ўсімі дзірка, што называецца... называецца... якая розніца... бацькі невядомыя... ніякіх звестак... ён знік... без следу... не паспеўшы нават зашпіліць штаны... яна проста... праз восем месяцаў... амаль што дакладна... гэтак, ніякага кахання... абышлося без яго... ніякага кахання, што нармальна пераходзіць на... немаўлятка... у доме... не... не, сапраўды, з гэтае прычыны зусім-зусім ніякага... зусім ніякага кахання... на ўсім працягу... гэткая тыповая рэч... нічога і ў ніякім выглядзе аж да шасцідзесяці, калі — ...што? ...семдзесят?... Ойча нябесны! ... аж да сямідзесяці... ходзячы па полі... машынальна шукаючы першых ключыкаў... каб зрабіць букет... праз некалькі крокаў спыніцца... утаропіцца ў прастору... потым ізноў... крыху больш... спыніцца і зноў утаропіцца... і гэтак далей... рухацца туды-сюды па крузе... і раптам... паступова... усё скончылася... усё гэтае святло красавіцкага рання... і яна апынулася ў — ...што? ... хто? ... не! ... яна! ... (*паўза і рух N 1*) ...

апынулася ў цёмнай... і калі не дакладна... непрытомная... непрытомная... бо яна здолела толькі пачуць гудзенне... так сказаць... увушшу... і промень святла паявіўся і знік... паявіўся і знік... гэтак, як Месяц можа выпраменьваць... рухацца... але гэтак прытупіліся пачуцці... гэтак пачуцці прытупіліся... яна не ведала... у якой яна позе... уявіце сабе! ... у якой яна была позе!... ці то стаяла... ці сядзела... але мозг... што?... укленчыўшы? ... ага... ці то стаяла... ці сядзела... ці ўкленчыла... але мозг... што? ... маніць? ... ага... ці то стаяла... ці сядзела... ці ўкленчыла... ці маніла... але мозг яшчэ... яшчэ... пэўным чынам... бо першая яе думка была... о, гэта куды пазней... раптоўная ўспышка... паявілася, калі яна павінна была паверыць... разам з іншымі беспрытульнымі... у літасцівага... (*кароткі смех*) ... Бога... (*нармальны смех*)... першая думка была... о, гэта куды пазней... раптоўная ўспышка... што яна была пакараная... за свае грахі... некаторыя з іх пасля... яшчэ адзін доказ, калі доказ быў патрэбны... прамільгнулі ў яе свядомасці... адзін за адным... потым адышлі як недарэчныя... о, гэта... о, гэта куды пазней... гэта думка адышла... калі яна раптоўна ўсвядоміла... паступова ўсвядоміла... што яна не пакутуе... уявіце сабе! ... не пакутуе! ... напраўду, яна не магла прыгадаць... гэтак адразу... калі яна пакутавала, тым не менш... пакуль, натуральна... лічылася, што яна пакутуе... ах! ... мелася на ўвазе, што яна пакутуе... якраз, бо вольны час... у яе жыцці... калі яна мела выразны





намер атрымаць задавальненне, у яе... яго не было... і найменшага... у сувязі з гэтым, вядома... гэтае адчуванне пакарання... за той ці іншы грэх... або за шмат якія... або без асаблівай прычыны... дзеля сябе самой... гэта яна разумела дасканала... што адчуванне пакарання... якое найперш выявілася ў яе... паявілася, калі яна павінна была паверыць... разам з іншымі беспрытульнымі... у літасцівага... (*кароткі смех*) ... Бога... (*нармальны смех*) ... найперш выявілася ў яе... пасля адышло як недарэчнае... магчыма, і не было такое ўжо недарэчнае... у рэшце рэшт... гэтак далей... усё гэта... дарэмныя пошукі прычыны... пакуль іншая думка... о, гэта куды пазней... раптоўная ўспышка... вельмі недарэчнае, сапраўды... але — ... што? ... гудзенне? ... ага... увесь час гудзенне... так сказаць... увушшу... хоць, вядома, цяпер... зусім і не ўвушшу... у чэрапе... прыглушаны шум у чэрапе... і ўвесь час гэты прамень ці пучок святла... як прамень месяцовага святла... але, напэўна, не... вядома, не... увесь час тая самая пляма... то светлая... то схаваная... але ўвесь час тая самая пляма... бо ніякі Месяц не мог бы... ніякі... ніякі Месяц... усяго толькі частка таго самага жадання... рабіць балюча... хоць цяпер, зважаючы на той факт, што... ані трохі... не прыпадак болю... пакуль... ах! ... пакуль... гэта іншая думка потым... о, гэта куды пазней... раптоўная ўспышка... такая недарэчная, сапраўды, але такая падобная да яе... пэўным чынам... што яна б магла добра рабіць, каб... стагнаць... ціха і голасна... курчыцца ад болю яна б не змагла... як на цяперашнюю... агонію... але не змагла б... не змагла б нанесці шкоду свайму выгляду... няздольная падманваць... або машына... куды хутчэй машына... такая разабраная... ніколі не атрымала інфармацыі... або не можа адказаць... як анямелая... ні гуку... ніводнага і ніякага гуку... ніякага крыку «дапамажыце!», напрыклад... магла яна адчуваць гэткую схільнасць... крычаць... (*крычыць*) ... пасля слухаць... (*маўчанне*) ... зноў крычаць... (*крычыць зноў*) ... потым зноў слухаць... (*маўчанне*) ... не... абысціся без гэтага... маўчаць, як магіла... ніякая частка... што? ... гудзенне? ... ага... поўнае маўчанне, толькі вось гудзенне... так сказаць... ніводная частка яе хвалявання... што яна магла адчуваць... толькі павекі... можна меркаваць... туды-сюды... вырубіць святло... яго яны называюць адлюстраваннем... зусім ніякіх пачуццяў... але павекі... нават найлепшыя часы... хто адчувае іх? ... адплюшчванне... заплюшчванне... уся гэтая вільгасць... але мозг яшчэ... яшчэ досыць... о, і не абы-як! ... на гэтай стадыі... кантралюецца... пад кантролем... засумнявацца нават у гэтым... бо гэтым красавіцкім раннем... гэтак падсумавалася... гэтым красавіцкім раннем... яна зафіксавала сваім позіркам... далёкі званочак... калі яна паспяшалася да яго... зафіксаваўшы яго сваім позіркам... каб не згубіць яго... не ўсё скончылася... усё тое святло... само па сабе... без усякага... без усякага... з яе боку... гэтак далей... гэтак далей... выйшла... дарэмныя сумненні... і ўсё нема маўчыць... прыемная мёртвая цішыня... калі раптам... паступова... яна ўсвядом... што? ... гудзенне? ... ага... наўкол мёртвая цішыня, толькі вось гудзенне... калі яна раптам усвядоміла... што словы — гэта... што? ... хто? ... не! ... яна! ... (*паўза і рух N 2*) ...

усвядоміла... што далятаюць словы... уявіце сабе! ... далятаюць словы... голаса яна не пазнавала... напачатку... пакуль ён гучаў... пасля, нарэшце, мусіла прызнацца сабе... што гэта ніякі іншы... як яе ўласны... пэўны галосны гучыць... яна ніколі не чула... дзе-небудзь яшчэ... гэтак, што людзі ўтаропяцца... рэдкія выпадкі... раз ці два на год... заўсёды зіма — крыху дзіўная прычына... утаропяцца на яе няўцямна... а цяпер гэты прамень... увесь час прамень... яна, якая ніколі... наадварот... сапраўднае яшчэ немаўля... усе свае дні... як яна выжыла! ... нават купляючы... ходзячы купляць... у вялікім магазіне... універсаме... спіс у руцэ... з сумкаю... старой чорнай гаспадарчай сумкаю... потым стоячы там у чаканні... прастойваючы невядома колькі... у сярэдзіне натоўпу... нерухома... утаропіўшыся ў прастору... рот раскрыты напалову ад звычайнага... пакуль сумка зноў не была ў яе ў руцэ... сумка зноў у руцэ... потым заплаціць і выйсці... нават не сказаўшы «да пабачэння»... як яна выжыла! ... і цяпер гэты прамень... не злавіўшы і палавіны яго... ні чвэрці... незразумела... што яна гаварыла... уявіце сабе! ... незразумела, што яна гаварыла! ... пакуль яна не пачала спрабаваць... маніць сабе самой... гэта быў не яе... зусім не яе быў голас... і, несумненна, было б... жыццёва важна, каб яна... яна мела намер... пасля доўгіх намаганняў... калі раптам яна адчула... паступова стала адчуваць... што яе губы варушацца... уявіце сабе! ... яе губы варушацца! ... бо, вядома, да тае пары яна не мела... мела не адны губы... шчокі, сківіцы... увесь твар... усё тое — ... што?... язык?... ага... язык у роце... усе тыя выкрыўленні, без якіх... немагчыма гаварыць... і, акрамя таго, звычайным спосабам... не адчуваецца зусім... як хтосьці настойліва імкнецца... да таго, што гаворыцца... усё існаванне... абапіраецца на яго словы... таму не толькі яна павінна была... была павінна... не толькі павінна была яна... саступіць... дапусціць толькі яе... толькі яе

# ОНА БЫЛА В МОГИЛЕВЕ

В интересном, как всегда, очерке Андрея Седых «Шагал» художник в разговоре с автором сомневается:

«Говорят, был у нас в роду какой-то Сегал, он жил лет полтораста назад и якобы расписал синагогу в Минске. Но и в этом я не уверен».

И разрешите теперь стереть это белое пятно в биографии Марка Шагала, а тем более что ему самому свойственна здесь неуверенность.

В Белоруссии, в Могилеве, имелась старинная деревянная синагога, от которой вообще эта часть города получила название Школище. Она была построена в 1626 г., когда король Сигизмунд Третий разрешил могилевским евреям селиться только здесь, но не в замке. Ее чудом миновал в 1708 г. пожар, уничтоживший по приказу императора Петра Первого почти весь Могилев. В 1937 г. мне пришлось побывать в ней вместе с бывшим воспитанником еврейской духовной семинарии-ешибота Самуилом Плавником, ставшим под псевдонимом Змитрок Бядуля одним из наиболее популярных белорусских писателей.

Мы долго искали ее тогда, так как встречные на вопросы о ней либо подозрительно осматривали нас с головы до ног, как неких провокаторов, либо снисходительно, если не презрительно, улыбались — есть еще, мол, допотопные субъекты не от мира сего, которые в завершающем году второй сталинской пятилетки разыскивают синагогу. Только когда Змитрок Бядуля по-еврейски обратился к старому могилевчанину, тот, сперва оглянувшись, охотно и подробно объяснил нам, как в нее попасть.

Еще издали мы узнали ее по высокой, многослойной, с криволинейными скатами крыше, определяющей характерный силуэт большинства синагог Белоруссии. И вот наконец через открытые настежь двери мы входим в нее. Во время своего долгого существования она, скромная по размерам, вмещала море человеческого горя, которое на праздник Йом Кипур под звуки ритуального рога-шофора освещалось радостным возгласом-надеждой:

Лшона Габоа Бийрушалайм! —что на древнееврейском языке означает — в будущем году в Иерусалиме!

Внутри синагога была расписана талантливой рукой Шагала — прадеда Марка Шагала. Необычная вообще для синагог, стенная живопись здесь, обойдя запреты Талмуда, до предела наполнила все здание вдохновенной и вещей символикой библейских пророков, покрытой теперь внизу... нецензурными надписями углем и мелом. Из четырех колонн по углам амвонабимы, поддерживающих свод, одна была, очевидно, умышленно повалена, и тот покосился, угрожая падением. В окнах не только были выбиты все стекла, но и переломаны переплеты рам. На полу, загаженном нечистотами, валялись клочки изодранных священных книг.

Спустя два года мне пришлось снова приехать в Могилев, но, торопясь по знакомой мне уже дороге до синагоги, я на ее месте не увидел даже фундамента. В 1938 году ее разобрали, а словно окаменевшие от древности и вместе с тем без единой трещины бревна использовали для колодезных срубов. Только в местном краеведческом музее сохранилось несколько фотоснимков с нее, но не с ее уничтоженной живописи, а также документальные данные, что она действительно была расписана Шагалом.

Погиб во время беженства 2-й мировой войны Змитрок Бядуля, похороненный на кладбище столь далекого от дорогой ему Белоруссии Уральска. И когда думаешь теперь про старинную синагогу на могилевском Школище, так всегда вспоминается, как он тогда, в этой поруганной святыне, навзрыд заплакал. А возможно, это был не плач, а напоминающая стон синагогальная молитва, но ведь слезы бежали одна за другой по его старческому лицу.

29.6.72

**Юрка Витьбич**

*Публікацыя Уладзіміра Арлова*



# ЗДАРЭННЕ ЛЯ ПІЎНУШКІ НА САВЕЦКАЙ

ЯНО

Спачатку гэтае здарэнне мне здавалася дакументальным анекдотам,— хоць ты аддавай яго жыўцом каму з эстраднікаў.

Архіўны дакумент на дзвюх старонках (НАРБ ф.4, в.16, с.58, л.л.57-58). Допіс Змітрака Бядулі — у ЦК КП(б)Б і ЦКК КП(б)Б. Рука Бядулі пазначае персанальных адрасатаў: «т. Чарвякову, т. Адамовічу». Далей — машынапіснае:

«ЗАЯВА

У суботу, 2-го красавіка, а 4-й гадзіне дню, ідучы са службы да хаты, са мною адбылося такое здарэньне:

Як я ішоў па Савецкай вул. у ніз (у кірунку «Залатой горкі»), дык з піўнушкі пад назваю «Сталоўка з моцнымі напіткамі Арцель N 13 Мен. інв. Каап. Т-ва» (недалёка ад сталоўкі N 2 ЦРК) выйшлі працаўнік Бел. Дзярж. Выдавецтва Пётра Ільлючонак і Янка Купала. П.Ільлючонак крыкнуў да мяне: «Глядзі. Вось я заплаціў Я.Купале грошы за яго творы. Ён мяне за гэта напаіў, а ты мне нічога не зробіш».

Я, не зьвярнуўшы ўвагі на выкрыкі п'янага чалавека і асьцерагаючыся непрыемнага інцыдэнту, хутка пайшоў наперад. Як я перайшоў папярок вуліцы Энгельса далей па Савецкай, П.Ільлючонак пусьціўся за мною ўдагонку, забег наперад, затрымаў мяне — і давай на ўвесь голас выкрыкваць на мяне розныя брыдкія хуліганскія лаянкі з дадаткам мацернага слова на розныя варыянты. Мала гэтага, ён падняў на мяне кулакі і крычаў «Я табе морду паб'ю».

Прахожыя на вуліцы пачалі на гэта зварочваць увагу і аглядацца на нас. Я вярнуўся назад па міліцыянэра, каб адправіць хулігана ў міліцыю, але, угледзеўшы пабляднеўшага Я.Купалу, я пашанаваў гонар народнага поэта, не хацеў ублытаць яго ў гэту брыдкую гісторыю і міліцыянэра не пазваў.

П.Ільлючонак крыкнуў мне яшчэ некалькі лаянак і пагразіў: «Лепш не сустракайся са мною».

Такія аналёгічныя выпадкі хуліганскіх учынкаў П.Ільлючонка ў адносінах да мяне мелі месца і раней. Прычыны да таго з майго боку не было. Я гэта тлумачыў тады тым, што Ільлючонку мой яўрэйскі твар не да густу. І яшчэ тым, што я ня п'ю і не частую яго гарэлкай. Я тыя выпадкі аддаў забыцьцю, бо тады хуліганствы Ільлючонка ўчыняліся не на мнагалюднай вуліцы, а ў прыватных памяшканьнях. Я стараўся толькі па магчымасьці з Ільлючонкам не сустракацца.

У даным выпадку, пасьля яго пагрозы па майму адрасу, мне надалей пагражае небясьпека нарвацца яшчэ на такія скандалы з боку Ільлючонка, бо папершае — мне з ім прыходзіцца хадзіць на службу і адтуль па адной вуліцы (Савецкай), а падругое —мне, як літаратару і рэдактару часопісу «Наш край» пры Інстытуце Беларускае Культуры, прыходзіцца бадай штодня бываць па друкарскіх справах у Бел. Дзярж. Выдавецтве, дзе працуе П.Ільлючонак. Дзеля ўсяго гэтага прашу зьвярнуць увагу на хуліганскія ўчынкі П.Ільлючонка і вызваліць ад іх як мяне, так сама і іншых грамадзян гор. Менску.

Зьмітрок БЯДУЛЯ
4/IV-27».

Вось такое «страшнае» здарэнне адбылося ў Менску ў 27-м годзе, ля піўнушкі на Савецкай вуліцы (непадалёка ад сталоўкі N 2, ля скрыжавання з вуліцаю Энгельса!) 2-га красавіка.

Ці думалася Змітраку Бядулю, што ягонаму лісту ў высокія інстанцыі было наканавана стаць літаратурным помнікам? Руплівая дакладнасць у вызначэнні геаграфіі ўзнаўляе перад намі сімвалічную парадаксальнасць тагачаснай менскай тапанімікі: **уніз** па вуліцы **Савецкай** — у кірунку **«Залатая горка»** (ці ж не сімвалічны **выгін**?), перакрыжаванне з вуліцаю Энгельса, і раптам на табе: **«Сталоўка з моцнымі напіткамі»**, **трынаццатай арцелі** (чортаў тузін!) **менскіх інвалідаў**!.. Праз кантрасты гістарычнай тапанімікі выразна праглядаюць сацыяльныя кантрасты: недалёка ад сталоўкі інвалідаў, у якой паэт частуе выдаўца,— **сталоўка ЦРК**

(цэнтральнарабачкомаўская)! Стоп... Дзеля чаго Бядуля ўспомніў пра яе? Ці не падказвае Бядуля, што калі ўжо так прыспічыла паэту з выдаўцом падсілкавацца, дык маглі б зайсці туды, дзе «моцнага» няма, і не было б тае бяды? Напэўна, сам Бядуля сталаваўся толькі ў ЦРК. І ці не атрымалася такое супадзенне ў той праклятьі дзень, што ён, Бядуля, выйшаў **са сваёй** сталоўкі акурат у той праклятьі момант, калі **са сваёй** выходзілі Купала з Ільючонкам? Хто ў чый бок зірнуў і як — зірнуў? Каму здалося першаму, што, бач, яму «мой твар чамусьці не да густу»?

Пераходзім да псіхалагічнай афарбоўкі факта. Што мы ў ім маглі б убачыць, давядзіся нам таксама апынуцца сярод тых прахожых, на якіх Бядуля спасылаецца?

Калі не ведаць, хто з кім сашчапіўся, можна абмінуць, не азірнуцца.

Калі ведаць — смех ды грэх...

Аднак усё мяняецца, калі Бядуля, павярнуўшыся назад ("па міліцыянэра") — бачыць «**паблядне́ўшага**» Купалу. Гэты момант — ці не паваротны пункт «камедыі» ў патэнцыяльную трагедыю. Купалава інтэлігентная «нэўтральнасьць» ці не скамянела ў прадчуванні, што дурнота гэткага здарэння тоіць у сабе зусім не смешную пагрозу, ад якой яму ніяк не ўратавац ні Ільючонка, ні Бядулю. Да таго ж, Бядуля быў Купалавым суседам «праз сцяну» — з 1920-га па 1923 год (у доме з'езда РСДРП), ды і пазней, у 1925-м, ён займаў адзін пакой Купалавага дома на Правіянцкай (так, прынамсі, сведчыць у сваіх нататках «Сцежкамі жыцця» П.Мядзёлка).

Пракіпеўшы аж два дні (з другога па чацвёртае красавіка), Бядуля ці не спадзяваўся, што Купала здагадаецца назаўтра ці, ва ўсякім разе, напаслязаўтра — выступіць у ролі міратворчага парламенцёра, ды прымусіць хулігана Ільючонка павініцца? Мо Купала спрабаваў рабіць якія захады, аднак яны ці не заглухлі? З-за чаго?

Найбольш балючы і ці не самы далікатны момант у Бядулевым лісце — нацыянальнае пытанне. Да таго ж, Бядуля падае яго пад выглядам сваёй **здагадкі**: доказаў няма, але ж ён чуў ад Ільючонка абразлівае слова «морда», дык усё, няйначай, з-за таго, што Ільючонку не да густу «мой яўрэйскі твар»! Мо ў гэтай акалічнасці якраз і патанула Купалава парламенцёрства? Ільючонак мог таксама абурыцца: хай не выдумляе, бо калі я павінюся, дык, шаноўны Янка Дамінікавіч, навошта Вы са мной, антысемітам, бралі чарку,— «хто твае сябры»?.. Як ні круці, выходзіць — са змяі вяроўку не саўеш. Калі ж яшчэ дадаць, што партыя якраз тады раскручвала абвострана-раздрайную нацыянальную палітыку, ды нагадаць пра ўзровень тагачаснай прапаганды, у якой сам чорт не разбярэ, дзе «беларусізацыя», дзе «нацыяналізм», дзе беларускі, рускі ці яўрэйскі «шавінізм»,— дык нават і дагэтуль ці не лепей абмінуць той «момант»,— каб не ўквэцацца...

І ўсё ж давайце паспрабуем зразумець усіх іх да канца —Бядулю, Ільючонка і Купалу. Самых далікатных чытачоў прашу набрацца мужнасці і не крывіць насамі, бо гісторыя, якую я збіраюся пераказаць для аналогіі,— таксама непрывабная, таксама з рэцыдывамі сталоўскіх гасцяваннў, у вядомых нам каардынатах тагачаснай тапанімікі, але крыху бліжэй да Правіянцкай. Дзейныя асобы — цёця Уладзя (маладая Уладка) і Паўліна Мядзёлка. Зноў Купала ў ролі «паблядне́ўшага» статыста. Гледачы — зноў тыя самыя прахожыя, ды плюс кампанія Купалавых сяброў, сярод якіх мог апынуцца зноў той самы Пётра Ільючонак, бо ў сталоўцы N 3 была зноў чарка, а дзе чарка — там і ён (па крайнасці, такую рэпутацыю займеў ён і ў Бядулі, і ў Мядзёлкі, і ў ЦК, і ў ДПУ, якое з ім, у рэшце рэшт, расправілася, як з удзельнікам міфічнага «Саюза Вызваленьня Беларусі»).

Каб не страціць нешта важнае і захаваць усе псіхалагічныя нюансы, адмаўляюся ад пераказу і цытую, як літаратурны помнік,—з успамінаў «Сцежкамі жыцця» П.Мядзёлкі: «Апрача суботнікаў (так зваліся тады сябрыны хатнія, спраўлялі іх праз тыдзень, па чарзе і па-сямейнаму.— *Г.К.*), часта ўсёй кампаніяй хадзілі ў сталоўку N 3. Фактычна, гэта быў рэстаран. Там стаўлялі ў адзін доўгі рад сталы і пілі-елі да гадзіны 1-й —2-й ночы. Аднойчы, калі мы позняй ноччу вярталіся адтуль на Правіянцкую вуліцу, Уладка чагосьці была незадаволена (заўважым гэтае «**чагосьці**» —*Г.К.*), ці мо залішне выпіла (заўважым гэтае «**ці мо**»,— *Г.К.*) і ўсю дарогу лаяла то Янку, то да мяне чаплялася».

Ці не ўзнікае з гэтых «папярэдніх» моўных накідаў эскіз партрэта — «Ільючонак у спадніцы»? У Бядулі ці не тое самае было: «аналёгічныя выпадкі», «я гэта тады тлумачыў тым», «тыя выпадкі аддаў забыццю»...

Крыху ніжэй мы звернемся да тых «выпадкаў», праз якія прарастала повязь між канфліктамі «Мядзёлка — Уладка» і «Бядуля — Ільючонак». А пакуль што дачытаем у Мядзёлкі —пра здарэнне па дарозе са сталоўкі N 3: «І вось, не памятаю, што я адказала ёй (сіндром святой забыўлівасці? — *Г.К.*), як яна схапіла мяне за каўнер і пачала дубасіць кулаком па маёй спіне... Янка прабаваў яе стрымаць, але куды там! Яна не выпушчала мяне са сваіх рук і лупіла з усей сілы, пакуль сама не стамілася».

Мядзёлка, пішучы пра гэты эпізод, ці не забылася на ўсё ранейшае, пра што яна паспела напісаць вышэй. На другі дзень пасля вяртання з Латвіі яна «пабегла» да Купалаў. «Прывітанне было цёплае, сардэчнае. Я захлыналася ад радасці, апавядаючы аб сваіх назіраннях у пагранічным мястэчку і ў Віцебскай кнігарні.

—Пачакай, пачакай, як агледзішся, дык не тое запяеш,—ахаладзіла мой парыў радасці Уладка. Я зірнула на Янку, чакаючы, што ён на гэта скажа, але ён маўчаў, быццам не чуючы слоў Уладкі. І гэта збянтэжыла і насцярожыла мяне...

Зайшоўшы ў пакой да Бядулі, я спыталася ў яго, што значаць словы Уладкі.

—Ат, слухай ты яе! Усё ёй мала, усім незадаволена. А ці мы з табой думалі калісьці ў Вільні, што будзе такі росквіт беларускай літаратуры і культуры?»

Чырвонай ніткай праз усе Мядзёлчыны ўспаміны пройдзе яе «светапогляды канфлікт» з Уладзіславай Францаўнай, і нават на магілу Уладзіславы Францаўны яна шпурне аскепак гэтага канфлікту: «Калі мне сказалі, што Уладка прынята ў партыю, я доўга не магла слоў вымавіць ад здзіўлення. Я ж добра ведала яе погляды, яе адносіны да савецкай улады... А я, якая ўсёй душой, усім сэрцам верыла ў партыю, я ніколі не буду членам гэтай вялікай сям'і савецкага народу».

Гэтыя радкі мне нагадалі пра архіўны дакумент, які я працытую фрагментарна — з паказанняў пра Купалу,— іх дае на допыце ў партыйнай інквізіцыі, у ЦКК ЦК КП(б)Б (Цэнтральная Кантрольная Камісія ЦК) — партыйна-гэпэушны аташэ савецка-беларускага пасольства ў Польшчы Аляксандр Ульянаў (рэзідэнт разведкі на пасадзе дыпламата). Папярэдне колькі слоў дадам з Мядзёлкі — пра Ульянава: «З Купалам Ульянаў быў у прыязных адносінах. Не раз Ульянаў з жонкай бываў у Купалаў, і мы хадзілі да Ульянавых у госці — Янка з Уладкай і я з братам Зыгмусем. Зыгмусь даваў урокі беларускай мовы жонцы Ульянава».

Цяпер цытую, што Ульянаў піша пра Купалу (і пра цёцю Уладзю): «Сам он расценивался, как уже почти конченный, в противоположность Коласу, исписавшийся поэт, тянущийся к нам, у которого есть «злой гений» — его жена «Купалиха»,— не дающая ему никогда громко сказать и боящаяся, (что) в случае каких-либо перемен и событий — его советские выступления ему выйдут боком. **Поэтому мы всячески старались на него воздействовать — старались изолировать его от влияния жены»...**

Ульянаў не расказвае, якімі метадамі карысталіся «яны» ў сваіх стараннях, але некаторыя сляды тых метадаў то тут, то там выразна праступаюць у Мядзёлчыных радках: «З А.Ульянавым я пазнаёмілася яшчэ ў Рызе ў пасольстве СССР у час маёй высылкі з Латвіі. Гэта ён па загаду пасла (а мо сакратара?) выдаў мне 12 тысяч латв. рублёў на дарогу».

Ці ведала Мядзёлка, што Ульянаў не падначальваўся паслам (тым болей — нейкім там сакратарам)?

Здаецца, ведала: «Аднойчы... Янка, паказваючы на партрэт Ал.Ульянава, кажа:

—Вялікі правакатар.

Я здзівілася.

—Чаму? — пытаю.

—А як жа, перш дапамог Тарашкевічу арганізаваць Грамаду, а пасля памог палякам разагнаць яе.

—Няўжо гэта праўда?

—А як ты думала? Гэта яго работа.

—Чаму ж ты не знімеш са стала яго партрэта, калі гэта так?

—Гм... Яшчэ рана. Яшчэ ён важная шышка».

Пэўны час пасля вяртання ў Менск Мядзёлка пражыла ў сям'і Купалаў. Тут яны сустрэліся з Ульянавым: «**Хутка**(!) **пасля майго прыезду ў Менск** я яго сустракала ў доме Купалаў».

Трэба было — «хутка»? Так. Бо ліхаманкава вялася падрыхтоўка да Берлінскай канферэнцыі,— Апанскаму з Ульянавым было даручана зліквідаванне эміграцыйнай Рады БНР, і немалую ролю ў гэтай аперацыі ЦК і ДПУ ўскладалі на прымеркаваную да канферэнцыі паездку Гартнага, Чарота і Купалы па Еўропе (у Нямеччыну і ЧСР). Аднак пра гэта — іншым разам...

**«Ульянаў дапамог мне даволі хутка**(!) **атрымаць савецкае грамадзянства**, а пазней, у 1929 годзе дапамог атрымаць маёй маме візу на прыезд з Зах. Беларусі ў БССР».

Дзеля чаго Ульянаву спатрэбілася яе мама?

«Я павяла яе да Купалаў, пазнаёміла з маткай Янкі. Доўга сардэчна гаварылі з сабой дзве старушкі.

—Чаму ж гэта не Паўлінка мая сынова,— казала матка Янкі.— Чаму ж яна яму адказала? Як бы я шчаслівая была!

—Бо дурная была,— адказала мая матка.— Жартачка, адмовіць такому важнаму чалавеку, як ваш сын».

Не будзем каменціраваць размову «дзвюх старушак»,— так яно было ці не. Зазначым толькі тое, што Мядзёлцы вельмі рупіла, каб так — было. Дзеля таго і павяла яна да маткі Янкі сваю матку. Аляксандр Ульянаў націскаў на ўсе магчымыя педалі, каб ізаляваць Купалу ад «Купаліхі». Што атрымалася, што не,— не нам пра тое меркаваць. А як было самой Уладзіславе Францаўне, пра тое ведае, напэўна, толькі Бог. Адна супроць такой навалы: і ЦК, і ДПУ, і процьма зменлівых то новых, то старых абліччаў, ад якіх аж стракаціць у доме і за домам, і ўвесь час — напагатове, і ўвесь час — будзь ветлівая, свойская, гасцінная, вясёлая, шчаслівая, каб не сказаў які сусед ці кватарант: «Усё ёй мала, усім незадаволена»...

Адна?

Не можа быць, каб не было ў шаноўнай цёці Уладзі шчырых прыяцеляк, прыяцеляў, абаронцаў ды прыхільнікаў. І ці не быў адным з іх — Пётра Ільючонак? І ці не ўляцела Змітраку Бядулю ад яго — за цёцю Уладзю: каб не смеў плявузгаць пра яе чорт ведае якую непатрэбшчыну.

Мядзёлка працавала ў выдавецтве пад началам Ільючонка. І яна, і ён прыходзілі ў Купалаў дом абое як свае. Здаралася такое: прамінае першая гадзіна ночы, цёця Уладзя выйшла з дому правадзіць апошніх удзельнікаў «суботніка», сам дзядзька Янка ўжо даўно заснуў, а Ільючонак і Мядзёлка — удваіх, у такі час! — сядзяць. Ча-го? Пільнуюць хату? Янку? Уладку? Альбо — хто каго «перапільнуе»? Мо апошні варыянт найбольш праўдзівы...

У Мядзёлчыных нататках захаваліся сляды яе службовага змагання са сваім начальнікам па выдавецтве Ільючонкам. То яна ідзе ў Наркамасветы — просіць, каб яе куды перавялі, бо ў выдавецтве нідзе не дзенешся ад завядзёнкі частаваць начальства, піць з начальствам (у Бядулі — тое самае: «Ня п'ю і не частую»). То бяжыць дадому да сакратара ЦК, свайго браценніка Яся Васілевіча (у тую самую вышэйшую інстанцыю, куды пісаў Бядуля). Нават праз якія тры з паловаю дзесяцігоддзі, калі косці Ільючонкавы даўно ўжо тлелі пад Тайшэтам, яна піша наўздагон ягонай памяці «бядулеўскі» данос: «Я рвалася да грамадскай працы, а на гэта п'янчужка Пятро Ільючонак, махаючы мне пад нос пальцам, выкрыкваў:

—Не лезь, куды цябе не просяць! Не суй свайго носа! Не забывайся, што ты жонка Грыба, і не суйся, калі не хочаш, каб мы цябе пасадзілі. Вось лепш пі з намі гарэлку і будзь гэтым задаволена!»

Наконт «не лезь» і «не суй носа» — мабыць, гэта было праўда, бо Мядзёлчын нос ці не занадта рваўся да «грамадскай працы». А ў астатнім — моўны лад сканструяванай эскапады яўна пераймае самавыкрываўчы лексікон адмоўнага героя з тагачаснай п'ескі для мастацкай самадзейнасці (аналагічны лексікон Мядзёлка ўводзіла і ў вусны акадэміка Сцяпана Некрашэвіча, якога выдавала за ільючонкаўскага падпявалу-падпівалу ды хаўрусніка).

Шалёная здагадка (раптам): а ці не была яна, Мядзёлка, у Бядулі, калі ён пісаў сваю заяву,— за дарадцу? Ці наадварот — ён у яе?

Такое падабенства ў крыўдаваннях...

Не хапае толькі, каб Мядзёлка напісала, што Уладцы «не да густу» была яе, Мядзёлчына, наскрозь савецкая... спіна. Тады б адпала і Бядулева здагадка пра «яўрэйскі твар»,— пайшла б не менш праблематычная размова аб «савецкай мордзе».

Ці ж не так яно, у рэшце рэшт, і атрымалася?

На пленуме ЦК, які ў кастрычніку 1930-га даваў партыйна-ідэалагічную раскрутку справе СВБ, начальнік ДПУ БССР таварыш Рапапорт з вялікім пылам бэсціў Ільючонка, але так-такі нічога пэўнага чамусьці не сказаў (цытую стэнаграму):

«Ильюченок вырисовывается с самой отрицательной стороны. Я считаю, что на этой фигуре вообще не стоило бы останавливаться, потому что эта фигура отвратительна по своему содержанию, пьяная на всем протяжении времени, что он провел в партии, но эта фигура находилась в нашей партии».





Далей у Рапапорта яўна нелагічны выкід: «Лесик называет его махровым национал-демократом. Видите ли, он даже нашел превосходную ступень».

Здаецца, Рапапорт «аспрэчыў» паказанне Лёсіка (якое той даваў, вядома, пад прымусам)? Нейкая няўвязка: бо навошта было выбіваць такія паказанні, калі Ільючонак на такую «превосходную ступень» не цягне?

Слухаем далей, што кажа Рапапорт: «Вся эта группа самым беззастенчивым образом служила верой и правдой контр-революционным организациям. Она ненавидела партию, партию не любила, и все, что делает партия, было ненавистно, делая все то, что нужно национал-демократам. Я это подчеркиваю, потому что хотя и не нужно останавливаться на этих фигурах(?), но эти фигуры были в нашей партии и они принесли огромный вред партии».

Як бачым, зноў няўвязка: Рапапорт не хоча «останавливаться», але топчацца ды топчацца, размазваючы Ільючонка, і ці не замазваючы нешта ці не самае галоўнае ў ягонай справе ("огромный вред"!)...

Пра Ільючонка кажа работнік ЦКК таварыш Бэнэк:

«Памятны мне былі размовы, якія былі сярод членаў партыі **пасьля арышта Ільючонка** (заўважым гэтае "пасьля".—*Г.К.*), што Ільючонак нічога не варты, што гэта наогул п'яніца. А характарыстыка Рапапорта зусім іншая, што гэта зусім сьвядомы контррэвалюцыянэр. **Былі такія размовы яшчэ раней** (пра «контррэвалюцыйнасьць» Ільючонкаву? — *Г.К.*), калі Ільючонак прыехаў сюды (адкуль прыехаў і калі — удакладнім ніжэй.—*Г.К.*). Я яго ня ведаў, я ведаў толькі яго прозьвішча, працуючы ў ЦКК, пакуль ён да нас не зьявіўся па сваёй справе».

Якая справа Ільючонка разглядалася на ЦКК, нам невядома, але можна меркаваць, што там ішла размова не пра п'янства.

У 1992 годзе ў беларускай перыёдыцы пра Ільючонка з'явіліся амаль адначасова дзве біяграфічныя даведкі. Першая — у «Маладосці» (N 6):

«Ільючонак Пётр Вікенцьевіч нарадзіўся ў в. Русцягі Браслаўскай воласці Ковенскай губ. у студзені 1891 г. Скончыў рэальнае вучылішча. У 1912 —1917 гг. служыў у царскай арміі, затым у беларускім бежанскім камітэце ў Адэсе. З 1920 г. жыве і працуе ў Мінску, спачатку намеснікам наркома сацыяльнага забеспячэння, затым у Наркамасветы, Белдзяржвыдавецтве і Белпайгандлі».

Гэткую даведку даў прафесар Ул.Міхнюк у каментарыях да публікацыі матэрыялаў аб справе СВБ — «Захоўваць вечна».

Больш лаканічную і абсалютна іншую даведку дае «Спадчына» (N 4 за той самы год) — у каментарыях да кнігі эмігранта Аўгена Калубовіча «На крыжавой дарозе»:

«Пятро Ілічонак. Дыпламат, прадстаўнік БССР у савецкай амбасадзе ў Польшчы».

Альбо — розныя асобы?

Раюся з Віталем Скалабанам — маім сааўтарам па фільму «Ніколі я не паміраў» — Янка Купала». Ён — загадчык рэдакцыі гісторыі ў энцыклапедыі, і кажа, што ў Аўгена Калубовіча шмат недакладнасцяў у персаналіях, і што пра «дыпламата Ілічонка» звестак у яго няма, а вось пра Пётру Ільючонка — выдавецкага работніка — плануецца ў энцыклапедыі артыкул.

І ўсё ж прашу загадчыцу чытальнай залы Нацыянальнага архіва Беларусі Г.А.Сяргееву (былы архіў ЦК) па картатэцы персаналій выверыць абодва прозвішчы. Праверылі — няма(?) ні Ільючонка (Ильючонка), ні Ілічонка (Иличенка).

Зноў гартаю стэнаграму таго пленума ЦК (кастрычнік, 1930). Том — 346 старонак, стэнаграмы выступленняў выверaныя прамоўцамі, з іх праўкамі, дапіскамі і... скарачэннямі. Чытаю скарачэнні. У выступленні Бэнэка чырвоным чарнілам закрэслена якраз пра Ільючонка, ды якраз пра тое, што пра яго ведаў Бэнэк, пакуль таго не пасадзілі: «...што наогул немагчыма яго выключаць (вядома, з партыі.—*Г.К.*), што гэта чалавек, які працаваў нелегальна па ту старану, страдал там за Савецкую ўладу, ён там арганізоўваў партыю і г.д. Аказалася, што ён там працаваў супроць нас. Мы кідаем рэплікі, калі вядома Васэрману, і паўсотне і сотне т.т., але раней нельга было аб гэтым гаварыць».

Прагаварыўся Бэнэк? Ці не ведаў ён, што нават на закрытым пленуме ЦК **«аб гэтым»** было нельга гаварыць (таму і давялося ў стэнаграме **«гэта»** выкрасліць)?

А мо закрэсленае ў стэнаграме трэба разумець як праўку,—Бэнэк нешта пераблытаў у сваёй прамове?

Не, не пераблытаў. Ільючонак прамільгнуў у стэнаграме пленума ў раптоўнай рэпліцы

Славінскага да Чарвякова (той апраўдваецца за свае кантакты з нейкімі ксяндзамі): «А пры чым тут Ілычонак?».

Чарвякоў тлумачыць: «Ільічонак быў член партыі».

Славінскі: «Не, ён тады быў за мяжой».

А Чарвякоў пярэчыць: «Ён быў тут. Ён прыехаў. Абгаварывалася пытаньне аб тым, ці нельга расхалоць каталіцкую царкву шляхам аддаленьня ад гэтай царквы часткі беларускай і часткі польскай, шляхам стварэньня тут незалежнай каталіцкай царквы на манер такі, якая існуе ў Амэрыцы».

Удакладняе Галадзед: «Гэта было ў 1926 г.».

Чарвякоў папраўіў Галадзеда: «Я памятую гэты факт, гэта было... у 1924 г.».

Вось такімі справамі займаўся Ільючонак. Разам з Чарвяковым. Дадамо — і з Ігнатоўскім (мабыць, і з Купалам).

Словам, давяраючы савецкаму прафесару Ул.Міхнюку, не шкодзіць вывярыць ягоныя даследаванні звесткамі з кніг эмігранта А.Калубовіча: Пётр (Пётра) Ільючонак (Ілічонак) быў-такі ў савецкай амбасадзе ў Польшчы, і вярнуўся ён адтуль, як памятае Чарвякоў, у 1924 годзе.

Якую ж партыю арганізоўваў Ільючонак «па ту старану», «страдаючы» там — быццам «за савецкую ўладу», але быццам «супроць нас»?

Па аналогіі прыгадваецца пра Ульянава, якому давялося то арганізоўваць Грамаду, то разганяць яе...

Па храналогіі выходзіць: «партыя», якой займаўся Пётра Ільючонак, мела назву — «Беларуская Рэвалюцыйная Арганізацыя». Праіснавала БРА нядоўга — ад вясны 1922 г. да канца 1923-га, калі з Масквы прыйшоў загад уліць яе ў КПЗБ. Пра БРА звычайна пішуць, што яна стаяла за вызваленне Заходняй Беларусі, за ўз'яднанне з БССР, што на яе палітыку вялікі ўплыў рабіла ленінская нацыянальная палітыка, і неяк мімаходзь —пра «дробна-буржуазнасць» поглядаў, якія «паступова былі пераадоленыя».

Сама назва арганізацыі была разлічаная яўна на розныя слаі насельніцтва (не сацыялістычная і не камуністычная, а беларуская — агульнанацыянальная). Што атрымалася пасля зліцця з КПЗБ — чытаем у артыкуле прафесара Ул.Калесніка «Контрбеларусізацыя» ("Спадчына" N 4, 1992): «...у канцы 1923 г., калі ў КПЗБ увайшла лева-эсэраўская па сутнасці рэвалюцыйная арганізацыя... і пачала беларусізаваць камуністычны рух у Заходняй Беларусі, дасюль у асноўным яўрэйскі. Інкарпарацыя давяла там да інцыдэнту паміж патрыятычнымі неафітамі і безнацыянальнымі старымі сектантамі, выбухнула так званая сэцэзія (раскол)».

Тут пахне ўжо расколам і ў душы самога Ільючонка?

За гэтую сэцэзію якраз і вінавацілі Ільючонка Бэнэк на партыйным пленуме ў трыццатым годзе. На тым пленуме, дарэчы, ці не ў кожнага прамоўцы ў той ці іншай форме, найчасцей пад покрывам рэвалюцыйнай дэмагогіі, аднак выразна чулася нясмелае пытанне наконт «асноўнай лініі»,— ці не былі ранейшыя ўстаноўкі «спрэс» на беларусізацыю «часткова» памылковымі. Найбольш выразны адказ на гэтыя пытанні сфармуляваны быў у выступленні агітпропаўца Будзінскага (на гэтым пленуме ён увайшоў у склад бюро ЦК і быў прызначаны галоўным рэдактарам «Звязды»):

«Необходимо и ошибки, и линию оценивать с точки зрения диалектического материализма, различать обстановку и время. В одних конкретных условиях данная политика верна, в других неверна... В 1921 году мы были заинтересованы в том, чтобы в толщу польской буржуазной государственности вбить клин национальных противоречий... Это посеяло иллюзию в рядах белорусской буржуазии и способствовало обострению борьбы между польской, господствующей буржуазией и буржуазией порабощенной белорусской нации (ці не дзеля таго й спатрэбілася "Беларуская Рэвалюцыйная Арганізацыя".— *Г.К.*). Осуждать нужно лишь исполнителей этой верной партийной политики».

Узор дыялектычна-антычалавечага цынізму: партыя ніколі і ні ў чым не вінаватая, а вінаватымі заўсёды застануцца Ільючонкі, Чарвяковы, Васілевічы, якім даводзілася выгінацца пад лякаламі партыйных ліній.

Вернемся да Ільючонка і Купалы.

Працытую зноў з Калесніка: «Бывала, праўда, што хата (гэта пра Купалаву гасцёўню.— *Г.К.*) ператваралася ў зборню нязваных гасцей, нехта паводзіў сябе развязна, пачынала пахнуць багемай, тады гаспадар пакідаў гасцёўню. Здарылася і такое, што выдавецкі работнік





Ільючонак прызнаўся на падпітку ў супрацоўніцтве з ГПУ. І нічога. З кампаніі яго не патурылі».

Гэта ж трэба — падаваць такую дарагую інфармацыю (здабытую ў архівах КДБ) у гэткай «гэпэушнай» аблямоўцы, ды з такім «неасцярожным» каментарыем: «Цярпімасць... больш чым фарсавая».

Паспрабуем разабрацца ў «фарсе».

«Званым» ці «нязваным» у Купалавай гасцёўні быў «багемны» Ільючонак, але ж гэта ці не азначае, што Купала ведаў, хто яго павінен «пільнаваць» ад ДПУ? Ці не адсюль — ягоная дасведчанасць адносна «правакатарства» Ульянава? Ці не адсюль — ягоныя катэгарычныя ўхіленні ад Мядзёлчыных няўдалых намаганняў уцягнуць яго ў «інтымныя» размовы аб палітыцы (ён ад яе адмахваўся: «Чытай газеты»)? І ці не адсюль — Купалава напарніцтва з тым самым Пётрам Ільючонкам — у сталоўцы менскіх інвалідаў? Нейкі ж быў у іх напарніцкі інтэрас? Ды, калі пайшло на тое, ці не першым повадам да іх «канспіратыўнага» збліжэння магла стаць Купалава памылка з выбарам героя ў вершы пра Булата (але гэта будзе ўжо асобная размова: «Пётра Ільючонак і Сцяпан Булат», з гісторыяй «заявы 32-х камуністаў-беларусаў у ЦБ», якая нарабіла ў 1921 годзе немалога шуму на ўвесь Менск і на рэспубліку, аднак у ёй былі «партыйныя сакрэты», пра якія на той час Купала мог не ведаць, і пазней даведацца ад Ільючонка: як Сцяпан Булат пад націскам Вільгельма Кнорына адразу зняў свой подпіс, выступіў супроць «заявы», здрадзіўшы сваім саўдзельнікам, сярод якіх быў Пётра Ільючонак)...

У заключным слове Рапапорт казаў пра Ільючонка і Купалу:

«Надо с этим раз и навсегда покончить, и если т. Станкевич ходит к Коласу, то есть такие, которые ходят почаще, как Ульянов к Купале, который вечно обеспокоен и у него на лице так и написано, как будто он спасает Советскую Белоруссию, что ходит к нацдемам».

Ільючонак, не інакш, ратаваў не толькі Уладку.

А «падпітак» — ці не быў адной з ягоных прафесійных масак.

Нехта вельмі не любіў яго. І выдаў. Як «пярэваратня». Дык ці не па гэтай справе выклікалі Ільючонка ў ЦКК?

Эрнест Ялугін, пішучы дакументальную аповесць пра Цішку Гартнага ("Без эпітафіі"), меў «нелегальны» доступ да архіўных дакументаў, пра якія мы дасюль не ведаем, бо кніга выйшла без спасылак на першакрыніцы — «лысая», а сёння доступ да такога кошту дакументаў зноў няпросты. З кнігі мы даведаліся, што ў 1930 г. пры разглядзе справы Цішкі Гартнага на ЦКК яму прыпомнілі пра «дабрахотаў-абаронцаў» — **Ілычонка** і Марука, якія «пачалі гаварыць, што таварыша Жылуновіча-Гартнага дарэмна трэціруюць за «нашаніўства», ён добрасумленна змагаецца за адраджэнне самабытнасці беларускай культуры і народа».

Ільючонак быў тады, мяркуючы па ўсім, ужо за кратамі. Ялугін піша: «Па настроі камісіі Жылуновіч зразумеў: гэткая абарона можа дорага яму каштаваць. Загінуць вось так, нізавошта, ці пайсці на кампраміс? (Дальбог, па-ленінску: «Аб кампрамісах».— *Г.К.*) І Жылуновіч гаворыць з абурэннем: ён, стары бальшавік, адмаўляецца мець што-небудзь агульнае са сваімі абаронцамі. Прызнае крытыку ў свой адрас. А яго так званыя абаронцы няхай не прыкрываюцца яго імем для апраўдання сапраўды шкодных для пралетарыяту нацдэмаўскіх ідэй класавага міру. У адну яму з імі ён лезці не жадае.

І ацалеў. Застаўся нават членам ЦК. Канечне, «наверсе» падтрымалі».

...Ільючонак ратаваў не толькі Уладку.

Мартыралагічная даведка.

Пётра Ільючонак быў арыштаваны 17 лютага 1930 г.

Рашэннем калегіі АДПУ ад 18 сакавіка 1931 г. разам з Адамовічам А.Ф., Баліцкім А.В. і Прышчэпавым Д.Ф. (іх справы былі выдзеленыя ў асобную) прысуджаны да 10 гадоў канцлагераў.

16 лістапада 1937 г. тройкай НКУС Свярдлоўскай вобласці засуджаны другі раз — на 5 гадоў, «за контррэвалюцыйную дзейнасць». Вызвалены 4 кастрычніка 1942 г.

Зноў арыштаваны 27 студзеня 1943 г. і засуджаны Іркуцкім абласным судом на 10 гадоў канцлагераў.

Памёр 27 чэрвеня 1945 г. у Тайшэтлагу.

**Георгій КОЛАС**

**КРЫНІЦА № 7**

**1994**

ШТОМЕСЯЧНЫ КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1988 ГОДА

**Заснавальнікі:**
**СП Беларусі, калектыў рэдакцыі**



**Выдаецца на беларускай мове**

**Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца**

**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва, 11**

**Званіце:**
**366-071, 366-142**

Падпісана да друку з арыгінал-макета 16. 06. 94. Фармат 60х84 1/8. Афсетны друк.
Папера газетная. Ум.-друк.арк. 13,02. Ул.фарб.-адб. 14,35. Ул.выд.арк. 14`,52.
Тыраж 4000 экз.
Кошт дагаворны. Зак. 648.

**Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку»,**
**220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.**